


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**1** (1059)

СТУДЗЕНЬ

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

# *ЗМЕСТ*



Мікола МАЛЯЎКА

# СОНЕЧНАЕ ЗАЦЬМЕННЕ

## НОВЫ ДЗЕНЬ — ЯК ЧЫСТЫ ЛІСТ

Спявае шпак — любімы мой саліст,
Адпрэчыў сон — і слых, душу лагодзіць.
А сонца толькі што ўсплыло на ўсходзе,
І новы дзень яшчэ — як чысты ліст
Для ўсіх, рамантык ты ці песіміст.
Якім ён будзе потым, на зыходзе?
У тлумным быце нашым і прыродзе
Шпака заглушыць, можа, ветру свіст.

То гром з маланкай, то падзей стыхія,
То дні-лісты — спакойныя, пустыя.
Па-рознаму праходзім шлях зямны,
Па-рознаму і спадчыннікам некалі
Пра кожны дзень паведаюць яны,
Лісты жыцця ў працоўнай кніжцы веку.

---

*__Маляўка Мікалай Аляксандравіч__ нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на Рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душой» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы і сосны...» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011), «Беражыце шыпшыну» (2013) і інш., кніг вершаў і казак для дзяцей «Дзед і ўнучка» (1983), «Салодкі лядзяш» (1986), «Як дом будавалі» (1987), «Дзе жывуць казкі» (1994), «Запрашаем на калядкі» (1998), «Папялушка» (2000), «Пачынайце дзень з усмешкі» (2013) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

## НА ТВАРАХ СТАЛЫХ, МАЛАДЫХ ЛЮДЗЕЙ...

На тварах сталых, маладых людзей
Знаходжу часта дарагія рыскі —
І землякоў сваіх, і самых блізкіх,
І тых, з кім бачыўся ў жыцці радзей
На стыку думак розных і падзей,
І тых, хто рана лёг пад абеліскі,
І тых, хто трапіў у ГУЛАГа спіскі, —
Любоў да іх глыбокая, з грудзей.

Усё, што ў свеце грозным адбылося,
Пакінула свой след у нашым лёсе —
Трывожным водгуллем, святлом з-за хмар.
І той, хто любіць родны край з маленства,
З душой маёю, гледзячы на твар,
Таксама знойдзе рыскі падабенства.

## АСІРАЦЕЎ І ГЭТЫ ДОМ

*Юрыю Іванавічу Дземідовічу*

Асірацеў і гэты, Юркаў, дом.
Я тут у дзверы сам, бывала, стукаў,
Не думаў пра жалобную разлуку.
Не бачыў, як пазней, асеннім днём,
Зямляк мой тут развітваўся з канём:
Сялянскай долі выракліся ўнукі —
І аддаваў каня ў чужыя рукі,
Не стала сілы гнуцца за плужком.

Прывёў мяне ў адведкі Бог, няйначай,
І бачу тое, што ніхто не бачыць:
Каня абняў, каб зняць з душы цяжар,
За кожны год, пражыты разам, дзячыць —
І твар хавае ў грыве гаспадар,
А конь па-чалавечы плача.

## БАЛАДА ПРА СОНЕЧНАЕ ЗАЦЬМЕННЕ

Зямля —
Наша планета,
Сонечны дом.
А як мы

У доме гэтым
Жывём?

Скардзіцца Марсу Зямля:
«Няшчасная,
Плачу я!
Завяліся людзі на мне —
Няма спакою
І ў сне:
Страляюць з гарматаў,
Бамбяць гарады,
Паляць храмы і хаты,
Калечаць і мучаць
Мяне, як вар’яты.
Малюся,
Душа баліць —
Не ведаю,
Што рабіць».

Марс адказаў Зямлі:
«І на мне таксама
Калісьці жылі!
Пацярпі!
Пад знакам вайны
Самі сыдуць
У вечнасць яны, —
І станеш бязлюднаю
Ты, Зямля,
Як і я…»

Зямля здрыганулася
І сцьмела ад утрапення,
А людзі падумалі:
Гэта —
Сонечнае зацьменне.

## НА СТАРЫЯ ГРАБЛІ

Шкада,
Мінулае — не вучыць,
А сумна паўтараецца і мучыць.

Не молім ледзь
У друку
І на сайце:
Крыніц жывых не асушайце,

Пра чыстае сумленне дбайце, —
І каламуць часовая
Сплыве —
У рэчках,
У жыцці,
У галаве.

Як быццам ісціна святая,
А на старыя граблі —
Наступаем.

## ПРА СІНІЦУ І ЖУРАЎЛЯ

На радзіме лёгка спіцца.
І прысніў з усмешкай я,
Што трымаю не сініцу
У руках,
А жураўля.

Гэта казачнае дзіва —
Як вясёлы нейкі здзек,
Бо нядоўга быў шчаслівым
Я, наіўны чалавек.

Сон мне добрае вяшчуе,
А з дрымоты выплыў я —
І ў асеннім небе чую
Сумны голас
Жураўля.





Алег ЖДАН-ПУШКІН

# ПАДАРОЖЖА

*Апавяданне*

Штогод, у другой палове верасня, Ганна Васільеўна адпраўляла малодшую сястру Марыю на лячэнне ў Пяцігорск, дзе жыла Марта, трэцяя сястра. Усе тры знаходзіліся ў тым узросце, калі кола хвароб звужаецца, аднак з нагамі было асабліва кепска: у аўтобус, напрыклад, на каленках, з аўтобуса — задам наперад, — гэта маладосць нагадвала пра сябе, анучы ды лапці; але Ганна Васільеўна лячыцца не жадала — не верыла, а Марыя верыла, бо была маладзейшай, акрамя таго, бачыла аднойчы прарочы сон.

Ганна Васільеўна тлумачыла ёй, што сны не збываюцца, але як жа не збываюцца, калі аднойчы прысніла, што лунае ў паветры, і праз месяц ногі разбалеліся так, што плакала; калі, урэшце, у дзяцінстве прыснілася, быццам бацька і маці, звяртаючыся да яе, раскрываюць рот, варушаць вуснамі, але не вымаўляюць ні гуку, і праз месяц захварэла на тыф, а пасля аглухла?

Зрэшты, і Ганна Васільеўна не настойвала на сваім меркаванні.

А сон быў усё той жа: быццам ляціць. Але цяпер Марыя ведала — на добрае.

Звычайна знаходзіліся спадарожнікі, але ў гэты раз не надарылася, што ўскладняла задачу, бо да Пяцігорска тры перасадкі, калі лічыць аўтобусы і цягнікі. Самым разумным было б адкласці паездку, але Марыя так чакала яе, столькі гаварыла пра яе, настрой так заўважна павышаўся з набліжэннем дня ад’езду, што цяпер магла б занудзіцца. І Ганна Васільеўна вырашыла адпраўляць.

Увогуле Марыя, нягледзячы на сваю незайздросную долю, была жыццярадаснай жанчынай («мяне ўсе любяць таму, што я маладая і вясёлая», — казала), але калі агортваў сум, перажывала яго тыднямі, а можа, і болей. Мабыць, нейкія рэшткі асядалі ў душы назаўсёды.

---

***Алег Ждан-Пушкін (Пушкін Алег Аляксеевіч)*** *празаік, сцэнарыст, драматург, перакладчык. Нарадзіўся 5 студзеня 1938 г. у г. Смаленску. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1961), Літаратурны інстытут імя М. Горкага (завочна, 1969), Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў Дзяржкіно СССР (1979). Працаваў на Брацкім лесапрамысловым комплексе, на Мінскім трактарным заводзе, на кінастудыі «Беларусьфільм», у рэдакцыі часопіса «Всемирная литература», цяпер у часопісе «Нёман». Друкаваўся ў часопісах «Нёман», «Юность», «Новый мир», «Дружба народов», «Знамя». Аўтар кніг «В гостях и дома» (1977), «Знакомый» (1977), «По обе стороны проходной» (1986), «Князь. Государыня. Епископ» (2013), «Трэба цярпець» (2014). Кніг для дзяцей: «Праздник продолжается, или Щенок, велосипед и шишка на лбу» (2013), «Вы еще будете гордиться нами» (2017) і інш.*

Да станцыі Белыя Горы Ганна Васільеўна вырашыла правесці Марыю сама, у Старгарадзе сустрэне брат Косця, у Кіеве пляменнік Толя, ну а ў Пяцігорску сястра.

План быў няпросты, і Ганна Васільеўна вагалася, але сама Марыя ўзрадавалася самастойнасці і пераканала яе.

У ноч перад ад'ездам Ганна Васільеўна не самкнула вачэй. «Што ж гэта я раблю? — думала яна. — Калі што здарыцца… Не дарую сабе».

І толькі тое, што Марыя дыхала роўна, глыбока, і, па ўсім відаць, моцна спала, крыху супакойвала яе.

Ганна Васільеўна ўздрыгнула ўсім целам і зразумела, што дрэмле. Зірнула на гадзіннік і ўбачыла, што прыйшоў час уставаць. Кранула Марыю за плячо, і тая таксама ўздрыгнула і, вызваліўшыся з-пад коўдры, пачала падсоўвацца да краю ложка: з яе нагамі няпроста было з ложка злезці.

Падняліся за дзве гадзіны да адпраўлення аўтобуса, але пакуль тупалі па пакоях на мыліцах, не засталося часу і на сняданак. Пасёрбалі гарачай гарбаты, паставілі мыліцы ў кут (саромеліся з'яўляцца з імі на вуліцы), пайшлі… «Павалакліся», — казала Ганна Васільеўна.

Пасадка была ўжо аб'яўлена, і яны па чарзе, выклікаўшы ажыўленне пасажыраў, на каленях забраліся ў аўтобус. Марыя запаўзла, крыху стогнучы, з тым дзіўным выразам задаволенасці на твары, які не пакідаў яе ўжо шмат дзён. Ганна Васільеўна — са слязамі на вачах ад болю і камічнасці становішча.

Кіроўца, малады мужчына, з цікавасцю абярнуўся да іх.

— Старой бабе і на парог, як на печку! — сказаў.

Дарога на выездзе з горада была выбоістай. І пасажыры ехалі, учапіўшыся ў поручні, па чарзе навальваючыся адзін на аднаго.

«І насамрэч смешна, — падумала Ганна Васільеўна. — Пакацілі…»

Ганна Васільеўна часта лаяла сваю старасць, нявесела пасмейвалася — што ж, нічога добрага ў ёй не аказалася.

Рэйс быў ранні, і пасажыры пачалі засынаць. Ганна Васільеўна аглядвалася і зноў адчувала трывогу. Штосьці, ёй здавалася, яна забылася прадугледзець. Зірнула на сястру — тая змагалася з дрымотай. «Можна пазайздросціць», — падумала яна. Марыя спакойнай была амаль заўсёды. Зрэшты, тут лёгка і памыліцца. Таму што чым трывожнейшы быў стан, тым больш непранікальным рабіўся яе твар і павольнейшымі рухі. Нібы арганізм, разумеючы сваю непаўнавартаснасць, сам сябе перасцерагаў ад паспешлівасці.

Да Белых Гор трыццаць пяць кіламетраў, і па дарозе Ганна Васільеўна меркавала яшчэ раз прадумаць усе магчымыя ўскладненні, якія маглі здарыцца з сястрой, але дробныя трывогі адцягвалі ўвагу.

У Белых жа Гарах перасадка была кароткай — хвілін дваццаць пяць — трыццаць, гэтага толькі і хапала на тое, каб купіць білет і дамовіцца з кіроўцамі высадзіць Марыю ў Старгарадзе, на рагу вуліц Савецкай і Кастрычніцкай. Дом брата знаходзіўся ад перакрыжавання ў двух кроках, Марыя была ў яго не раз і цвёрда заявіла, што знойдзе дарогу сама. Відаць, хацела зрабіць брату сюрпрыз.

Час выйшаў, перадумваць не было калі. Ганна Васільеўна запытальна паглядзела ў вочы сястры:

— Баішся?

— Не... — пахітала галавой Марыя.

Але Ганна Васільеўна ўжо прачытала выраз заклапочанасці на яе твары. І ў гэтае імгненне вырашыла тэлеграму брату ўсё-такі паслаць. «Нічога. Родная сястра».

— Ну ідзі, садзіся...

З дыспетчарскай выйшлі кіроўцы — маладыя, дужыя хлопцы, падкасаныя рукавы кашуль, загарэлыя рукі, шыі, выгаралыя густыя чупрыны, — чамусьці страшнавата было на іх глядзець. З разбойніцкай весялосцю азірнуліся на праважаючых, і тыя адступіліся.

— Хлопцы, вы ўжо, калі ласка...

— Не бойся, мамаша! Хоць у Буэнас-Айрэс!

Ганна Васільеўна нервова ўсміхнулася.

— У Буэнас-Айрэс не трэба, — стрымана сказала яна. — На рагу Савецкай і Кастрычніцкай...

— Бабуся нас дурнямі лічыць.

Рашуча шчоўкнулі замкі дзвярэй, Ганна Васільеўна адступіла, пашукала паглядам сястру і тут жа засумавала, замаркоцілася: Марыя пільна глядзела на яе.

Марыя адчувала сябе цудоўна. Так, у той момант, калі адыходзіў аўтобус, яна зведала нават не трывогу, а страх, ён перадаўся ад твару сястры, але выехалі за горад — і супакоілася.

Ездзіць на лячэнне Марыя пачала дзесяць год таму. Пахваліцца, што ногі перасталі балець, не магла, але было і іншае прызначэнне гэтых паездак: вярталася шчаслівейшая і маладзейшая, быццам ведала там нейкую крыніцу, што аднаўляла ахвоту жыць.

Вярнуўшыся дамоў, запэўнівала сястру, што лячэнне было цудоўным, дапамагло, і хутка яна выправіцца ў гарадскі сад танчыць пад духавы аркестр. Вось толькі з’ездзіць яшчэ раз, два ці, можа, тры.

Яна разумела, што такія паездкі патрабуюць значных выдаткаў, і таму добрасумленна эканоміла ўвесь год — разумела, што на яе шаснаццацірублёвую пенсію не заедзеш і ў адзін канец.

«Усім пенсію павысілі, — разважала яна. — У Марты было трыццаць сем рублёў, цяпер сорак пяць. А пра мяне забылі. Кажуць: не працавала… Як жа так? У шэсць гадзін уставала, позна клалася…»

Амаль заўсёды яна ездзіла праз Старгарад, і брат таксама даваў ёй трошкі грошай, і Марыя не адмаўлялася, а калі вярталася і Ганна Васільеўна сварылася на яе за гэта, смяялася. «Нічога, — адказвала. — Ён атрымлівае многа, а я мала. Я яго сястра».

Праз паўгадзіны Марыя не толькі супакоілася, але і развесялілася: згадала сваю апошнюю пабыўку ў Марты і тое, як Насаты рабіў ёй прапанову.

Некалькі гадоў таму памёр муж Марты, і цяпер да яе часта прыходзіў нейкі адстаўнік-палкоўнік, прапаноўваў выйсці замуж, аб’яднаць заканчэнне жыццёвага шляху. «Я разумею, недарэчна ў маім узросце думаць пра гэта, — пісала Марта, — але з іншага боку: здарыцца што-небудзь — хто мне падасць вады?..»

Ганна Васільеўна нічога супраць другога замужжа сястры не мела, аднак Марыя расказвала, што палкоўнік за стол без віна не сядае, пенсіі яму хапае на паўмесяца, таму Ганна Васільеўна не ведала, што і параіць.

Часам палкоўнік прыходзіў з сябрамі, часцей за ўсё з тоўстым грузінам, таксама старым удаўцом. Грузін быў смяшлівым чалавекам: падмігваў усякаму, хто ні зірне на яго, рабіў страшныя ці спалоханыя вочы.

— Ідзі за мяне! — казаў грузін.

— Не! — рашуча адказвала Марыя.

— Чаму?

— Ты насаты і стары!

І рагаталі ўсе.

Выпівалі. Марыя, хаця па традыцыі асуджала такі занятак, таксама перакульвала кілішак-другі, выцягнуўшы вусны, з выразам задавальнення на твары.

Насаты, перад тым як выпіць, уставаў, кланяўся, крыўляўся, торгаўся ад агіды да віна, але выпіваў адным глытком і, выпіўшы, цалаваў дно шклянкі.

— П'яніца! — казала яму Марыя.

— Не! — крычаў грузін. — Вельмі добры чалавек!

Вось гэта і згадала Марыя цяпер, пасмейваючыся, чырванеючы ад збянтэжаных позіркаў суседкі, забыўшыся пра цяжкасці дарогі і жыццёвага шляху ўвогуле.

«Вось я памру, — сказала неяк Ганна Васільеўна, — што тады будзеш рабіць? Да сястры паедзеш, ці да брата, ці да сына майго, Віці?»

Марыя секунду падумала і раптам адказала: «Таксама памру».

Аўтобус каціў марудна, Марыя глядзела наперад і пазнавала то адзін гарадок-пасёлак, то другі. Рабіна ўспыхнула на павароце — Марыя ахнула: бачыла яе і летась, толькі ярчэйшая была, можа, маладзейшая, а можа, быў тады сонечны дзень. Луг, што дыміўся ад туману, раптам рэчка ці возера на далягглядзе — не бачыла раней ніколі, а нейкі ўспамін у гэты ж момант адгукаўся ў душы.

Усё гэта выклікала шмат думак, шкада толькі, нельга пажэстыкуляваць, як яна прызвычаілася, разважаючы сам-насам.

Адзін час пачала ўзмоцнена агітаваць Ганну Васільеўну за пераезд у Пяцігорск. «Цёпла. Будзем лячыцца зімой і летам». Так, колькі помніла Ганна Васільеўна зім, заўсёды даводзілася раніцай прабіваць лёд у рукамыйніку ці вядры. «А дом?» — пыталася яна. «Прададзім». — «А сад?» — «Дваццаць яблыкаў на год трэба». — «А магілкі? Хто будзе магілы даглядаць?» — «Усё адно мы туды не ходзім...» — але тут жа збянтэжылася, зразумела, што нядобра кажа. На магілках спачывала некалькі пакаленняў сям'і.

Ды і жыць у Пяцігорску няма дзе. Марта займала адзін пакой — тры гаспадыні на кухні, над адной плітой. Праўда, ужываліся някепска, пазычалі, дзяліліся, калі гатавалі торт, напрыклад, — па кавалачку ў кожныя дзверы.

«Нявыгадна!» — сказала на гэта Марыя.

«Затое да камунізму бліжэй», — адказала Марта.

Сказаць «камунізм» Марыі лёгка: паняцце гэтае акрэслівалася чырвоным колерам, а паказаць чырвоны колер — дакрануцца пальцам да ніжняй губы. Думка даволі складаная, але Марыя ўсміхалася — хутка спасцігала яе.

З суседзямі Марыя была добра знаёмая. У дзень прыезду, смела пастукаўшы, уваходзіла, пацiскала рукі, абменьвалася кароткімі заўвагамі адносна здароўя — мова, якой яна карысталася, імітавала працэсы і з'явы, і таму ўсе хутка авалодалі ёй.

Урач — жанчына сярэдніх гадоў, мажная, прыгожая, акуляры ў залатой аправе — таксама заўсёды пазнавала яе, усміхалася насустрач, сядала побач на тапчан. Яна сімпатызавала Марыі, паколькі Марыя свята верыла яе словам і запэўнівала ўсіх, што адчувае сябе з кожным днём лепш.

— Ну, як здароўе, Марыя Васільеўна?

Марыя не ўмела счытваць з вуснаў, але чуццём і розумам усведамляла, пра што пытаецца доктар. І талкова, з верай у лекі адказвала на пытанне.

Адным словам, знаёмых шмат. І хваляваца загадзя не было прычын. Кіроўцы час ад часу абарочваюцца, пазіраюць — значыць, памятаюць і выса-

дзяць у Старгарадзе там, дзе прасіла Ганна Васільеўна. Марыя ўявіла сустрэчу і зноў усміхнулася. Яна любіла брата, і брат таксама яе любіў. Бачыліся рэдка, і таму брат ужо падзабыў мову, але і па вачах Марыя разумела ўсё, што хацела зразумець. А наконт астатняга — у кішэні ляжаў ліст пад нумарам 1, напісаны сястрой. Другі ліст быў напісаны для Марты, і трэці — на выпадак бяды, каб звярнуцца да людзей.

Тэлеграму пра прыезд Марыі атрымала Яўгенія Барысаўна. Узрадавалася і таму, што ў доме з'явіцца госць, і таму, што ёсць прычына патэлефанаваць: ніяк не магла прызвычаіцца, знемагала ад адзіноты і цішыні першай паловы дня.

— Косцечка? — сказала зяцю. — Ведаеш, якія навіны?

— Не, — адказаў Косця, як звычайна крыху парадзіруючы яўрэйскі акцэнт цешчы. — Не ведаю.

— Добрыя! — усклікнула Яўгенія Барысаўна. — Ты не вельмі заняты?

— А вы? — спытаў Косця.

Гэтую манеру ён прыдбаў з таго часу, як ажаніўся з Тонечкай, і напачатку Яўгенія Барысаўна крыўдзілася, а потым прывыкла — галоўнае, яе дачку Косця любіў.

— Машачка прыязджае! Тэлеграма ад Ганначкі!

Яўгенія Барысаўна ведала толькі ласкавую форму звароту: любіла ўвесь свет. І спадзявалася, што такім жа дабром ён адплаціць калі не ёй, то дзецям.

— Што вы кажаце! Вось гэта навіна! — узрадаваўся Косця. — Калі?

— Сёння!.. Толькі дзіўная нейкая тэлеграма... «Марыя выехала аўтобусам «Белыя Горы — Мінск». Сустракайце вуглу Савецкай — Кастрычніцкай...»

— Нічога дзіўнага. Побач з домам — гэта, па-вашаму, дзіўна?

— Так, але...

— Даведацца пра час прыбыцця і вылічыць дзесяць хвілін.

— Але...

— Выйсці яшчэ на паўгадзіны раней... Усё?

— Усё... — уздыхнула Яўгенія Барысаўна.

Не, іншага мужа яна не жадала сваёй дачцэ.

І ўсё-такі злёгку — зусім трошкі — яна ўпала духам. Прайшлася па пакоях, села. У яе таксама балелі ногі, і яна таксама не жадала лячыцца. Уздыхнула і зноў падышла да тэлефона.

— Тонечка? — сказала. — Гэта я...

— Чую. Што ты хочаш?

І хаця голас дачкі быў сухаваты (яна не любіла, калі маці тэлефанавала ёй на працу), Яўгенія Барысаўна раптам адчула прыліў бадзёрасці.

— Тонечка, тут прыйшла тэлеграма...

— Ад Ані? Я ўжо ведаю.

— Так... Але нейкая дзіўная тэле...

— Нічога дзіўнага, мама, не трэба ехаць на вакзал.

Яўгенія Барысаўна крыху пастаяла каля тэлефона.

«Ну што ж, яны маладыя і разумныя», — думала яна.

Калісьці даўно, гадоў дваццаць пяць таму, ёй падаўся асабліва цікавым навакольны свет. Гэта здарылася ў год заканчэння вайны: раптам аказалася, што ён іншы, чым уяўлялася дагэтуль.

Некалькі пакаленняў, што нібы спазніліся, адначасова зрабілі гэтае адкрыццё. Ён і павінен быў аказацца іншым — гэтым спадзяваннем жылі ў мінулыя гады, але, канечне, ніхто не ведаў — якім?

Менш за ўсіх ведала пра тое Марыя. Па тварах людзей яна ўбачыла, што настае час змен, і занепакоілася, задумалася, раптам зразумела, што кожны чалавек не толькі сам па сабе, але і частка цэлага. І таму ёй падалося важным вызначыць, як суадносіцца яе існаванне з існаваннем іншых людзей.

Зразумець гэта працей за ўсё было праз сведчанне іншага чалавека. І яна вырашыла паразмаўляць з братам.

— Якая я? — спытала аднойчы.

Брат не зразумеў пытання.

— Я дрэнная?

— О, не, — адказаў. — Ты харошая.

Іншым разам яна больш дэталёва прадумала размову.

— Я старая і непрыгожая, — сказала.

— Не, — запярэчыў брат. — Ты маладая і прыгожая. Я люблю на цябе глядзець.

— А людзі — якія яны?

— Розныя. Адны прыгожыя, іншыя — не.

— Што яны кажуць пра мяне?

Яна часта думала пра людзей, і яны таксама ж павінны былі думаць пра яе — гэта было натуральнае для яе пытанне.

Брат нарэшце звязаў у адно цэлае ўсе словы.

— Яны кажуць, што ты — лепшая за ўсіх.

Марыя рассмяялася: не сумнявалася ў адказе. З таго дня яна стала шчаслівейшай, бо атрымала пацвярджэнне свайго раўнапраўя, а можа, і некаторай перавагі над іншымі людзьмі.

— Калі гэтую сукенку перарабіць, будзе як новая, — сказала аднойчы сястры.

Ганна Васільеўна паглядзела на яе, падумала, што ёй самой няма сарака, а сястра маладзейшая на дзесяць гадоў.

— У нядзелю пойдзем на кірмаш. Купім табе што-небудзь.

Марыя ведала, што жыццё яе шмат у чым прадвырашанае, але ўсё ж лічыла яго цікавым. І яшчэ лічыла, што адзін недахоп можна кампенсаваць іншай вартасцю.

— Для мяне чым больш работы, тым лепш, — казала яна.

А аднойчы звярнулася да брата:

— Чаму ты не жэнішся?

— Я яшчэ малады.

— Гэта і добра, будзеце любіць адно аднаго.

— Вучыцца трэба.

— Ну і вучыцеся!.. А будзе дзіця — прывязеце яго да мяне. Я буду яго глядзець.

Косцік быў малады, пасмяяўся і забыў пра тую размову, але Марыя нагадала праз некалькі дзён.

— Не, не прывозь. У адпачынак хіба, а жыць яму тут не трэба. Я гаварыць не ўмею, чаму яго навучу?

Ганна Васільеўна часам уважліва глядзела на сястру. «Добра б яе замуж выдаць», — думала яна. Зрэшты, гэта было немажліва па тым часе. Жылі ў горадзе два глуханямыя мужчыны, адзін пячнік, другі майстар па гадзінніках, але яны ажаніліся не з глуханямымі.

Аднойчы Ганне Васільеўне прыйшла ў галаву думка пра тое, што мала яны звярталіся да дактароў па пытанні глухаты Марыі. Калі здарылася гэта,

не было сродкаў паехаць, ды і куды?.. Акрамя таго, была надзея, што слых адновіцца сам па сабе.

Пазней надзея згасла, да хваборы прызвычаіліся, а там пачалася вайна.

Ганна Васільеўна вырашыла паспрабаваць знайсці лекі. Яна склала падрабязнае апісанне хваробы сястры, хвалюючыся, аддала заказным лістом на адрас Міністэрства аховы здароўя. І з гэтага моманту надзея пачала расці. Яна павялічвалася з кожнай гадзінай і дасягнула апагею ў той дзень, калі з міністэрства прыйшло паведамленне, што «...Ваш ліст накіраваны ў навукова-даследчы інстытут...» А пасля гэтак жа беспадстаўна пачала згасаць, і да таго часу, як прыйшоў адказ, які паведамляў, што за даўнасцю захворвання хірургічнае ўмяшальніцтва немагчымае, а іншых метадаў у інстытута пакуль што няма, — надзеі ўжо па сутнасці не было. «Добра, што нічога не сказала ёй», — вось пра што падумала Ганна Васільеўна, скамечыўшы непрыемны сіні канверт.

Марыя, канечне, зайздросціла тым, хто чуе, але больш зайздросціла глуханямым, якія валодалі дактыльнай мовай. У гарадку існавала школа і, праходзячы міма, Марыя з захапленнем сачыла за іх багатай мімікай і жэстамі мовай.

Ёй у гэтай школе вучыцца не давялося: у юнацтве было не да вучобы, а пасля вайны не прынялі як перастарку.

Аднойчы Ганна Васільеўна, у якой забяспечыць будучыню сястры стала навязлівай ідэяй, прапанавала запрасіць настаўніцу на дом. Марыя пагадзілася з радасцю.

У дзень прыходу настаўніцы яна апранула лепшыя панчохі і сукенку, запытальна паглядзела ў люстэрка, няўпэўнена павярнулася да сястры.

— Добра, — усміхнулася Ганна Васільеўна. Яна таксама хвалявалася і мела нікольки не меншыя спадзяванні на гэты дзень.

Час ад часу, стогнучы ад напружання, Марыя вучылася вадзіць алоўкам па паперы, выдаваць перароджанымі галасавымі звязкамі нармальны чалавечы гук. З нецярплівасцю чакала настаўніцу, бясконца дэманстравала ўменне вымаўляць новыя словы, старанна выконвала заданні, але прайшоў месяц і — засумавала. А аднойчы прынесла Ганне Васільеўне паперу і аловак.

— Больш вучыцца не буду, — сказала. — Нічога не атрымаецца, я ведаю. Старая, каб пачынаць.

У той час ёй было каля трыццаці.

Аўтобус падыходзіў да Старгарада.

Разважаючы пра што-небудзь сама з сабой, Марыя прывыкла дапамагаць сабе рухамі твару, рук. Але на людзях жэстыкуляваць няёмка, і яна стрымлівалася; аднак іншы раз забывалася і, спахапіўшыся, прысаромлена паглядвала на суседку.

Гэта была дрэнная звычка: патрабавалася больш часу для абдумвання самай простай задачы, яна перашкаджала нават спаць: узнікаў раптам у мазгу, які ўжо засынаў, слабы ўспамін, нейкі блукаючы агеньчык — і патрабаваўся рух рук, усяго цела, каб асэнсаваць яго.

— Чаго гэта яна? — спытаў адзін кіроўца, зірнуўшы на Марыю ў люстэрка задняга бачання.

— А хто яе ведае... — азірнуўся другі. — Яны ўсе такія...

Аўтобус марудна ішоў па гарадскіх вуліцах, парыпваючы на скрыжаваннях, памахваючы, як слон, капотам.

— Дзе тая старая казала яе ссадзіць? — раптам занепакоена спытаў першы кіроўца.

— На рагу Кастрычніцкай і Савецкай.
— Ці Сацыялістычнай і Кастрычніцкай?..
Другі таксама задумаўся.
— Здаецца, Савецкай, — сказаў ён.
— Вось гэтыя немчуры, — раззлаваўся першы. — Пасадзяць яго, і вязі...
— Ды там сто метраў ад адной да другой. Пройдзе пешкі.
І гэтая думка супакоіла абодвух.

Марыя пазнала горад здалёк і крышачку пахвалявалася, уязджаючы на вуліцы. Уявіла, як убачыць усіх, а перш-наперш Яўгенію Барысаўну, і як яна, не ўмеючы патлумачыць, будзе ўсміхацца і ляпаць сябе па баках. А пасля прыйдзе з работы Тоня, сын Толік прышлёпае са школы і, урэшце, прыйдзе сам брат.

— Эй-эй!.. Вось твая вуліца, чуеш?..

Апрытомнела і ўбачыла, што аўтобус стаіць, дзверы расчыненыя, а кіроўцы глядзяць на яе. Падхапілася і заспяшалася да выхаду, але ногі як след не слухаліся, тым больш што прасядзела чатыры гадзіны, — прабіралася, хапаючыся за спінкі і ручкі. Пасажыры, выцягнуўшы галовы з-за спінак крэслаў, глядзелі ўслед.

Раён горада, дзе сышла Марыя, падаўся незнаёмым. Сарыентаваўшыся хутчэй па пачуцці, чым па памяці, яна пайшла, ведаючы, што зараз адкрыецца вуліца, на якой жыве брат. Сумка не цяжкая, ногі балелі больш-менш цярпіма — можна было ісці.

Намацала грошы ў кішэні — цэлыя, лісты таксама, і супакоілася зусім. Успомніла, што Марта ў Пяцігорску суправаджае яе нават на ванны, і засмяялася ад задавальнення: здзівіцца, калі даведаецца, якое падарожжа здзейсніла адна. Смех у Марыі быў звычайны, не скажоны хваробай, нават прыемны, і людзі дзівіліся з яе: чаго гэта ўслых смяецца чалавек?

Аднак неўзабаве Марыя спынілася і занепакоена паглядзела назад: вуліца здалася яшчэ меней знаёмай, чым раней. Ды і па адлегласці павінна была дайсці да таго павароту. Яна збянтэжана прайшла яшчэ сто-дзвесце метраў і спынілася зноў. Паразважала і пайшла па папярэчнай вуліцы. Важна было ўбачыць хаця б адзін знаёмы дом.

Ужо трэцюю гадзіну Косця і Тоня ездзілі і хадзілі па горадзе ўзад-уперад: са скрыжавання Савецкай і Кастрычніцкай на аўтобусны вакзал, з вакзала дахаты, з хаты зноў на скрыжаванне. Марыі не было, а на дварэ пачынала цямнець.

Дзве гадзіны назад, стоячы тут і згледзеўшы аўтобус, на якім павінна была прыехаць Марыя, яны пабеглі следам, але тут жа спыніліся: аўтобус павялічыў хуткасць і панёсся ў кірунку да вакзала. Калі Косця і Тоня прыехалі на вакзал, аўтобуса ўжо не было. Пра глуханямую жанчыну ніхто не чуў.

Сцяміўшы, што па невядомай прычыне Марыя магла выйсці раней і дабрацца самастойна, яны кінуліся дахаты, і Яўгенія Барысаўна, якая падрыхтавалася да радаснай сустрэчы, войкнула і села на зэдлічак, які, здавалася, спецыяльна стаяў за ёй.

— О-о-о! — забожкала, разгойдваючыся, з боку на бок. — Нездарма я так спалохалася, калі ўбачыла гэтую тэлеграму!.. О-о-о! Я ведала — што-небудзь здарыцца!..

— Мама!

— О-о-о!.. Нездарма ў мяне сэрца балела!..

Тоня паглядзела на мужа. «Што будзем рабіць?»

Косця ўявіў сабе становішча сястры, якая самотна цягаецца па чужых вуліцах, ці — таго горш — што сышла ў іншым горадзе, пазбаўленая магчымасці штосьці растлумачыць людзям, і ў роспачы развёў рукамі.

Марыя вельмі хутка зразумела, што заблудзілася. У які б бок ні падалася, усюды высіліся сцены незнаёмых будынкаў, вокны іх глядзелі па-над чалавекам, а вуліцы вялі ў чужую прастору, якая здавалася бясконцай.

Спачатку здарэнне падалося вясёлым, нават камічным, і яна меркавала, як будзе распавядаць пра яго. Аднак пачало цямнець, і Марыя занепакоілася.

Трэба было выпрацаваць сістэму, бо даўно здавалася, што ходзіць між адных і тых жа будынкаў. І яна вырашыла: ісці прама, пакуль не ўбачыць вялікую вуліцу, прайсці хаця б у адзін канец яе і, калі нічога не праясніцца...

Яшчэ насцярожвалі ногі. Не тое, што разбалеліся, а тое, што шмат прайшлі. Была ў яе ног такая асаблівасць: ідуць, ідуць, а потым стануць. І тут ужо вандраванне скончыцца, далей хоць каціся...

Па дарозе заўважыла лаўку ў скверыку, і Марыя пасядзела хвілін дзесяць-дваццаць. Устала. Нічога, ногі ішлі.

Успомніла, як у далёкім дзяцінстве заблукала ў лесе. Бегала ўзад-уперад, крычала «ау», прыслухоўвалася. Дзесьці далёка адгукалася рэха. А зараз забылася, як гучаць нават чалавечыя галасы. Ведала толькі, што цудоўна.

Часам падыходзіла да прыёмніка, клала на яго руку.

«Музыка?» — пыталася.

«Так».

«Добрая?»

«Добрая».

«Маленькай я чула гармонік з бубнамі. Гэта падобна?»

«Так...»

Насамрэч не музыка хвалявала, калі дакраналася да прыёмніка, а галасы. Здавалася, разумее, пра што яны размаўляюць.

Аднойчы прачнулася ад адчування, што слых вярнуўся. Ускрыкнула, ускочыла з пасцелі, кінулася да сястры. Пераканаўшыся, што гэта толькі насланнё, як ні дзіўна, адчула палёгку. Нават змагла зноў заснуць. Можа, таму, што ўжо было пяцьдзясят?.. А зрэшты — сон.

Ці то Марыя задумалася і забылася, ці то не сустрэлася ёй шырокая вуліца, але раптам убачыла сябе на ўскраіне горада, наперадзе пазначылася пустка, а там і лес. Марыя спалохалася і як мага хутчэй падалася ў супрацьлеглы бок. Заставалася адно: звярнуцца да людзей. І яна, узяўшы з кішэні канверт № 3, з трывогай у сэрцы ступіла да першай жанчыны, што аказалася непадалёку.

«Я глуханямая!»

Яна паказала на рот і вушы.

«Прачытайце!»

І патрэсла лістом.

Жанчына зразумела яе. Узяла ліст, спынілася.

— Ну што ты мне даеш? — загаварыла спачувальным, але адначасова і дакорлівым тонам, як адвеку размаўляюць з дзецьмі і калекамі. — Думаеш, я што-небудзь без акуляраў бачу?

Жанчына была поўнай, пакутавала дыхавіцай; былі яны прыкладна аднаго ўзросту, і Марыя з надзеяй глядзела па яе.

— Ну што глядзіш. Акуляраў у мяне няма, акуляраў!

Жанчына склала з пальцаў колца і прыклала да вачэй. І Марыя адразу зразумела яе. Яна залежала ад свету тых, хто чуе і размаўляе, таму навучылася з паўслова разумець іх. Але яны разумелі яе дрэнна, таму даводзілася быць дакладнай. У адказных выпадках на імгненне яна пераўвасаблялася ў чалавека, які чуе, і тады знаходзіла для тлумачэння найкарацейшы шлях.

— Жжжжж! — сказала і замахала рукой, малюючы рух кола.

— На вакзал, ці што? На цягнік? — жанчына паўтарыла яе рух.

— Так! Так! — радасна пагадзілася Марыя.

— Вось гора на маю галаву. Ахвота мне перціся туды?.. Трэба было мне цябе сустрэць, а? Хацела ж пайсці іншай дарогай...

Дзве старыя жанчыны ўзялі адна адну пад рукі, нібы ўчапіліся адна за другую, невядома толькі хто за каго, і пайшлі.

Ганна Васільеўна сказала б: «Павалакліся».

— Сястрычка! Марусечка! — крыкнуў мужчына на скрыжаванні і кінуўся да дзвюх жанчын, якія пераадольвалі прастору, як горную плынь.

Ад усялякіх узрушэнняў Яўгенія Барысаўна адыходзіла павольна, мозг яе яшчэ доўга пасылаў трывожныя сігналы, атручаная кроў блукала па старых венах, і маляваліся карціны адна страшнейшая за другую. Але — дзякуй богу! — нічога не здаралася! — і гэта хутка вылечвала яе.

Усе гэтыя перажыванні, вядома, не замінялі ёй — у залежнасці ад іншага, малога кола пачуццяў — то смяяцца, то плакаць, то заміраць, як сфінкс, ля дзвярэй, то кідацца на кухню з крыкам: «Малако!» ці: «Шарлотка!»

Стаўленне яе да з’яў свету нагадвала шэраг акружнасцей, уключаных адна ў другую, дзе вышэй і важней за ўсё былі здароўе і дабрабыт сям’і. Хваляванне ж выяўлялася па-рознаму, але часцей — рэзкай зменай стану: то замірала, склаўшы рукі пад фартухом і калышучыся, як у малітве, то ўпадала ў мітуслівасць. Шкала адносін была складаная, адна каштоўнасць накладвалася на іншую, і ўласныя жыццё і смерць займалі ў ёй далёка не галоўнае месца.

Калі адчыніліся дзверы і яна ўбачыла Марыю, Косцю, Тоню — Яўгенія Барысаўна заплакала. Пайшла на кухню і там, узбоўтваючы бялкі, зразумела, што яна шчаслівая тым, што нічога не здарылася, усе сабраліся разам, усе ў хаце, тут, вось яны, можна адчыніць дзверы і на іх паглядзець.

Часам ёй здавалася, што свет на мяжы катастрофы і трэба прымаць меры, клапаціцца. «Вам здаецца, што ўсё робіцца само сабой? — пыталася ў дыялогах, якія вяла з сабой. — Вы памыляецеся!» Яна верыла, што бяда, як дзікі звер, любіць нападаць нечакана, а калі загадзя чакаеш, яна, можа, пройдзе міма.

— Мама! — казала дачка, у глыбіні душы ўсведамляючы, што з некаторага часу ўсё гэта перастала ёй здавацца дзіўным: з таго часу, як у самой нарадзіўся сын.

Убачыла аднойчы, як, знясіленая, прысела маці, і зразумела раптам, колькі гадоў прайшло, колькі засталося. Новая любоў з гэтага дня стала расці ў ёй, ужо ўсвядомленая, а магчыма, гэта быў страх.

Вячэралі на кухні; Марыя заўсёды хутка прыстасоўвалася да новага становішча: пачала разліваць капусту, рэзаць хлеб.

— Пажывеш у мяне? — спытаў Косця.

— Не. Сёстры чакаюць.

Яна любіла пагаварыць з кім-небудзь, але паколькі большая частка яе жыцця праходзіла ў адзіноце, не цяжкім ёй было і маўчанне.

— Няшчасная, няшчасная жанчына... — пачала было Яўгенія Барысаўна, але дачка апярэдзіла яе:

— Мама!.. — і своечасова: Яўгенія Барысаўна ўсхліпнула і змоўкла.

А Марыя, выпадкова сустрэўшыся з ёй паглядам, раптам засмяялася і, абліваючыся супам, выцерла рот рукой.

— Ты чаго? Чаго? — спытала Яўгенія Барысаўна, хоць ведала, што нічога не зразумее.

Марыя паглядзела на брата.

— Разумная я, — сказала яна. — Іншы б на маім месцы спалохаўся, а я — не. Іду і смяюся.

— Малайчына, — сказаў Косця.

— Толькі сёстрам не пішыце пра гэта. Будуць перажываць.

Апетыт у Марыі быў выдатны, а калі Яўгенія Барысаўна нерашуча паказала чарку, энергічна кіўнула галавой.

— Шмат піць нядобра, — растлумачыла яна, — а трохі — можна.

Калі чокаліся чаркамі, была сур'ёзнай. Можа быць, надавала гэтаму звычаю значэнне.

Усе яны — Косцік і сёстры — у дзяцінстве вельмі былі падобныя адно да аднаго. Час павінен быў узмацніць адрозненні і ўзмацніў, вядома, але вось вочы засталіся аднолькавымі.

— Пагасцюй у мяне, — ізноў прапанаваў Косця.

— Не. Трэба ехаць і хутчэй вяртацца. Ганна адна не можа. Плача.

«Плача» трэба было разумець у пераносным сэнсе: гэта значыць, журыцца, нудзіцца, а часам і плача.

— Ты сам прыязджай да нас. Мы любім цябе, — Марыя раптам узяла яго руку і пацалавала.

Яўгенія Барысаўна і Тоня адразу падрыхтаваліся плакаць, але Косця ведаў, што Марыя зусім не расчулілася, а толькі хоча выказаць любоў. Гэтая звычка з'явілася ў яе шмат гадоў назад: каб пацалаваць у шчаку, патрэбен узаемны парыў, а ў руку... — вось вам мая любоў.

Косця ў сям'і быў малодшым і заўсёды адчуваў пяшчоту, з якой да яго ставіліся сёстры.

— Як тваё здароўе? — спытаў Косця пасля вячэры.

— Цьфу. Але прыеду з Пяцігорска маладая і здаровая. Скажы, я яшчэ не вельмі брыдкая?

— Ты прыгажуня ў мяне, — адказаў брат.

Марыя засмяялася і пайшла ў адведзены ёй пакой. Таму засмяялася, што ведала: брат перабольшвае, але не крывіць душой.

Адпраўлялі Марыю раніцай наступнага дня. Трымалася яна зноў добра: усе тлумачэнні зразумела, навучанне прыняла да ўвагі; усім паціснула рукі, перацалавалася. Нібы ў далёкі, але звыклы шлях памкнулася жанчына. І толькі калі цягнік крануўся, здрыганулася і з нудой паглядзела ў акно: там бег брат. І нават калі цягнік вынес яе за горад, усё здавалася, што брат яшчэ дзесьці бяжыць.

Уселася ямчэй, прыгледзелася да суседзяў, да абстаноўкі і супакоілася. Не хвалявацца можна было да перасадкі ў Кіеве, гэта значыць, амаль дваццаць чатыры гадзіны.

Адправіўшы Марыю, Косця пастаяў на пероне, пакуль не мільгануў за светлафорамі апошні вагон, і пайшоў на тэлеграф даць тэлеграму пляменніку, які павінен быў сустрэць Марыю і пасадзіць на цягнік на Пяцігорск. Стаяў

у чарзе, думаў пра сябе, пра сясцёр, пра тое, што яго жыццё склалася больш удала, і прычына гэтаму адна: пазней нарадзіўся; пра тое, што як бы ні былі браты і сёстры адданыя адно аднаму, жыццё ўсё роўна развядзе, і гэта хоць сумна, але заканамерна, а аб'яднаць можа толькі няшчасце. Вось як Марыя: прыляпілася душой і целам — жыве.

У апошнія гады ён стаў сентыментальным і, адчуўшы знаёмую сціснутасць у грудзях, адвярнуўся, ткнуў пальцам спачатку ў адно вока, потым у другое.

Адзін час марыў прыбудаваць у хаце сясцёр веранду, зрабіў замеры, накрэсліў некалькі варыянтаў, але штосьці не атрымалася з адпачынкам, потым захварэла жонка, потым сам — варыянтам споўнілася дваццаць гадоў.

«Купілі цэглы і цэменту, — пісала нядаўна Ганна. — Хачу перакрыць склеп: як бы не абрушыўся... Колькі, па-твойму, гэта будзе каштаваць?.. Учора прыходзілі муляры, сказалі трыста рублёў. Адправіла вон. А зараз думаю: можа, гэта я не разумею і трыста рублёў у самы раз?..»

«З'езджу», — клятвенна паабяцаў ён сабе.

— Грамадзянін!

Дзяўчына гадоў сямнаццаці з асуджэннем глядзела на яго ў акно: вось, маўляў, якія пажылыя і якія няўважлівыя. Косця ўсміхнуўся, аддаў грошы і бланк.

Падарожжа працягвалася.

Марыя сядзела ля акна, глядзела на дрэвы, што праляталі ўздоўж дарогі і разважала аб тым, што ўзнікала перад вачамі. Аб тым, напрыклад, што лес у любы час выглядае жывым, а палі — толькі ўвесну і ўлетку. Пра тое, што ўсё радзей і радзей бывае ў лесе, а за апошнія тры гады — ні разу. Пра тое, што пасля сарака раптам стала блытацца ў ліку і не заўсёды дакладна магла сказаць, колькі ёй гадоў. Карыстаючыся вольным часам, паспрабавала падлічыць цяпер і атрымала тры вынікі з розніцай у два-тры гады.

Уваходзілі і выходзілі часовыя спадарожнікі. Садзіліся, спрабавалі загаварыць з Марыяй, але, зразумеўшы, што яна глуханямая, сканфужана замаўкалі.

Аднак адна старая, высокая і касцістая, не збянтэжылася, а нібы ўзрадавалася, кранула Марыю за плячо рукой, паказала на вушы. Праз хвіліну яны ўжо размаўлялі, і Марыя даведалася, што ў старой ёсць глуханямая дачка, але скончыла школу, умее казаць і разумее па вуснах, што кажуць іншыя, выйшла замуж за глуханямога хлопца і нарадзіла дзяўчынку, вельмі добрую, галасістую.

Тады і Марыя пачала распавядаць пра сябе, пра сястру і брата, але аказалася, што старой трэба выходзіць.

Некаторы час яна разважала пра тое, што распавяла старая; пра тое, як магло б змяніцца яе ўласнае жыццё, калі б яна скончыла гэту школу, працавала б, напрыклад, швачкай ці яшчэ кімсьці, галоўнае — не ў адзіноце, а сярод людзей.

Праехала некалькі станцый жанчына з дзяўчынкай. У дзяўчынкі быў велічэзны бант, блакітныя вочы, пасажыры заўсміхаліся, а Марыя працягнула рукі, зацокала языкам, запрашаючы пагуляць, пасядзець на каленях, але нечакана вырваўся гук яе голасу і спалохаў дзяўчынку, яна схавалася за маці і паказала язык. Марыя засмуцілася, адвярнулася да акна.

Дзеці не любілі яе — да гэтага яна не магла прывыкнуць. Маленькія баяліся, старэйшыя былі жорсткія. Іншы раз з крыўляннямі праследавалі яе па вуліцы, скакалі вакол, выяўляючы нейкія малпавы рухі.

Потым Марыя ўспомніла, што летась гасцявала ў Марты ўнучка Ірачка; яна не толькі не спалохалася, а, наадварот, прывязалася да Марыі, палюбіла з першага позірку. Успомніла пра гэта і ўсміхнулася, прабачыла іншым дзецям.

Прабягалі часам па праходзе дзяўчаты і хлопцы. Марыя з цікаўнасцю глядзела на іх. Той час, калі яна адчувала рэўнасць да іх гутаркі, даўно мінуў, зараз чужая маладосць і прыгажосць выклікалі ў яе спагаду, а часам — калі дзяўчынка была далікатная, пяшчотная — шкадаванне.

Прыйшоў кантралёр, запатрабаваў квіткі і так доўга разглядаў на святло ў акно, што Марыя захвалявалася, але не, кусануў. Насілі па вагонах газеты і часопісы, кошыкі з піражкамі, судкі з буракамі. Да канца дня Марыя настолькі асвоілася, што купіла сабе буракоў, а потым папрасіла ў суседзяў часопіс — пагартаць, паглядзець малюначкі.

Адчула стомленасць і задрамала.

Шмат гадоў таму брат прывёз з вайны ёй і сястры па адрэзу на сукенкі. Ганна няўпэўнена прыклала матэрыял да грудзей, падышла да люстэрка, і раптам яе твар, які звычайна адлюстроўваў заклапочанасць, турботу, асвятліўся, страціў звыклы выраз, нібы пераўвасобіўся на імгненне ў твар іншага чалавека, які пражыў лёгка, удала, які не сумняваўся ні ў сённяшнім, ні ў заўтрашнім дні. Пастаяла перад люстэркам хвіліну-дзве, прытушыла гэты агонь і адышла ў бок.

— Прымер ты, — кіўнула Марыі.

І зноў успыхнула, калі launch ператварэнне сястры пацвердзіла яе ўласнае.

Аднак адразу шыць сукенку было нельга. Неабходна было абвыкнуць да матэрыялу, абмеркаваць фасон, кошт, швачку. Прыходзілі пасядзець суседзі, знаёмыя, і тады абавязкова адрэзы даставаліся з шафы, выпрабоўваліся на агонь (шэрсць ці падробка?), на ваду (ці не распаўзецца, як кітайскі драўляны шоўк?), ну і, вядома, перад люстэркам — на грудзі.

Краўчыху для перамоў запрасілі дадому. Гэта была жанчына іх узросту, прыйшла яна з ахвотай, а калі ўбачыла адрэзы, усхвалявалася: па-першае, таксама была досыць маладая, а па-другое, апошнія гады ёй даводзілася галоўным чынам ніцаваць і перашываць.

Шыліся сукенкі доўга, старанна, а калі былі нарэшце гатовыя, Ганна Васільеўна, ледзь прымераўшы, схавала сваю ў чахол, павесіла ў шафу. Марыя, наадварот, ужо ад краўчыхі вярталася ў новай і ў той жа дзень пайшла ў ёй прагуляцца.

Вярнулася праз дзве гадзіны, і Ганну Васільеўну ўразіў выраз стомленасці і расчаравання на яе твары.

— Цьфу! — сказала і засмяялася.

— Чаму?

— Не ведаю... Глядзяць усё, глядзяць...

Пераапранулася, таксама забрала абнову ў чахол — толькі тады задавальненне вярнулася да яе вачэй.

Часы змяніліся, зараз у Марыі было досыць адзення. Большасць яго была падорана сёстрамі, братам, яго жонкай, — Марыя памятала ўсё і магла сказаць, кім, калі. Можа, таму не жадала выкідваць і зношаныя рэчы.

— Хай вісіць!

Не без хітрасці, вядома: прыедзе брат, убачыць кофтачку, якую падарыў, і будзе яму прыемна.

Звярнулася аднойчы да брата:

— Навучы мяне танчыць!

— …

— Я здольная! За адну хвіліну навучуся! Я ўжо трохі ўмею! Ішла міма пляцоўкі і бачыла: адзін крок налева, два направа! Глядзі!.. Правільна?

— Правільна... Але... Навошта табе?

— Трэба!.. Ты любіш танчыць?

— Не ведаю... Не, мабыць.

— А іншыя?

— Хто як... Не вельмі.

— А навошта тады танчаць?

— ...Дурныя.

Марыя паразважала.

— Не! — сказала яна. — Маладыя!

— Можна я пайду пагуляць? — пыталася ў старэйшай сястры ўвечары.

— Можна.

Апранала новую сукенку, спынялася ля туалетнага століка.

— Можна падушыцца?

— Канечне.

Ціха ішла па вуліцах. Па вузкіх сцяжынках ля драўлянага плота, па доўгіх алеях старога парку, міма лавак з сілуэтамі хлопцаў і дзяўчат, міма двухкупальнай царквы з астылымі вітражамі, міма змрочных дрэў і будынкаў — дахаты.

Вярнуўшыся, садзілася ў тым пакоі, дзе працавала з кнігамі сястра.

— Ну? — сястра стомлена азіралася.

— Ліпы квітнеюць. Ты хіба не чуеш?

— Чую.

Мінімумам ведаў пра чалавека яна валодала.

— Чаму ты не народзіш другое дзіця? — спытала ў сястры.

Ганна Васільеўна пачырванела.

— Па-першае, мужа няма. А па-другое... гэта нядобра ў маім узросце.

— Не, — сказала Марыя. — Гэта выдатна.

Цягнік падыходзіў да Кіева.

Марыя амаль не сумнявалася, што ў Кіеве яе ніхто не будзе сустракаць. Справа не ў інтуіцыі, а ў тым, што ва ўсякім ланцугу заўсёды ёсць слабое звяно і яго разрыў можна прадбачыць: з пляменнікам Ганна Васільеўна не перапісвалася, Марыя не заязджала да яго ніколі. Але яна не хвалявалася. Яна ўжо назапасіла нейкі досвед і рыхтавалася яго ўжыць.

Так, пляменніка не было. Яна пастаяла яшчэ хвіліну, паразважала і пайшла туды, куды накіроўвалася большасць людзей. Не спяшацца і не хвалявацца — вось што было галоўным цяпер. Павольнасць забяспечвала спакой, спакой — упэўненасць. Круг шчасна замыкаўся, і пакуль Марыя ведала кожны наступны крок.

Стала ў канец нядоўгай чаргі і хутка падала ў акенца квіток, грошы і ліст нумар 3.

І — яна ведала, што ўсё ўладкуецца ўдала! — адразу да яе выбегла тоўстая жанчына ў фуражцы з чырвоным аколышкам, заківала галавой, заўсміхалася тоўстымі шчокамі, за ёй выбегла другая, трэцяя, узялі Марыю пад рукі, паказалі нейкія тэлеграмы, павялі. Марыя спачатку разгубілася, нават хацела засупраціўляцца, але раптам зразумела: Косця!.. Засмяялася і пайшла туды, куды яе вялі. Нават зазлавалася трохі: цікава было б перасадку здзейсніць самой.

Усхваляваны твар сястры Марты Марыя ўбачыла, як толькі выглянула ў акно. Па натуры яна была трохі падобнай да Яўгеніі Барысаўны: нават нязначныя падзеі хвалявалі яе, а такія, як ад'езд, прыезд, забіралі сілы, тысяча ўскладненняў уяўлялася ёй і толькі горшае, што можа падпільнаваць чалавека. Яна і бесталковая была трохі: ведала, што трэці вагон спыняецца ў канцы платформы, а прыйшла да пачатку: злавіла паглядам таблічку ля дзвярэй і панеслася ўслед. А як можа бегчы старая ў шэсцьдзясят гадоў? Марыя ўздыхнула.

Вось зараз чакаць, пакуль усё выйдуць, было нельга: сястра знемагала ля ўвахода, незнаёмыя твары прыводзілі яе ў роспач. Але вось убачыліся!.. Марта падхапіла сумку, а Марыя, як звычайна, павярнулася спінай да выйсця, на каленкі — і ўніз. Спусцілася, убачыла, што сястра выцірае вочы.

— Ты чаго?

— ...Старыя мы сталі!

— Ты, можа, старая, — адказала Марыя, — а я маладая. Пайшлі!

І вось толькі зараз, моцна ўзяўшыся пад рукі, ступаючы па магчымасці бадзёра і ў нагу, яны адчулі, што паездка закончана, хваляванні прайшлі і што яны поўнасцю шчаслівыя на сённяшні дзень.

— Як жа ты даехала адна? — спытала ў трамваі Марта.

— Пасля распавяду.

Ёй хацелася распытаць пра агульных знаёмых: палкоўніка, Насатага, пра суседзяў, але яна ведала, што Марта дрэнна валодае мовай жэстаў, будзе ківаць галавой і нічога не зразумее.

— Не баялася?

— Ніколькі.

— Малайчына. Я б на тваім месцы...

— У цябе розуму мала, а ў мяне шмат, — і засмяялася. Пахваліцца Марыя любіла і магла. Хоць і разумела, што выхваляецца.

Аднак пачуццё справядлівасці перамагло.

— Гэта Ганна малайчына. Яна напісала ліст.

Марыя працягнула сястры пацёрты ўжо канверт, і тая прачытала:

*«Грамадзянін ці грамадзянка!*

*Я інвалід дзяцінства. Маё імя Марыя Васільеўна Русанава. Еду на лячэнне ды сястры Марты Васільеўны, якая жыве ў гор. Пяцігорску, па вул. Паўднёвай, 7.*

*І вось заблудзілася ў гэтым незнаёмым горадзе.*

*Правядзіце мяне на чыгуначны вакзал.*

*Я непісьменная. Зрабіце мне ласку.*

*З павагай*

*глуханямая Марыя Васільеўна».*

На наступны дзень Косця і Ганна Васільеўна атрымалі аднолькавыя тэлеграмы: «Марыя дабралася шчаслівa. Цалуем. Сёстры».

***Пераклад з рускай Наталлі КАЗАПАЛЯНСКАЙ.***





МІКОЛАВІЧ

# НА ВУГОЛЛІ

* * *

Колькі жанчын у душы —
Столькі і ёсць кахання.
Не думай, не плач — пішы
Жанчыне сваёй да рання.

Адкажа — трымай святло.
А на студзеньскім ранні
Ты загасі яго.
У вуглях — каханне.

* * *

Ты — мая вада. А больш нічога
У жыцці не трэба чалавеку.
Ну, яшчэ хіба што крышку Бога.
А яшчэ — кахання у павеку.

Знойдзецца каханне — будзе Бог.
Знойдзецца той Бог — і будзе згода.
Пацалуемся мы так, як Бог не змог!
Пакахаемся, калі не будзе Бога!

---

*__міколавіч (сапр. Гілевіч Мікалай Мікалаевіч)__ нарадзіўся 4 лютага 1973 года ў Мінску. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1994) і аспірантуру пры названай навучальнай установе (1997). Працуе рэдактарам аддзела культуры «Настаўніцкай газеты».*

*Аўтар паэтычнай кніжкі «Горад» (1996), кнігі інтэрв'ю і артыкулаў «Рэй» (2015), а таксама перакладаў з англійскай: «The Minsk Ghetto. Soviet — Jewish Partisans Against the Nazis» («Мінскае гета. Барацьба савецкіх габрэяў-партызан супраць нацыстаў», 2002), «History and Social Theory» («Гісторыя і сацыяльная тэорыя», 2003) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро» (2013).*

* * *

Пачынаецца ўсё з пясочніцы
І заканчваецца ўсё пяском.
Пацалую зямлю-сурочыцу,
Вып’ю неба зрання нагбом.

Нарачоная ты ці наложніца,
Чалавеча ты або гном…
Пачынаецца ўсё з пясочніцы,
А заканчваецца пяском.

* * *

Гэта мой апошні камень я трымаю.
Калі хто не знае, я — Сізіф.
Нават назвы той гары не знаю,
Куды валаку я свой relieve.

Але валаку, сціраю ногі.
Уздымуся — хтось пакліча ўніз.
Выйду да падножжа з асцярогай.
Гляну на вяршыню: Rest in peace.

* * *

Земляры зямлю сваю цалуюць
І таму навечна вельмі рады.
Калі ты зямлю сваю зямлюеш,
Ты пракляты, вечны ты араты.

Землякі зямлю сваю шануюць.
І яны таксама вельмі рады
Бачыць земляроў, што шпацыруюць
Без зямлі і без зямной спагады…

* * *

Папяровае маё сэрца,
Ты адкуль, ты адкуль, ты адкуль?
Ты баялася так памерці
Не ад куль, не ад куль, не ад куль…

Снег — на сэрцы. А сэрца — камень.
Дождж — на сэрцы. А сэрца — гляк…
Учарэпілася караням\і…
І трымціць зямля.

## НАШАЕ КАХАННЕ

Нашае каханне — беларуская Саграда Фамілія.
Я — твой Гаўдзі. Ты — мая Каталонія.
Я любіў цябе як іспанец з Сіцыліі.
Ты кахала мяне. Але ты была калонія.

Ты — мая Саграда Фамілія.
Недабудаваная, недацалаваная, недачапаная.
Ты — мая адзіная на ўсім свеце філія.
Мною не дакаханая…

Колькі пасля нас недабудавана палацаў,
Колькі пасля нас плах не пасцелена,
Колькі пасля нас недапавешаных паяцаў,
Колькі сцен у турмах не пабелена…

Але наша з табой Саграда ўсё яшчэ будуецца
Ў нашым сэрцы. А яшчэ — дзесьці ў Барселоне.
Няма Гаўдзі. Памёр, як бомж, на вуліцы.
Але ёсць Саграда…
І маўчыць нават Бог пры ейным звоне.

## У ХЕМІНГУЭЯ

«Дзе ты быў, калі цябе чакала,
Калі плакала ўсю ноч, ўсю — напралёт,
Дзе ты быў, калі мяне не стала,
Калі кінулася я ў пралёт?»
«У Хемінгуэя».

«Дзе ты ёсць, калі я ўсё ж паўстала?
Выплакала усю душу да дна…
Як лягла учора, сёння ўстала —
Без цябе. Адна. Зусім адна».
«У Хемінгуэя».

«Дзе ты будзеш? Дзе ты заўтра будзеш?
Ці чакаць цябе падчас завеі?
Ці ты вернешся, як сон, як людзі?
Дзе ты будзеш? Where? Where? Where?»
«With Ernest Miller Hemingway».





Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# НА СКРЫЖАВАННІ СНОЎ

*Лірычныя апавяданні*

## Цётка Вера

Як цётка Вера смяялася, утрымацца, каб не засмяяцца самому, было, здаецца, немагчыма. Нейкі гарлавы глыбокі, і ў той жа час залівісты і звонкі быў яе смех. І ўся яна, высокая, зграбная, была нібы само выяўленне прыгажосці. «От жа, не дай бог нікому так паламаць лёс, — уздыхала бабуля, — усё вайна праклятая…»

Я хоць і быў малы, ужо ведаў з бабуліных расповедаў, што амаль адразу пасля вяселля яе муж, ваенны доктар, паехаў на фронт, і ў першы ж дзень іх эшалон немцы разбамбілі, а ён загінуў.

Нас з сястрой цётка Вера вельмі любіла, і мы не маглі дачакацца, калі яна прыедзе ў госці з Гродна, прывязе нам гасцінцы і будзе бавіцца з намі днямі. Мы яе і клікалі проста Вера, нібыта сяброўку.

Вера… Сёння я зноў сніў яе смех, яе высокую постаць, і, прачнуўшыся, доўга не мог суцішыць стук сэрца, а слёзы самі наплывалі на вочы, і нясцерпны боль працінаў душу.

Перад вачыма паўставала аднапавярховая сельская бальніца ў былым панскім доме, і мая любая цётухна ў выцвілым халаце, з нейкай недарэчнай хусткай на галаве.

«Як там Максімка, як Оля?» — пыталася яна пра маіх дзетак, перадавай ім прывітанне. Можа, калі разам прыедзеце…

---

*__Гальпяровіч Навум Якаўлевіч__ нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў горадзе Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны рэдактар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар паэтычных кніг «Сцяжына» (1983), «Брама» (1990), «Востраў душы» (1995), «Струна» (1997), «Шляхі і вяртанні» (2000), «Святло ў акне» (2002), «Голас і рэха» (2004), «Гэта ўсё для цябе» (2006), «Насцеж» (2008), «На трапяткім агні» (2012), «Сюжэт для вечнасці» (2013), «Час лістападу»(2018) і інш.*

«Прыедзем, абавязкова прыедзем», — гаварыў я, ледзь стрымліваючы слёзы ад гэтай бездапаможнай сітуацыі, ад таго, што не магу нічым памагчы, бо нельга ёй ужо было без уколаў, без урачэбнага дogляду, і гэтая сельская бальніца, куды мы маім стараннем змаглі на нашы грошы і яе пенсію ўладкаваць старую, стала для яе апошнім домам.

А ў Гродне яна жыла на чацвёртым паверсе прыгожага, яшчэ даваеннай пабудовы дома на самым рагу вуліц Ажэшкі і Савецкай.

Хто калі-небудзь бываў у гэтым цудоўным горадзе, ведае, што гэтае месца — яго самае сэрца. Я памятаю з дзяцінства, як па гладкай брукоўцы важна праязджалі легкавыя машыны, як шоргалі гумовымі шынамі павозкі, якія развозілі тавары ў бліжэйшыя крамы.

Насупраць, у падвале мясной крамы, прадавалі свежыя піражкі з мясам. «На табе рубель, — казала Вера, — прынясі піражкоў! От пір нам будзе!»

І я прыносіў дзесяць духмяных гарачых піражкоў, і мы заварвалі чай, і ладзілі сапраўдны пір, і было так хораша, як, здавалася, больш ніколі не было!..

Кожнае лета я гасцяваў у цёткі Веры. З шасці гадоў, калі мы першы раз паехалі туды з мамай і сястрычкай, і аж да дзясятага класа, калі я ўжо ездзіў туды адзін на ўсе канікулы.

Там у мяне былі сябры, фотаздымкі з якімі да гэтага часу ёсць у маім альбоме, там я ледзь не стаў футбалістам мясцовай каманды майстроў, там…

Горад, хоць ён і значна змяніўся, і сёння выклікае ў мяне шчымлівую настальгію і светлае летуценнае пачуццё...

Цётка Вера часам выязджала ў камандзіроўкі па вобласці, і я заставаўся ў яе прасторнай аднакапаёўцы адзін. Памятаю асалоду чытання (кніжкі я браў у бліжэйшай бібліятэцы) пры расчыненым акне, калі з вуліцы ў пакой даносіўся стук абцасаў, водгулле людскіх гаворак, шоргат шын па маставой. У сваім родным Полацку я жыў у драўляным доме прыгараднага пасёлка, а тут, у цэнтры Гродна, адчуваў, нібыта на парыжскім Манмартры.

Але раптам цётухна захварэла. Яна доўга не пісала нам, аднак аднойчы прыйшоў адчайны ліст з просьбай прыехаць. А за ім яшчэ адзін, яшчэ…

Параіўшыся, мы рашылі забраць Веру да нас.

Так яна пасялілася ў нашай кватэры. Былую рагатуху і прыгажуню было не пазнаць. Гадзінамі яна сядзела ў пакоі, гледзячы ў адну кропку. Дактары нічога сур’ёзнага не знаходзілі, гаварылі пра нервы, пра ранімую псіхіку…

Праз пару гадоў Вера крыху ачуняла, але ранейшай ужо не была. А тут здарылася няшчасце з мамай, а потым яе трагічны сыход, і Вера засталася ў кватэры з маім бацькам, бо мы ўжо да гэтага часу раз’ехаліся па сваіх уласных кутах.

Доўгіх пятнаццаць гадоў правялі яны разам у нашай сціплай кватэры, часам не размаўляючы паміж сабой днямі. Ажыўлялася Вера толькі тады, калі прыязджалі мы са сваімі малымі. Дзяцей яна па-ранейшаму любіла, і спяшалася пачаставаць іх нечым смачненькім. Тады яна загадзя, яшчэ да нашага прыезду шчыравала на кухні і гатавала ўрачысты абед.

«Вось так бы кожны дзень, — бурчаў бацька, — а то мне з адной рукой ёй есці трэба гатаваць!»

У іх былі своеасаблівыя адносіны, бо прыязнасці паміж імі з даўніх часоў не мелася. Але агульная бяда неяк памірыла і зблізіла іх, і хоць да цеплыні пачуццяў так і не дайшло, яны адно да аднаго ставіліся досыць цярпліва.

Ды бацьку ўжо было далёка за восемдзесят, ён аслабеў, і мы забралі яго да сябе.

А Вера жыць адна ўжо не магла. Хвароба абвастрылася, і заставацца самнасам было ўжо проста небяспечна. Аднойчы яе забралі ў Заддзвінне. Кожны ў Полацку ведае, што гэта такое.

Так пасля паўгадавога лячэння яна і апынулася на сацыяльнай койцы маленькай сельскай бальніцы.

«Верачка, мы абавязкова прыедзем! — сказаў я. — Мы ж, памятаеш, у мінулыя выхадныя былі. Дзеці ў школе, а ў суботу мы зноў будзем у цябе!»

І тут яна стала цалаваць мае рукі…

Як я толькі вытрымаў той адчай!.. Зайшоўшы за бальнічны плот, я галасіў і стукаў кулаком у дошкі, ледзь не разбіўшы рукі да крыві…

Так я не галасіў нават калі прыехаў з Мінска на яе пахаванне, дзе яна на могілках лягла побач з мамай, бацькам і бабуляй. Так яны сышліся разам, як на тым даўнім фотаздымку, які штодня глядзіць на мяне праз шкло з кніжнай шафы, дзе мы ўсе разам, а мне там пяць ці шэсць гадоў…

## Бабуля

— Бабуля, а дзе Бог? На небе? А чаму мы яго не бачым?

І баба Оля тлумачыла мне, што затое Ён нас усіх бачыць. Я ж хацеў абавязкова пабачыць сівога і старога, як мне падавалася, Бога і шукаў яго абрысы ў воблаках, якія праплывалі над нашай маленькай хаткай.

— Бабуля, а чаму ты на Генку Калужонка казала «байструк»? Гэта што такое? А я не байструк? Так, мой тата навучыць мяне чытаць. А ты чаму чытаць не ўмееш? А, літары дробныя, а тата ў акулярах…

— Бабуля, а хіба гэтая таполя разумее? Чаму ты кажаш, што з ёй вітацца трэба і здароўя прасіць? З дрэвамі трэба размаўляць? А з кветкамі? Чаму ты з імі размаўляеш?

— Бабуля, а чаму ідзе дождж? Гэта неба плача? А чаго яно плача? Па дзядзю Марку, што на вайне забілі?

— Бабуля, а што ты казала: «Красіва, як нешта ў Герасіма»? І чаму мама за гэта на цябе сварыцца? Што такое ў таго Герасіма красівае?

— Бабуля, а ты не памрэш? А хто са мной тады будзе? Бабулечка, не памірай!

…Я ехаў у кузаве нашай саўгаснай палутаркі. Побач са мной на вынесенай з дому лаўцы сядзелі заплаканая мама і цётка Вера, па другі бок ад труны — тата і дзядзька Яша з Ленінграда. Я ганарыўся, што мяне разам з дарослымі ўзялі на машыну хаваць бабулю на Чырвоныя могілкі. Сястрычку не ўзялі, і яна засталася дома з жонкай дзядзькі.

За машынай ішлі людзі. Іх было няшмат, пэўна чалавек дзесяць ці пятнаццаць. Гэта былі нашы пітомніцкія старыя — Марозіха, Шалуніха, высокі каваль дзядзька Есіпёнак, маміны канторскія і бацькавы браты Яфім і Лёнька. Астатніх я не ведаў.

Я нядаўна перайшоў у чацвёрты клас, любіў школу, а сёння не пайшоў на заняткі, і цяпер выглядаў, ці бачаць мяне мае аднакласнікі, бо мы якраз праязджалі міма маёй школы.

Бабуля перад гэтым доўга хварэла, ляжала, не ўстаючы, у ложку, і гаварыць, як раней, мы даўно перасталі.

…Я не плакаў, калі труну выносілі з хаты, не плакаў і цяпер, і мне было нават крыху сорамна перад мамай, што я нібыта не надта перажываю.

Калі вярнуліся дадому, дарослыя селі за стол. Паклікалі і мяне. Праходзячы паўз маленькі калідорчык, я раптам убачыў бабуліны самаробныя тэпці. Старыя, зношаныя, яны сіратліва туліліся да кута. І я ўрэшце зарыдаў. Мяне ўсяго калаціла, і мама доўга не магла супакоіць. Мне было страшна і вусцішна, бо я зразумеў, што любую бабулю ўжо ніколі не пабачу.

## Журфак

Масіўны падлогавы гадзіннік у зале «іграў» праз кожныя паўгадзіны. Я і так доўга не мог заснуць, а тут яшчэ гэты звон…

«Ды ўсё ж не ў сабачай будцы», — падумаў я. Менавіта ў летнім будане ў садку прапанаваў мне пасяліцца за «ўмераную» плату — рубель за ноч — гаспадар у прыватным сектары Мінска.

І хоць страціў дзень на пошукі жытла ў часе ўступных экзаменаў ва ўніверсітэт, жыць у будане, падобным на сабачую будку, я не адважыўся.

Так бы зноў давялося б ісці начаваць на вакзал, каб вечарам на кансультацыі Вадзім, з якім я пазнаёміўся, калі атрымліваў экзаменацыйны ліст, паслухаўшы маю гісторыю, раптам ні прапанаваў:

— Давай да мяне! Нават грошай не вазьму. Пляшку хіба толькі праставіш. Я жыву ў бабулі, месца хопіць.

Вадзімава бабуля, як аказалася, была некалі вялікай начальніцай, бо мела аграмадную, у некалькі пакояў кватэру, проста ў самым цэнтры Мінска, насупраць кінатэатра «Піянер».

Не сказаць, каб яна была ў захапленні, калі мы з Ігарам завіталі ўвечары да іх, але, распытаўшы, хто я і адкуль, дазволіла мне паехаць на вакзал у камеру захоўвання па мой чамадан.

Так на дзесяць дзён я застаўся жыць у Вадзіма.

«Ты, я гляджу, хлопчык спакойны, выхаваны, з добрай сям'і, у вас умеюць выхоўваць дзетак, так што сачы за маім бэйбусам, яму менавіта такіх сяброў не хапае!»

Я пастараўся прапусціць міма вушэй зноў гэтае «ў вас», бо з жыллём мне яўна пашанцавала.

Пасцялілі мне ў зале, якраз насупраць неўгамоннага гадзінніка. Я доўга варочаўся, успамінаючы дом, бацьку з маці, свой пакойчык, вокны якога выходзілі ў сад, пяціпавярховік у Задзвінні за мостам, дзе жыла Фаціма…

Тут, у чужым пакоі, было сіратліва і адзінока.

Зала была прахадной паміж пакоямі, у якіх спала бабуля і Вадзім. Я нават спачатку здзівіўся, чаму мяне паклалі асобна, бо ў Вадзімавым пакоі нам двум хапіла б месца.

Здагадка прыйшла пазней. Не думаю, праўда, што пра гэта ведала бабуля.

Недзе калі гадзіннік чарговы раз прагрукатаў дванаццаць разоў, Вадзім выглянуў са свайго пакоя і, прыклаўшы палец да вуснаў, што азначала маўчаць, на дыбачках пайшоў да ўваходных дзвярэй. Праз пару хвілін ён вярнуўся, ды не адзін. З ім таксама на дыбачках пратэпала дзяўчына, і яны хуценька юркнулі ў Вадзімаў пакой.

Куды было мне, сціпламу правінцыялу, уявіць, як гэта можна прывесці на ноч дзяўчыну ў кватэру, дзе спіць родная бабуля і мэнчыцца на жорсткай прапыленай канапе выпадковы кватарант!..

Такія візіты потым працягваліся не раз, ды і дзяўчаты, часам, мяняліся.

Увогуле, самае цікавае было пазней, калі бабуля з’ехала на лецішча ў Крыжоўку, і мы з Вадзімам засталіся ўдвух. Да экзаменаў ён не рыхтаваўся, бо шчыра прызнаўся, што ўжо ўсё «схоплена», і пытанне пра паступленне вырашана.

І сапраўды, ён звычайна ішоў здаваць апошнім, і кожны раз выходзіў з «пяцёркай» у экзаменацыйным лісце.

Увогуле, менавіта гэтыя дзесяць дзён на Кірава прынеслі мне досвед пра «залатую мінскую моладзь».

«Харчавацца будзем дома! — заявіў назаўтра Вадзім. — Бачыш вазу? Вось сюды складваем грошы! Ежу купляю я! А вечарам можам і прашвырнуцца куды-небудзь».

Ну наконт «прашвырнуцца», шчыра кажучы, я не дужа разлічваў, але тое, што далі мне дома, паслухмяна паклаў у вазу, пакінуўшы сабе, на ўсякі выпадак, «заначку» на дарогу дамоў.

Назаўтра быў вусны экзамен па літаратуры і мове. Яму папярэднічала лёгкая блытаніна. Спачатку нам казалі, што здаваць трэба беларускую літаратуру, на кансультацыі абвясцілі, што трэба рускую тым, хто вучыўся ў школе з рускай мовай навучання, а перад самым экзаменам прыйшла метадыстка і аб’явіла, што можна здаваць па выбары.

У мяне чамусьці ў атэстаце па беларускай літаратуры стаяла «пяць», а па мове — прочырк. Проста ў дзясятым і адзінаццатым класах нам беларускую мову зусім не выкладалі. Ды і літаратуру наша «беларусічка» выкладала дзіўна: прасіла шукаць пераклады Шамякіна і Танка на рускую мову і адказваць ёй па-руску. Замест ранейшай Алены Дзмітрыеўны, якая цудоўна размаўляла на мове, прыйшла ў выпускных класах жонка вайскоўца, якая беларускай мовай практычна не валодала.

А тут сярод экзаменатараў значыўся Дзмітрый Бугаёў! Я ўжо ведаў, што гэта вядомы беларускі крытык, чытаў яго артыкулы.

— Дык які білет цягнеце? — мякка спытаў ён.

— А давайце і па-рускай, і па беларускай, — нечакана адказаў я.

— Што ж, цягніце! — усміхнуўся выкладчык.

Так раптам я ўдвая ўскладніў сабе задачу. Хоць беларускую мову ведаў добра і шмат чытаў твораў, аднак з-за таго, што практычна два гады па праграме не займаўся, было страшнавата, а па рускай мове і літаратуры ў нас была цудоўная настаўніца, і па гэтым прадмеце я быў усё ж такі падрыхтаваны лепш.

Экзамен яўна зацягнуўся. Дзмітрый Якаўлевіч і яго каляжанка задавалі пытанні. А калі я стаў пералічваць, каго з сучасных беларускіх творцаў чытаў і працытаваў на памяць верш Бураўкіна «Прыязджайце да нас, на Полаччыну», Бугаёў расцвіў.

— Трэба напісаць у вашу школу падзяку за такога выпускніка, — ласкава сказаў ён. — Буду рады сустрэцца з вамі ў студэнцкіх аўдыторыях.

Да маёй часовай кватэры я ляцеў як на крылах. Вадзім быў у другой групе і ў гэты дзень заставаўся дома.

Яшчэ з калідора пачуў пах тытуню і гучную музыку. У зале за накрытым сталом сядзела цёплая кампанія: два хлопцы і тры дзяўчыны.

— Знаёмся, гэта мае сябры, — звярнуўся да мяне Вадзім. — Дарэчы, у цябе што-небудзь з бабак не засталося? А то вось ты прыйшоў, а ў нас ужо выпіўка з закускай скончыліся. Не бойся, аддам. Заўтра ў Крыжоўку паеду, у бабулі выпрашу.

Я моўчкі дастаў запаветную пяцёрку і паклаў на стол.

Трэба было рыхтавацца да апошняга экзамена па гісторыі. Да яго заставалася тры дні. А грошы мае ўжо скончыліся. Вадзім мне, праўда, вярнуў назаўтра пяцёрку, але тут жа паклікаў мяне з сябрамі ў «Журавінку» і мне прыйшлося выручаць: не толькі дадаць да агульнай сумы пры разліку злашчасную паперку, але і апошні рубель, што трымаў на ўсялякі выпадак.

Паесці ў хаце было хоць шаром пакаці. Вадзім недзе блукаў па сябрах, а я тунькаўся з кута ў кут, і раптам прыняў рашэнне: трэба ехаць у Полацк шукаць грошы.

Але ж да Полацка трэба было дабрацца. Ды і часу на падарожжа туды і назад было небагата.

Устаўшы ў шэсць гадзін, я «зайцам» на трамваі паехаў да выезду з горада, дзе звычайна галасавалі праезджым машынам выпадковыя падарожнікі.

«Скажу, грошай няма, вазьміце гадзіннік», — так меркаваў разлічыцца з шафёрам. Гадзіннік быў добры, новенькі — бацькаў падарунак на дзень нараджэння.

У нашым напрамку часта хадзілі магутныя бітумавозы. Адзін з іх спыніўся, убачыўшы маю паднятую руку.

Шафёр, як аказалася, быў армянінам. Пра гэта ён сказаў сам падчас нашай размовы.

— Гавары, каб я не заснуў. Усю ноч баранку круціў. Хутчэй бы да гэтага вашага Наваполацка дабрацца.

І мы гаварылі. Я ўзгадаў, што ведаю армянскіх паэтаў Сільву Капуцікян і Геворга Эміна, футбаліста Маркарава. Пра паэтаў я ведаў толькі імёны, але і гэта зрабіла на кіроўцу вялікае ўражанне. Ён мне стаў чытаць вершы на памяць па-армянску, заспяваў песню, а калі прыехалі, заявіў:

— Нічога не вазьму. За тое, што ты друг армянскага народа.

Дадому я, канешне, не пайшоў: было сорамна, што растраціў грошы. Выручыў сябра, які пазычыў дзясятку.

Можна было б і дабірацца назад, але я ведаў, што ў Фацімы якраз сёння дзень нараджэння. Гэтая дзяўчына не проста мне падабалася, за сустрэчу з ёй я гатовы быў зрабіць што заўгодна. Мы сустракаліся, часцей у сяброўскай кампаніі, і я ніяк не мог рашыцца на прызнанне.

«Вось як раз шанец! — падумаў я. — Яна ж ведае, што я ў Мінску на экзаменах».

Дзверы мне адчыніў яе бацька, пра якога я ведаў толькі, што завуць яго Равіль, ён палкоўнік.

— Фаціма, да цябе, — крыкнуў ён у глыбіню кватэры, адкуль чуліся людскія галасы.

Я стаяў з букетам, нарваным у сяброўскім агародзе, у белай кашулі і белых штанах, у задняй кішэні якіх ляжаў складзены акуратна экзаменацыйны ліст.

Замест чаканай радасці я ўбачыў на твары Фацімы недаўменне, якое змянялася прыкрасцю.

— Ну што ж, праходзь, толькі ненадоўга, — суха сказала яна.

У пакоі былі, відаць, бацькавы саслужыўцы з жонкамі, якія зацікаўлена глядзелі на мяне.

— Не рабей, жаніх! — загаварыў са мной падвыпіўшы маёр, побач з якім мяне пасадзілі. — Давай лепш вып’ем.

Згаладалы, змэнчаны, я хутка ап’янеў. Усё было як у тумане. Памятаю, мы курылі на балконе, памятаю ўрыўкі нейкіх анекдотаў, застольныя песні.

Фаціма вывела мяне на лесвічную пляцоўку.

— Едзь куды хочаш! — са злосцю сказала яна. — Хто цябе сюды клікаў?

Ноч я правёў на лавачцы ў двары. А як толькі развіднела, пашыбаваў на аўтавакзал.

У Мінску Вадзім, здаецца, нават не заўважыў маю адсутнасць. Стомлены, я заваліўся на канапу ў чым быў і праспаў да самай раніцы.

Перад апошнім экзаменам па гісторыі я ўжо меў тры выдатныя адзнакі. Практычна паступленне было гарантавана. Але нечакана экзаменатары мне наладзілі галавамыйку. Не ведаю, чым яны кіраваліся, але пытанні, адно вастрэй за другое, літаральна сыпаліся на мяне.

Ад нечаканасці я нават узмакрэў. Нешта адказваў правільна, нешта не вельмі. «Няўжо заваляць? — свідравала думка. — Пасля трох пяцёрак?»

Нарэшце экзекуцыя скончылася.

— На жаль, вы, мабыць, паступіце, — суха прамовіў адзін з экзаменатараў, — але мы яшчэ сустрэнемся, — пагрозліва дадаў ён.

Ледзь не хістаючыся, я выйшаў з аўдыторыі. У экзаменацыйным лісце пасля акуратных «выдатна» стаяў тлусты трояк. Але гэта было васямнаццаць балаў.

Значыць, я паступіў.

Не ведаў тады, якія прыгоды мяне чакаюць падчас вучобы на жаданым журфаку.

## Да Пушкіна

…Сем раніцы. На вуліцы яшчэ цёмна, і ў святле ліхтароў дрэвы здаюцца нейкімі таямнічымі казачнымі істотамі. У парку бязлюдна, толькі зрэдку сустрэнецца захутаная ў куртку ці плашч мужчынская ці жаночая постаць з сабакам. Гэта ўжо крыху пазней сабакароў (так некалі яшчэ Васіль Быкаў называў гаспадароў хатніх чатырохногіх гадаванцаў) значна паболее, і парк напоўніцца сабачым брэхам і гучнымі вокрыкамі.

Сёння я зноў выйшаў на ранішнюю праходку, хоць і не дужа хацелася выпаўзаць з-пад цёплай коўдры ў гэтую асеннюю слоту і імжысты нудны дождж, які ціха сеяўся з хмурнага неба.

Гуляючы, нешта думаецца і ўспамінаецца, у галаву стукаюцца радкі любімых вершаў ці нейкая падслуханая раней мелодыя.

Сёння гэты лістападаўскі дождж нечакана прынёс мне дужа даўні ўспамін пра такую ж мокрую і хмурную раніцу на Пскоўшчыне, у Пушкінскім запаведніку, куды я ўпершыню прыехаў з групай турыстаў са свайго роднага Полацка.

Я тады працаваў карэктарам у мясцовай газеце, хадзіў на літаб'яднанне і спрабаваў рыфмаваць тое, што «стукалася» на паперу з маёй дваццацігадовай душы.

Па серадах, два разы на месяц, у адзін з рэдакцыйных пакояў збіраліся тыя, хто лічыў свой літаратурны занятак справай важнай і патрэбнай, хто імкнуўся ўбачыць свае радкі надрукаванымі і папулярнымі.

Былі гэта як і мае равеснікі, так і людзі ўжо сталага ўзросту, якія нагадвалі мне равеснікаў маіх бацькоў.

Адну з іх звалі Ядвігай, здаецца, Антонаўнай (часу прайшло нямала), працавала яна экскурсаводам у гарадскім экскурсійным бюро, пісала ўзнёслыя вершы пра каханне, якія даволі часта з'яўляліся на газетных старонках.

І вось аднойчы яна прапанавала мне паехаць у выхадныя ў двухдзённае падарожжа ў Міхайлаўскае, па пушкінскіх мясцінах.

— Ведаеш, — сказала яна, — якраз у групе вызвалілася адно месца, і табе нават за пуцёўку плаціць не трэба. А паэту да Пушкіна трэба завітаць абавязкова!

Ядвіга заўсёды гаварыла гучна і высакапарна, але прапанова сапраўды падалася мне вартай увагі.

У суботу ў шэсць раніцы я стаяў ля невялікай прыбудовы насупраць аўтавакзала, дзе месцілася турбюро.

У аўтобусе, як аказалася, былі толькі жанчыны і дзяўчаты, за выняткам двух вадзіцеляў.

— Гэта работніцы швейнай фабрыкі, — патлумачыла мне Ядвіга, — гэта яны замовілі нам гэтую паездку.

...Дарога клалася шэраю стужкай. У акне мільгалі асеннія краявіды: прыбраныя роўныя палеткі, дрэвы з рэдкім лісцем на кронах, разбітыя каляіны прасёлачных дарог.

«Унылая пора, очей очарованье...» — прыгадваліся знаёмыя са школы радкі. Я настройваўся на сустрэчу з мясцінамі славутага паэта.

Жанчыны гаманілі пра сваё, а спадарыня Ядвіга, якая сядзела побач, не давала мне засяродзіцца.

У сваім высокім стылі яна натхнёна разважала пра прызначэнне паэта ў гэтым свеце, пра важкасць глыбокага пачуцця, пра ачышчэнне душы ад чытання любімых твораў.

І хоць у многіх яе словах была праўда, хоць прамаўляла яна гэта ўсё з непадробным натхненнем, галава мая патроху стала разломвацца ад гэтай магутнай слоўнай плыні, і вельмі хацелася хутчэй дабрацца да месца прызначэння.

Таму, калі мы ўехалі на тэрыторыю турбазы ў Пушкінскіх гарах, каб размясціцца на запланаваны начлег, я з палёгкай уздыхнуў.

Як і чакалася, пасялілі мяне з двума шафёрамі. «Ну, хоць цяпер адпачну ад Ядвігі», — падумаў я, але па-сапраўднаму адпачыць з дарогі так і не ўдалося.

Вадзіцелі, Коля і Васіль, як яны назваліся, зладзілі няхітры стол: выклалі са сваіх «ссабоек» сала, цыбулю, вараныя яйкі. Васіль дастаў з сумкі пляшку гарэлкі.

Мама дала мне ў дарогу печаныя піражкі з капустай, курыную ножку, пачак пячэння. Я таксама далучыў гэта да сяброўскай вячэры.

Кіроўцы былі значна старэйшыя за мяне. Абодвум было, відаць, за сорак, хоць Мікалай выглядаў мадзейшым, і я быў у іх кампаніі зусім хлапчуком. І хоць стараўся нават патроху падтрымліваць гаворку, але выходзіла гэта зазвычай крыху неўпапад.

Пляшка хутка апусцела, і Коля стаў прапаноўваць пашукаць дабаўкі.

— Заўтра ж за руль сядаць, — паспрабаваў было заікнуцца больш памяркоўны Васіль, але не змог устаяць перад прапановай.

Пайшлі па дабаўку самыя маладыя — мы з Колем.

З турбазы пешшу мы накіраваліся ў бліжэйшую вёску.

— Ведаю я там адну старую, — суцяшаў мяне Коля. — У яе заўсёды самагонка ёсць!

Перад высокай брамай адной з бліжэйшых хат мы спыніліся, і Коля пагрукаў па клямцы вялікім металічным кальцом.

«Что надо?» — пачуўся прах хвіліну рыпучы старэчы голас.

«Бабушка, нам бы выпить, если есть! Мы заплатим!» — адгукнуўся мой спадарожнік.

Рыпучая брама расчынілася, і мы прайшлі ў двор. Старая выйшла на ганак з закаркаванай абрыўкам газеты пляшкай. Яна была ў нейкім зіпуне, у цёмнай хустцы на галаве, рыхтык, як бабуля з пушкінскіх часоў. Але не ласкавая Арына Радзівонаўна, а хутчэй нейкая Баба Яга.

На мой крыху нязвыклы да такой колькасці хмяльнога стан гэта падалося проста неверагоднай казкай.

Ды хутка Коля са старой паразумеліся, і мы рушылі назад, дзе ўжо нас чакаў з рэшткамі закускі Васіль.

Ноччу я прачнуўся ў нейкай трывозе. За акном свяціла поўня. Цені магутных дрэў нібыта лезлі ў акно і стукаліся галінкамі ў шыбу. Веяла нейкай жудасцю і таямніцай.

З цяжкасцю ўдалося прымусіць сябе заснуць, нягледзячы на моцны галаўны боль.

З раніцы, безумоўна, мы мелі досыць пакамечаны выгляд. Ядвіга падазрона паглядзела на мяне, але нічога не сказала.

Міхайлаўскае, Трыгорскае, Пушкінскія горы… Стаяў сонечны дзень позняй восені. З высокіх узгоркаў ля пушкінскай хаты віднеліся лугі, складзеныя стагі, жоўтая шчотка лесу.

Экскурсавод, малады інтэлігентны хлопец, назваў сябе Валодзем. Ён гаварыў не завучанымі штампаванымі словамі, а па-сапраўднаму натхнёна і шчыра. Былы студэнт-філолаг, як ён прызнаўся ў размове, сам папрасіўся па размеркаванні сюды, пакінуўшы бацькоўскую хату са сталічнай прапіскай. Гэта яму потым прысвяціў я верш. Ён, праўда, недзе потым згубіўся. У памяці засталіся толькі першыя радкі:

Правядзі нас, Валодзя, к Пушкіну,
Праз туман і гадоў паток,
Праз ману і праз твары апухлыя,
Каб адчуць светлы твой радок.

Верш атрымаўся, на мой погляд, недасканалы, пераймаў любімага майго Вазнясенскага, і я яго нідзе так і не надрукаваў.

А вось гэтае пачуццё цуду, таямніцы, незразумелай трывогі і высокага духоўнага ўзрушэння ад той паездкі запомнілася.

І прыгадалася сёння ў святле ранішніх ліхтароў у асеннім мінскім парку…

## Першы ганарар

Мы сядзелі на стромым беразе Дзвіны. Лёгкі ветрык прыемна лашчыў шчокі, навакол буяў водар першай летняй лістоты.

— Паэт павінен мець біяграфію, — пацэджваючы чырвонае віно з бутэлькі, казаў мне Уладзімір Іосіфавіч, Валодзя, адказны сакратар наваполацкай газеты, дзе была надрукавана мая першая вершаваная падборка. — Усе сапраўдныя паэты ехалі ў геалагічныя экспедыцыі, на ўдарныя будоўлі, жылі сярод простых мужыкоў. — Ты хлопец таленавіты, але вельмі ўжо хатні. Не бойся рабіць выбар!

Сам Валодзя нагадваў такога вось упэўненага моцнага мужыка. Ён насіў чорны швэдар «пад Хэмінгуэя», курыў добрыя цыгарэты, я чытаў яго бойкія матэрыялы ў газеце, гумарэскі і апавяданні, якія мне падабаліся.

Калі верыць Валодзю, таму што ён пра сябе казаў, яго паспелі ўжо за гэты час выгнаць з інстытута кінематаграфіі ў Маскве за бойку ў студэнцкім

інтэрнаце і з першага курса факультэта журналістыкі нашага беларускага ўніверсітэта, ён папрацаваў аператарам на нафтаперапрацоўчым заводзе і ўрэшце прыйшоў у газету.

Мы замочвалі мой першы ганарар. Газета не без удзелу Валодзі прадставіла мяне на ўсю чацвёртую паласу. Са здымкам, з подпісам пра маладога рабочага полацкага завода шкловалакна, які «ўпэўнена крочыць у паэзію».

Тады гэта для мяне было надзвычай вялікім святам. Напэўна, з месяц яшчэ я раз-пораз дstaваў з шуфляды газету і перачытваў кожнае слова.

Я ўжо даўно, са школьных гадоў, крэмзаў паперу, але куды ні дасылаў вершы, усюль адказвалі прыкладна адно і тое ж: вучыцеся, чытайце класікаў, вашы радкі яшчэ сыраватыя.

А тут — цэлая паласа…

Валодзя пазнаёміў мяне з сапраўдным паэтам Валянцінам, які ўжо выдаў свае першыя кніжкі ў сталічным выдавецтве, і цяпер часам мы ўжо ўтрох бавілі час за келіхам таннага віна. І хоць мае настаўнікі былі старэйшыя за мяне больш чым на дзесяць гадоў, у кампанію сваю мяне бралі, чым я ўпотай вельмі ганарыўся.

— Ты не будзь, як яны, — казалі мне сябры. — Ты наш, свойскі, сапраўдны мужык. Будзь такім і далей!

Не ведаю, што яны мелі на ўвазе пад словамі «як яны», але мне было і прыемна з аднаго боку, і крыўдна, бо нічога такога дрэннага ці незвычайнага ні ў сваім бацьку, ні ў ягоных родзічах я не бачыў. Такія, як і ўсе — рабацягі. Яго блізняты-браты працавалі на заводзе ліцейшчыкамі, а сам мой тата, прыйшоўшы з вайны з адной рукой, не мог вярнуцца да даваеннай прафесіі печніка і тунькаўся па ўсялякіх работах, пакуль стала не асеў на «высокай пасадзе» вартаўніка.

У яго было шмат сяброў сярод былых франтавікоў, а калі хто-небудзь мог скоса на яго глянуць, мой гарачы бацька да трох не лічыў. І хоць часам вяртаўся дадому з разбітым носам, часцей былі добра «адзначаны» яго адзінай здаровай рукой тыя, хто ўступаў з ім у бойку…

Але гэтае «як яны» ішло са мной праз усё жыццё і пастаянна трывожыла душу.

Ды пра гэта пакуль памаўчу.

## У Каралішчавічах

Уначы ў лесе, дальбог, страшнавата. Рыпне пад нагой сухадрэвіна, і аж мароз па скуры! А цені такія таямнічыя, што здаецца, быццам за табой нехта цікуе! Толькі каралішчавіцкі сабака, які сустрэўся на сцяжыне, нагадаў, што побач жытло.

Канец лістапада, і я блукаю па лесе вакол Дома творчасці пісьменнікаў, гэтага раю, гэтага Эдэма, куды нават не марыў трапіць, бо ўсе тыя, хто насіў імя «пісьменнік», здаваліся мне небажыхарамі, недасяжнымі і велічнымі.

А тут я ўбачыў зусім побач, толькі рукой дакраніся, самога Брыля, апавяданне якога «Лясная школа» запомнілася яшчэ са школьнай хрэстаматыі…

Ды і іншыя імёны тых, каго бачыў на семінарскіх занятках, прымушалі салодка трапятаць сэрца: Тарас Хадкевіч і Васіль Вітка, Вячаслаў Адамчык і Іван Чыгрынаў…

Класікі разглядалі нашы каструбаватыя радкі, давалі парады, смяяліся і жартавалі, і гэта быў не сон…

Сюды я трапіў як пераможца абласнога конкурсу маладых паэтаў, і было мне дзевятнаццаць гадоў, а за плячамі — дзве першыя публікацыі ў абласной газеце «Віцебскі рабочы» і вялікая падборка — прадстаўленне ў наваполацкім «Хіміку»…

Прысняцца жоўтыя іконы
І твары строгія святых,
І перапэцканыя колы
Сярод вясновае слаты…

Гэтыя радкі чытаў высокі хударлявы юнак з арліным носам і кароткай стрыжкай цёмных валасоў…

Я чырванеў і ўнутрана трымцеў: што мае практыкаванні ў параўнанні з гэтымі сталымі яркімі радкамі амаль майго равесніка!. .

Увогуле, тыя, хто хадзіў разам са мной па гэтых лясных дарожках, сядзеў побач на семінарскіх занятках, мне здаваліся таксама амаль небажыхарамі, прынамсі, падлескам, як потым трапна абазначыць у сваіх радках Алесь Разанаў:

Калі выстойваюць падлескі,
Тады выстойваюць лясы…

І ўсе гаварылі па-беларуску! Не проста чыталі вершы і прозу, а размаўлялі не толькі пра літаратуру, а пра самыя звычайныя паўсядзённыя рэчы.

Сярод маіх равеснікаў у Полацку такіх тады не было. Я любіў беларускую мову, чытаў на ёй, часам, крэмзаў рыфмаваныя радкі ў вучнёўскім сшытку, але, каб проста размаўляць…

Гэта заварожвала, гэта рабіла наша маладое супольніцтва нейкім адметным, нібыта радніла нас. І я неўпрыкмет стаў таксама гаварыць, як мае новыя сябры, ды і гавару з тых часоў па сённяшні дзень.

А тут у размовах я яшчэ даведаўся, што студэнт з Брэста Разанаў трапіў у абласны цэнтр з БДУ менавіта за тое, што напісаў ліст, каб усе прадметы на беларускім філфаку выкладаліся па-беларуску, а ягоны сябра Віктар Ярац трапіў за тое ж з Мінска ў Гомель.

Абодва трымаліся сярод нас крыху насцярожана, і гэта мяне крыху засмучала. Гэта потым яшчэ адзін «семінарыст» Лёня Якубовіч з Салігорска сказаў мне падчас нашых сустрэч ужо ў Мінску, што хлопцы асцерагаліся, асабліва незнаёмых, бо наступствы іх тадышняй ініцыятывы яшчэ адчуваліся.

Пацвярджэннем гэтага стала ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання камсамольскімі граматамі. Адна з «семінарыстак» адмовілася атрымліваць узнагароду, сказаўшы, што яе больш дастойны Алесь Разанаў, а абураны камсамольскі чыноўнік даводзіў, што Разанаў не мае права па статуце атрымліваць грамату, бо з яго яшчэ не знята вымова.

Нечаканы скандал удалося прытушыць, але назаўтра, у дзень заканчэння семінара, усе чакалі, чым гэта абернецца для яго ўдзельнікаў. Але Іван Пятровіч Шамякін, які ад імя Саюза пісьменнікаў падводзіў вынікі, сумеў тактоўна абысці гэты эпізод.

…І ў гэтую перадапошнюю ноч перад развітаннем мне не спалася. Я блукаў па сцяжынках каралішчавіцкага лесу і думаў, што такога шчымлівага і светлага пачуцця шчасця ў мяне ўжо ніколі не будзе, што прыйдзецца вярнуцца да звычайных штодзённых клопатаў і толькі ўспамінаць гэтыя напоўненыя высокім святлом душэўнай радасці два лістападаўскія тыдні, праведзеныя тут.

Зрэшты, так і адбылося.

## Кажан-Гарадок

У вялікім палескім сяле, хутчэй мястэчку, Кажан-Гарадку, ночы для мяне цягнуліся доўга, я часта прачынаўся, услухоўваўся ў празрыстую цішыню, якую парушаў толькі брэх сабак ці завыванне ветру ў коміне. Часам, асабліва калі праз палон аблокаў на небе прарывалася поўня, мне здавалася, што вось-вось пачую цокат капытоў старажытных дрыхкантаў і трубны голас «Раман, у дваццатым калене, выходзь!»

«Дзікае паляванне» Караткевіча я літаральна «праглынуў» за ноч менавіта тут, у Кажан-Гарадку, і дзеянне гэтай захапляльнай аповесці цяпер у мяне заўсёды асацыявалася з палескімі балотамі і ляснымі гушчарамі.

А прывяло мяне на Палессе тое, што адсюль родам была мая жонка. Пазнаёміліся мы ў Полацку, калі яна прыязджала ў госці да сваёй сяброўкі па Артэку, дзе працавала піянерважатай, ды так вось здарылася, што ўжо больш за сорак гадоў мы дзелім з ёй наш агульны лёс.

Не думаў, пэўна, мой бацька з полацкай рабочай беднаты і мая інтэлігентная мама, што іх сватамі стануць простыя палескія сяляне.

Цешча працавала даяркай у калгасе, а цесць пасля таго, як атрымаў траўму на лесасплаве, быў дома, што гаворыцца, на гаспадарцы.

У першы свой прыезд да жончыных бацькоў многае для мяне здавалася нязвыклым. І палеская вясковая ежа, і лодка, якая на ланцугу была прывязана, здаецца, проста каля ганка (хата цесця стаяла на беразе вірлівай рэчкі Цна), і крыху гартанная гучная гаворка з дзіўным мікстам беларускіх, украінскіх і польскіх слоў…

«Ты толькі маёй бабулі не палохайся, — яшчэ ў цягніку перасцерагала мяне мая Марыя, — яна добрая, толькі з выгляду страшнаватая».

Баба Тэкля аказалася высокай хударлявай старой з пасечаным маршчынамі тварам. Яна пераважна маўчала, скоса паглядаючы на ўсіх, часам бязгучна варушачы вуснамі.

Школьнікі Міхась і Васіль вучыліся ў Лунінцы, у школе-інтэрнаце, прыязджаючы дадому толькі на выходныя ці канікулы. Хто б мог падумаць, што адзін з іх стане паважаным і ўплывовым чалавекам на маёй радзіме, а другі — буйным кіраўніком у Санкт-Пецярбургу.

А тады шасцікласнік Васіль павёў мяне на рыбалку і паказаў, як без вудаў, проста рукамі, можна з-пад карчоў выцягваць сонных самоў і ментузоў.

Ён увогуле адразу неяк прывязаўся да мяне, і па сённяшні дзень працягвае быць надзейным сябрам і сапраўды родным чалавекам.

Цесць з цешчай трымалі карову, і амаль усё лета ішла нарыхтоўка сена на зіму.

Пакосы былі досыць далёка, на балотах, якія не паспелі асушыць, і кожную раніцу дзевяцікласнік Міхась выносіў да лодкі матор, цешча збірала нам у дарогу сала, хлеб, малако і цыбулю, цесць выносіў з шахі, так тут называлі хляўчык і пуню, доўгае вялікае весла, косы, і мы адпраўляліся ў дарогу. Напачатку мяне браць не хацелі, маўляў, адпачывай дома, але я настояў, бо было няёмка біць лынды, калі ўсе працуюць.

Лодкі на Палессі доўгія, вялікія. На іх нават кароў палешукі маглі перапраўляць, а сена ўлазіў проста цэлы воз. Калі матор чапляўся за балоцістае дно, у ход ішло доўгае весла. Трэба было «пхацца», адпіхваючыся і ад дна, і ад блізкага нізкага берага. Берагі ў палескіх рэчачках нізкія і балоцістыя, таму вясной вузенькія стужкі вады ператвараюцца ў сапраўднае мора.

Затое на шырокай Прыпяці роўна гудзеў матор, і мы ішлі крэйсерскім ходам да новых каналаў, дзе на балоцістых купінах сярод азёраў былі гэтыя самыя пакосы.

Трэба было памятаць, на якіх з іх была някошаная трава, а на якіх пасохлае за тыдзень сена.

І так цэлы дзень — касьба, падбор пакошаных раней стажкоў і доўгі шлях дадому.

І хоць надта мне працаваць не давалі, ды я і не надта ўмеў касіць і стагаваць, да вечара гудзелі рукі і ногі.

Апошнім акордам была выгрузка прывезенага. Сена віламі згружалі на доўгія жэрдкі і проста з берага неслі да пуні.

Аднойчы ў час аднаго з паходаў па сена Васіль угаварыў бацьку на рыбалку. Сапраўднай рыбалкай тут лічылася тады, калі рыбы дадому прывозілі «повны носок», як гаварыў цесць. Таму ў лодку пагрузілі ўсе хатнія прылады: сеткі, «валачок», «тэлевізар» і яшчэ нешта, у чым я і па сёння не разбіраюся.

Праз вузкія каналы — «бурчакі» — мы перабіраліся з аднаго возера на другое. Хлопцы ля берага залазілі па пояс у ваду, вадзілі «валачок», цесць размотваў і кідаў сеткі… Працэс нават захапіў і мяне. На дно лодкі ляцелі плоткі і шчупакі, карасі і ляшчы… Насок сапраўды стаў поўны, і мы паплылі дамоў…

У шматлікай палескай радні я разабраўся не адразу. Памагаў Васіль, які вадзіў мяне па дзядзьках і цётках. Ва ўсіх у вёсцы былі свае мянушкі, і я да гэтага часу акрамя жончынага прозвішча Гаяйновіч іншыя магу і паблытаць. Родную сястру цешчы звалі цётка Ева. Яе муж «Рыжы Валодзя» служыў бакеншчыкам на Прыпяці. Кім дакладна прыходзіліся суседзі Пуяны я не ведаю, але Пуяніха сакатала ў нашай хаце кожны дзень. Па той бок дарогі жыла Дземіха, на краі вёскі — Іван Цурбан.

А ў кожнага яшчэ — дзеці і ўнукі. А калі ўлічыць, што некаторыя родныя ў цяжкія пасляваенныя гады з’ехалі ў Крым на заробкі і засталіся там жыць, то сапраўды разабрацца і цалкам палічыць палескую радню было праблематычна.

Ды і, шчыра кажучы, не надта ўсе трымаліся радства. Мае Куцікі (такая вясковая мянушка была ў цесця і цешчы) былі людзі далёка не заможныя, хворыя, і з імі не дужа вадзіліся. Праўда, калі прыехаў гарадскі зяць, журналіст, то гасцей у цешчынай хаце прыбавілася.

Аднойчы Рыжы Валодзя запрасіў на свой бакен. Дзяжурыў ён там з напарнікам ажно двое сутак.

— От, нечага там табе рабіць, — бурчэла цешча, — будуць абы-што гаварыць ды самагонку жлукціць.

Але мне дужа карцела пабываць на бакене, паесці свежай юшкі ля вогнішча, паглядзець на Прыпяць.

Цешча мне сабрала заплечнік, і ў шэсць раніцы я ўжо чакаў дзядзькаву лодку.

Бакен, на якім працаваў Рыжы Валодзя, быў досыць далёка. Ну, папершае, да самой Прыпяці па Цне было некалькі кіламетраў, а далей па шырокай прыпяцкай плыні мы дабіраліся яшчэ недзе з гадзіну.

Лодка рассякала ваду, роўна гудзеў матор, а я ўзіраўся ў палескі краявід, такі непадобны на мой полацкі.

Прыпяць уразіла мяне сваёй шырынёй, паўнаводнасцю. Насустрач нам плылі баржы, імчалі лодкі, невялікія кацеры.

У Полацку ж Дзвіна абмялела настолькі, што акрамя прагулачных лодак ужо на вадзе іншых плаўсродкаў не сустрэнеш.

Напарнік майго дзядзькі ўжо чакаў. Ён прыплыў з другой вёскі на Прыпяці, дзе і жыў. Гэта Рыжы Валодзя абраў сабе бакен далей ад дому і з задавальненнем з'язджаў ад хатняга тлуму і клопатаў.

— Гэта маёй пляменніцы чалавек, — прадставіў мяне напарніку дзядзька, — пісацель, па радыё гаворыць.

— Здароў, пісацель, — азваўся той, — толькі пра нас дужа не пішы, мы людзі простыя, ціхія, палешукі, адным словам.

— Ну давай, чым цябе цешча забяспечыла, — гукнуў Валодзя, — а мы тут юшку хуценька зварганім.

Я дастаў з заплечніка пляшку самагонкі, яйкі і сала.

— Ну дык добра, — здаецца, нават павесялеў дзядзька. — Давай, Іван, раскідвай «целевізар».

Праз нейкія паўгадзіны на стале ляжалі два вялікія таўсценныя шчупакі, гарэла вогнішча.

Невялікай сякеркай Іван насек пачышчаную рыбу, у кацёл пасыпалася бульба, цыбуля і сала.

Як апісаць тую духмяную юшку, тое вогнішча на высокім беразе Прыпяці, тыя галасы птушак у вершалінах дрэў, і тое пачуццё нейкага незвычайнага спрадвечнага спакою!..

— Ну вот ты граматны, скажы, — загаварыў захмялелы дзядзька Валодзя, — чаму вось такую прыгажосць увесь час знішчаць? Міліярацыямі рознымі, фермамі па берагах, адкуль гной цячэ, вось нейкі цэментны ці які яшчэ камбінат у Мікашэвічах збудавалі. Вось мой Пашка туды паехаў, на кватэры ў некага жыве, быццам дома месца мала.

— Едуць нашы з дому, — уключыўся ў размову Іван. — Мая вунь Танька ў Адэсу маханула. Сцюардэсай хоча стаць. А што тая сцюардэса? Перад мужыкамі з голымі лыткамі хадзіць! Цьфу!

— Дык затое свет пабачыць, — нясмела запярэчыў я. — Хіба раней такое ў вас было?

— Што раней? — раптам акрысіўся Валодзя, — раней ніякіх саветаў не было. Восем крам у Кажан-Гарадку стаяла. Купляй, што хочаш! Мы малыя — зранку на Прыпяць, а да дванаццаці — з уловам. А там ужо яўрэі чакаюць, дужа яны рыбу свежую любілі. Дадому з грашамі прыходзілі.

— Харошыя людзі былі, колькі іх у вайну пастралялі…

— Не кажы, — прамовіў задуменна Валодзя. — У нас суседка была. У старэйшы клас хадзіла. Цыляй звалі. Прыгожая. Любіў глядзець на яе, нейкай прынцэсай здавалася. Дык яе, кажуць, перад тым, як у яму скінуць, па чарзе паліцаі… — Голас яго задрыжаў.

Шчыра кажучы, я нават не ведаў, пра тое, хто жыў у Кажан-Гарадку да вайны. Гэта потым Васіль адвёў мяне ў бліжэйшы хваёвы лес насупраць вясковых могілак, дзе на сціплым помніку было напісана, што тут расстраляны і закапаны дзевяцьсот мірных жыхароў.

Гэта цяпер там стаіць прыгожы абеліск, узведзены былымі землякамі з Ізраіля і Амерыкі.

Бяседа працягвалася далей, загаварылі пра падзеі ў свеце.

— Ты скажы, будзе вайна? — пытаўся Рыжы Валодзя. — Якой халеры людзям не жыць? Амперыялісты, камуністы, адна трасца, абы людзей не чапалі.

— Няхай Зося не баіцца. Цяпер немцы не прыйдуць, — раптам засмяяўся Іван. — А то баялася, што ўнукаў пастраляюць.

І я ўзгадаў, як чамусьці ціха плакала на вяселлі мая вясковая цешча і нешта шэптам ёй выгаворвала старэйшая жончына сястра Таня.

Потым мае суразмоўцы паплылі правяраць бакены, я застаўся адзін.

Думкі раіліся ў галаве, і адказу на многія пытанні не было.

Ноччу ў прасторным будане бакеншчыкаў не спалася. Я выйшаў на бераг і доўга глядзеў на цёмную ваду, на яркі агеньчык бакена, на зорнае неба, і мне хацелася дадому, у мой Полацк, у бацькоўскую хату ля Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра…

А раніцой Рыжы Валодзя мне сказаў:

— Нам яшчэ тут суткі дзяжурыць. Мы рыбы налавілі за ноч. Вось поўны рукзак. Я цябе на маторы да дамбы дакіну, а там табе домоў пешшу з кіламетры два будзе. А то рыба пратухне.

Дзень разгараўся. Сонца ўжо моцна прыпякала, калі я вылез з лодкі з вялізным рукзаком за плячамі і рушыў да вёскі.

У траве стракаталіконікі. Я ішоў па вузенькай сцяжынцы, а зверху нада мной кружляла чайка. Яна прычапілася за мной ад самай дамбы. Яна то апускалася, то ўздымалася і пранізліва кугікала.

«Што гэта? Душа забітай дзяўчыны, яшчэ чыя душа?» — раптам падумаў я. Было неяк трывожна і вусцішна.

Ды калі паказаліся блізкія дамы і сцежка была гатовая ўліцца ў вясковую вуліцу, чайка нарэшце адстала.

«А можа, проста рыбу ў заплечніку адчувала», — здагадаўся я, і на душы палягчэла.

Кажан-Гарадок…

А потым здарыўся Чарнобыль, цешчу мы перавезлі на Полаччыну, а цесць застаўся на роднай зямлі на вясковых могілках непадалёк ад сваёй маці Тэклі.

Штогод на Радуніцу мы з Міхасём і Васілём прыязджаем туды, прыбіраем магілы, заходзім у пустую хату на беразе Цны і едзем назад.

А Кажан-Гарадок застаецца, каб пераходзіць у нашы сны і ўспаміны.





Анхела Эспіноса РУІС

# ЗАЛАТАЯ КЛЕТКА

### 14

Адчуваеш? Зямля прачынаецца сёння не тая.
Адчуваеш? Паветра густое, а глеба чужая.
Прачытай, як знікаюць са сказаў пяшчотныя словы,
Паглядзі, як над лесам лятуць таямнічыя совы...
А ці помніш яшчэ маладосць далікатнага твару?
Калі й вернецца колісь любоў — патрабуе ахвяраў.
Падаецца, святло канчаткова сыходзіць са свету,
Выпівайма, mon âme, ды хоць з Мнемазіны, хоць з Леты!
Ціха! Чуеш? Заўчасная смерць быццам цалкам жывая
Навальнічым настойлівым голасам мне паўтарае:
«Зразумей: гэтым разам святую мяжу перасекла,
І ніхто па цябе, дарагая, не спусціцца ў пекла».
Адчуваеш, як снег будзе брудным наступнай зімою?
Не сыходзь, не ўмірай, не злятай, заставайся са мною!

### МАРСКІЯ ЎСПАМІНЫ

Калі месяц купаецца ў моры,
І вада пранікае ў святло,
Калі хвалі хаваюцца ў цемры,

---

***Руіс Анхела Эспіноса (ісп. Ruiz Ángela Espinosa )*** *нарадзілася 6 лютага 1993 года ў Малазе (Іспанія). Скончыла факультэт славянскай філалогіі Гранадскага ўніверсітэта (2015) і атрымала ступень магістра беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце (Польшча, 2017). Цяпер аспірантка Універсітэта Комплутэнсе ў Мадрыдзе.*

*Аўтар лірычных зборнікаў «Раяль ля мора» (2015), «Pomme de ciel» (2017), перакладчыца двухмоўнага зборніка выбраных вершаў М. Багдановіча на іспанскую мову «Згукі маёй бацькаўшчыны / Ecos de mi tierra» (2017). Калумністка ў часопісе «Маладосць» з 2016 года.*

І спяваюць русалкі без слоў,
Калі вецер нясе твае мроі,
Калі рыбы гавораць са мной,
Калі лета ляціць і знікае,
Калі хмараў сярэбраны рой,
Я ўзгадаю раптоўна, як разам
Мы гулялі: той час залаты.
Як кахаліся месяц і мора!
Як з табою кахаліся мы!

## ПЕСНЯ БАРСЕЛОНЕ І МІМАЛЁТНАСЦІ ЖЫЦЦЯ

***Ахвярам усіх тэрактаў прысвячаецца***

Калі б я памерла ўчора, паплыла б душа па Леце,
І, відаць, ніхто б не помніў, што жыла я на гэтым свеце.
Засталіся б толькі вершы, легкакрылыя, быццам птушкі,
І любоўны ліст, што схаваны мімаходзь пад маёй падушкай.
Наша мора хутка б тапіла мае крозы і мае мроі,
Нават рэха шалёнае песні засталося б навек са мною,
І патухлі б белыя зоркі і памерлі свабодныя думкі,
Успаміны зніклі б гаротна ад маіх былых пацалункаў.
Калі б я памерла ўчора, то памерла б амаль без нічога,
Без багацця ды славы гучнай, без цябе, без веры у Бога...

## СВАБОДА

Замок нечакана адчынены
Паветра зрабілася лёгкім
І крылы першы раз уздымаюцца
За многа год
Рука адпусціла руку
Ці гэта зоркі падаюць
Ці гэта вочы набліжаюцца
І бачна ўжо альбо марское дно
Альбо нябеснае
Рука адпусціла руку
І парвалася вяроўка
Значыць страх страціў уладу
І смерць страціла ўладу
І ўлада страціла ўладу
Я свабодная.

## ДЗЮРА

Не ведаю, чаму,
Але часам выкідваю
Кавалачкі сэрца
Ў чорную дзюру,
Якая ляжыць у мяне
На стале.
У пачатку я туды
Кідала толькі сухое лісце,
Пустыя вершы,
Прыдуманыя словы,
А цяпер,
Не ведаю, чаму,
Не магу стрымлівацца,
І выкідваю боль,
Нават якасны боль,
Попел цыгарэт
І гарачага кахання,
Яйкі феніксаў,
Якія не памруць,
І не народзяцца
Ў іншым вымярэнні,
І не заўважаю,
Што знікаю сама
І ператвараюся ў бруд
Далёкай галактыкі,
А сэрца — ў зорны пыл.
На стале дзюра,
І ўва мне дзюра,
Якая мяне з’ядае.

## ЗМЕНЫ

Калі б магла змяніць
Адну частку свайго цела,
Толькі адну,
І нічога больш,
Было б дужа цяжка вызначыцца,
Бо ў маім целе многае
Можна было б,
Варта было б
Змяніць.
Напрыклад, я б хацела
Дадаць сабе на спіне
Крылы добрай феі,
Альбо замяніць ногі

На каляровы хвост русалкі,
Альбо дадаць яшчэ пару рук,
Каб пісаць вершы
І граць на піяніна
Адначасова,
І абдымаць сяброў
Удвая часцей.

## ЗАЛАТАЯ КЛЕТКА

Я хацела б стаць восеньскай кветкай,
Белай і ціхай у навальніцы халоднага агню,
І каб ты вывучыў мяне на памяць,
Каб узгадваў кожную дробязь,
Кожную вяснушку на твары
І кожны шнар на душы,
Нягледзячы на сярэбраную здраду часу.
Восеньскія кветкі, агнявыя ружы,
Мімалётныя і легкакрылыя,
Як феніксы ў залатой клетцы,
Да якой заўжды хочацца вярнуцца,
Хай і перад ёй мяжа сусветаў,
Хай і перад ёй рэха музычнага надзор'я,
І шматгалосся, якое кліча іх з усіх бакоў.
Калі будзе мне боль, хай будзе толькі ад цябе.
Калі будзе сум, хай будзе на тваім плячы.
Калі будзе маўчанне, хай будзе ў тваіх вачах.
Калі будзе экстаз, хай будзе ад тваіх гарачых вуснаў.
Калі будзе турма, хай будзе ўнутры твайго сэрца.
А калі будзе каханне... Калі будзе,
Не адпускай мяне ніколі больш.



Тадэвуш ДАЛЕНГА-МАСТОВІЧ

# ПРАКУРОРКА

*Раман*

## Раздзел 1

Ён выскачыў з трамвая і адразу падняў каўнер паліто. Накрапваў дождж, змяшаны са снегам, вецер з Віслы працінаў да касцей.

Ён зусім не ведаў гэтага раёна горада. Больш як дзесяць гадоў таму жыў у Варшаве, але Жалібора тады яшчэ не было. На гэтым месцы распасціраліся пакатыя ўзгоркі, тэрыторыя Цытадэлі.

Такой ранняй парой на вуліцы не было ні душы. Ён падышоў да ліхтара і каторы раз зірнуў на цыдулку: Дэмбова, 26.

Страціў добрыя пяць хвілін, выпытваючы ў выпадковага пужлівага мінака пра кірунак, у якім трэба ісці, каб адшукаць вуліцу Дэмбову. Мінак непакоіўся, і не дзіўна. Незнаёмец і сам ведаў, што сваім выглядам не мог выклікаць у яго давер: на шырокіх плячах зношанае і бруднае адзенне, да таго ж тыдзень няголены твар.

З адрывістых звестак мінака вынікала, што трэба павярнуць направа, потым будзе дарога, а за ёй чырвоная камяніца, затым налева і трэцяя або другая вулачка зноў направа. Незнаёмец кінуў мінаку «дзякуй», схаваў здранцвелыя рукі глыбока ў рукавы і хутка пакрочыў.

Ён ведаў, што не заблукае. У яго быў прыроджаны інстынкт арыентацыі на незнаёмай мясцовасці, проста нейкае адчуванне прасторы, якое ніколі яго не падводзіла, ні ў сотнях незнаёмых гарадоў, ні на пакручастых горных схілах, ні ў лабірынтах акеанічных партоў...

Калі звярнуў направа, вецер зноў ударыў яму ў вочы душам вострых, як іголкі, кропель і сакануў пад плашч. Калі сцішыў хаду, на шалёнай хуткасці яго абагнаў велізарны аўтамабіль. Да вушэй даляцеў прыглушаны крык, затым ужо добра выразны звон разбітай шыбы — і аўтамабіль знік за паваротам.

Чалавек азірнуўся: на вуліцы нікога не было. Па абодвух яе баках рэдка стаялі маленькія дамкі з цёмнымі вокнамі.

— Ого, — прамармытаў ён сам сабе, — брудная работа.

На павароце ў святле ліхтара ўбачыў некалькі кавалкаў тоўстага шкла. Махнуў рукой і рушыў далей. Праз некалькі хвілін знайшоў вуліцу Дэмбову, яшчэ менш забудаваную, чым іншыя, і затрымаўся перад вялікай белай вілай.

Высокі жалезны плот, а за ім невялікі садок. Ён націснуў на клямку брамкі. Яна была замкнутая. Ён зазваніў і стаў чакаць. Як звычайна, уважліва азірнуўся. Далей, метраў за дзесяць, а то і больш, у плоце была заязная брама, а за ёй стаяла некалькі гаспадарчых пабудоў. Яны выглядалі мізэрнымі на фоне шыкоўнай трохпавярховай вілы. У вокнах было цёмна. Іх, відаць, шчыльна захінулі або ўсе яшчэ спалі.

Ён зноў націснуў на гузік званка і толькі тады заўважыў шыльдачку ля брамкі:

«Доктар Караль Бруніцкі

праф. Варшаўскага ўніверсітэта».

Між тым, нейкія бакавыя дзверы вілы з шумам адчыніліся і праз хвіліну за брамкай паказалася прысадзістая, амаль квадратная постаць з кіем у руцэ.

— Што такое? — пачуўся хрыплы голас.

— Я да пана прафесара, адчыніце, калі ласка.

Прысадзісты чалавек наблізіў да плота барадаты твар, акінуў прыхадня недаверлівым позіркам і пацiснуў плячыма:

— Тут пан нікога не прымае, толькі ў клініцы.

— Я ведаю, але скажыце, калі ласка, пану, што прыйшоў... Факір...

— Хто?

— Факір.

Служка нерашуча павярнуў да дома, але праз пару крокаў затрымаўся:

— Факір?.. Нібыта з цырка?

— Не з цырка, ліха на цябе!.. Скажы «Факір», прафесар ведае.

Чакаць давялося доўга, але барадач вярнуўся, на гэты раз праз галоўны ўваход. Моўчкі выцягнуў з-за пазухі звязку ключоў, адчыніў брамку, пусціў госця і старанна яе замкнуў.

Некалькі прыступак вялі на ганак. Двое тоўстых дзвярэй з мноствам замкоў і засавак вялі ў невялікую вітальню. Сцены, выкладзеныя дубовымі панэлямі, ззялі чысцінёй, як і падлога. Прыемнае цяпло абдало вільготны ад дажджу твар.

— Папрашу выцерці ногі, — прабурчэў служка, прыглядаючыся спадылба да госця. Калі той, як мог, найстаранней ачысціў абутак, барадач адчыніў дзверы ў суседні пакой, прамармытаўшы нешта, што павінна было азначаць запрашэнне, а сам знік.

Гэта быў вельмі вялікі пакой, накшталт хола, застаўлены мяккай мэбляй, на сценах дываны. Далёка ў куце гарэла маленькая лямпачка пад рубінава-чырвоным абажурам. Дзякуючы гэтаму пакой патанаў у паўзмроку, і госцю падалося, што акрамя яго тут ёсць яшчэ нехта, чые вочы пільна за ім назіраюць.

Адчуванне гэтае пастаянна расло і зрабілася такім надакучлівым, што ён не мог яго не праверыць. Госць устаў, зрабіў некалькі хуткіх крокаў па пакоі і апынуўся ў найцямнейшым яго куце.

На рагу шырокай канапы ззялі дзве зялёныя кропкі. Там нерухома ляжаў велізарны чорны кот.

Госць скрывіўся. Ён не выносіў гэтых жывёл. Факір ужо хацеў вярнуцца на сваё месца, як побач у крэсле заўважыў другога ката. Зрок паступова прывык да чырвонага паўзмроку і з велізарным здзіўленнем адкрываў ледзь не на кожным крэсле, на кожнай канапцы, на кожным стосе ўзорыстых падушак катоў. Вялізных, тоўстых, укормленых катоў.

— Чорт! — вылаяўся госць скрозь зубы. — Што за агідны звярынец!

У той жа момант у дзвярах, схаваных за парцьерай, шчоўкнуў замок і на парозе з’явіўся худы нізкі чалавек у чорным. Яго незвычайна дробная і ненатуральна белая рука павольна пацягнулася да выключальніка, і яркае святло заліло пакой.

Два чалавекі моўчкі прыглядаліся адзін да аднаго.

— Як справы, Факір? — урэшце парушыў маўчанне гаспадар, і яго вузкія вусны скрывіліся ў слабай усмешцы. — Рады бачыць цябе зноў.

Госць працягнуў руку і моцна патрос вузкую далонь прафесара:

— Дрэнна, — адказаў госць нізкім голасам, — таму ты маеш прыкрасць мяне бачыць, дарагі Караль.

Ён глядзеў прама ў тоўстыя лінзы прафесара, праз якія на яго пазіралі пранiклівыя чорныя вочы, і дадаў:

— Дазволіш сесці?

— Ну канечне, калі ласка, дарагі Факір, прабач мне няўважлівасць.

Гаспадар падсунуў да госця крэсла — і да яго даляцеў моташлівы смурод хлараформу.

— Я адарваў цябе ад працы, — сядаючы, заўважыў Факір.

— О, зусім не.

— Мне так падалося. Ад цябе патыхае хлараформам. Я з задавальненнем закурыў бы.

— Гэта яшчэ з клінікі, — цвёрда адказаў прафесар. — У клініцы ўсё смярдзіць хлараформам.

Доктар дастаў вялікі залаты партабак і падаў Факіру.

— М-да... — пачаў госць праз хвіліну. — Ты багаты... Вельмі багаты.

— Вельмі, — абыякава паўтарыў прафесар. — А што ж ты хацеў? Я не ўмею марнаваць грошы.

— Вельмі спачуваю, — рассмяяўся госць. — І па-ранейшаму абдзіраеш пацыентаў?

— Не. Я ўжо некалькі гадоў не практыкую.

Велізарны буры кот цяжка саскочыў з канапы і пачаў церціся аб ногі свайго гаспадара.

— Ты палюбіў катоў, — заўважыў мужчына, які называў сябе Факірам. — Яны цікавяць цябе як псіхіятра? Не разумею, як можна трымаць дома столькі гэткай брыдоты.

Прафесар не адказваў і па-ранейшаму не зводзіў вачэй з госця.

— Даўно мы не бачыліся, — урэшце прамовіў ён. — Гадоў дзесяць, мо і болей... Але ты не пастарэў. Вочы гарачь, дыхаеш на поўныя грудзі... Відаць, твой лад жыцця табе на карысць...

— Але саракоўнік адчуваецца. Глянь, у мяне на скронях пасівелі валасы.

Прафесар іранічна ўсміхнуўся.

— Цябе гэта, хіба, не турбуе, жанчынам такое падабаецца... А лёгкая сівізна валасоў дадае, між тым, пэўнай паважнасці, саліднасці, што, думаю, толькі табе на карысць.

Госць акінуў гаспадара панурым позіркам.

— Халодна мне, — сказаў Факір. — Я не адмовіўся б ад кілішка гарэлкі.

— На жаль, у мяне няма... Магу, хіба, прапанаваць спірту...

— Давай.

Праз хвіліну прафесар вярнуўся з вялікай аптэчнай бутляй. Ад яго адзення зноў патыхнула хлараформам.

— Ты галодны? — спытаўся доктар.

— Мне ўсё роўна, — парыраваў Факір. — Зараз я хачу сагрэцца.

Ён наліў сабе поўную чарку і выпіў залпам.

— У цябе шырокая глотка, — заўважыў прафесар.

— Дай мне яшчэ папяросу: ад цябе страшна нясе гэтым хлараформам.

— Табе здаецца, — скрывіўся гаспадар. — Ну, расказвай ужо: даўно ты ў Варшаве?

— Сёння прыехаў.

— Доўга збіраешся тут пасціся?

— Яшчэ не ведаю, пабачым.

— А… А не баішся, што цябе пазнаюць?

Госць пацінуў плячыма.

— Сумняваюся... Столькі гадоў, — зацягнуўся ён. — Ты нічога пра яе не чуў?..

— Не. Відаць, яна ўжо дарослая, выйшла замуж.

— Д’ябал!..

— А ты сабе паламаў жыццё. Калі ты ўцёк за мяжу, я думаў, аднак, што нейк станеш на ногі. Але хто раз трапіць на крывую сцежку...

— Давай забудзем пра гэта, — перарваў доктара Факір, наліў сабе новую чарку і ўмомант яе асушыў.

— Адкуль ты прыехаў? — запытаўся прафесар.

— З усяго свету.

— Табе, відаць, ва ўсім свеце зрабілася зацесна, калі ты рызыкнуў вярнуцца.

У голасе прафесара прагучала зласлівая нотка.

— Слухай, Караль, — буркнуў госць, — не па тое я да цябе прыйшоў, каб ты з мяне кпіў. Ведаеш... мне губляць амаль няма чаго!..

Позірк прафесара праслізнуў па высокім ілбе, сціснутых сківіцах, шырокіх плячах і спартыўнай фігуры госця.

— Супакойся, — ціха загаварыў гаспадар. — Ты ведаеш, што я цябе не баюся, як і тое, што... А да тваёй маральнасці і праблем з законам мне справы няма. Я над гэтым... не таму, што па старой дружбе адчуваю нейкія абавязацельствы ў дачыненні да цябе, а проста... па разліку.

— Я цябе не разумею.

— Не важна. Мне ўсё роўна, зразумееў ты ці не. Карацей, чаго ты хочаш ад мяне? Грошай?

— Так. Аддам, калі змагу. Але гэта не ўсё.

— О!? — здзівіўся прафесар.

— Не хвалюйся. Дробязь. Я пару месяцаў таму трапіў у авантуру і глядзі...

Факір расшпіліў камізэльку і кашулю, шырока раскрываючы грудзі з малым ружовым шрамам над ключыцай.

— Глядзі, — працягваў госць, — трапіла сюды, а цяпер апусцілася, аж сюды, пад паху і пачала мне перашкаджаць.

Тонкія, дагледжаныя пальцы прафесара намацалі невялікі цвёрды прадмет пад самай скурай.

— Рэвальверная?

— Так, — пацвердзіў Факір. — Я і сам бы паспрабаваў разрэзаць скуру, але адной рукой не дам рады. Не хачу ісці ні ў які шпіталь, ні ў хуткую... Будзь ласкавы...

— Ну добра, — працадзіў, марудзячы, прафесар. — Праўда, у мяне няма вопыту... Хм... Мой памочнік зробіць гэта лепей. Пачакай.

Доктар знік за дзвярыма.

Факір устаў і, ледзь не наступіўшы на ката, падышоў да люстэрка, каб упэўніцца, што выглядае дрэнна. Няголены твар і запалыя вочы, цеснае і зацыраванае адзенне...

— Спачатку адпачыць, тры, чатыры дні адпачыць у такой цішыні, як тут, на гэтай Дэмбовай.

— Ты ўжо перад люстэркам? — пачуў Факір за сабой голас прафесара.

Ён абярнуўся.

— Я страшэнна стаміўся. Я не зайздрошчу табе, што ты маеш такі дом, зайздрошчу цішы, якая тут пануе.

— Так, гэта самы ціхі раён Варшавы, тут жывуць людзі працы і навукі.

— Гэта здаецца, — усміхнуўся госць, — але ўяві сабе, што на самым уездзе я расчараваўся. Каля мяне прамчала аўто, у якім некага гвалцілі або забівалі...

— Як? Што ты кажаш? — сарваўся з месца прафесар. — Гэта немагчыма!

— Я табе кажу. Нехта драпаў з машыны, што нават выбіў шыбу. Я чуў на ўласныя вушы і нават бачыў кавалкі шкла на дарозе.

— А ці не заўважыў ты раптам, як выглядала гэтая машына?

— Вялікі чорны лімузін. Можа, «дэляж»[1], можа, «бэнц», чорт яго ведае.

---

[1] **Дэляж (Delage)** — французская аўтамабілебудаўнічая кампанія, якая выпускала прадстаўніцкія і гоначныя аўтамабілі ў першай палове XX стагоддзя. Спыніла існаванне ў 1953 годзе.

— Дзіўна, — прамовіў пасля паўзы прафесар.

— Чаму цябе гэта так хвалюе? — паціснуў плячыма госць.

— Ну, такое здараецца не кожны дзень, асабліва на Жаліборы... Прабач, я на хвіліну цябе пакіну. Здымі пінжак і кашулю. Я зараз вярнуся з інструментамі.

Прафесар зноў знік за дзвярыма і праз пару хвілін вярнуўся з вялікай нікеляванай скрынкай у руках. За ім увайшоў нізкаросы худы чалавечак у белым медыцынскім халаце, з якім рэзка кантраставала яго незвычайна жоўтая скура.

— Вось пацыент, доктар, — сказаў прафесар, хвілю павагаўся і дадаў: — Мой школьны прыяцель... пан...

— Вінклер, — паспяшаўся падказаць госць.

Доктар, на твары якога намалявалася ветлівая ўсмешка, стараўся не звяртаць увагі на адзенне пацыента. Ён працягнуў руку і загаварыў нечакана высокім і меладычным голасам з моцным іншаземным акцэнтам:

— Вельмі прыемна. Доктар Кунокі.

— Як? — здзівіўся госць. — Доктар Кунокі?.. Можа, спадар сваяк славутага японскага біёлага?..

Прафесар Бруніцкі з шумам адчыніў нікеляваную скрыню:

— Даражэнькі, ты ж не інтэрв'ю браць сюды прыйшоў. Доктар Кунокі і ёсць гэты біёлаг, пра якога ты казаў. Сядай пад лямпу і падымі руку.

У тоне прафесара гучала яўная незадаволенасць.

Каротка пастрыжаная галава доктара Кунокі, пакрытая рэдкімі блакітна-чорнымі валасамі, нахілілася над пацыентам. Дотык ваты, змочанай у спірце, выклікаў дрыжыкі на скуры. Некалькі бліскаў ланцэта, некалькі кропель крыві — і на нікеляваную накрыўку са звонам упала маленькая куля.

— Перавязваць трэба? — звярнуўся доктар да прафесара.

— Абыдуся, — махнуў рукой пацыент. — Заклейце, калі ласка, якім-небудзь пластырам. На мне загойваецца як на сабаку.

Аперацыя была скончана.

— Ну што, доктар, — сказаў прафесар Бруніцкі, паказваючы на спіну госця, на якой ігралі моцныя цяглiцы, — выдатны прыклад вытворніка?

Жоўты твар біёлага расплыўся ва ўсмешцы, а яго ацэньваючы позірк праслізнуў па аб'екце назірання, які якраз апрануўся і працягнуў яму руку:

— Вялікі вам дзякуй!

— Калі ласка! Дробязі, — кіўнуў той і, забраўшы скрынку, знік за парцьерай.

— Японец, а так добра гаворыць па-польску, — заўважыў госць пасля таго як той выйшаў.

— Напалову японец, — адказаў прафесар. — Яго маці была полькай.

— Ага... Гэта ён якраз адкрыў гэтыя, ну, як іх там... электра...

— Нервоны. Эпахальнае адкрыццё, — паківаў галавой прафесар. — Дзякуючы яму біялогія зрабіла велізарны крок наперад.

— Слухай, Караль, з якой гэта пары ты займаешся біялогіяй?

Прафесар раптам здрыгануўся. Яго бледныя шчокі сталі амаль празрыстымі, пальцы сутаргава сціснуліся.

— З якой пары?.. — паўтарыў ён хрыплым голасам. — З таго дня, калі, як вар'ят, я пачаў хапацца за апошнюю надзею! Калі з галавой заглыбіўся ў навуку, умольваючы яе пацвердзіць хлусню паміраючых вуснаў, хлусню, верыць у якую значыць для мяне тое, што і жыць!..

— Караль, ты зноў хочаш ад мяне клятвы?!

— О, няхай будзе праклятая, тройчы праклятая!..

Прафесар сарваўся з месца і падняў над галавой сціснутыя кулакі. Буйныя кроплі поту пакрывалі яго лоб.

— Караль, Караль!.. Ты ж ведаеш, я нічога не баюся! Хіба ж маніў бы я са страху?!

Прафесар закрыў далонню вочы і паўшэптам прамовіў:
— Можна маніць і ад... жалю...
Доктар зваліўся на крэсла і знерухомеў.
Усталявалася цішыня, толькі з кута чулася мурканне ката.
Першы загаварыў прафесар.
— Ты сказаў, што я цябе ненавіджу. Гэта праўда. Я цябе ненавіджу мацней, чым ты можаш сабе ўявіць. Але... Ты так глыбока засеў у маю рану, што стаў мне самым блізкім... Яна звязала мяне з табой... Ой, лепей не будзем пра гэта. Твой раптоўны прыезд узрушыў мяне...
Прафесар працёр лінзы і палез у кішэнь:
— Табе патрэбныя грошы. Колькі?
— Пакуль... хопіць тысячы.
— Бяры.
— Дзякуй, Караль. Спадзяюся, хутка аддам.
— Не мае значэння. Чым жа ты збіраешся займацца?
— Не ведаю яшчэ. Агледжуся. Пакуль адляжуся некалькі дзён у атэлі.
— А дакументы ў цябе ёсць?
— Ёсць. Я цяпер Ян Вінклер... Позна ўжо.
— Першая, — пацвердзіў прафесар, зірнуўшы на гадзіннік.
Госць устаў.
— Да пабачэння, Караль.
— Пачакай хвіліну. Я не хачу цябе адпускаць так адразу. Не прапаную табе пажыць у мяне. Па многіх прычынах гэта немагчыма...
— Аднак, Караль, я і не збіраўся...
— Не, — перарваў прафесар, — я ведаю. Але гэта не значыць, што ты не збіраўся мяне наведаць... Я страшэнна самотны, жахліва самотны... Ты не спытаў, ні слоўкам не ўспомніў пра яго, а між тым, цябе таксама можа зачапіць яго лёс.
Факір зморшчыў лоб:
— Ты пра свайго сына?
— Я пра сына Ванды.
Запанавала цішыня. Прафесар Бруніцкі ўперыўся позіркам у твар госця і загаварыў нейкім невыразным манатонным голасам:
— Падрастае... Ужо вялікі... Плечы ўжо амаль такія ж шырокія, як... у цябе... У яго такія светлыя, льняныя валасы і пачуццёвыя вусны... І шырокія ноздры, і вочы, велізарныя блакітныя вочы з фантастычнымі цёмна-залатымі зрэнкамі... Ніводзін акуліст такіх не бачыў... А я ўсё ж ведаю аж дзве пары такіх фенаменальных вачэй... Не, не дзве... Гэта тая самая пара...
Прафесар нахіліўся да госця і праз сціснутыя зубы працадзіў:
— Менавіта так блішчаць цёмным золатам!..
— Замаўчы! — ціха адклікнуўся госць, адварочваючы галаву. — Ты здзекуешся з сябе і з мяне.
— Няпраўда! Няпраўда! — праз хвіліну ўсклікнуў раздражнёны Факір і ўдарыў кулаком аб стол. — Клянуся табе, што няпраўда!
— Супакойся, — паківаў галавой прафесар. — Паслухай, я бачуся з ім штогод. Кожны год я праходжу па гэтым... цярністым шляху і кожны год вяртаюся без... Ах, мой дарагі, гэта нейкая д'ябальская карусель успамінаў. Няйначай як д'ябальская! О, гэта ўжо не маленькі Бог, з якім я гуляў у індзейцаў, гэта ўжо нават не сябар Факір, гэта правадыр класа, які абараняў мяне сваімі кулакамі. Не. Гэта ўжо амаль Багдан Друцкі, выдатны Багдан Друцкі, які...
Прафесар праглынуў сліну і ўстаў. Ішоў хістаючыся, як лунатык, і, стаўшы пасярэдзіне пакоя, шэптам дадаў:
— Ну, а праз колькі год, праз дзясятак і больш год... Ян Вінклер. Не, нічога не гавары, ты павінен зразумець, што я толькі чалавек, якому прырода дала гэтыя пяць ці болей пачуццяў і абмежаваны памерамі чэрапа мозг, якому загадала хутчэй

верыць ім, чым бязглуздым фантазіям, чым клятвам сябра, чым самарыцянскаму падману паміраючых вуснаў, вуснаў, даражэйшых за жыццё, за свет, за сусвет!..

— Караль!

— Пачакай. Не думай, што я вар'ят. Праз хвіліну я зноў буду сабой. Вось толькі што: гады, доўгія гады я душуся сваёй трагедыяй. Ты апошні, з кім я магу пра гэта гаварыць, але, на жаль, ты адзіны. Не хвалюйся, хутка я буду сабой, якога ты ведаеш з дзяцінства. Халодным, карыслівым, непахісным, замкнутым чалавекам — ха, ха, ха... без сэрца!.. Такім, які не міргнуўшы змог бы забіць цябе, калі б здолеў адначасова забіць і яго... сына Ванды... Так, Багдане, так...

— Караль! — загучаў пасля паўзы ціхі голас госця. — Дарагі дружа, ты нават уявіць не можаш, якая пакута не мець права на хаця б слова спачування...

— Не будзем пра гэта, — суха перарваў Бруніцкі. — Досыць. Ты стаміўся. Ідзі. Заўтра табе трэба на перавязку. І не забывайся пра мяне... Тым больш, што ты будзеш мне патрэбны.

— Я? — здзівіўся Друцкі.

— Так, — павагаўшыся хвіліну, адказаў прафесар. — Ты моцны, смелы і, як сам сказаў, табе амаль няма чаго губляць.

— Не разумею?!

— Ідзі ўжо, нічога тэрміновага. А што да грошай, то не саромейся. Колькі табе спатрэбіцца. Ну, да сустрэчы!

Яны падалі адзін аднаму руку і госць памкнуўся да дзвярэй, але зрабіў няпэўны крок і натрапіў на ката, які разлёгся на дыване. Адказам на гэта было пранізлівае «мяў», і раптам з усіх кутоў павысоўваліся ўстрывожаныя крыкам аднаго іншыя каты, тоўстыя, велізарныя, гладкія.

— Халера! — вылаяўся вінаваты. — Навошта, чорт цябе бяры, ты трымаеш столькі катоў! На іх жа грошай не напасешся! Чым ты іх корміш?

— Мясам, — скрывіўся гаспадар.

Друцкі здрыгануўся. Ён сам сябе адчуў вялікім кавалкам мяса.

— Да пабачэння!

— Да пабачэння!

У вітальні на крэсле сядзеў скурчаны барадач.

— Антоні, выпусці пана, — звярнуўся да яго прафесар. — Бывай, Факір!..

Праз хвіліну Друцкі ішоў хуткім крокам па пустых вуліцах. Калі ён апынуўся на рагу за дарогай, успомніў чорны лімузін і звон разбітай шыбы.

Ён добра памятаў, што кавалкі шкла ляжалі менавіта пад гэтым ліхтаром. Ён нахіліўся і ўважліва прыгледзеўся: мокры асфальт і ніякага следу шыбы.

— Сур'ёзная работа, — мармытнуў ён сам сабе і шчыльна-шчыльна ўхутаўся.

Сёк дробны дождж уперамешку са снегам, з боку Віслы дзьмуў пранізлівы халодны вецер.

## Раздзел 2

Багдан Друцкі пасяліўся ў атэлі «Адэскі» на вуліцы Длугай. Гэта была маленькая і брудная гасцініца, дзе днём невыносна патыхала згарэлай цыбуляй, а ноччу не было канца крыкам, скандалам і бойкам.

Акрамя гаспадара, старога яўрэя, і яго сына Нухіма, паўдурка, дваццацігадовага падростка са сплюснутым чэрапам, сталым пастаяльцам атэля быў толькі Друцкі, прысутнасць якога пазначана, згодна з паліцэйскімі правіламі, на чорнай дошцы ў бюро, дзе каракулямі было накрэмзана: «Ян Вінклер».

Астатнія кліенты атэля, дзякуючы якім ён і існаваў, набіраліся з тых, хто шукаў даху над галавой на адну ноч альбо проста на пару гадзін, што называлася тут «на спатканне».

Друцкі адпачываў. На працягу трох дзён адзінай яго сувяззю са светам быў Нухім, які прыносіў булкі, вяндліну, імбрык з белай кавай, часам газеты і папяросы. Тэмпература пацыху зніжалася. Жалезны арганізм прыходзіў у норму, шрам хутка загойваўся. Аднак Друцкі не ўставаў з ложка. У яго была ўнікальная здольнасць: ён аднолькава хутка мог прымусіць свой мозг і цягліцы доўга, напружана працаваць і адключацца.

Стары яўрэй з абыякавай асцярогай пазіраў на свайго пастаяльца. Яго знешнасць і дзівацтва ляжання ў ложку былі, праўда, добра аплачаны наяўнымі, аднак штосьці ўсё ж выклікала падазрэнні.

Толькі на чацвёрты дзень уладальнік атэля «Адэскі» змяніў меркаванне. Здарылася гэта таму, што яго сын атрымаў ад пастаяльца заданне аднесці ліст на Наваліп'е Барысу Залкінду.

Што за справу гэты абадранец Вінклер можа мець да самога Барыса Залкінда, да такога багацея?

Як жа здзівіўся бацька, калі Нухім вярнуўся з вусным адказам, што Барыс Залкінд пачаў моцна смяяцца, калі прачытаў ліст, за яго дастаўку даў цэлыя два злоты і сказаў, што сам прыйдзе да пана Вінклера ў восем вечара.

Стары вырашыў, што такую важную навіну ён павінен прынесці пастаяльцу асабіста.

Ён нізка кланяўся, выпытваў, ці не трэба чаго шаноўнаму пану, выказаў сваю радасць з нагоды, што ў яго спыніўся знаёмы пана Залкінда і паспрабаваў даведацца, адкуль пан Вінклер ведае «гэтага амерыканца». Адзіным адказам на ўсе гэтыя высілкі было кароткае: «Не ваша справа» і папярэджанне:

— А калі ў мяне будзе пан Залкінд, то глядзіце, каб ніхто тут пад дзвярыма не падслухоўваў, бо гэта небяспечна. Разумееце? Вельмі небяспечна!

Стары яўрэй настолькі добра ведаў людзей, што не захацеў больш дакладных тлумачэнняў. Зрэшты, падслухоўванне нічога б і не дало, бо ў шостым нумары гаварылі па-англійску.

Залкінд прыйшоў своечасова. Гэты чалавек прыметна кульгаў на левую нагу, якая, да таго ж, сваім скрыгатаннем выдавала пратэз. Яго драпежны твар з вялікім шнарам на ўсю шчаку і свісцячы голас рабілілі хутчэй непрыемнае ўражанне, як і рухавасць малых чорных вачэй. Праклінаючы стромкую лесвіцу, ён падняўся на другі паверх і пастукаў ва ўказаныя дзверы, потым зачыніў іх за сабой і хутка наблізіўся да ложка:

— Вітаю, капітане! Вельмі рады вас бачыць! — засвісцеў ён, працягваючы руку.

Друцкі з усмешкай падаў сваю:

— Што, не спадзяваліся?

— Але што з вамі, капітане? Вы хворы? І ў гэтым паршывым атэлі? Даўно вы ў Польшчы?

— Спакойна, містар Джэк, бо я, папраўдзе, не змагу вам на ўсё адразу адказаць.

— Ах, капітане, ці не бачыце вы, як я радуюся? Гэта выдатны дзень у маім жыцці! Я думаў, што ўжо ніколі вас не ўбачу. Колькі ж гэта прайшло гадоў? Хіба, чатыры?

— Пяць, — удакладніў Друцкі.

— Пяць гадоў! І як там Нью-Ёрк? Спірт па-ранейшаму прыбытковая справа?

— Не ведаю. Ты што, Джэк, думаеш, я пастаянна сядзеў у гэтай глушы? Адразу пасля цябе мяне адтуль чэрці вынеслі.

— Куды?

— Цю-цю!.. Доўга расказваць! Лондан, Марсэль, Канстанцінопаль, Берлін, Парыж і зноў Аўстралія, і Кітай, і Бразілія… Так, Джэк, я не ўмею сядзець на месцы.

— Прыгожа жывеш, цікава, але што ад гэтага маеш?

— Свабоду, Джэк, свабоду.

— Разумею, свабода — вялікая справа. Але самы вольны той, хто мае грошы. Чым больш грошай, тым больш свабоды.

— Але ж у цябе іх хапае! — засмяяўся Друцкі.

— Што значыць хапае? У мяне іх вельмі шмат, але ці ж хапае? Ці можа хапаць грошай? Так, як табе, капітане, ніколі не стане валацужнічаць па свеце, то ты павінен разумець, што мне ніколі не стане грошай. Так можна разважаць пра многія рэчы.

— Гэта праўда.

— Вось бачыш. У мяне толькі ў галаве не ўкладваецца, чаму табе прыемней падарожнічаць без граша ў кішэні, чым з усімі выгодамі ў каюце першага класа?

— Калі я мог сабе дазволіць, то і першым класам ездзіў.

— Што значыць, калі мог дазволіць? Калі б ты захацеў, капітане, то забяспечаны быў бы на ўсё жыццё! Хіба я табе не прапаноўваў хаўрус? Ты меў бы сёння столькі, колькі і я, ды што там, абодва мелі б яшчэ больш, нашмат больш! З тваёй галавой! Эх! Ды з тваёй адвагай!

Друцкі сеў на ложак і пляснуў яго весела па плячы:

— Але ж суровыя былі часы, а, Джэк?

— Суровыя. Што тут гаварыць. Кажуць, што людзі майго паходжання баязлівыя, але гэта няпраўда. Хоць я і яўрэй чыстай вады, а ты сам бачыў. Добрыя былі часы, на кожным кроку падсцерагала смяротная небяспека, але спірт і піва — гэта была справа, вартая такой рызыкі.

— Ну, а як жа там нага?

— Добра. Толькі крыху даймае. Так мяне гэты руды выцяў. Ведаеце што, капітане, я да смерці не забудуся пра тое, што было ў Чыкага. Не таму, што вы мне ўратавалі жыццё.

— Супакойся, — перарваў Друцкі. — Няма чаго ўспамінаць.

— Не таму, што вы пра мяне клапаціліся, не таму, што аддалі мне мае грошы, усё маё багацце… Не… Але я да смерці не забуду таго, што вы не кранулі Любу!.. Так… Я потым ляжаў, як мярцвяк, гаварыць не мог, рухацца не мог, але я бачыў, як яна глядзела на вас! І кім яна была вам? Нікім, ат, прыгожай яўрэечкай… А кім я для вас быў?.. Нейкім знямоглым сабакам, якога вы немаведама для чаго выратавалі! А што вы зрабілі? Вы прыйшлі да мяне і сказалі: «Не хвалюйся за Любу, я яе не крану і нікому не дам пакрыўдзіць…» Вы так сказалі, бо адчувалі…

Ён не скончыў. Высока падняў галаву і закусіў вусны. З чорных як вугаль вачэй павольна паплылі па твары драпежнай птушкі дзве слязы.

— Чорт з ім, дружа! — усклікнуў Друцкі. — Што сказалі б на Брадвеі, калі б убачылі, што Чорны Джэк раскіс, як малпа ад цыбулі! Гэй, дружа!

— Не, капітане, не! Я вам гэтага ніколі не казаў, але зараз мушу. Бо калі я сюды ўвайшоў, калі ўбачыў, што вы ў нястачы і хворы, а па мяне толькі цяпер паслалі… То я хачу, каб вы ведалі, што ў мяне ёсць такі сабачы доўг, каб я для вас зрабіў усё, што ў маіх сілах, хоць бы нават цалкам аддаў маёмасць!..

— Асцярожней, Джэк, — з жартам і павагай засцярог Друцкі. — Асцярожна, бо я магу злавіць на слове!

— Не думайце, капітане, — з годнасцю адказаў Жыд, — што слова купца Залкінда хоць на адзін цэнт менш важкае за слова Чорнага Джэка.

Абодва рассмяяліся. Залкінд пытаўся ў Друцкага пра стан здароўя, хацеў абавязкова прывесці доктара. Урэшце абвясціў, што зараз жа забярэ яго да сябе, бо яму сорамна бачыць капітана ў гэтым заканурку.

Друцкі, аднак, катэгарычна запратэставаў. Канечне, ён пераедзе, абавязкова, але не да Залкінда.

— Ведаеце, я такі закаранелы самотнік. Як толькі мне палепшае і я апрытомнею, я мушу пашукаць якую-небудзь справу. І ведаючы, што вы добразычлівы ў адносінах да мяне…

— Добразычлівы?!.

— Няважна. Досыць будзе ўвогуле чым-небудзь займацца.

Залкінд занепакоена ўсміхнуўся і зрабіў невыразны рух рукой.

— Шаноўны капітан Вінклер, што я тут магу прыдумаць? Мне нават неяк няёмка, але я ў нашай краіне вельмі салідны гандляр. У мяне ёсць вогнетрывалыя касы, я трымаю начных вартаўнікоў…

Друцкі зарагатаў.

— Што ж, халера! Вы мяне падазраяце ў намеры арганізаваць банду? Ха-ха-ха!.. Пане Залкінд… Я таксама хачу быць салідным! Ці вы лічыце, што я не здатны для сур'ёзных спраў?! Што мне хоць час ад часу нельга давяраць?..

Залкінд схапіў яго за запясце:

— Зараз! Я разумею! Хвілінку… Ха, а я вам што, не давяраю? Сабе хутчэй не давяраў бы… Хвілінку, я павінен падумаць.

Госць утаропіўся ў падлогу і зморшчыў лоб.

— Гандаль не для вас, капітане…

— Ага, не для мяне…

— У мяне таксама ёсць фабрыка трыкатажу, але і гэта не для вас. Хм… я гандлюю лесам… О, на гэта ідзе шмат энергіі: падарожжы, выезды, патрэбны спрыт і прэзентабельнасць… У Белавежы ў мяне нават ёсць адна цяжкая справа з такімі Фаерсонамі. Намухлявалі яны мне з кантрактам. Справа не судовая, самому папацець прыйдзецца. Вы б ім далі рады. Справа на мільён. Што вы на гэта скажаце?

Друцкі падумаў і пакруціў галавой.

— Чаму не?

— Я хачу трохі адседзецца. Пазней — калі ласка…

— Капітане, — стаў падводзіць вынікі Залкінд, — што я вам скажу: вы толькі не хвалюйцеся. Я пэўна што-небудзь для вас знайду. Для вас з-пад зямлі выкапаю! Вы толькі пераедзьце з гэтага атэля і дбайце пра здароўе. Здароўе — гэта аснова.

Хаўруснікі дамовіліся, што заўтра Друцкі прыйдзе да Залкінда на абед. Паабедаюць удвух, бо Люба з дзіцем сядзіць у Рабцы, і ў іх будзе магчымасць свабодна пагутарыць.

На тым і разышліся.

Назаўтра Друцкі прачнуўся рана ў гуморы і выспаны. Выйшаў у горад у выдатным настроі і пачаў вандроўку па крамах: адзенне, абутак, паліто, капялюш, бялізна, гадзіннік, пальчаткі, іншыя дробязі, потым мыццё ў лазні на Кракаўскім[1] і тамсама цырульнік.

Вясёлы настрой не пакідаў яго ні на хвіліну. Яго вельмі забаўляла сенсацыйнае ўражанне, якое ўсюды выклікала яго знешнасць у элітных крамах, такая супярэчнасць з вытанчанасцю густаў і празмернай напускной высакароднасцю. Нарэшце, апрануты і пасвяжэлы, Друцкі пакінуў лазню, а на пытанне служкі, што ён збіраецца рабіць з пакінутым гардэробам, параіў адаслаць яго ў музей і выйшаў у горад.

Зусім іншым чалавекам ён цяпер сябе адчуваў на тых жа вуліцах! Аж сам здзівіўся гэтаму: бо столькі разоў такім чынам мяняў скуру! У Нью-Ёрку, калі ён вяртаўся з мора, у Сіднеі, пасля залатых вандровак, пасля выхаду з турмы ў Лісабоне, пасля авантуры ў Стакгольме — і неяк нідзе ў крамах не дзівіліся абадранцу, які купляе дарагія рэчы, нідзе на вуліцы не азіраліся на абадранца так, як тут, у Варшаве.

Зрэшты, Друцкі, магчыма, і сам іншымі вачыма глядзеў на гэты натоўп, раўнапраўным членам якога ён цяпер сябе адчуваў… А, ну і жанчыны. Яшчэ дзве

---

[1] **Кракаўскае прадмесце** — прагулачны праспект Варшавы. Звязвае размешчаны на беразе Віслы гістарычны Стары горад з сучасным цэнтрам сталіцы Польшчы.

гадзіны таму яны зусім яго не заўважалі, ба, ды ён і сам не звяртаў на іх увагі, а зараз…

Ён ішоў нетаропкім крокам, як на парадзе, і адчуваў, што прыцягвае да сябе позіркі гэтых прывабных, знаёмых істот, па-ранейшаму цікавых і жаданых.

— Ліха! Я ўсё яшчэ малады, — падумаў Друцкі з задавальненнем, прыкрытым смугой лагоднай згадкі.

Сапраўды, ён быў малады. Калі Друцкі сеў за столік у рэстаране і ўбачыў свой адбітак у люстэрку, ён аж здзівіўся сваёй маладосці. Дзякуючы пякельным мукам у апошнія два месяцы ён пахудзеў, а яго смуглая скура набыла бронзавае адценне ад салёнага ветру. Калі б не сівыя скроні, не даў бы гэтаму поўнаму жыцця чалавеку ў люстэрку больш за трыццатнік.

Друцкі з апетытам абедаў, разважаючы пра сваю сітуацыю. Праз столькі гадоў яго маглі б пазнаць, калі б не тое, што цяпер ён не носіць вусоў, ну і што ўвогуле ён моцна змяніўся. У рэшце рэшт, дакументы, якія пацвярджаюць амерыканскае грамадзянства, гарантуюць бяспеку.

Друцкі рассмяяўся сам сабе.

«Можна было б падумаць, што я трасуся за сваю шкуру. Аднак ці ж не я заўсёды знаходзіў прыгоды на сваю галаву?»

Ён заплаціў па рахунку, весела паразмаўляў з афіцыянтам і выйшаў.

Варшава вельмі змянілася.

Ён пазнаваў вуліцы, праўда, беспамылкова, але памятаў іх зусім іншымі. У тыя даўнія часы гэта была ледзь не правінцыйная глуш…

Пачаў падаць снег.

Друцкі зайшоў у кавярню, замовіў чорнай кавы і пачаў прыглядацца да наведвальнікаў. Найбольш было жанчын. Па дзве, па тры за столікам, ад сур’ёзных падлеткаў да хіхікаючых старэйшых дам, вельмі моцна нафарбаваных.

«Цікава, — падумаў Друцкі, — усе, можна сказаць, прыгожыя і ўсе з выгляду маладыя. Дзе падзеліся старыя і непрыгожыя жанчыны?.. Але і яркіх няма…»

З правага боку, пад калонай, сядзелі дзве брунеткі. Меншая, у шэрым футры, прагна паглынала піражныя і атакавала Друцкага палымянымі позіркамі. З левага, пад акном, адзінокая стройная бландзінка бавіла час у чаканні кагосьці, хто відавочна спазняўся, паглядваннем то на гадзіннік, то на Друцкага. Прама перад ім большы столік займала кампанія з двух мужчын і адной жанчыны ў чорным бліскучым футры.

Адзін, лысаваты бландзін у вялікіх рагавых акулярах, манатонна расказваў нешта, другі мужчына быў старэйшы, каржакаваты, з невыноснай манерай адчыняць і зачыняць жоўтую драўляную папяросніцу. Твару жанчыны Друцкі не мог бачыць, бо яна сядзела да яго спінай. Віднеліся толькі прамень светлых, залатых валасоў, што выглядваў збоку з-пад капелюша, і доўгая прыгожая рука, якой жанчына абапіралася аб стол, без пярсцёнкаў, што Друцкаму вельмі падабалася. Як на злосць, яна ні разу не азірнулася, а між тым, набліжалася восьмая гадзіна і трэба было ехаць да Залкінда.

«Пачакаю яшчэ», — усміхнуўся сам сабе Друцкі, канстатуючы ў думках, што трэба быць сапраўды непапраўным бабнікам, каб дзеля такой дробязі спазніцца на важную размову.

Урэшце ён вырашыў ужыць надзейны сродак. Друцкі ўзяў у рукі часопіс, які ляжаў паводдаль, і, нібыта захоплены чытаннем, ссунуў вялікую шкляную попельніцу.

Гучны звон разбітага шкла, нехта крыкнуў «ах!», усе павярнуліся да століка Друцкага і — эфект дасягнуты: суседка ў чорным бліскучым футры азірнулася.

Друцкі здрыгануўся і адчуў, што бляднее. Інстынкт, выпрацаваны ў тысячах небяспек, і спраўны, як аўтамат, падказваў яму неадкладна закрыцца газетай, аднак на гэты раз загад не быў выкананы. Друцкі не мог адарваць ад жанчыны вачэй. Дзе? Калі?.. Пакляўся б, што некалі яе ведаў, што гэтыя ззяючыя чорныя

вочы з цудоўнай дугой чорных броваў, што зрасліся, і гэтыя залацістыя валасы, і гэтыя проста незвычайнай формы вусны… Хто?.. Калі?.. Напэўна, напэўна… Друцкі шукаў адказ у яе позірку: ведае яго?.. Пазнае?.. Але яна ўжо адвярнулася і зноў уважліва слухала манатонны голас лысаватага бландзіна. Каржакаваты старэйшы пан зноў мерна пастукваў драўлянай папяросніцай.

Друцкі не быў упэўнены. Бо дзіўнае хараство гэтай жанчыны павінна было б глыбейшым, несумненным успамінам урэзацца ў яго памяць. Ён рабіў выгляд, што чытае, аднак мозг працаваў няспынна:

«Можа, хтосьці падобны… Але хто? Хіба якая-небудзь знакамітая кінаактрыса такога ж тыпу?.. Якая-небудзь спартыўная зорка?.. Лётчыца… тэнісістка?..»

У рэшце рэшт, калі б яго здагадкі пацвердзіліся, яна б абавязкова пазнала яго. Цяжка сабе ўявіць, што, спаткаўшы калі-небудзь у жыцці такую дзяўчыну, ён мог бы абыякава прайсці міма яе. Неверагодна! А жанчыны звычайна памятаюць тых мужчын, якія, хоць бы і не спадзеючыся на ўзаемнасць, дабіваліся іх увагі…

А яна зусім не глядзела на яго, як на знаёмага чалавека. У яе позірку было крыху абыякавасці і крыху цікавасці, але цікавасці не большай, чым тая, з якой усе жанчыны глядзяць на яго.

У любым выпадку розум падказваў быць асцярожным. Трэба было ўжо заплаціць і выходзіць. Аднак Багдан Друцкі не належаў да ліку тых, каму хто-небудзь, нават уласны розум, мог штосьці дыктаваць. Таму ён застаўся.

Толькі праз пятнаццаць хвілін кампанія, што была за суседнім столікам, аплаціла рахунак і паднялася.

Незнаёмка была высокая, ладная жанчына. Калі ён прыглядаўся да яе сілуэта, то пераканаўся, што спачатку памыляўся. Ён не ведаў гэтай жанчыны. Друцкі не расчараваўся, чакаючы, што падчас надзявання пальчатак яна зноў зірне на яго. Якая ж яна была прыгожая! Прыжмурыўшыся, ён аглядаў яе профіль, горды, халодны і палкі. Жанчына выглядала гадоў на дваццаць пяць, але ёй магло быць і больш. Калі яна праходзіла каля століка Друцкага, то позірк яе слізгануў па яго твары і зноў абудзіў у ім сумненні, хаця ж выраз яе вачэй пераконваў, што яна глядзіць на таго, каго бачыць першы раз у жыцці.

Друцкі позіркам праводзіў яе да дзвярэй, заплаціў за каву і за разбітую попельніцу і выйшаў. На Новым Свеце было вельмі людна, натоўпы перамяшчаліся па тратуарах, а па дарозе сунулася рака машын. Яркія неонавыя рэкламы рэзалі вочы чырвонымі лініямі.

— На Наваліп’е!

Барыс Залкінд сам адчыніў дзверы.

— Прывітанне, капітане, вось зноў я вас бачу пры поўным парадзе. Я, аднак, баяўся, што аказаўся больш цярплівым за качак, якія ў чаканні вас добра-такі падсохлі ў каструлі.

Яны падалі рукі адзін аднаму. Пакаёўка ў белым фартушку, какетліва пакланіўшыся, забрала паліто Друцкага.

— А хіба я так моцна спазніўся? — нібыта спужаўшыся, запытаўся Друцкі. — Насамрэч у мяне была вельмі важная справа.

— Няўжо? — рассмяяўся Залкінд, праводзячы госця ў сталовую. — Ведаючы густ пана капітана, не думаю, што вага яе перавышала шэсцьдзясят пяць кілаграмаў!

Друцкі зрабіў засяроджаную міну і сур’ёзна адказаў:

— Думаю, вы памыліліся самае большае на два-тры кілаграмы.

— Баюся, капітане, што з-за жанчын ты настолькі спознішся ў пекла, што самыя зручныя катлы са смалой будуць ужо занятыя.

— Ну! — паклікаў Залкінд па-польску з выразным літвацкім акцэнтам. — Што ты, Віцця, вылупілася? Зараз жа падавай!

Кульгаючы вакол багата накрытага стала, ён напоўніў чаркі і падсунуў госцю крэсла.

Вячэра была смачная і багатая, шчодра акропленая алкаголем. Размова круцілася выключна вакол амерыканскіх успамінаў. Толькі калі яны ўладкаваліся ў кабінеце ў глыбокія крэслы, Залкінд перайшоў да справы:

— Дык вось, я доўга думаў, што б такое знайсці, што адпавядала б такому чалавеку, як капітан Вінклер. І, здаецца, нешта ёсць якраз для вас.

— Толькі не дырэктар банка!

— І горш, і лепш. Справа вось у чым. Вы яшчэ добра памятаеце Варшаву?

— Думаю, што так.

— Значыць, ведаеце, дзе знаходзіцца вуліца Гартэнзія?

— Ведаю. Гэта маленькая вулачка, што перасякаецца са Шпітальнай, так?

— Так, — пацвердзіў Залкінд. — Дык вось на гэтай Гартэнзіі два браты Цінкельманы і такі Рыбчыньскі стварылі год таму начны клуб. Ну, ведаеш, накшталт амерыканскіх начных клубаў. Бар, танцы, кабарэ. Цудоўная ўстанова, першакласная, убухалі ў яе, відаць, паўмільёна злотых, а можа, і больш.

— І банкрут?

— Банкрут. Такой справай трэба ўмець кіраваць. Яна можа быць залатой жылай. Толькі пільнаваць яе трэба, каб усё было ў парадку, каб персанал не краў, каб кліенты не нахабнічалі. Трэба ведаць, каму даць на вэксаль, каму не, каго прымаць з ахвотай і радасцю, а каго спусціць з лесвіцы як пасмешышча. Трэба ўсю справу трымаць у жалезных лапах, але каб выглядала, што гэта свабода і забава, што кліенты — гэта нібыта прыватныя госці. Памятаеш, капітане, клуб Вясёлага Біла на 74-й вуліцы?

— Памятаю.

— Гэта быў не клуб, а забягалаўка, звычайная нара. А чаму хто толькі мог перся туды з доларамі? Таму што справай займаўся Білі! Жанчыны зляталіся да яго, мужчыны лічылі яго найлепшым сябруком, усе проста абажалі яго. Я не ведаю, што ў ім знаходзілі, але ў вас, капітане, якраз ёсць тое самае, толькі ўдвая больш.

— Харошы хлопец быў гэты Білі, — усміхнуўся Друцкі.

— Капітане! Мне яшчэ не паўвека, але я шмат бачыў і ведаю адно: галоўнае — чалавек! Няважна «як» і «што», але толькі «хто». Дык вось, абодва Цінкельманы і гэты Рыбчыньскі ходзяць за мной ужо два месяцы. Тэлефануюць, пытаюцца, чапляюцца. Проста жыць не даюць. Яны хочуць, каб я выкупіў гэты клуб. Людзей, у якіх больш наяўных, цяпер катастрафічна мала, таму яны прычапіліся да мяне. А я ім усё кажу: нашто мне гэты клопат. Сам я гэтым займацца не буду, а каб нават і чорт заняўся, дык і ён бы рады не даў. Вы занядбалі справу, мухі дохнуць, дык калі хто хоча пазяхаць ад нуды, то няхай пазяхае дома.

— І бясплатна, — дадаў Друцкі.

— Дакладна. Я ім так кажу, але думаю па-іншаму. Чалавек з нервам, і з галавой на плячах, і з тым, што якраз ёсць у Білі, мог бы паставіць справу на ногі. Калі ўкласці яшчэ дзесяць тысяч долараў… Ну, што вы на гэта скажаце?..

— Што скажу?.. Вы, Джэк, хочаце купіць гэтую нару і зрабіць мяне дырэктарам?

— І так, і не. Я хачу купіць, але разам з вамі.

— Жартачкі. У мяне за душой ні граша.

Залкінд пацiснуў плячыма:

— Што вы кажаце, капітане, я ж паўгадзіны вам даношу, што вы сам жывы капітал. Я вам так скажу: я рызыкну купіць у іх гэты труп. Але на ваша імя. Вы будзеце ўладальнікам. Паставіце нару на ногі — добра, не — горш. Але я веру, што вы — паставіце. Зразумелі? Ціхая такая здзелка, папалам?

Друцкі ўстаў і пакруціў галавой:

— Не, Джэк, я не жабрак і падачкі не бяру.

Тут ужо Залкінд не вытрымаў. Сарваўся з месца, пачаў бегаць па пакоі, размахваць рукамі, рваць валасы і клясці на чым свет стаіць.

— Як гэта яго, Чорнага Джэка, вінавацяць у такіх рэчах?! Хай яго халера! Чалавека так трасца можа забраць! Дык лепей узяць нож і ўсадзіць яго адразу ў самае сэрца! Што гэта вы сабе, капітан Вінклер, выдумляеце! Няўжо вы не бачыце тут сур'ёзнай справы для нас абодвух, гэта не прычына, каб такой справы не было!

Успацелы, Залкінд злаваўся і крычаў, што Друцкі пагадзіўся зноў пачаць перамовы.

Залкінд сыпаў аргументамі, спасылаўся на знаёмыя ім абодвум прыклады, прыводзіў лічбы, вылічваў, прасіў, пагражаў, пераконваў, урэшце пачаў абурацца, што капітан так задзірае нос, што мог сабе дазволіць зрабіць ласку і выратаваць жыццё ды маёмасць паршывага Жыда, але не дазваляе яму аддзячыць хаця б аказаннем даверу…

— Хопіць істэрык, Джэк, чорт цябе бяры! — гыркнуў Друцкі. — Па руках!

На драпежным твары Залкінда расплылася ясная ўсмешка. Ён узяў далонь Друцкага, моцна яе патрос і, кульгаючы, падышоў да стала.

Праз хвіліну Залкінд перагортваў старонкі тэлефоннай кніжкі, потым узяў трубку і назваў якісьці нумар.

— Ці ёсць пан Абрам Цінкельман?.. Пана Мечыслава таксама няма?.. Тады мне пана Рыбчыньскага… Гэта пан Рыбчыньскі? Што гэта такое, пане Рыбчыньскі, калі вы заплаціце мне гэтыя сем тысяч?.. Як хто гэта? Залкінд! Я вам судовага выканаўцу прышлю!.. Што?.. У мяне на вас ужо здароўя не хапае… Што?.. Жалезна?.. Ну добра, толькі шкада, што Цінкельмана няма…

Залкінд закрыў рукой трубку, падміргнуў Друцкаму і сказаў па-англійску:

— Думаеш, капітане, яго няма?

Друцкі не мог стрымаць смех. Розніца паміж Залкіндам-гандляром і Залкіндам-гангстарам была неверагодная.

А між тым, знайшоўся Цінкельман, якому Залкінд паведаміў, што зараз у Варшаве праездам знаходзіцца адзін амерыканец, які, верагодна, мог бы зацікавіцца пакупкай «Аргенціны», аднак жа ён, Залкінд, і не думае ўгаворваць амерыканца заняцца гэтай карчмой-банкрутам, але можна паспрабаваць пагутарыць.

Дамовіліся сустрэцца ўжо заўтра ўвечары ў той самай «Аргенціне».

Па парадзе Залкінда Друцкі ў той жа дзень пераехаў у атэль «Брысталь» і ўлёгся спаць ва ўтульны, чысты і шырокі ложак. Ён сам ужо ўсур'ёз не ўспрымаў свае сумненні наконт заключэння гэтай арыгінальнай здзелкі з Залкіндам.

Ён абавязкова справіцца і пакажа Варшаве, як павінен выглядаць начны клуб, асуджаны на поспех! Рэкордны!

Засынаючы, Друцкі ўспамінаў незнаёмку з кавярні. Няўжо і сапраўды ён ніколі яе раней не бачыў?..

«Пародзістая шэльма...»

## Раздзел 3

У акруговым судзе з панядзелка атмасфера была напружаная.

Усё пачалося з таго, што пракурор Мартыновіч стаў у дзвярах канцылярыі і, звяртаючыся да юрыста-стажора Мадроня, сказаў сваім бурклівым і выразным голасам:

— Пан загадвае на дзвярах кабінета пасля падпракурора Карчыньскага прыбіць надпіс «Падпракурор Аліцыя Горн». Зразумела?

— Так, пан пракурор.

Дзверы замкнуліся з лёгкім трэскам. У канцылярыі замоўклі ўсе машынкі, усталявалася поўная цішыня.

— Дык як? — запытала панна Сэркоўска з аддзела пісьмаў.

Стажор Мадронь прыкінуўся дурнем.

— Як зваць гэтага новага? — зашчабятала панна Лятасікуўна з-пад акна.

Мардонь раззлаваўся, бо ўсе ўперыліся ў яго.

— Што вы ўсе на мяне ўтаропіліся, як на ідала?! Я ведаю столькі, колькі і вы. Вы ж чулі: падпракурор Аліцыя Горн.

— Як, падпракурор Аліцыя Горн, — абурыўся стары пан Ролька. — Як быццам жанчына?

— Не, фазан, — скрывілася на яго панна Сэркоўска.

Амаль усе паўставалі з месцаў і абкружылі стол Мадроня.

— Калі Аліцыя, то пэўна жанчына.

— Але даруйце! Хто калі-небудзь бачыў жанчыну-пракурора?

— Як вы кажаце?

— Аліцыя Горн.

— Так, так, — паківаў галавой пан Ролька. — Распуста ды і толькі. Ну і часы, а?

— Цьфу! — шматзначна пацвердзіў лысы як калена пан Гарбарчык. — Нечуваныя!

— Не стойце вы над душой, — слязліва прасіў Мадронь. — Яшчэ стары ўвойдзе.

— Але ж, пане, гэта проста скандал! Баба стане пракурорам?

— Канец свету!

— А што тут дрэннага? — паціснула плячыма пані Венцкова. — Мне цікава, чаму гэта жанчына не можа быць пракурорам?

— Што-о-о? — абурыўся пан Ролька. — Як вам, сівой даме ды маці траіх дзяцей, не сорамна такое гаварыць?

— Сівізна, прабачце, не аргумент. А, між іншым, факт, што жанчыны не саступаюць мужчынам у розуме.

— Не толькі не саступаюць, але і пераўзыходзяць, — закрычала чапурыстая стажорка Цеханавецкая. — Менавіта пераўзыходзяць! А асабліва ў Польшчы. Усе іншаземцы кажуць, што полькі нашмат разумнейшыя за палякаў.

— Ха? — дабрадушна ўсміхнуўся, гладзячы лысіну, Гарбарчык. — Калі б я быў на трыццаць гадоў маладзейшы, то паверце мне, пані, і я пераконваў бы вас…

А ў гэты час з усіх аддзелаў, патрывожаных паннай Сэркоўскай, да канцылярыі пачалі сцякацца шпіёны. Узнік такі базар, што пра заканчэнне дыскусіі наконт жаночага розуму не магло быць і размовы.

Толькі калі стажор Мадронь акуратна вывеў надпіс і, урачыста яго несучы, выйшаў на калідор, за ім рушыла цэлая працэсія.

З той хвіліны апошнія дзверы ў калідоры на першым паверсе сталі мэтай бясконцых пілігрымак, якія прадпрымаліся з самых аддаленых закуткоў будынка, у тым ліку з кабінетаў суддзяў, адвакатаў, прэсы.

Кожны хацеў на свае вочы пераканацца, што на першы погляд недарэчная плётка зусім не плётка, а такая ж недарэчная праўда.

На дзвярах, прымацаваная кнопкамі, вісела кардонка з надпісам «Падпракурор Аліцыя Горн».

Мужчыны паціскалі плячыма, а на пытанне «ці ведаеце вы, хто такая Аліцыя Горн» адказвалі:

— Не маю ўяўлення, але ўпэўнены, што якая-небудзь мегера.

Затое сярод маладых прыжылося меркаванне панны Лятасікуўны:

— Відаць, істэрычка, і да таго ж векавуха.

У гэтых умовах значным адкрыццём, якое ў пэўнай ступені супярэчыла агульнаму меркаванню, была навіна, здабытая ў аддзеле кадраў Міністэрства юстыцыі:

— Аліцыі Горн дваццаць восем гадоў.

У патоку чутак трапляліся самыя разнастайныя. Гаварылі пра каласальныя сувязі Аліцыі Горн у найвышэйшых урадавых колах, пра тое, што сам міністр

закаханы ў яе, што нават у іх ёсць агульнае дзіця, што яна не жанчына, а гермафрадыт і нават кожны дзень голіцца, бо ў яе растуць вусы і барада. Суддзя Пшчулкоўскі чуў ад кагосьці, што гэта псіхічна ненармальная, нешта паміж садысткай і вампіркай, затое адвакат Камёнка лічыў, што ў гэтым прызначэнні ёсць «штосьці».

У чым гэтае «штосьці» павінна было заключацца, сам адвакат не здолеў растлумачыць.

Так працягвалася да чацвярга, да дзевяці ранку, калі ў прыёмнай пракурора Мартыновіча з'явілася высокая, элегантна апранутая жанчына і сказала судоваму служку:

— Далажыце, калі ласка, пра мяне пракурору. Аліцыя Горн.

За пяць хвілін гарачая навіна даляцела да ўсіх кантор будынка:

— Прыйшла! Яна маладая і вельмі прыгожая.

— Можна лопнуць ад смеху! Баба-пракурор!

— Брунетка? Яўна яўрэйка?

— Юзэф кажа, што не падобная да яўрэйкі і што яна бландзінка.

А ў гэты час пракурор Мартыновіч паклікаў у свой кабінет абодвух віцэ-пракурораў і ўсіх падпракурораў.

— Дазвольце, панове, — суха звярнуўся ён, указваючы на маладую жанчыну, якая стаяла каля пракурора, — прадставіць вам новую калегу, падпракурора Аліцыю Горн.

Затым было наццаць пацiскаў доўгай прыгожай рукі пад акампанемент прамармытаных прозвішчаў.

— Спадарыня Горн, — звярнуўся пракурор Мартыновіч, — пryме справы падпракурора Карчыньскага, якога перавялі ў Львоў. Настойліва і рашуча прашу вас спрыяць працы новага члена пракуратуры. Да маіх вушэй дайшло, што факт прызначэння жанчыны выклікаў тут недарэчную сенсацыю і бязглуздую балбатню, чаго я не цярплю і не сцярплю. Я чакаю ад вас, калегі, рашучага супраціўлення гэтым настроям і веру, што дзякуючы такту і пачуццю абавязку, з гэтай хвіліны зноў запануе парадак. Дзякуй усім!

За хвіліну кабінет апусцеў.

— Ці магу я зараз пачаць працаваць? — спытала Аліцыя Горн.

— Безумоўна. Вы знойдзеце ўсё ў поўным парадку. Карчыньскі быў адным з самых акуратных маіх падначаленых. Акрамя таго, стажор, пан Мадронь, падрабязна азнаёміць вас з пачатымі справамі.

Аліцыя Горн устала.

— Такім чынам…

— І яшчэ, — затрымаў яе пракурор Мартыновіч.

— Слухаю, пан пракурор.

— Вось што, пані… Не ведаю, як гэта сказаць… Хм… Вы жанчына і жанчына… прывабная. Я не пацярплю, калі гэта як-небудзь пашкодзіць працы калег супрацьлеглага полу!.. Я лічу, што вы павінны трымаць іх на пэўнай дыстанцыі. Разумееце, пра што я кажу?

— Разумею, пан пракурор, — усміхнулася Аліцыя, паказваючы ў прыадкрытых поўных вуснах два рады асляпляльна белых зубоў.

Мартыновіч паглядзеў на яе з-пад акуляраў і пачаў перагортваць нейкія паперы на стале:

— Хм…Так… Добра. І… гэта… і не трэба ўсміхацца. Такім чынам, пан Мадронь, — ён націснуў на гузік званка, — пазнаёміць вас з тутэйшымі парадкамі.

Зайшоў служка і знік, атрымаўшы загад запрасіць пана Мадроня.

— Пан пракурор, — звярнулася Аліцыя, — я ўпэўнена, што не дам вам нагод для незадаволенасці маёй прысутнасцю тут. Я хачу працаваць і бачу ў прафесіі грамадскага абвінаваўцы высокае прызначэнне, я цалкам усведамляю, што як першая жанчына ў гэтай ролі, тым больш павінна дбаць пра павагу да яе.

— Тым лепей, — падтакнуў Мартыновіч, — што мы вельмі добра зразумелі адно аднаго.

З’явіўся стажор Мадронь, прадставіўся сарамліва і амаль не гледзячы на Аліцыю, бо не адважваўся адарваць вочы ад вуснаў пракурора. Пасля кожнай фразы яго распараджэння ён аўтаматычна паўтараў «так, пан пракурор» і толькі пачуўшы рэзкае «ну?!», зразумеў, у чым справа.

Стажор праводзіў Аліцыю да яе кабінета і, не маючы магчымасці пазбавіцца ад пакутлівага і (ён адчуваў гэта) сарамлівага хвалявання, перарывістым голасам даваў прафесійныя тлумачэнні. Вымаў стосы актаў, указальнікі, ноты, календары і гаварыў бесперапынку.

Толькі калі яна пачала задаваць яму кароткія, слушныя пытанні, у стажора крыху адлегла і ён употай прыгледзеўся да яе нахіленай над паперамі галавы. Аднак калі яна падымала на яго свае палаючыя чорныя вочы, ён адразу ж рэціраваўся.

— Дзякую пану! — сказала падпракурор пасля знаёмства з усім. — Калі я буду вымушана яшчэ пана патурбаваць, я знайду вас у канцылярыі, так?

— Так, калі ласка, пані. Маё шанаванне!

Аліцыя засталася адна.

Гэта быў невялікі пакой з адным акном, якое выходзіла на старую сцяну. Попельная афарбоўка сцен і жоўтая мэбля, якая складалася з шафы, пісьмовага стала, століка для машынкі і некалькіх крэслаў, стваралі ўражанне афіцыйнай сухасці і суровасці.

Падпракурор павольна зняла футра і маленькі чорны капялюш, выняла з сумкі асадку і села за стол.

У яе не было такіх моцных адчуванняў, якіх яна спачатку чакала. Наадварот, цяпер яна была больш упэўненая ў сабе, чым звычайна. Аліцыя ведала, што справіцца не горш за іншых. Да таго ж, яна была падрыхтаваная значна лепш за многіх калег. Ва ўніверсітэце яе лічылі фенаменальна здольнай, права яна ведала выдатна, паглынула сотні прафесійных спраў, а дзякуючы дасканалай памяці займела сабе ў лодзінскім акруговым судзе, дзе праходзіла практыку, мянушку Энцыклапедыя Права.

У значнай ступені гэтаму паспрыяла яе нястомная прага азнаямлення з усімі галінамі ведаў, што маюць хоць якое-небудзь дачыненне да юрыспрудэнцыі. Яшчэ ва ўніверсітэце Аліцыя адначасова вывучала хімію, псіхіятрыю, пазней у Парыжы ўдасканальвала свае веды, урэшце штудзіравала гісторыі вялікіх працэсаў і для развіцця навыку складала абвінаваўчыя акты так, як калі б яна была на месцы тых пракурораў.

З якой жа лёгкасцю яна выяўляла іх памылкі і няўважлівасць, у колькіх справах, дзе абвінавачаныя былі апраўданы, можна было даказаць іх віну!

Аліцыя ганарылася сваёй кемлівасцю, праніклівасцю і ўнутранай сілай, яна ведала, што можа не баяцца канкурэнцыі з боку мужчын. Як жа моцна яна імі пагарджала! Якое ж вялікае права мела іх ненавідзець!

Падпракурор пачала чытаць акты. Яны і праўда былі ў поўным парадку.

Першыя датычыліся нейкага дробнага крадзяжу і махлярства, другія забойства без ніякіх доказаў, трэція падробкі манет наміналам пяць злотых…

Аліцыя зірнула на гадзіннік. Было дзве гадзіны пятнаццаць хвілін. А палове трэцяй у яе была прызначана афіцыйная сустрэча ў старшыні суда.

Падпракурор паскладвала акты, замкнула шафу і пісьмовы стол і выйшла ў калідор.

Кабінет старшыні, як паведаміў ёй спатканы служка, знаходзіўся ў левым крыле будынка.

Ідучы па лесвіцы і па бясконца доўгіх калідорах, Аліцыя пастаянна сустракала службоўцаў, безліч іншых людзей і адразу заўважыла, што ўсе назіраюць за ёй з незвычайнай цікавасцю.

Аднак яна рабіла выгляд, што не заўважае гэтага.

Старшыня адразу ж прыняў яе. Яму было гадоў шэсцьдзясят, у яго быў мілы, прыемны твар.

Ён выйшаў насустрач Аліцыі і працягнуў руку:

— Мне вельмі прыемна з вамі пазнаёміцца! Я Турчыньскі.

— Горн, — адказала яна коратка.

— Прашу вас, пані, сядайце! — падсунуў ён ёй стул. — Я рады, што сфера юстыцыі набыла новага і такога таленавітага супрацоўніка.

— Пан старшыня вельмі ласкавы, — сказала дзеля прыстойнасці Аліцыя.

— Зусім не. Я чуў ад пана міністра столькі хвалы ў ваш адрас, столькі павагі...

Старшыня падаў Аліцыі скрынку з папяросамі.

— Дзякуй, пан старшыня, я не куру.

— Вы не курыце?

У голасе старшыні загучала такое шчырае здзіўленне, што яна запыталася:

— А чаму вам здалося, што я куру?

— Буду шчырым, калі вы дазволіце. Не трэба быць надта назіральным, каб заўважыць, што жанчыны, якія абіраюць для сябе мужчынскую прафесію, у асноўным стараюцца быць да іх падобнымі ў адзенні, ладзе жыцця. І згадзіцеся, што ад жанчыны, якая стала пракурорам, можна як мінімум чакаць, што яна будзе курыць, — скончыў ён жартаўліва.

— Слушна, пан старшыня, але роўна настолькі, наколькі жанчына — як бывае часцей за ўсё — выбірае сабе традыцыйна мужчынскую прафесію менавіта з мэтай быць падобнай да мужчыны.

— Такім чынам, вы?..

— Я ж думаю, што ў падобных адносінах такіх жанчын да гэтага пытання ёсць міжвольнае ўхваленне анахранізму, што толькі мужчына здольны быць самастойнай адзінкай. Яны гэтым самым схіляюць галовы перад перажыткам, з якім, на першы погляд, яны змагаюцца, а, ідучы ўслед за мужчынамі, проста становяцца пасмешышчам.

Старшыня ўважліва паглядзеў на Аліцыю:

— Вы мяне зацікавілі. Прызнацца, я першы раз сустракаюся з падобным пунктам погляду ў дзяўчыны, якая якраз… А вы не хочаце развіць сваё меркаванне?

— Гэта няцяжка, пан старшыня. Я думаю, што пытанне полу не можа адыгрываць ніякай ролі ў якой бы тое ні было прафесіі. Нават калі гаворка ідзе аб фізічнай працы, у народзе мільёны жанчын выдатна да яе прыстасаваныя.

— Без сумнення.

— З іншага боку, мужчыны, занятыя працай, якая традыцыйна лічыцца жаночай, зусім не набываюць жаночых рыс. На Захадзе я бачыла мужчын, якія даілі кароў, шаравалі ганкі, цыравалі панчохі і гэтак далей і ўвогуле не заўважыла, каб яны ўжывалі пудру, насілі спакуслівыя бліскаўкі або хадзілі плаўным крокам.

— Цудоўна! — падняў бровы старшыня Турчыньскі. — Такім чынам, на вашу думку, пол не ўплывае на схільнасці і здольнасці?

Аліцыя Горн усміхнулася:

— Уплывае толькі традыцыя. Я глыбока перакананая, што жанчына вельмі добра можа выконваць любую работу, зусім не губляючы сваёй жаноцкасці. Пра сілу майго пераканання, відаць, найлепей сведчыць факт, што я выбрала прафесію пракурора.

— Дзіўна! І вы не баіцеся, што выкананне вашых прафесійных абавязкаў будзе вымагаць бязлітаснасці, суровасці, часам нават жорсткасці.

— Жорсткасць, пан старшыня, бліжэйшая псіхіцы жанчыны, чым мужчыны.

Старшыня паківаў галавой:

— Так, гэта праўда. Аднак я не разумею, прабачце мне, пані, за адкрытасць, не разумею, чаму вы сталі пракурорам? Сапраўды, вы робіце ўражанне вельмі

жаноцкай, а ў разумнай і мэтанакіраванай жанчыны пры выбары прафесіі заўсёды вырашальнымі становяцца матывы вузка асабістыя…

Аліцыя слаба ўсміхнулася:

— Я жанчына.

Запанавала цішыня.

— Я вельмі прабачаюся, — звярнуўся старшыня, — я не хацеў. Не палічыце мяне недалікатным назолам.

— Барані божа! — жыва запратэставала Аліцыя.

— Мне было б крыўдна, калі б адразу, з першага дня знаёмства ў вас склалася дрэннае меркаванне пра мяне.

— Пан старшыня вельмі ласкавы да мяне, а вось наконт знаёмства, дык я даўно вас ведаю. Не раз і не дзесяць я прысутнічала на працэсах, якія вы ўзначальвалі…

— Сапраўды?.. І якое ў вас ураджанне?

— Уражанне… дабрыні, — адказала падпракурор, павагаўшыся хвіліну.

— О?! Гэта дрэнна, — усміхнуўся старшыня з прытворным хваляваннем. — З пункту погляду пракурора вы павінны былі мяне безапеляцыйна асудзіць, ці не так?

Абое рассмяяліся, а старшыня кінуў вольна:

— У той жа час у кожным чалавеку тоіцца часцінка акцёра, які прагне дыфірамбаў, нават у такім старым, вельмі старым старшыні суда… Ну, я, відаць, вам надакучыў, а ўжо чацвёртая гадзіна, — ён устаў і падаў жанчыне руку. — Вялікі дзякуй, пані! Такія мілыя і цікавыя афіцыйныя візіты ў мяне рэдкасць. У любым выпадку, жадаю вам поспехаў!

— Дзякуй вам, пан старшыня!

— Пракурор Мартыновіч крыху строгі, але я лічу яго чалавекам, вартым павагі. Спадзяюся, што ў вас складуцца добрыя адносіны. Да пабачэння, пані.

— Да пабачэння, пан старшыня.

Калідоры па дарозе назад падаліся Аліцыі значна карацейшымі. Візіт да старшыні Турчыньскага стварыў ёй выдатны настрой.

— Праз некалькі дзён я адчую сябе тут абсалютна свабодна.

Перад дзвярыма свайго кабінета падпракурор спаткала стажора Мадроня. У яго былі для яе нейкія паперы. Не праглядаючы іх, яна схавала дакументы ў стол, надзела капялюш і футра і выйшла.

Нападала шмат снегу, і шырокі двор блішчэў белізною.

Аліцыя была ў выдатным настроі, аднак хапіла першага позірку на вуліцу, каб твар яе пахмурнеў: па тратуары на супрацьлеглым баку прагульваўся доктар Чухноўскі і ўтаропліваў свае блізарукія акуляры ў вароты палаца Пацаў.

Канечне ж, ён яе не заўважыў, і яна вельмі хацела прамінуць яго хоць у якасці кары за тое, што ён прыйшоў сюды праветрыць свой сентыменталізм старой цёткі. Але яна затрымалася, а калі ён падбег і, цалуючы яе руку, нахіліў сваю шырокую галаву лысеючага бландзіна, Аліцыя рассмяялася:

— Ты нагадваеш мне качку, якая гадуе куранят, не, наадварот, курыцу, якая гадуе качанят!

— Ну і як там, Аля, раскажы, усё добра?

— Дрэнна.

— Што ты кажаш?! — спужаўся ён. — Чаму?

— Таму што ты сюды прыйшоў. Дурная ідэя! Я злая на цябе. Прыгожая гісторыя! Паклоннікі тырчаць перад судом, чакаючы, ці не выйдзе пракурорка.

— Аля, ты не маеш рацыі…

— Даражэнькі, — перарвала Аліцыя, — я не пенсіянерка і не прадавачка. Я не выношу гэтага. Добрую ж рэпутацыю створыць пра мяне гэтае тваё стаянне.

— Але ж як твой жаніх я хіба магу…

— Ах, мой Уладэк, сёння інстытут жаніхоўства страціў ужо нават сваю двухзначнасць, па меншай меры, па агульным меркаванні.

— Акрамя таго, ты ж можаш сказаць, што мы сваякі. У крайнім выпадку…

— Па-першае, дзясятая вада на кісялі, а па-другое, ты і праўда мяне так мала ведаеш, што можаш дапусціць хоць на хвіліну, што я буду камусьці даваць справаздачу?

Павярнулі на Кракаўскае Прадмесце.

— Увогуле, дарагі мой, я не цярплю сантыментаў. Ужо сам факт, што ты сабе дазволіў гэты выбрык, сведчыць пра тое, што мы ніяк не падыходзім адно аднаму па характары.

— Аля, ты ж не можаш папракаць мяне за тое, што я хацеў як найхутчэй даведацца, як…

— Менавіта за гэта я цябе і папракаю. Ты не разумееш?!

Аліцыя была ўжо раздражнёная і, заходзячы ў трамвай, наўмысна заняла такое месца, што Чухноўскі не мог размаўляць з ёй пра інтымныя рэчы. Каб не здароўе Юлькі, яна загадала б яму выйсці.

— Як Юлька? — спытаўся, нахіляючыся, Чухноўскі.

— Зранку было 37 і пяць. Яна хацела нават устаць і ісці ў школу.

— Барані божа!

— І таму я не дазволіла. Баюся за яе ныркі. Пасля шкарлятыны ўжо тры гады таму ледзь яны ў яе не захварэлі. А цяпер, калі гэта грып, то ён таксама часта пашкоджвае ныpачныя лаханкі.

— А спала яна добра?

— Дзе там! Ты ж яе ведаеш. Да трэцяй ночы зубрыла фізіку.

— Ты не павінна гэтага дазваляць. Дзяўчаты яе ўзросту хутка захворваюць на хлароз.

— Я ёй казала, але яна прыводзіць свой звычайны аргумент: атэстат. Калі атрымае атэстат, — кажа, — будзе мець час на вылежванне і высыпанне.

Выйшлі яны на Тапалёвай. Чухноўскі спрабаваў вярнуцца да няскончанай размовы, аднак Аліцыя тут жа перарвала.

— Не нудзі. Я ведаю, што ты мог бы яшчэ сказаць і мне гэта зусім не цікава.

Вуліца Тапалёвая выходзіла на аэрадром, які іскрыўся ружовым снегам у заходзячым сонцы.

Узышлі на трэці паверх. Аліцыя адчыніла дзверы.

— Ты не ўяўляеш, як я люблю гэту тваю кватэрку, — звярнуўся Чухноўскі да Аліцыі. — Кожны раз, калі я тут бываю, адчуваю, што карабель у порце.

— Ох, якое яркае параўнанне! Але, калі так хочаш, то ў порце гэтым вельмі мала докаў.

— Бо гэта порт… камерны.

— Аля! Аля! — данёсся з глыбіні кватэры дзявочы голас.

— Зараз, малышка!

— Добры дзень, панна Юлька! — клікнуў Чухноўскі.

— Добры дзень, доктар!

— Я не пайду да яе, пакуль рукі не сагрэюцца, — сказаў доктар.

— Аля! — крычала Юлька. — Ты ўжо ўпекла каго-небудзь у турму?

— Не верашчы, бо забаліць глотка! Зараз Уладэк да цябе прыйдзе. Я павінна зазірнуць на кухню.

У малой куханьцы ўвіхалася старая Юзэфова і мармытала свае вечаровыя пацеры. Аліцыя ні пра што не пыталася ў яе, бо ведала, што Юзэфова ўсё роўна не адкажа, пакуль не скончыць сваю малітву. Аліцыя даўно звыклася з гэтай звычкай старой і сама зазірнула ў каструлі.

Памідоравы суп быў ужо гатовы, а вось штуфат[1] павінен быў яшчэ падтушыцца, прыкладна — з паўгадзінкі. Кампот стыў на акне, а талеркі з рэшткамі

---

[1] **Штуфат** — мясная страва заходнееўрапейскай кухні, для якой буйным кавалкам (цалкам, з падскурным тлушчам) бярэцца край або філе тлустай ялавічыны або цяляціны і шпігуецца на ўсю глыбіню свіным салам ці беконам, уперамежку з часнаком і морквай.

булёну і курынымі касцямі, якія стаялі побач, сведчылі пра тое, што Юлька пабедала.

Аліцыя ўвайшла ў свой пакой, папраўіла перад люстэркам валасы, злёгку прыпудрыла нос і накіравалася да Юлькі.

Чухноўскі сядзеў ля яе на ложку і лічыў пульс.

Юлька выцягнула свабодную руку і — каб не перашкодзіць доктару — паслала Аліцыі паветраны пацалунак.

Дзяўчына выглядала значна лепей, чым раніцай. Вочы яе блішчэлі, а шчокі ружавелі.

«Якая ж яна прыгожая!» — падумала Аліцыя, прыглядаючыся да яе прамяністага напаўдзіцячага-напаўжаночага тварыку.

— Хм... — прамовіў Чухноўскі, — дзяўчына не спіць начамі — і вось вам пагаршэнне.

— Але ж я цудоўна сябе адчуваю! — усклікнула Юлька.

— Ну, яшчэ пабачым, што нам скажа пра гэта тэрмометр. Толькі, панна Юлька, трымайце, калі ласка, добра.

— Смачны быў абед? — запыталася Аліцыя.

— Выдатны!.. Ну раскажы ўжо! Мне так цікава! Гэта ж павінна была быць сенсацыя! Ну давай!..

— Нічога надзвычайнага. Пракурор прадставіў мяне калегам, потым я нанесла візіт старшыні суда.

— Ну і як яны? Сімпатычныя?

— Так.

— А ў цябе ёсць свой пакой?

— Ёсць. Невялікі кабінецік.

Юлька надула вусны:

— Нядобрая ты, Аля. Абыходзішся паўсловам. Як заўсёды! Я расказваю табе пра сябе ўсё-ўсё! І што раблю, і што думаю, а ты ніколі!.. Ты лічыш мяне смаркачкай...

Аліцыя з усмешкай пагладзіла амаль каштанавыя валасы дзяўчыны:

— Дык што ж я табе павінна расказаць?

— Ну, хаця б тое, ці ёсць там якія-небудзь прыстойныя мужчыны...

— Хо-хо! — абурыўся доктар. — Што вас, аднак, цікавіць!

— У тым ліку!.. — паціснула плячыма Юлька.

— Увага! — прытрымаў яе Чухноўскі, — тэрмометр!

— Ну дык уяві сабе, — сказала Аліцыя, — што ёсць там адзін такі малакасос, практыкант, які не зводзіць з мяне вачэй. Астатнія — старэйшыя і сур'ёзныя людзі.

— Ой, я ўпэўнена, што яны там усе ў цябе закахаюцца!

— Не нясі лухты, Юлька.

Дзяўчына падміргнула Аліцыі і прамовіла наўмысна змоўніцкім тонам:

— Бедны доктарчык, ён жа лопне ад зайздрасці.

Чухноўскі кашлянуў і папраўіў свае рагавыя акуляры: гэта вельмі красамоўна сведчыла пра яго заклапочанасць, што Юлька нават пашкадавала пра сваю зларaднасць і папляскала яго па шчацэ.

— Ужо, відаць, можна выняць тэрмометр, — заўважыла Аліцыя, — я хачу ведаць, якая тэмпература, бо павінна паспець пераапрануцца да абеду.

— Трыццаць восем і два, — абвясціў доктар. — Вось вынікі вучобы па начах!

Ён дастаў з кішэні сваю трубку:

— Ну, паненка, здыміце, калі ласка, кашулю і сядзьце.

— Пачакай, — затрымала яе Аліцыя, — пакуль я выйду. У суседнім пакоі холадна, дык каб цябе не праняло.

Калі дзверы за ёй зачыніліся, Юлька сказала:

— Доктарчык, даражэнькі, вы на мяне не злуяцеся?

— Але ж за што? Ну, давайце, мая харошая!

Юлька села і сцягнула кашулю.

Яна зусім не выглядала на тып, схільны да сухотаў. Мяккі нахіл плячэй, правільная лінія шыі, дастаткова развітая грудная клетка. І ў рэшце рэшт дастаткова цягліцаў. Худзізна звычайная для сямнаццацігадовай дзяўчыны.

Доктар пачаў прастукваць грудную клетку. Два яго пальцы цаля за цаляй перасоўваліся па цёплай аксамітнай скуры, трэці стукаў у яе, як малаток. Гук быў чысты і поўны. Незнарок Чухноўскі крануў далонню дзявочыя грудзі. Юлька здрыганулася і зардзелася, а ён настолькі быў паглынуты даследаваннем, што не заўважыў гэтага.

Прастукаў спіну і ўзяў трубку:

— А цяпер паслухаем, што нам скажа стэтаскоп. Глыбокі ўдых… так… цяпер яшчэ… так… яшчэ… Ну, выдатна… А як там сэрцайка… Не дыхайце, калі ласка…

— Вольнае, — рассмяялася Юлька.

— Што?

— Сэрцайка!

— Не разумею! — доктар падняў галаву і паглядзеў на яе.

— Вы пыталіся, як там сэрцайка, дык я адказала, што вольнае.

— Ага! — засмяяўся Чухноўскі і толькі цяпер дацямкаў, што гэтая малая з ім какетнічае. — Важней тое, што лёгкія вольныя, — дадаў ён.

У Чухноўскага была настолькі збянтэжаная міна, што Юлька вырашыла яшчэ больш яго засаромець.

— Міленькі доктар! — зашчабятала яна, — скажыце мне, калі ласка, ці добра я складзеная?

— Ну, канечне, усё нармальна.

— Не, я не пра гэта. Пытаюся, ці прыгожая я?

— Э-э-э-э, я ў гэтым не разбіраюся. Адвярніцеся, калі ласка.

Доктар прыклаў трубку да Юльчынай спіны.

— Але ж у доктарчыка ёсць…

— Ціха! Дыхайце глыбока, калі ласка... яшчэ... так... удыхнуць паветра... добра...

Чухноўскі злажыў стэтаскоп і схаваў яго ў кішэнь.

— Я магу надзець кашулю? — спыталася Юлька з гуллівай усмешкай.

— Ну, можна. Пік хваробы ўжо прайшоў, але яшчэ не ўсё. Прашу вас, ляжце на жывоцік.

— О, доктарчык будзе мяне біць?

— Не пашкодзіла б, — буркнуў ён і падумаў, што Юлька сёння надта ж разняволеная.

Доктар адсунуў коўдру і, лёгка націскаючы на мышцы ў вобласці нырак, спытаў:

— Баліць?

— Не.

— А тут?

— Таксама не… — яе голас даносіўся з падушкі, да якой яна прыціснула твар. — Нідзе ў мяне не баліць! Вы хочаце мяне задушыць гэтай падушкай.

— Уладэк! — пачуўся з суседняга пакоя голас Аліцыі. — Ты скончыў?

— Зараз, хвілінку.

— Ну дык ідзі памый рукі. Абед на стале.

— Секундачку.

Юлька апранала кашулю і, змагаючыся з рукавамі, спыталася:

— Дык вы мне не скажаце, ці прыгожая ў мяне фігура?

— Скажу іншае, — раздражніўся доктар. — Дзяўчынка зробіць сік-сік і напоўніць гэтым бутэлечку. А я забяру на аналіз.

Юлька паказала яму язык.

— А, выдатна! — усцешыўся доктар гэтым доказам утаймавання свавольнай пацыенткі. — А ну-а ну, пакажыце язычок.

— Не пакажу!

— Ну, вы яшчэ не скончылі? І як? — стала на парозе Аліцыя.

— Парадак. Дзякуй богу, нічога не пагражае, звычайная прастуда і слабы грып. Я ўчора баяўся, што можа быць горш. Калі я не памыляюся…

— Добра, раскажаш мне за абедам. Цяпер ідзі мый рукі.

Калі Чухноўскі выйшаў, Аліцыя села на ложак Юлькі, а тая закінула ёй рукі на шыю:

— Аля! Ты не маеш уяўлення, што я ўчыніла!.. А ты не будзеш злавацца? Уяві сабе, я какетнічала з доктарам! У яго была такая смешная міна! Я спыталася ў яго, ці прыгожая ў мяне фігура… Ну, не смейся з мяне, Аля!..

— І што ён на гэта?

— Уяві сабе, сказаў: няхай дзяўчынка зробіць сік-сік для аналізу. За каго ён мяне прымае? Канечне, я паказала яму язык!

Аліцыя, смеючыся, прытуліла Юльку і шчыра яе пацалавала.

— Ты надта не выступай, мая харошая, бо ў цябе хутка падскочыць тэмпература, — сказала яна, устаючы.

— Аля, пачакай, я павінна табе сказаць нешта вельмі важнае, страшна важнае!

— Ну?

— Ты не ўяўляеш, як я цябе люблю! Больш, чым увесь свет.

Аліцыя вярнулася і пацалавала Юльку ў выпнутыя вусны.

Яна нічога не сказала. Бо сама любіла Юльку, як сястру. Што ж значаць кроўныя сувязі? Пытанне выпадку і толькі… А гэтая чужая дзяўчына, па крыві далейшая, чым можна сабе ўявіць, якая самім сваім існаваннем нагадвае брата… Голас, напрыклад, у яе цалкам такі, як у Паўла… А ўсё ж яна для Аліцыі самая блізкая… Сапраўды, ва ўсім свеце няма нікога больш блізкага…

— Аля, пра што ты думаеш?

— Пра ўсё патрохі, сонейка.

— А суп стыне! — з іншага пакоя пачуўся голас Чухноўскага.

Трэба было сядаць за стол.

## Раздзел 4

У актах справы Валяр'яна Трачыка было шмат белых плям. Паліцыя не патурбавалася адшукаць жанчыну, якая выклікала начнога вартавога, не зняты адбіткі пальцаў з электрычнага ліхтарыка, які несумненна падчас учынення злачынства трымаў у руках ліхадзей, а следчы палічыў за дастатковае алібі для Вячоркі паказанні яго сястры.

Складанне акта абскарджвання на гэтых падставах было б проста разгільдзяйствам.

Падпракурор Аліцыя Горн вырашыла адаслаць справу з мэтай больш грунтоўнага расследавання, скончыла пісаць і адклала пяро.

Набліжалася чацвёртая гадзіна.

Сёння Аліцыя працавала без перапынку, амаль не ўзнімаючы галавы над стосам папер. Работы было вельмі шмат. Толькі-толькі мінуў тыдзень, як яна ўпершыню села за гэты стол, а ўжо вельмі добра арыентавалася ва ўсім.

Мартыновіч ні разу не ўнёс нават самай малой змены ў яе рашэнні, Мадронь казаў, што віцэпракурор Меснер збіраўся пра яе выказацца: «Гэта ж пракурор ад Бога!».

Аліцыю гэта не надта радавала. Яна ведала, што так будзе. Як і стасункі — прадбачыла яна — склаліся даволі нармальныя. Яна не перастала яшчэ быць

адметнасцю ў судзе і тэмай для размоў, аднак на яе ўжо не глядзелі, як на каршуна.

«Няхай пачакаюць, — думала яна, — як я выступлю перад судом! Тады я ім пакажу, на што здольная падпракурор Аліцыя Горн».

Пакуль нічога такога не намячалася, аднак жа на наступным тыдні магла ўсплыць справа Кваткоўскага, і трэба было падумаць пра тогу і берэт.

Аліцыя зачыніла стол і патэлефанавала дадому. Адказала Юлька. Паведаміла, што яны з доктарам сядзяць і чакаюць яе страшна галодныя.

— Абедайце, — сказала Аліцыя, — у мне яшчэ ёсць справы ў горадзе, і я спазнюся. А цяпер перадай трубку доктару... Добра, добра... перадай... Прывітанне, Уладэк... Ну што? Ты быў у прафесара Бруніцкага? Алё! Толькі больш нічога не кажы, калі там Юлька. Адкажы проста: так або не... Ну добра. Абедайце... Што? Ой, які ты нудны!.. Абедайце, прашу вас. Я прыеду праз паўгадзіны, можа, праз тры чвэрці. Да пабачэння.

Выходзячы з суда, Аліцыя сустрэла старшыню Турчыньскага. Ён затрымаў яе ў варотах:

— Ну і як жа вам працуецца?

— Дзякуй, — весела адказала яна, — выдатна.

— Мартыновіч ад вас... але прашу нікому не расказваць!.. Ён ад вас у захапленні.

— О?! Я не чакала, што пан пракурор здольны захапляцца.

— А як жа! Калі я спытаў у яго пра вас, ён красамоўна выказаўся: «Хм... так...»

Абое рассмяяліся.

— Паверце, — дадаў старшыня, — што для Мартыновіча гэта занадта.

Аліцыя цёпла развіталася са старшынёй і зайшла ў краму купіць тогу і берэт. Нягледзячы на тое, што Аліцыя была высокая, тога выглядала вельмі вялікай, аднак падпракурор узяла яе і паехала на Кручу[1] да краўчыхі, у якой і так павінна была быць сёння, каб прымераць вечаровую сукенку.

— Падкараціце гэтую тогу сантыметраў на восем, і рукавы трэба завузіць.

Краўчыха аддана ўтыкала шпількі.

— Мне гэта да твару? — спыталася Аліцыя, надзяваючы берэт.

— Ах, шаноўная пані, — пляснула ў далоні краўчыха, — свет яшчэ не бачыў такога пракурора! Асуджаныя з радасцю будуць ісці на смерць!..

Сапраўды, прыгледзеўшыся да сябе ў люстэрку, Аліцыя задаволілася. У гэтай чэрні з вузкай чырвонай акантоўкай яна выглядала чароўна. Кантраст амаль залацістых валасоў і маладой здаровай скуры са строгасцю касцюма ствараў незвычайны эфект.

— Прышліце мне гэта, калі ласка, дадому, — развітваючыся і паглядаючы на гадзіннік, сказала Аліцыя.

Яна села ў таксі. Рэдка Аліцыя дазваляла сабе такую раскошу, хоць цяпер, калі да яе пенсіі дадаўся сціплы заробак падпракурора, шчыра кажучы, пакрывала свае выдаткі і заставалася ў плюсе.

Ужо на лесвіцы яна пачула гук грамафона.

Ну хто б сумняваўся! Як жа гэта Уладэк у яе адсутнасць ды не ўключыў грамафон! Уласна кажучы, Аліцыя нічога не мела супраць грамафонаў, але і ў захапленні ад іх не была.

Якая ж смешная была міна ў доктара, калі ён уручаў ёй грамафон у той час як яна, Аліцыя, бесцырымонна вынішчала ідэю паднашэння ёй падарункаў увогуле, а ўжо такіх — асабліва.

Доктар быў так збянтэжаны! Бедны дабрак тады вырашыў пайсці на хітрасць і апраўдаўся тым, што гэта прэзент для Юлькі.

---

[1] **Круча** (Krucza) — вуліца ў Варшаве, у раёне Сяродмесця.

Чухноўскі і Юлька выбеглі сустракаць Аліцыю. Грамафон, канечне, змоўк, не скончыўшы нейкае «Каха-а-аю», Юзэфова мыла посуд пасля абеду.

— Ты ведаеш, Аля, я атрымала сёння пяцёрку па трыганаметрыі! — павітала яе Юлька.

— Як вы? Я вельмі рада, а па гісторыі цябе не выклікалі?

— Уяві сабе... не, не выклікалі... але ты ведаеш, Вацка Рушчэўская кідае школу, не атрымлівае атэстат і... адгадай?

— Ну?

— Вы-хо-дзіць замуж!!! За такога... брунета, які заўсёды чакаў яе ля школы.

Чухноўскі шматзначна кашлянуў. Аліцыя ўсміхнулася.

— Увогуле ён непрыгожы, — пляткарыла Юлька, — але так нічога сабе фраер. У яго машына, шасціцыліндравы штайр[1], толькі што лімузін, вось дык радасць? Праўда? Але Рушчэўскай ён падыходзіць, бо ў яе зялёныя вочы, і машына зялёная. Усе кажуць, што робіць кар’еру.

— Машына?

— Не, ну Вацка ж, бо ён увогуле багаты.

— Аўтамабіль?

— Не буду расказваць, — пакрыўдзілася Юлька.

Аліцыя пацалавала яе ў абедзве шчакі.

— Ну, добра ўжо, добра. Я толькі хачу, каб ты выказвалася дакладна.

— Я не збіраюся станавіцца пракурорам, — паціснула плячыма Юлька.

Юзэфова прынесла суп, і Аліцыя села за стол.

— А чым жа панна Юлька хоча быць? — спытаўся Чухноўскі.

— Па-першае, не чым жа, а кім жа, я хачу, каб вы выказваліся дакладна, а па-другое, я пра гэта яшчэ не думала. У мяне ёсць час.

Юлька была крыху сумная, і як толькі Аліцыя скончыла абедаць, заявіла, што павінна засесці за ўрокі.

Яны засталіся ўдзвюх. Доктар ужо хацеў пачынаць гаварыць, аднак Аліцыя яго стрымала.

— Зараз. Пяройдзем у мой пакой. Юлька можа пачуць.

Доктар вельмі любіў гэты пакой, у якім так рэдка меў магчымасць бываць, пакой такі нечаканы ў гэтай сапраўды прыгожай і ўтульнай, але нейкай крыху закаснелай кватэры.

Там усюды панавалі светлыя фарбы і ўсё, здавалася, блішчала, тут цёмна-чырвоныя шпалеры і мяккая, з плаўнымі лініямі мэбля, цудоўная шырокая тахта і грубы дыван, што пакрываў падлогу, і нават даволі моцны пах парфумы (сама Аліцыя, аднак, ніколі не ўжывала парфумы).

Чухноўскі не раз думаў пра гэта. Ён не мог сфармуляваць уражанні, але яму здавалася, што знешнасць і лад жыцця Аліцыі нагадваюць тыя пакоі, а яе ўнутранае жыццё, магчыма, зусім іншае, можа, як гэты пакой.

Ён любіў гэты пакой, але вольна сябе адчуваў у Юлькі, у сталовай і нават у вітальні.

— Я быў у прафесара Бруніцкага ва ўніверсітэцкай клініцы.

— Ён хутка цябе прыняў?

— Так. Я яму нагадаў, што слухаў яго лекцыі яшчэ калі ён быў дацэнтам. Ён быў вельмі прыязны. Загадаў зараз жа прынесці кнігі, і мы шукалі разам. Дык вось, Павел Горн апошні раз быў выпісаны з псіхіятрычнай клінікі тры гады таму.

---

[1] **«Штайр»** (**Steyr**) — марка аўтамабіля. **Steyr-Daimler-Puch** — аўстра-венгерская і аўстрыйская кампанія, якая існавала ў 1864—2011 гадах і займалася вытворчасцю агнястрэльнай зброі, ваеннай тэхнікі, аўтамабіляў, веласіпедаў, матацыклаў і самалётаў. Штаб-кватэра знаходзілася ў горадзе Штайр. Першым серыйным аўтамабілем кампаніі быў Steyr II, які стаў далейшым развіццём канструкцыі прататыпа. Машына мела 6-цыліндравы рухавік аб’ёмам 3,3 л і магутнасць 40 конскіх сіл, магла разагнацца да 100 км/г.

— Куды? — холадна спыталася Аліцыя.

— Ва ўстанову ў Творках.

Усталявалася маўчанне.

— Спачатку прафесар Бруніцкі не мог успомніць, пра каго гаворка, але, прачытаўшы гісторыю хваробы, узгадаў:

— Так, так, — я ўжо ведаю. Скульптар, ну, гэта была прадвызначаная справа. Заўзяты марфініст…

— Марфініст?!. — ціха спыталася Аліцыя.

— Так, але гэта не ўсё, гэта можна было вылечыць, калі б — як кажа прафесар Бруніцкі — не кантузія чэрапа.

— Дык гэта кантузія і турбавала?

— Так, — кіўнуў галавой Чухноўскі, — вельмі моцна. Частковы параліч, пачуццёвыя расстройствы, анестэзія нерваў. Часам прыходзілася рабіць штучнае дыханне…

Аліцыя ўстала і прайшла цераз пакой.

— Ты не пытаўся ў Бруніцкага аб прычынах хваробы?

— Пытаўся. Я ў тым ліку думаў пра Юльку. Прафесар кажа, што ніякіх спадчынных парокаў не было. Кантузія на фронце была, на яго думку, крыніцай хваробы, а паражэнне некаторых нервовых цэнтраў паўплывала на развіццё псіхастэніі, адтуль і марфінізм. Тады зразумела, што хвароба яго цалкам індывідуальная і яго сястры, дзякуй богу, нічога не пагражае.

— Дзякуй богу! — паўтарыла Аліцыя.

— Ці жывы яшчэ Павел, — працягваў Чухноўскі, — прафесар Бруніцкі не ведае. У любым выпадку, ужо тры гады таму, калі ён адсылаў яго ва ўстанову ў Творках, стан быў безнадзейны… Пытанне месяцаў ці нават тыдняў…

Аліцыя абаперлася галавой на руку і знерухомела. Доктар хацеў закурыць, але яму здавалася, што зараз не лепшы момант. Ён глядзеў на сцяну, на якой вісеў шаль з выявай кентаўра з паднятым хвастом і амазонкі, шырокія сцёгны якой сціскалі бакі верхавога каня, што стаяў на дыбках. Магчыма, з пункту погляду мастацтва гэта было і прыгожа, але Чухноўскага ўразіла ў гэтым проста нейкая непрыстойнасць. Не таму, што амазонка была голая, але наогул.

— Глупства — гэта найвялікшае злачынства, — сказала нібыта сама сабе Аліцыя і ўстала.

— Што ж, — дадала яна праз хвіліну, — свет жыве глупствам. Не ўсе хапаюцца за рэвальвер. Некаторыя, як Павел, учыняюць самагубствы… Я пагарджаю імі, ненавіджу іх!.. Тапельцы, якія ідуць на дно, упіваюцца ў душы іншых, каб іх таксама зацягнуць…

Аліцыя паклала руку Чухноўскаму на плячо і сціснула пальцы:

— Але ёсць такія, хто не дасць сябе зацягнуць. Ты думаеш, я спачуваю Паўлу? Можа, шкадую? Не, сто разоў не, толькі нянавісць за яго, і за сябе, і за наша страчанае шчасце…

— Так, я цябе разумею… — пачаў няўпэўненым голасам Чухноўскі.

— Не разумееш! Не можаш зразумець, што хтосьці здолеў зрабіць трагедыю з недаказанай віны каханай і закаханай жанчыны, каб, ведаючы пра беспадстаўнасць, з-за глупства сваіх прэтэнзій да лёсу, зламаць жыццё сабе і ёй, каб крыўду, якая напаткала яе ў дзяцінстве, крыўду, звычайную крыўду ператварыць у вар’яцкую прагу знішчэння найлепшых, найпрыгажэйшых пачуццяў! О!.. ніколі я яму гэтага не прабачу! Ніколі!..

Яе вочы ўтаропіліся ў Чухноўскага, здавалася, яна звяртаецца да яго — а ён адчуваў сябе толькі выпадковым сведкам гэтага выбуху.

— Ні разу, — прамовіў ён, — ты не згадвала мне, чаму вы з Паўлам усё ж такі разышліся?

Аліцыя здрыганулася.

— А?..

— Ты ніколі не гаварыла, чаму вы з Паўлам разышліся.

— Вы разышліся? — спыталася яна з іроніяй. — Не, мой мілы сябар, мы не разышліся. Ён мяне кінуў! Чуеш?! Кінуў! Адразу назаўтра! Пасля адной-адзінай страшнай ночы!..

Аліцыя закрыла твар рукамі і нахіліла галаву.

Доктар бездапаможна сядзеў. Божа мой! Ён бы жыццё аддаў за тое, каб змагчы вырваць з яе гэты боль, тайны якога ён не ведаў. А пытацца больш не адважваўся.

— Пракляты, хай будзе пракляты! — прамовіла Аліцыя праз сціснутыя зубы.

— Аля! Аля! Супакойся! — прасіў Чухноўскі, — падумай, можа, яго ўжо няма ў жывых...

— Дык няхай памяць яго будзе праклятая!

— Аля, забудзься пра яго. Убачыш, тады ты з часам знойдзеш у сабе прабачэнне... У цябе зараз ёсць я...

Аліцыя неспадзявана падняла на яго вочы і нервова рассмяялася:

— Ага! Ты!..

Чухноўскі скурчыўся. Столькі непаважлівай паблажлівасці гучала ў яе голасе.

— Канечне, у мяне ёсць ты, — гаварыла яна, не мяняючы тону, — запэўніваю цябе, што гэтага мне цалкам досыць. Але ўяві сабе, што калі я сустрэла Паўла, мне было гадоў дзевятнаццаць. Тады яшчэ, мой дарагі, я была дурніца, такая дурніца, як усе жанчыны, тады верыла, што маё шчасце не мець кагосьці, а належаць камусьці, быць яго ўласнасцю. А цяпер... мне дваццаць восем, погляды перагледжаны, ну і... у мяне ёсць ты.

Яна зноў засмяялася:

— Так, дарагі Уладэк, у добрае рэчышча я скіравала сваё суцяшэнне. Але засцерагаю цябе, не звяртайся з гэтым да іншых жанчын, якія яшчэ не пазбавіліся ад... амбіцый нявольніцтва.

Аліцыя зноў была спакойная і ўраўнаважаная.

— Ну, але да справы. Дык прафесар Бруніцкі нічога не ведае пра пана Паўла Горна?

— Нічога, акрамя таго, што ён быў змешчаны ў лячэбніцу ў Творках.

— Спадзяюся, што ты выслаў запыт у адміністрацыю ўстановы?

— Так, адразу ж пасля клінікі я зайшоў на пошту і выслаў ліст. Для адказу даў свой адрас, бо вырашыў, што табе было б прыкра...

— Усё роўна, — паціснула плячыма Аліцыя, — да таго ж, я не спяшаюся.

— Ты сёння вельмі злая са мной, Аля, — ціха сказаў доктар.

Аліцыя пагладзіла яго па лысеючай галаве:

— Бачыш, — усміхнулася яна, — гэта для раўнавагі: ты са мной надта добры. Ага! Мне тэлефанаваў твой сябар...

— Лэнчыцкі?

— Лэнчыцкі. Мы дамовіліся, што пойдзем у тэатр на Шоу, а пазней павячэраць у «Савой». Значыць, ты павінен пайсці дадому і пераапрануцца.

Чухноўскі скрывіўся:

— Зноў! Ужо трэці раз за гэты месяц! Я так не выношу забягалаўкі!

— Можаш не ісці.

— Як гэта магу? Не магу. Ты толькі падумай: у цябе зранку суд, у мяне бальніца, у Лэнчыцкага яго канцылярыя. Зноў працягнецца да другой ці трэцяй...

— Ой, які ты нудны! Глянь, ужо без дваццаці сем. Спознішся ў тэатр.

Доктар уздыхнуў і ўстаў:

— Па цябе заехаць?

— Не, — пахітала галавой Аліцыя, — сустрэнемся ў вестыбюлі. Купі білеты дзе-небудзь у шостым радзе. Толькі будзь ласкавы, памятай, што я плачу за сябе.

Аліцыя не праводзіла яго ў вітальню, а пайшла прама да Юлькі.

Дзяўчына адарвала ад кніжкі хітрыя вочы:

— Доктар пайшоў?

— Так. Як ты сябе адчуваеш?

Юлька ўстала і пацягнулася:

— Крыху стамілася. Я тут сабе падумала, што пасля заканчэння школы, калі ты возьмеш водпуск, паехалі, напрыклад, на Хель! Гэта было б цудоўна! Я яшчэ ніколі не бачыла мора.

— Убачыш яго яшчэ не раз, — прытуліла яе Аліцыя.

— На вёсцы таксама прыемна, але у чужых... Як шкада, Аля, што ні ў мяне, ні ў цябе няма родных на вёсцы!

— У нас увогуле нікога няма, — сказала Аліцыя, — мы адны.

Дзяўчына моцна прытулілася да яе:

— Мне гэтага дастаткова, Аля, мне сапраўды гэтага хапае, гэта вельмі шмат.

Гадзіннік адбіў сёмую.

## Раздзел 5

Вентылятары гудзелі аглушальна, праз адкрытыя шторы сачылася мглістае святло снежаньскага ранку.

Афіцыянты папрыбіраліся ўжо ў свае жакеты, і толькі бармэн, худы пан Грабоўскі, праходжваўся яшчэ за стойкай амерыканскага бара ў маляўнічым каўбойскім касцюме з яркай хусткай на шыі.

Ён замыкаў шафкі і шуфляды, пазвоньваў ключамі, спрытна складваў брудныя шкляначкі і кілішкі ў вялікую бляшаную ванну, якую трымала таўсташчокая пасудамыйка ў белым халаце.

Памочнікі швейцара з імпэтам узяліся за ўборку, ссунулі столікі і хутка пакрылі іх рагатым лесам перавернутых дагары ножкамі крэслаў.

Дзяўчаты ўжо разышліся. На высокім зэдліку ля бара сядзела сама панна Казя (сеньярыта Фіямета — акрабатычнае танга) і пудрыла свой аргенцінскі носік.

Яна, аднак, не зводзіла вачэй з калідора, а менавіта з тоўстага і непразрыстага шкла дзвярэй, на якіх была прыбіта шыльда «Адміністрацыя».

Ужо некалькі дзён з-за гэтага з яе жартаваў і кпіў увесь персанал, аднак яна не адступала.

І цяпер афіцыянты, апранаючы паліто і кідаючы сваё звычайнае «ўсяго добрага», шматзначна пазіралі на яе, а бармэн спытаў:

— Панна Казя, мне здаецца, ці вы чакаеце трамвая?

— Чаго? Трамвая? А вы не ведаеце, пан Зыгмунт, што трамвай з разумнымі разбіўся і ўсе ногі паламалі? — тут жа адрэзала яна.

— Я там з разумнымі не езджу. Ногі ў мяне цэлыя.

— Гэта і відаць, — сказала яна шматзначна.

Грабоўскі, аднак, не мог пацярпець паражэння. Ён дзынкнуў ключамі і запярэчыў:

— Відаць, не відаць, а, пані, панна Казя, гэта насамрэч нязбытная мара, можна сказаць. Ведалі мы такіх, што з неба зоркі хапалі, а як што да чаго, то канец і ніякай перспектывы, можна сказаць!..

Раптам дзверы ў калідоры адчыніліся і выбег касір Юстэк:

— Пан Грабоўскі! Пан дырэктар запрашае!

— Іду!

Ён выцер сурвэткай рукі, выцягнуў з шуфляды дробна спісаны аркушык і пастукаў у дзверы.

Кароткае «ўвайдзіце» — і Грабоўскі апынуўся ў кабінеце.

Дырэктар, канечне ж, сядзеў на пісьмовым стале. Так заўсёды: альбо на стале, альбо на падаконніку, альбо на падлакотніку канапы. Насамрэч невядома,

навошта ля стала стаяла крэсла. З моманту набыцця «Аргенціны» Вінклерам ніхто яшчэ не бачыў, каб ён на ім сядзеў.

Цяпер дырэктар курыў папяросу і, ківаючы нагой, слухаў справаздачу дэгустатара:

— ...дваццаць шэсць венгерскага, адзінаццаць малагі, сто чатырнаццаць Cordon Rouge, дзве Cordon Vert, трыццаць сем Clicot і восем Cristal...

Панна Тэця, хутка перамяшчаючы валік машынкі, адстуквала названыя ім лічбы ў адпаведных калонках.

— Гэта ўсё, прыяцель? — спытаўся дырэктар.

— Дай божа кожны дзень столькі, — рассмяяўся дэгустатар.

Дырэктар ляпнуў яго па плячы:

— Дробязь, браце, пабачыш — выцягнем яшчэ два разы па столькі! Ну, пан Грабоўскі, як жа там?

— Першы клас, пан дырэктар, сем тысяч дзвесце сорак тры!

— Спойваеце вы людзей, хай вас халера! Ну, вывальвайце на машынку.

Дырэктар адвярнуўся і падышоў да вялікага стала, на якім валяліся стосы банкнот, план сённяшняй ночы. Касір Юстэк сартаваў іх надзвычай спрытна і складваў па сто штук.

— Павінна быць трыццаць два з коптарам, — сказаў дырэктар.

— Будзе, — коратка пацвердзіў касір і падумаў: «Наколькі цяпер па-іншаму працуецца, усё зразумела, ніякіх сварак... Умее працаваць!»

А між тым, Грабоўскі скончыў і, пакланіўшыся, выйшаў. Машыністка выняла з «Раяля» гатовы аркуш і падала дырэктару:

— Я буду патрэбная пасля абеду? — спыталася яна, апускаючы вочы.

Друцкі азірнуўся, і, бачачы, што Юстэк на іх не глядзіць, пагладзіў яе па смуглым тварыку.

— Не, малышка, дзякуй, — сказаў ён з усмешкай, — толькі зрабіце пералік.

— Ну, тады да пабачэння, пан дырэктар, — уздыхнула панна Тэця.

— Дабранач, малышка, спі спакойна, і няхай табе прысняцца анёлкі!

Сакратарка паднялася на дыбачкі і пацалавала яго ў вусны якраз у той момант, калі Юстэк паднімаў галаву.

Яна пачырванела і выбегла. Праходзячы ля бара яна ссунула бровы: гэтая малпа Казя заўсёды тут цікуе. Брыдкая какотка!

Яна вырашыла заўтра спытаць у швейцара: з ёй выйшаў дырэктар або адзін.

А Друцкі яшчэ і не думаў выходзіць. Ён спачатку праверыў з Юстэкам касу, потым адпусціў яго, адчыніў сейф і паскладваў грошы.

Дырэктар разумеў, што рызыкуе, трымаючы тут так шмат наяўных. Усе ў рэстаране пра гэта ведаюць, а дзе спакуса, там і злодзей. Але што ён мог з гэтым зрабіць? Банкі адчыняюцца толькі а дзявятай, а ён не мог сябе пазбавіць дзвюх гадзін і без таго невялікай порцыі шасцігадзіннага сну, які сабе дазваляў.

Пазней, канечне, будзе лепей, але цяпер, напачатку, ён павінен сам усё дагледзець. Трэба навучыць людзей парадку, увесці, з аднаго боку, строгую дысцыпліну, а з другога — заахвоціць да працы.

Дырэктар схаваў ключы ў кішэню і выйшаў на калідор. Найперш зазірнуў на кухню, дзе якраз ужо скончылі шараваць бляхі і мыць посуд, зайшоў у скляпы, каб паглядзець, ці ўсё пазамыкана, зрабіў заўвагу гаспадыні за непагашанае святло ў халадзільніку і пахваліў яе за змяншэнне колькасці пабітага шкла.

Ён пагутарыў з паварчукамі, ушчыпнуў за шчочку пухлую афіцыянтку і пайшоў у залу. Вентылятары ўжо закрылі, пыл выцерлі. Работнікі вялікімі палотнамі пакрывалі мэблю.

— А ты, малышка, чаго тут сядзіш? — здзівіўся дырэктар, убачыўшы Казю.

— Я… я… таго, — заікалася яна, — я чакала…

— Чаго ты чакала?

— Ну, пана дырэктара…

— Што такое? Я слухаю.

Сеньярыта Фіямета маўчала. Друцкі выдатна ведаў, у чым справа, але наўмысна спытаўся:

— Што, можа, пазыка?

— Э-э-э-э… не, пан дырэктар.

Казя была вельмі прыгожая, і ў яе рухавых ноздрах было штосьці пікантнае. А паколькі яна танцавала сваё танга амаль голая, Друцкі ведаў, што ў яе была цудоўная фігура, і яна была спартыўная, як цыркачка.

Калі ён да гэтага часу ёй не зацікавіўся, то толькі таму, што ўсе казалі, быццам Казя жыве з альфонсам Ізмайлавым, да таго ж, сам ён быў вельмі заняты.

— Ну, дык што? — спытаўся дырэктар.

— Э-э-э-э… пан дырэктар робіць выгляд, што не ведае.

— Што не ведаю чаго? — дражніў Казю Друцкі.

— Ну, што пан дырэктар мне падабаецца…

— О-о-о-о!

— Я ведаю, што пан дырэктар усім вельмі падабаецца. Што і гаварыць! Палова гэтых баб, што цяпер з дзвярэй і вокнаў валяць да нас, гэта ўсё дзеля пана дырэктара.

Друцкі рассмяяўся.

— Няхай пан дырэктар з мяне не смяецца, вы самі ведаеце, што жанчыны на вас ляцяць…

— І ты, малышка, таксама?..

— Таксама.

Ён зноў рассмяяўся, хоць крыху і крануў яго гэты просты адказ.

— Вы толькі не падумайце, што я лячу на вашы грошы, — пагардліва надзьмула вусны Казя, — я магу мець болей бабак, чым мне патрэбна… Пан дырэктар сам бачыць, што самыя багатыя госці змагаюцца за мяне. Але вы мне так падабаецеся, бо вы міравы мужык і ўвогуле…

— Асцярожна, малышка, бо я заганаруся. Ну, пагутарым калі-небудзь пра гэта яшчэ, а цяпер пара спаць.

Дзяўчына апусціла галаву:

— Я вам не падабаюся, — сказала яна ціха.

— Ты зноў за сваё, толькі трэба ісці спаць, позна ўжо.

Казя схапіла яго за руку:

— Пан дырэктар, паехалі да мяне снедаць.

— Але мне пара ў ложак, мая малышка.

— У мяне таксама ёсць ложак, пан дырэктар!.. Ну пан дырэктар…

Друцкі сапраўды быў стомлены, і яго крыху раздражніла настырнасць гэтай танцоркі. Таму ён сказаў з’едліва:

— Што ёсць, я ведаю, але ці часам не заняты?

Казя тут жа адпусціла яго руку і адвярнула галаву.

— Вось як… — шапнула яна, — што ж… вам можна так плюнуць мне ў твар… можна… я такая, што са мной так і трэба…

Друцкаму стала непрыемна.

— Ціха, малышка, — сказаў ён, — я не хацеў цябе пакрыўдзіць, я пажартаваў, ну, усміхніся, ну давай! Вось і добра! А калі ты заўтра запросіш мяне на снеданне, то я з задавальненнем прыеду. З вялікім задавальненнем! А сёння я не магу. Ну, бывай, малышка!

Друцкі пагладзіў яе па шчочцы і адвярнуўся:

— Яворэк! — крыкнуў ён. — Маё футра!

У дзвярах яшчэ кіўнуў галавой задаволенай Казі і выйшаў.

Быў моцны мароз, снег хрусцеў пад нагамі. У таксі, куды сеў Друцкі на рагу Шпітальнай, завуркатаў матор, і шафёр патраціў добрыя тры хвіліны на тое, каб машына паехала.

У атэлі было, як кожны дзень у такую пару, яшчэ зусім ціха. Друцкі прыняў халаднаватую ванну, выцерся калючымі ручнікамі, аж скура заружавелася, выпіў кілішак каньяку, завёў будзільнік на дванаццаць і лёг спаць.

Заснуў ён адразу. Яго здаровы арганізм працаваў спраўна, без збояў, і пасля пяці гадзін здаровага сну з былой лёгкасцю быў гатовы да самага актыўнага жыцця.

На працягу гадзіны Друцкі пагаліўся, памыўся, апрануўся і патэлефанаваў Залкінду:

— Ці ёсць пан Залкінд?

— А хто гэта? — спытаўся жаночы голас.

— Гэта Вінклер.

Адказам на гэта быў гучны піск у трубцы.

«Што за чорт», — падумаў Друцкі.

— Капітане! Капітане! — усклікваў радасны жаночы голас. — Гэта я! Люба! Добры дзень, дарагі капітане! Як жа я рада!

— Пані Люба? Ага! Цудоўна! Вы сёння прыехалі?

— Сёння, сёння раніцай, дарагі капітане! Барыс! Барыс! Капітан звоніць! Вось дык удалы прыезд, капітане; гэта для мяне добры знак: першы званок, на які я адказала, быў ваш! Менавіта ваш!.. Глядзі, Барыс, якое шчасце! Я думала, што звар’яцею ад радасці, калі даведалася, што вы прыехалі ў Польшчу!..

У трубцы пачуўся голас Залкінда:

— Яна не хоча аддаваць мне трубку — вось што ты, капітане, вытвараеш з маёй роднай жонкай!

— Зараз жа прыязджайце да нас, тэрмінова прыязджайце, — крычала Люба.

— Зараз не магу, мае родненькія, але а шостай-сёмай, канечне, прыеду. Як жа здароўе, пані Люба? Дапамагла Крыніца?

— Ах, што там здароўе, калі б я ведала, што капітан у Варшаве, то гэта б мне больш дапамагло, чым Крыніца. І з вамі бачылася б, і здаровая была б, і па сорак пяць злотых за дзень не плаціла б за пансіён і лячэнне. Але вы мяне не пазнаеце, я цяпер — старая баба, замужняя баба, я так пабрыдчэла з нашых амерыканскіх часоў, што вы мяне не пазнаеце…

— Няпраўда, — улез у размову Залкінд, — нічога не пабрыдчэла, яшчэ папрыгажэла…

— Ой, што ты кажаш, Барыс! Не слухайце яго, бо падумаеце, што я не пабрыдчэла і яшчэ расчаруецеся. А вы яшчэ майго малога не бачылі, майго самага салодкага дзіцяці!..

Нарэшце Залкінд узяў трубку, і Друцкі мог яму расказаць, што ўчарашняя выручка зноў пабольшала, што справы ідуць выдатна і што праз месяц «Аргенціна» пэўна будзе самым папулярным начным клубам сталіцы.

— Каб вашы словы ператварыліся ў золата, капітане, — адказаў яўрэй, — ды нават і не трэба ператвараць, бо яны не што іншае, як найчысцейшае золата!

Паглядзеўшы на гадзіннік, Друцкі хутка развітаўся з Залкіндам і выбег на вуліцу.

Загадаў ехаць на плошчу Люблінскай уніі, адкуль тры крокі было да ўніверсітэцкай псіхіятрычнай клінікі.

— Ці на месцы яшчэ пан Бруніцкі? — спытаўся ён у дзяжурнага.

— Так. А вы прыватна ці…

— Прыватна.

Дзяжурны паклікаў хлопца, і Друцкі даў яму сваю візітоўку.

Праз хвіліну прафесар сам выйшаў на калідор.

— Калі ласка, — коратка сказаў ён.

Яны падалі адзін аднаму руку.

— Я прыйшоў, Караль, аддаць табе пазыку і падзякаваць за яе. Дазволіш? Ці, можа, ты заняты?

званыя мастацкія нумары. Як вам у мяне падабаецца? — звярнуўся дырэктар да Аліцыі.

— Вельмі… прыемны клуб, — яна ўважліва прыгледзелася да дырэктара і падумала, што недзе ўжо напэўна яго бачыла. Так, так, зараз… гэта было ў нейкай кавярні.

— Мне здаецца, што я некалі ўжо бачыла вас, — прамовіла Аліцыя нібыта ў апраўданне свайго маўчання.

— Абсалютна дакладна, — рассмяяўся Друцкі, — я пазнаў вас ужо пятнаццаць хвілін таму, знізу.

— У цукерні на Новым Свеце? — спыталася яна. — Некалькі месяцаў таму?

— Так. Я тады быў такі нязграбны, што разбіў попельнічку са свайго століка.

— Так, так! — усміхнулася Аліцыя. — Я памятаю. У мяне тады было такое ўражанне, што ваш твар мне знаёмы.

— Стойце! — усклікнуў Лэньчыцкі. — І я памятаю. Мы тады былі такой самай кампаніяй.

— Ага? — здзівіўся Друцкі. — Дык гэта пан адвакат пстрыкаў тады драўлянай папяросніцай?.. О, гэта corpus delicti[1]?

Смяяліся ўсе, акрамя доктара, які рабіў выгляд, што заняты праціраннем лінз.

Перакінуліся яшчэ некалькімі фразамі, і Друцкі ўстаў:

— Вы дазволіце мне яшчэ раз да вас наведацца?

Аліцыя ветліва кіўнула галавой, а Лэньчыцкі шумна радзіў яму, каб толькі ён не забыўся.

Яны бачылі дырэктара і далей, як ён уваходзіў у ложы насупраць, як хадзіў па зале і весела вітаўся з усімі.

А між тым, пачаліся забавы.

Пад каляровымі пражэктарамі танцавалі трое зграбных мускулістых хлопцаў, пазней на танцавальным рынгу з'явілася сеньярыта Фіямета і неверагодным чынам выгінала амаль голае цела ў акрабатычным танцы. Пасля гучных апладысментаў публіка зноў запоўніла рынг шчыльнай масай, якая дрыгалася ў такт румбы.

Чухноўскі пад уплывам выпітага алкаголю зрабіўся сентыментальным і са слязамі на вачах умольваў Аліцыю, каб яна яму прабачыла. Пры гэтым ён так настойліва запэўніваў, што ўжо будзе вясёлы, што аж зусім расплакаўся.

Аліцыя шчыра смяялася, гледзячы на яго міну і на жывую супрацьлегласць у асобе Лэньчыцкага, які прытупваў і зухавата ўскідваў чупрыну.

Сотні featnakalярowych — 

Сотні рознакаляровых шарыкаў напоўнілі залу. Знізу гаманілі, з лож кідалі кветкі ў танцораў.

І зноў былі два выступленні: тры танцоркі, пераапранутыя ў флейшэравых[2] мышэй, Мікі і вельмі смешны мядзведзь (акцёр, канечне), які граў на саксафоне і выконваў матроскі танец.

Калі нарэшце пачаліся танцы, у ложы Аліцыі з'явілася па-экзатычнаму апранутая кветачніца і паклала перад ёй букет белых руж.

Чухноўскі спужаўся, а адвакат выняў банкноту ў сто злотых.

— Дзякуй, — здрыганулася кветачніца, — але гэта ад адміністрацыі.

— Як жа так, — здзівіўся доктар пасля таго, як яна выйшла, — прэзенты?

Аліцыя адсунула кветкі, але адвакат падаў ёй іх зноў:

— Ну вазьміце, пані, тут такая традыцыя, што дамам рассылаюць кветкі.

Аліцыя ўзяла ружы і сказала:

[1] Corpus delicti (*лац.*) — «рэчавы доказ».

[2] Макс Флейшэр — амерыканскі аніматар, вынаходнік, рэжысёр і прадзюсар.

— Цудоўныя. А пахнуць! Гэты ваш знаёмы, пан адвакат, абанкруціцца, калі ён усім дамам рассылае такія раскошныя кветкі.

— Не хвалюйцеся, — пачула яна за сабой нізкі голас, — бо від і прыгажосць кветак заўсёды залежаць, мілая пані, ад хараства маіх кліентак.

Яна прыгледзелася да яго. Выраз твару ў яго быў сур'ёзны і дзелавы, такі, нібыта ён у гэты момант уладжваў гандлёвую справу. Аліцыя не заўважыла нічога бесцырымоннага ў паводзінах гэтага амерыканца і таму сказала:

— Дзякуй вам. Шыкоўныя ружы. І шмат вы рассылаеце такіх букетаў штовечар?

— Такіх? — Друцкі зрабіў выгляд, быццам задумаўся. — Хм… Калі памяць мяне не падводзіць… з той пары, як я завёў гэтую традыцыю, такі — першы…

Аліцыя нічога не адказала, затое Лэньчыцкі, які любіў канкрэтыку, выказаўся:

— Я гэтаму зусім не здзіўляюся. Чорт! Няхай вам, пан дырэктар, не падасца, што вы зрабілі камплімент хоць на ёту лепшы, чым зрабіла б гэта першае ж люстэрка.

Раптам страшны шум у ложы над фантанам і выбух агульнага смеху ў зале прыцягнулі іх увагу.

Від быў незвычайны: элегантны малады чалавек у смокінгу, якога трымалі за ногі некалькі асоб, звешваўся праз борт ложы галавой уніз і намагаўся дастаць да струменя фантана дамскім туфлікам, які быў у яго руцэ, і набраць у туфлік вады.

Толькі Аліцыя заўважыла, што дырэктар выбег.

Тым часам, пасля некалькіх няўдалых спроб у маладога чалавека атрымалася зачэрпнуць вады, і гучныя «брава» заглушылі аркестр.

— Ідыёт! — скрывіўся Чухноўскі.

— Шампанскага! — закрычаў Лэньчыцкі.

— Шампанскага! — паўтарыла Аліцыя.

— Што пажадаеце? — схіліўся афіцыянт, падаючы карту.

— Дарагая пані Аліцыя, вы не супраць, — схіліўся да яе з выглядам знаўцы адвакат, — калі мы вып'ем «Некса», сухога?

— Выдатна!

— Замарозіць бутэльку «Некса», сухога, — кіўнуў Лэньчыцкі афіцыянту, а калі той, пакланіўшыся, выходзіў, то адвакат затрымаў яго: — Чакай, пан! Замарозьце дзве! Гуляць дык гуляць!

У плоскіх бакалах запенілася духмяная вадкасць. У зале раптам запанавала цішыня, і ўсе пачулі голас дырэктара Вінклера:

— Спадарства, увага! Сёння мы гуляем у катоў!

— Што? Што?.. — пачулася пытанне.

— Гуляем у катоў! Гэта не маё вынаходства, але ж такое добрае, што нібыта маё ўласнае.

— Брава! Брава! — пасыпаліся воплескі. — А як гэта ў катоў?

— Увага! У яхт-клубе на Філіпінах ёсць звычай: аркестр іграе пэўнае танга, а ўсе прысутныя мяўкаюць!

— Брава! Брава! Мяўкаюць!

— Спадарства! Толькі мяўкаюць у рытме! Хто акажацца найбольш музыкальным, арыгінальным і дасведчаным у сапраўднай кашэчай музыцы, той атрымае ордэн Залатога Ката першай ступені! Увага! Пачынаем!

Аркестр ударыў моцным акордам, і паплыла ціхая, страсная мелодыя.

— Мяу-у-у! — пачаў танюткі жаночы галасок.

— Мяў, — адказаў яму ў канцы фразы хрыплы мужчынскі голас.

Публіка ўзарвалася ад смеху, але аматары мяўкання завалодалі сітуацыяй. Хто яшчэ мог, галасіў, фыркаў, мурчаў, аркестру заставалася толькі злёгку акампаніраваць, а сярод мяўкалаў паступова праходзіў адбор і гульня ішла чым далей, тым ладней.

Чухноўскі зняў акуляры і шырока адкрытымі блізарукімі вачыма здзіўлена назіраў за залай. Лэньчыцкі літаральна вісеў на борце і мяўкаў, як апантаны. Аліцыя таксама глянула ўніз.

Пасярод сцэны на табурэтцы стаяў Вінклер і з захапленнем дырыжыраваў, быццам капельмайстар. Якраз у той момант ён паглядзеў на іх ложу і павітаў утаропленыя ў сябе вочы Аліцыі гарэзлівай усмешкай і працяглым каларатурным мяўканнем.

Яна павярнулася назад і, прыціскаючы да вуснаў змятую сурвэтку, замяўкала. Не магла ўтрымацца! Настрой уздымаўся. Аліцыя рассмяялася сама з сябе: пракурор-мяўкала! А гэта цудоўна! Яна залпам выпіла бакальчык шампанскага. Яе галава крыху кружылася. Вось дык раскошная забава!..

Танга скончылася, але па велізарным і шумным жаданні публікі яго паўтарылі яшчэ раз, пасля чаго шляхам усеагульнага ўхвалення ордэн Залатога Ката ўручылі здаравеннаму сівому пану, як аказалася, англійскаму дыпламату, які сапраўды быў завадатарам у гэтым канцэрце.

Справу прычапіць ордэн ён даверыў маладзенькай мініяцюрнай брунетцы — паводле слоў Лэньчыцкага — жонцы вядомага аўтамабіліста Вінярскага. Яна мусіла стаць на дыбачкі, каб дацягнуцца да пятліцы пераможцы.

Ён выступіў з кароткай прамовай па-англійску і з важным выразам твару заняў месца за сваім столікам.

Зайгралі блюз, і сцэна зноў запоўнілася аматарамі патанцаваць.

Аліцыя паглядзела на гадзіннік і з жалем канстатавала, што ўжо чатыры гадзіны.

Пара была ехаць дадому.

Аплацілі рахунак, прычым Аліцыя ў якасці выключэння пагадзілася не плаціць сваёй трэцяй часткі. Лэньчыцкі ўпарціўся, што ён фінансуе, а калі яму не дазволяць заплаціць цалкам усю суму, яму гэта прынясе няўдачу ў судзе.

— Богам прашу, — горача запэўніваў ён, — колькі разоў не абмываю выйграны працэс, столькі прайграю наступную справу, закон подласці!..

Аліцыя была ў такім выдатным настроі, што не супраціўлялася.

Найперш адвезлі Чухноўскага, які засынаў, потым адвакат адправіў Аліцыю.

— Ну, пані Аліцыя, — сказаў ёй з выхваляннем, развітваючыся перад брамай, — варта было ісці ў «Аргенціну»? А?

— Мне было вельмі весела. Даўно я так добра не адпачывала.

— Ах! Гэты Вінклер мерцвяка расшавяліў бы! Неверагодны, праўда?

— Дабранач, адвакаце, — падала яму руку Аліцыя, — дзякуй і дабранач.

На дыбачках яна прайшла ў свой пакой, хутка распранулася, запаліла газ у ваннай, паставіла ружы ў крыштальную вазу і, хвіліну павагаўшыся, паставіла іх ля ложка.

На дварэ было ўжо светла.

## Раздзел 7

Адразу з вакзала прафесар Бруніцкі паехаў на лекцыю.

Нягледзячы на стому пасля доўгай дарогі, гаварыў ён, як звычайна, гучна, выразна, спыняючыся на азначэннях і робячы кароткія паўзы перад прывядзеннем уласных аргументаў.

Калі ён скончыў, то адчуваў сябе такім спустошаным, што выпіў парашок камфары для ўмацавання сэрца. Аднак ужо праз хвіліну ён тэлефанаваў у «Брысталь».

Яму адказалі, што пан Вінклер у сваім нумары, але, відаць, спіць. Нягледзячы на гэта, прафесар загадаў злучыць з ім.

— Гэта Караль, я цябе разбудзіў?

— Не, як ты? Вярнуўся?

— Вярнуўся і хацеў цябе папрасіць, каб ты да мяне зайшоў.

— У клініку? — спытаўся Друцкі.

— Не, дадому. Як наконт абеду?

— Добра.

Друцкі паклаў трубку і ўздыхнуў з палёгкай.

— Ну, нарэшце прыехаў.

— Хто прыехаў? — спыталася з-за шырмы Тэця.

— Адзін мой прыяцель. Але паспяшайся, малышка.

— У мяне падвязка лопнула.

Друцкі рассмяяўся.

— Лопнула? Ну, ідзі сюды, можа, агульнымі намаганнямі мы хутчэй справімся з катастрофай. Хадзі.

Тэця была ў кароценькай светла-зялёнай камбінашцы, яна бездапаможным жэстам працягнула яму парваны канец падвязкі. Выглядала яна пры гэтым так па-дзіцячы і хораша, што ён сказаў:

— Ведаеш, малышка, шкада, што ўжо так позна.

— Мой каханы, мой самы салодкі…

Ён пасадзіў яе сабе на калені і заняўся выпраўленнем пашкоджання. Тэця ў той час церлася тварам аб яго шчокі і без канца шаптала:

— Каханы, адзіны, каханы…

Ад яе зыходзіла свежасць і пастаяннае моцнае жаданне.

Друцкі прамовіў:

— Слухай, малышка, альбо супакойся, альбо да канца свету я не зраблю табе гэтую падвязку.

— Ах, як было б цудоўна!

— Каб што?

Тэця ружовым пальчыкам правяла па яго каленях.

— Тое, што магла б сядзець тут да канца свету. Абы мой мужчына быў толькі для мяне і каб гэтыя брыдкія бабы не варочалі на яго вочы. Асаблівая гэтая малпа Казя…

— Падай мне шпільку, — перарваў яе Друцкі, — яна павінна быць у гэтай круглай каробцы.

Тэця дастала і прадоўжыла:

— Яна такая брыдкая какетка. Як яна адважваецца нават паднімаць вочы на майго мужчыну! Яна ж за грошы з кожным!.. А пры гэтым у яе крывая лапатка…

Друцкі зірнуў на Тэцю з усмешкай.

— Далібог! — закрычала яна. — У яе крывая лапатка!

— Не кажы абы-чаго, малышка. Казя вельмі прыгожая.

— Я яе ненавіджу!

— Гэта іншая справа. Толькі, Тэця, глядзі! — прыгразіў ён пальцам. — Каб у «Аргенціне» ніякіх скандалаў і сварак не было! Я гэтага не выношу, і няхай толькі!.. Ну!

— Я? — абурылася Тэця. — З ёй? З такой пустышкай? Я ўвогуле не заўважаю яе, хоць і ведаю, што яна б мне вочы выдрала. Ёй здаецца, што…

— Gemacht![1] — скончыў Друцкі. — Падвязка ў парадку. Апранайся.

Ён паставіў Тэцю на падлогу і сеў перад люстэркам завязаць гальштук.

— Памятай жа, малышка, — дадаў ён, — што са мной не жартуюць. Ніякіх скандалаў!

Дзяўчына нічога не адказала.

Праз пару хвілін яны былі гатовы.

[1] Gemacht (*ням.*) — гатова.

Тэця выйшла першая. Друцкі пазамыкаў шафы і пісьмовы стол і таксама спусціўся.

Швейцар затрымаў яго паклонам:

— Маё шанаванне пану дырэктару.

— Добры дзень.

— Пан дырэктар, я якраз звяртаўся па вашай просьбе ў прадстаўніцтва кампаніі «Reenclar». Я сказаў, што адзін з нашых гасцей хоча даведацца, хто ў Варшаве мае «reenclar» і хто мог бы расказаць пра іх марку.

— Ага! — усцешыўся Друцкі. — І што?

— Мне расказалі, што ў Варшаве тры машыны «рынкляр». Адна належыць графу Любоцкаму, другая — пані Цітхен і трэцяя — прафесару Бруніцкаму. Усе трое карыстаюцца гэтымі машынамі ўжо некалькі гадоў і цалкам задаволеныя.

— Некалькі гадоў?

— Так, пан дырэктар, мне сказалі, што яны цалкам задаволеныя. Канечне ж, яны выпытвалі ў мяне, хто цікавіцца іх машынамі, і прапанавалі прыслаць аўтамабіль, каб паспрабаваць на ім паездзіць, але, як вы пажадалі, пан дырэктар, я не назваў вашага прозвішча.

Друцкі падзякаваў і выйшаў на вуліцу.

«Усё зразумела, — падумаў ён, падаючы вадзіцелю адрас Бруніцкага, — Караль утаіў. Аўто, якое я бачыў у першы дзень вечарам, — гэта быў яго «рынкляр».

У холе вілы прафесара Друцкі заспеў доктара Кунокі, заглыбленага ў чытанне. Ён сардэчна і амаль весела прывітаў Друцкага:

— Я вельмі рады вас бачыць. У вашым ладзе жыцця ёсць нешта, што распаўсюджвае вакол вас нейкую вітальную радасць.

— Не перабольшвайце, доктар, — засмяяўся Друцкі, але яму стала прыемна.

— О, не! — нахіліў галаву японец, — я не перабольшваю. Я думаю, што мы наогул недаацэньваем кампаніі мілых, вясёлых і здаровых людзей. А дзейнічае гэта нават... гаюча. Так, пане, гаюча! Вядома, што ўсе целы вылучаюць рознага тыпу энергію, аднак мы не звяртаем увагу на фізічную энергію, што сыходзіць ад людзей, з якімі мы сустракаемся. Калі мы з вамі бачыліся апошні раз, то гаварылі, здаецца, пра народныя забабоны.

— Так, пра звяртанне навукі да забабонаў, якімі яна грэбавала.

— О, глядзіце, — ажывіўся Кунокі, — яшчэ адзін прыклад. Некаторыя індыйскія плямёны вераць у тое, што маладосць, сіла і здароўе могуць уздзейнічаць, як полымя: той, хто дае, нічога не губляе, а той, хто бярэ — набывае. Таму старыя і слабыя людзі спяць у адным ложку з маладымі і здаровымі. Яны перакананыя, што менавіта падчас сну аздараўляльная энергетыка маладога цела найбольш узмацняецца.

— І што? — здзівіўся Друцкі. — Гэта перакананне сапраўды мае нейкае значэнне?

— Я вам так скажу: не ведаю, ці мае, але ведаю, што павінна мець.

— Справа, канечне ж, у энергетыцы, так сказаць, псіхічнай?

Доктар Кунокі патрос галавой.

— На маю думку, але папярэджваю, што гэта не меркаванне афіцыйнай навукі, дык вось, я думаю, што энергетыка фізічная, як і энергетыка радыю, жалеза…

— Словам, электроны? Часткі атамаў?

— Так.

— Незвычайна! Тады і чалавечае мысленне?..

— Таксама энергетыка, што эмпірычна пацвярджаецца выпадкамі тэлепатыі. Так. Дык вось ваша энергетыка, ваша аўра проста гаючая. Я гэта на сабе адчуваю.

— Значыць, я павінен, — засмяяўся Друцкі, — даваць сябе ў арэнду на гадзіны бальніцам у якасці апарата для лячэння. Але насамрэч, мне здаецца, што ў вашых словах шмат рацыі, доктар. Я сам назіраў дзіўны пад'ём настрою ў натоўпе.

— Вось бачыце. Узаемны абмен энергіяй.

— Альбо падчас гульні! Вы, хіба, ведаеце, што я валодаю начным клубам. Дык вось, весялосць, напрыклад, перадаецца вельмі хутка. Як толькі некалькі чалавек разгуляюцца ды расшалеюцца, праз пяць хвілін настрой ідзе ўгору. Я якраз угаворваў Караля адпачыць у маёй «Аргенціне», але дзе там. Вы, доктар, павінны яму параіць, каб ён хоць раз паспрабаваў.

— Я толькі за. Я цалкам з вамі згодны.

— А што, яго няма дома? — спытаўся Друцкі.

— Ёсць, толькі ён нечым заняты. Праз хвіліну прыйдзе. Спадзяюся, вы не злуяцеся на яго, што ён міжволі прымусіў вас быць у кампаніі зануды…

— Пане доктар! — перарваў Друцкі. — Вы і сапраўды лічыце мяне настолькі абмежаваным, які не здолее ацаніць кампаніі аднаго з найразумнейшых вучоных нашага стагоддзя?..

Японец паспрабаваў запярэчыць, але Друцкі не даў яму вымавіць ні слова:

— Гэта я, доктар, павінен прыплачваць за кожныя пятнаццаць хвілін размовы з вамі, з настолькі дасведчаным чалавекам, які мае такі шырокі кругагляд. Дарэчы, я хацеў у вас пра нешта спытаць. А менавіта, ці праўда, што барадаўкі лечацца ўнушэннем?

— Натуральна, — з задавальненнем пацвердзіў японец, — барадаўкі — гэта від псіхічнай хваробы.

— Вось-вось. Я чытаў, — сказаў Друцкі, — што барадаўкі ўзнікаюць на скуры чалавека пасля моцнага непрыемнага ўражання ад выгляду такіх самых барадавак у іншых.

— Не зусім так. Але блізка да праўды. Найчасцей радзімыя плямы, барадаўкі і лішаі пэўнага роду — гэта вынікі ўражанняў, перажытых маці пэўнай асобы падчас цяжарнасці.

— Што? — ускочыў Друцкі. — Дык гэта ўгляданне.

— Угляданне.

— Доктар, вы верыце ва ўгляданне?

Японец зрабіў няпэўны рух рукой:

— Я не тое што «веру». Аднак я перакананы, што ўгляданне як такое існуе.

— Як гэта? І вы лічыце, што навука можа гэта пацвердзіць?

— Даражэнькі, — зморшчыў лоб японец, — уся мая тэорыя электранейронаў ці, калі дазволіце, тэорыя псіхонаў вымушае прызнаць неаспрэчную слушнасць народнага «забабону» пра ўгляданне.

Друцкі нервова падсунуў сваё крэсла.

— Растлумачце мне, калі ласка.

— З задавальненнем. Вы калі-небудзь гадавалі коней або сабак?

— Так, сабак. Некалі я надта любіў паляванне.

— Добра, а вы гадавалі паляўнічых, пародзістых сабак?

— Натуральна, — пацвердзіў Друцкі, — лягавых і гончых. Крыху такс.

— Гаворка не пра гэта. Але вы заўважылі, якія вынікі дае скрыжоўванне пародзістай сукі са звычайным дварняком? — пытаўся японец.

— Ну, я так разумею, шчанюкі будуць непародзістыя.

— Гэтага мала. А што будзе з сукай?

— Ага! — пляснуў Друцкі па каленях. — Ну, сука будзе сапсаваная!

— Менавіта, пан Вінклер, сука будзе сапсаваная. Гэта значыць, што яна ўжо ніколі не народзіць пародзістага патомства, няхай нават далей зацяжарыць ад сабакі найчысцейшай пароды. Тое ж і з коньмі і гэтак далей.

— Гэта праўда, — пацвердзіў Друцкі. — Але што адсюль вынікае?

— Прабачце, спачатку вы павінны прызнаць, што плод уплывае на маці.

— Ну, так.

— Таксама бясспрэчна, што дзіця наследуе ад маці розныя фізічныя і псіхічныя рысы. Праўда?.. А зараз крыху аналогіі і біялогіі. Вам вядома, што, напрыклад, зародак чалавека, як сведчаць вынікі самых скрупулёзных даследаванняў, на сваіх першых этапах, пачынаючы ад апладнення, нічым не адрозніваецца ад зародка рыбы, амфібіі і млекакормячых?

— Ведаю, ведаю, я знаёмы з тэорыяй Дарвіна і бачыў табліцу Гекеля[1].

— Тым лепей. Такім чынам, вы прызнаяце, што далейшае фарміраванне плода, а менавіта яго індывідуалізацыя адбываецца пад уплывам арганізма маці. Пад тэрмінам «арганізм» маецца на ўвазе як фізічны бок, так і псіхічны. Што ж, навука да сённяшняга дня афіцыйна падтрымлівае думку, што плод ужо на самым пачатку павінен мець а priori[2] сталыя псіхічныя рысы, таму што з маці ён звязаны толькі каналам, які носіць назву funiculus umbilicalis[3]...

— А пупавіна? — запярэчыў Друцкі.

— Менавіта, — усміхнуўся доктар Кунокі, — пра яе я і кажу. Усе эмбрыёлагі выключаюць магчымасць псіхічнага ўздзеяння маці на плод, таму што адзіная сувязь цалкам пазбаўлена нерваў. Разважанне, на першы погляд, слушнае: нервы не звязваюць плод з маці, таму ўздзеянне псіхікі маці і расстройстваў гэтай псіхікі падчас цяжарнасці не можа адбіцца на плодзе. Не ведаю, ці дастаткова ясна я гавару.

— Ясней не прыдумаеш.

— Тады, — працягваў японец, — угляданне, паводле гэтых вучоных, — нонсэнс. Відавочнасць гэтага сцвярджэння павінна, аднак, быць грунтоўна перагледжана з моманту адкрыцця мной электранейронаў у зярністых клетках Нісля[4], у пратаплазме нервовых клетак. Вы ведаеце, у чым сутнасць майго адкрыцця?

— Вельмі павярхоўна, — засаромеўся Друцкі.

— Яно заснаванае на выяўленні ў крыві і ва ўсім арганізме нервовых напаўматэрыяльных-напаўэнергетычных хваль, якія з'яўляюцца энергіяй, што пастаянна і незвычайна дакладна вагаецца, а вычэрпваецца толькі тады, калі зярністыя цельцы, што з'яўляюцца нібыта акумулятарамі гэтай энергіі, трацяць зарад і не атрымліваюць новы, а проста знікаюць. Гэта правакуе адміранне нервовых клетак і атрафію саміх нерваў. Дык вось, з моманту гэтага адкрыцця траціць сілу наіўная тэорыя нашых віталістаў, якія, не маючы нічога лепшага, задавольваюцца канцэпцыяй nisus formativus, альбо прадвызначэння авуляцыі і кірунку развіцця вышэйшымі сіламі.

— Гэта страшна мудрагеліста, — уздыхнуў Друцкі, — але мне здаецца, я разумею, пра што гаворка: з моманту вашага, доктар, адкрыцця навукова тлумачыцца факт углядання?

Доктар Кунокі паківаў галавой:

— На жаль, яшчэ не тлумачыцца. Ён можа быць толькі патлумачаны такім чынам, што маці мае псіхічную сувязь з уласным плодам, нягледзячы на адсутнасць нервовых валокнаў, якія маглі б звязваць іх. Калі я гаварыў пра тэлегонію, ці пра псаванне пародзістых самак, то таму, што яно дае нам нагляднае пацвярджэнне ўплыву плода на маці, уплыву настолькі моцнага, што ён захоўваецца да канца яе жыцця, і гэта яскрава адбіваецца на іншым яе патомстве. Чаму ў такім выпадку мы павінны адвяргаць думку пра адваротны ўплыў — маці на плод, пра ўздзеянне ўражанняў цяжарнай маці на канстытуцыю плода?

---

[1] Гекель Э. Г. (1834—1919) — нямецкі біёлаг-эвалюцыяніст, прыхільнік і паслядоўнік вучэння Ч. Дарвіна.

[2] A priori (*лац.*) — ад папярэдняга, веды, атрыманыя па-за вопытам, незалежна ад яго.

[3] Funiculus umbilicalis[11] (*лац.*) — пупавіна, або пупочны канацік.

[4] Клеткі Нісля (*рэчыва Нісля*) — утварэнне, якое можна назіраць пры мікраскапіі нервовых клетак.

— Я сам свята веру ва ўгляданне, — сур'ёзна запэўніў Друцкі. — У мяне шмат прычын, якія замацавалі ўва мне гэтае перакананне. Нават…

Ён завагаўся, расказаць доктару Кунокі пра сына Залкіндаў ці не, і стрымаўся, бо якраз увайшоў Бруніцкі. Было відаць, што ён нечым моцна ўзбуджаны і расстроены. Перад тым як прывітацца з Друцкім, ён шматзначна паглядзеў на японца, а той, перапрасіўшы ў іх, адразу ж выйшаў.

— Як справы, Факір? — нацягнута ўсміхнуўся прафесар, падаючы руку Друцкаму.

— У мяне цудоўна, але ты, Караль, даруй, выглядаеш вельмі знясіленым.

— Гэта мяне падарожжа стаміла.

— Ну канечне, — закурыў папяросу Друцкі, — ты ездзіў за мяжу?

Бруніцкі нахіліў галаву:

— Я быў у… Пятра.

— У Швецыі?

— Так, панура сказаў прафесар і паглядзеў на свайго госця. — Багдане! Я вырашыў паўторна зрабіць аналіз крыві. Даруй мне, але тады тваю кроў браў не я сам, ты мне даслаў… Хіба я ведаю, магла адбыцца якая-небудзь памылка…

— Але ж я ў тваім распараджэнні, Караль.

— Не крыўдуй на мяне, Багдане, бо і ў аналізе крыві Пятра я не быў упэўнены. Школьны доктар ва Упсале таксама мог памыліцца. Я цяпер прывёз узятую мной самім…

— Караль! — усклікнуў з дакорам Друцкі. — Я ж разумею твой стан, навошта гэтыя згрызоты! Я да тваіх паслуг.

Прафесар хутка выняў з кішэні інструмент для ін'екцый і маленькі флакончык са шкляным коркам. Друцкі адсунуў манжэт і іголка бязбольна ўвайшла пад скуру. Не прайшло і хвіліны як на дне флакончыка зачырванела некалькі кропель крыві.

— Слухай, Караль, у мяне ёсць для цябе штосьці, што дакладней за гэты аналіз упэўніць цябе, што Пётр — твой сын.

Бруніцкі паблядрнеў:

— Як гэта?

— Сядай, Караль, і паслухай.

Друцкі расказваў, падкрэсліваючы ўсе важныя дэталі, гісторыю Любы, Залкінда і іх сынка.

Ён гаварыў звязна, проста і коратка, спакойным голасам, аднак Бруніцкі ўвесь час дрыжаў і ўсё больш бляднеў.

— Дык вось, Караль, — скончыў Друцкі, — гэты хлопчык тут, у Варшаве. Тут і яго бацькі. Яны мае сябры, таму напэўна пагодзяцца, каб ты сам мог абследаваць хлопчыка.

Прафесар раптам выбухнуў нервовым смехам.

— І што мне з гэтага? — спытаўся ён з нават абразлівай іроніяй.

— Як гэта? — абурыўся Друцкі. — Ты ўбачыш дзіця, якое мае вочы, падобныя да маіх як дзве кроплі вады, дзіця жанчыны, якая ніколі не была маёй палюбоўніцай.

— Ага! Можна падумаць!

— Караль! Яна сама гатова табе паклясціся!

— Ясная справа! — скрывіў вусны Бруніцкі. — Ты сам кажаш, што яна замужам. Чаму б ёй не паклясціся сто разоў?! Ванда таксама клялася.

— Але ж гэты хлопчык мае бацькавы рысы і яго характар.

Прафесар пацiснуў плячыма.

— Гэта нічога не даказвае. Я ведаю шмат выпадкаў, калі дзеці з цягам часу становяцца падобнымі да прыёмных бацькоў.

Друцкі бездапаможна ўпаў на крэсла і амаль прастагнаў:

— Божа мілы! Дык чым жа я табе дапамагу?!

— Так, так, — працёр лоб прафесар, — ты не забыўся пра сваё абяцанне?..

— Я ніколі не адступаюся.

— Гэта добра… Прабач, Багдане, мой недавер, але ён мацнейшы за мяне, калі нават…

Ён не скончыў, таму што вярнуўся доктар Кунокі і паведаміў, што падаюць на стол.

Ад адзення японца патыхнула хлараформам, і Друцкі па асацыяцыі згадаў катоў.

Ён агледзеўся. Іх у холе не было.

— А дзе гэты кацiны звярынец? — спытаўся ён здзіўлена.

— Здаецца, на прагулцы, — няпэўна адказаў прафесар.

Друцкі рассмяяўся:

— У мяне лепшая прапанова! Калі я вас, панове, угавару правесці вечар у мяне ў «Аргенціне», я вам пакажу аўтэнтычную кацiную музыку.

— Аркестр пераймае катоў? — спытаўся Бруніцкі, паказваючы госцю месца за сталом.

— Не, публіка. Уся публіка мяўкае.

— Дык, можа, ты і нам загадаеш мяўкаць? — спрабаваў жартаваць прафесар.

Японец пасыпаў соллю кавалак хлеба і пераканаўча сказаў:

— Пан Вінклер павінен гэта зрабіць.

Убачыўшы, як прафесар здзіўлена падняў бровы, доктар Кунокі дадаў:

— Ну канечне, прафесар, вы павінны даць сябру сябе ўгаварыць. Гэта неабходна для вашага здароўя. Калі б я выходзіў з дому, то ахвотна б склаў вам кампанію.

— Будзем бачыць, усміхнуўся Бруніцкі. — Можа, і выберуся.

— Доктар, а чаму вы не выходзіце з дому?

Японец пераглянуўся з прафесарам і сказаў іншым тонам:

— Ведаеце… Я не хачу афішыраваць сваю прысутнасць у Варшаве… Я нават папрасіў бы вас нікому не згадваць, што я ў Польшчы і гасцюю ў прафесара. Не люблю агалоскі… Ёсць і іншыя прычыны…

— Я не збіраюся ў гэта ўмешвацца, — адразу ж запэўніў Друцкі. — Паверце мне, доктар, я не з балбатлівых.

На хвіліну ўсталявалася цішыня. Усе моўчкі елі суп. Нарэшце прафесар палічыў патрэбным сёе-тое патлумачыць Друцкаму.

— Я пазнаёміўся, — пачаў ён, кашлянуўшы, — з доктарам Кунокі на міжнародным з’ездзе ў Лондане. І паколькі нас аб’ядноўвалі блізкія і ў некаторай ступені агульныя навуковыя інтарэсы, і доктар на сваёй радзіме не меў адпаведных умоў для даследаванняў, ён згадзіўся прыняць маё запрашэнне і правесці некалькі месяцаў у мяне.

Бруніцкі пастукаў пальцамі па стале і з выразным намерам змяніць тэму размовы спытаўся:

— Як твае справы?

— Дзякуй табе. Выдатна.

Ён расказваў пра «Аргенціну», пра сваю сістэму кіравання гэтай справай, але думкі яго былі занятыя новым, туманным і таямнічым пунктам у непразрыстым жыцці гэтага дома. Не, ён зусім не будзе пра гэта думаць. Навошта, для чаго? Ці мог бы ён неяк прымяніць свае адкрыцці, калі б нават да нечага і дайшоў?.. Канечне, не. Дзеля звычайнай цікавасці ён не паварушыў бы і пальцам. Аднак прадчуванне яму падказвала, што паслугі, якіх патрабуе ад яго Караль, і так усё выявяць.

А між тым, размова зноў скіравалася ў навуковы бок. Увага абодвух вучоных, відаць, надзвычай глыбока была засяроджана на гэтай галіне, каб надоўга магла ад яе адарвацца.

Гэта Друцкага не хвалявала. Ён шчыра цікавіўся ўсім тым, што адкрывала яму цалкам новыя гарызонты пазнання, няхай павярхоўнага і папулярызаванага да такой ступені, каб быць даступным для непрафесіянала.

Калі ён згадаў пра гэта, доктар Кунокі запярэчыў рухам галавы:

— Не, шаноўны, гэтыя галіны новыя не толькі для дылетантаў. Яшчэ мінуць гады, пакуль іх навізна стане штодзённасцю нават у біялагічных лабараторыях. Напрыклад, да сённяшняга дня біёлагі прытрымліваюцца гіпотэзы дэтэрмінацыі полу, якая не вытрымлівае крытыкі, пра гэта мы гаварылі ў холе.

— Вы маеце на ўвазе небам прадвызначанае патомства? — спытаўся Друцкі.

— Не зусім, — працягваў японец. — Сучасная генетыка сцвярджае, што пол плода закладваецца ўжо ў момант апладнення, карацей, у момант карыягаміі, калі адбываецца амфіміксіс…

— Злітуйцеся, — праенчыў Друцкі, я не ведаю гэтай тэрміналогіі!

Японец бездапаможна развёў рукамі ў бок прафесара. Той адразу патлумачыў з усмешкай:

— Доктар кажа пра момант пранікнення сперматазоіда ў яйцаклетку. Тады адбываецца змешванне храмасомных рэчываў клетак двух полаў…

— Так, так, — перарваў Друцкі, — я б вельмі хацеў зразумець. Што гэта за храмасомнае рэчыва?

— Менавіта, — стукнуў пальцам па стале японец, — яны вераць, што гэта субстанцыя ўтрымлівае спадчынныя сувязі. Іх гіпотэза сцвярджае, што ў яйцаклетцы абавязкова ёсць храмасома X, а ў мужчынскім сперматазоідзе храмасомы двух тыпаў: X або Y. Дык вось, на іх думку, сустрэча яйцаклеткі з мужчынскай палавой клеткай X дае нам дзяўчынку, а з клеткай Y — дае хлопчыка! Разумееце?

Японец рассмяяўся, і прафесар таксама.

— А як на самай справе? — спытаўся Друцкі.

— Як на самай справе, мы яшчэ абсалютна дакладна не ведаем, — адказаў доктар Кунокі, аднак жа працяглыя даследаванні Паркеса, а таксама мае сціплыя намаганні паказалі, што пол плода закладваецца ва ўлонні маці пад уплывам двух фактараў. Першы — гэта жаночы гармон, ці фалікула, другі — гэта пралан, ці гармон гіпофізу мозга. Калі тэорыя акажацца слушнай, мы ўжо хутка здолеем з дапамогай адпаведных гарманальных уколаў самі загадваць пол плода.

— Нечувана! — збянтэжыўся Друцкі. — Такім чынам, кожная жанчына зможа, калі захоча, мець сына або дачку?

— Так.

— Цудоўна!

— Мала таго, — усміхнуўся японец, — дакладнае вывучэнне сакрэтаў усіх залоз дасць яшчэ больш сенсацыйныя вынікі. Калі вам захочацца, вы зможаце вырашаць, якім будзе рост, фізічная сіла, колер валасоў і скуры вашага патомства.

— Фенаменальна! І ўсё з дапамогай упырсквання тых ці іншых гармонаў?

— Канечне.

— Ну а ці можна будзе таксама ўплываць на развіццё розуму, на інтэлектуальны ўзровень дзіцяці?

— Я дапускаю, што тут таксама гармоны адыграюць сваю ролю. Урэшце, гэта ўжо і цяпер да пэўнай ступені магчыма шляхам прымянення гіпнозу…

— Я не разумею, — перарваў Друцкі.

— Гэта вельмі проста, — з усмешкай патлумачыў японец, — цяжарнай жанчыне ў гіпнатычным сне ўнушаюцца пэўныя ўражанні, якія, замацоўваючыся ў яе псіхіцы, уплываюць на фарміраванне псіхікі плода.

— Так, — уздыхнуў Бруніцкі, — але ты не думай, што ў гэтым поглядзе можна было дасягнуць хоць бы здавальняючых вынікаў.

— Чаму гэта?

— Бо, primo[1], гэтыя погляды застаюцца пакуль толькі тэорыяй, а secundo[2], яны не могуць быць праверанымі на практыцы, таму што эксперыменты забаронены законам.

Усе ўсталі з-за стала і закурылі.

— У любым выпадку, — захапляўся Друцкі, — гэта проста цудоўна! Да чаго прыйшоў геній чалавека!..

Японец затрымаў яго рухам рукі:

— Не захапляйцеся так людскім розумам. Ёсць істоты, якія ўжо мільёны гадоў умеюць самі ўплываць на фарміраванне свайго патомства. Хадземце ў бібліятэку. Я зараз вам пакажу вынікі іх сістэмы.

— Пра якіх істот вы гаворыце?

Японец палез на паліцу і зняў з яе том, абгорнуты ў скуру.

— Пра мурашоў і тэрмітаў. У прыватнасці, пра тэрмітаў.

Ён адгарнуў некалькі дзясяткаў старонак і падсунуў Друцкаму каляровую табліцу:

— Бачыце гэтых насякомых?

— Так. Гэта розныя віды тэрмітаў?

— Памыляецеся. Гэта чатырнаццаць розных тыпаў аднаго віду, выгадаваных з ідэнтычных ва ўсіх адносінах яек.

Сапраўды, цяжка было ў гэта паверыць. Табліца прадстаўляла насякомых амаль зусім непадобных адно да другога. Адны малыя з велізарнымі галовамі, другія крылатыя, у трэціх былі вочы, у іншых зусім не было сківіц. У самым цэнтры было велізарнае насякомае.

— Гэта матка, — патлумачыў японец. — Гэтая дама звычайна нясе ўсё жыццё, якое працягваецца да пятнаццаці гадоў, тры тысячы яек за гадзіну, і яна ў восем тысяч разоў большая за кожнага тэрміта. Калі яна здохне ад старасці, тэрміты з першага найлепшага яечка выгадуюць яе пераемніцу. З таго самага яечка яны, аднак, могуць з тым жа поспехам выгадаваць кожны з чатырнаццаці відаў, якія адрозніваюцца марфалагічна да такой ступені, што вучоныя вякамі лічылі іх цалкам рознымі стварэннямі.

— Ну добра, — дзівіўся Друцкі, — але як жа яны гэта робяць?

— На жаль, на гэтае пытанне навука яшчэ адказу не дала. Вядома толькі, што гэта не залежыць ад корму, бо ўсе тэрміты ўжываюць выключна цэлюлозу. Затое колькасць корму змяняецца, ну і, верагодна, яечкам робяць масаж, прымяняюць тэрма- і гідрапатыю. Як бачыце, тэрміты значна апярэдзілі чалавека ва ўменні гадаваць свой від так, каб грамадства мела спецыялістаў розных напрамкаў.

— Выключна! — усклікнуў Друцкі.

— Цяпер, відаць, цябе так не ўражваюць вывады, да якіх дайшла бедная чалавечая навука? — спытаўся Бруніцкі.

— Хто б мог падумаць, што калі-небудзь і людзі будуць, як тэрміты, гадаваць гэтак нацццаць відаў чалавека?

Прафесар з павагай кіўнуў галавой, а японец сказаў:

— Натуральна. Тады б мы мелі неверагодна моцных фізічных працаўнікоў, навукоўцаў з велізарнымі мазгамі, піяністаў з нечувана развітым слыхам і значна даўжэйшымі пальцамі…

— Божа мілы! — не стрымаўся Друцкі. — І гэта мне кажаце вы! Людзі з вялікімі ведамі! А гучыць гэта, як фантастычны раман!

Прафесара паклікалі да тэлефона. Друцкі застаўся з доктарам Кунокі, які далей тлумачыў яму работу розных гармонаў.

На дварэ было ўжо цёмна, калі Друцкі развітаўся з ім і з Бруніцкім.

— Да пабачэння, — паціскаў ён далонь прафесара, — а ты зайдзі ў «Аргенціну». Не пашкадуеш.

---

[13] Primo (*лац.*) — спачатку, па-першае.

[14] Secundo (*лац.*) — па-другое.

— Ну добра, добра, паспрабую, — усміхнуўся Бруніцкі.

Калі яны апынуліся ў вітальні, Друцкі спытаў:

— Дык ты не хочаш убачыць гэтага хлопца?

— Не, не!.. Зрэшты, я табе пазваню… Няма ў гэтым сэнсу.

— А калі ты даследуеш кроў, калі ласка, Караль, паведамі мне вынікі.

Барадаты служка замкнуў за ім брамку і з нечаканай прыязнасцю паведаміў праз рашотку:

— Будзьце пільныя, бо сёння слізка.

— Дзякуй, — махнуў яму рукой Друцкі, — я пайду па ветры.

Сапраўды, пасля дзённай адлігі крыху падмарозіла і ўсё пакрылася глазурай галалёду. Неба пачынала іскрыцца. На захадзе ружавела апошнімі рэшткамі дня.

У атэлі чакаў Залкінд, што здзівіла Друцкага, бо гэта не было на яго падобна. Ні ў «Аргенціну», ні ў «Брысталь» ён ніколі не прыходзіў.

Аказалася, што на гэты раз была сур’ёзная размова. Калі яны апынуліся ў нумары Друцкага, Залкінд у некалькіх словах патлумачыў:

— Вы памятаеце, капітан, што я казаў пра мой лясны кантракт і пра гэтых прайдзісветаў Фаерсонаў?

— А, так. Гісторыя на мільён?

— На мільён. Дык вось, яны завалодалі маім кантрактам і хочуць пачаць высечку лесу. Не ведаю, што і рабіць. Я не дазволю сабе высечы столькі грошай.

— Падаць у суд.

Залкінд пачаў тлумачыць, чаму ён гэтага не можа зрабіць. Перашкаджае той факт, што ў абодвух бакоў нелады з законам. Застаецца толькі сілай або хітрасцю адабраць кантракт. Дык вось, не пагадзіўся б капітан паехаць у Белавежу і ўладзіць справу з гэтымі Фаерсонамі?

— Калі трэба ехаць? — коратка спытаўся Друцкі.

Залкінд растлумачыў, што яшчэ не ведае: можа, праз тыдзень, а можа, і праз некалькі месяцаў. Справа толькі ў прынцыповай згодзе капітана.

— Ну тады добра, вы можаце на мяне разлічваць.

Залкінд моцна патрос яго руку. Ён дадаў яшчэ некалькі дэталей і, беручы капялюш, сказаў:

— І яшчэ адно.

— Што такое? — весела спытаўся Друцкі, бачачы заклапочанасць госця.

— Ведаеце, капітан, заўтра імяніны Любы. Дык яна баіцца, што вы не ведаеце. Вы мяне не выдавайце, што я вас папярэдзіў, але ёй будзе так прыемна, калі акажацца, што вы памяталі. Добра?

— Ну дык дзякуй вам, Джэк, канечне, я буду ў вас!

— І яшчэ, — усміхнуўся Залкінд, — вечарам у нас будзе шмат гасцей. Але што гэта за кампанія? Толькі яўрэі… Гэта не для вас…

— Чаму гэта?!

— Не для вас і ўсё. Я ведаю, што гавару. Але абедаць будзем толькі мы і мая пляменніца, студэнтка. Калі б вы неспадзявана прыйшлі, Люба была б рада.

Друцкі ўрачыста абяцаў, пасля чаго пачаў абмяркоўваць справы. «Аргенціна» сапраўды давала салідны даход, і Залкінд быў у захапленні. Ён трохі папракнуў Друцкага за тое, што той пераслаў яму праверыць бухгалтарскія кнігі, але прызнаваў, што такімі кнігамі варта пахваліцца.

— Ну вось бачыце, капітане, — сказаў ён напаследак, — што я меў рацыю. Вы хадзячы капітал!

Залкінд яшчэ раз папрасіў не гаварыць пра свой візіт пры Любе і выйшаў.

«Гэты яе кахае!» — пакруціў галавой Друцкі і падумаў, што сам не здольны быў бы да такога кахання. Ён любіў жанчын, не змог бы без іх жыць і не ведаў бы, навошта, але ён кахаў усіх. Амаль у кожнай адкрываў якое-небудзь новае, індывідуальнае хараство, якую-небудзь не сустрэтую раней дэталь прыгажосці, рысу характару або арыгінальны склад душы, які яго прываблівае.

Ён не ўмеў і не хацеў адмаўляцца ад гэтай прыгажосці жыцця, якая сфарміравала яго шалёную натуру, ад актыўнага жыцця напоўніцу, якое выціскае да апошняй кроплі…

Друцкі пераапрануўся і паехаў у «Аргенціну».

Усё было ў парадку, усе на сваіх месцах, у чаканні публікі, якая неўзабаве пачне наплываць.

Ён прагледзеў замовы на столікі і ложы і сказаў касіру:

— Ну, сёння будзе багатае жніво! Усе ложы замоўлены, і не абы-кім.

— Ах, — вышчарыўся касір, — а колькім асобам мы мусілі адмовіць! Тэлефанаваў дырэктар Шульц, пазней гэты Радван, у якога коні на скачках, нейкі іншаземец, адвакат Лэньчыцкі, інжынер Фум…

— Што?! — перарваў Друцкі. — Адвакат Лэньчыцкі? Калі ён званіў?

— Можа, пятнаццаць хвілін таму.

— І што? Хацеў ложу?

— Ну, так, пан дырэктар, але ўсе ўжо былі замоўленыя. Пазней званіў пан Крупін…

— Пастой, чорт цябе бяры! Дзе тэлефонная кніжка? Дай сюды! — Друцкі хутка перакідваў лісты каталога. Знайшоў нумар і патэлефанаваў:

— Гэта Вінклер. Добры вечар, пан адвакат.

— …

— Здаецца, вы хацелі сёння мець у мяне ложу?

— …

— Пан адвакат, для вас заўсёды. Я пастараюся ўладзіць. Зрабіце ласку. Я забраніръую.

— …

— Мне надзвычай прыемна. Да пабачэння.

Друцкі паклаў трубку і, падняўшы ўказальны палец, сказаў:

— Май на ўвазе! Як толькі адвакату Лэньчыцкаму спатрэбіцца ложа, яна павінна быць! Столік на зале — гэта іншае, павінна быць ложа!

— Але ж, пан дырэктар, — сумеўся касір, — усё было занята.

— Дык вызваліць! Пакажыце спіс… Вось, глядзіце, напрыклад, гэты Гользер. Гэта вельмі добры мужык і пэўна не абразіцца. Звaніце яму і перапрасіце, што не атрымліваецца, што адбылася памылка і прапануйце яму столік ля аркестра. Ён любіць шум.

Друцкі паглядзеўся ў люстэрка і правёў далонню па падбародку:

— Як вы думаеце, — запытаўся ён, — ці не пагаліцца мне?

— Але навошта? Пан дырэктар абсалютна прыстойна выглядае.

У кабінет увайшла панна Тэця, і Друцкі адразу ж спытаўся ў яе:

— Малышка, ці не здаецца табе, што я павінен пагаліцца?

Дзяўчына засмяялася.

— Не. Чым горш вы будзеце выглядаць, тым лепей.

— Ну і добра, — адказаў ён напаўголасу, калі касір узяўся за тэлефон, — добра, зайздросніца, я не буду галіцца, а ты першая будзеш пакарана. Не скардзься, калі я пакалю табе тварык!

Друцкі пагразіў ёй пальцам і пайшоў у буфет.

Пачалі збірацца госці, аркестр ужо граў. Дырэктар зазірнуў у грымёрку артыстак. Там была толькі сеньярыта Фіямета, якая мерала бліскучую дыядэму з рознакаляровых шкельцаў.

Убачыўшы Друцкага, яна зачырванелася і, абапершыся спінай аб сцяну, спыталася:

— Што пан дырэктар загадае?

Друцкі ўзяў яе за падбародак:

— Не злуйся, малышка, што цябе зноў укусіла?

Казя сціснула вусны.

— Ну, гавары ж, малышка!

— Вы яшчэ пытаецеся?! — выбухнула яна. — Вы думаеце, я не ведаю, што гэтая Тэця, гэты слімак, гэта безнадзейная дзеўка, гэтая фальшывая гусь да вас ходзіць! Я ўсё ведаю, сама ўчора бачыла! Так, на свае вочы!

Яна цяжка дыхала, сціскаючы кулачкі.

— Ну і што ж з таго, што ты бачыла? — халодна спытаўся Друцкі.

Паколькі яна маўчала, ён дадаў:

— Што табе да гэтага?.. Не толькі тая бывала, але і іншыя. Бывалі, бываюць і будуць бываць. Ты звар’яцела, ці што? Можа, ты сабе надумала, што я табе ў вернасці прысягну?

— Так, так… бо я такая…

Друцкі пацiснуў плячыма:

— Ні такая, ні сякая. Ты такая, як і любая іншая, і маеш такія самыя правы, гэта значыць, што не маеш ніякіх. Хочаш — добра, не хочаш — таксама добра. Ты смешная.

Казя схапіла яго за руку:

— Не злуйся! Прабач, гэта дурная зайздрасць!

— Я не злуюся. Але патрабую, каб ты была разважлівай. І нават не думай учыніць якую-небудзь непрыемнасць панне Тэці.

— Я яе ненавіджу.

— На здароўе. Але папярэджваю, няхай толькі што… Ну!.. Дык расстанемся з трэскам. А цяпер дай мордачку і пераапранайся.

Казя закінула яму рукі на шыю. Друцкі пагладзіў яе па валасах і выйшаў.

Ён абходзіў залу, вітаючыся з заўсёднікамі.

«Прыйдзе ці не прыйдзе?» — думаў ён.

Друцкі папярэдзіў службу, каб яму адразу паведамілі, калі прыйдзе кампанія адваката Лэньчыцкага. Ён затрымаў кветачніцу і загадаў выбраць букет, вялікі букет руж для пані, якая будзе ў ложы № 9.

— Я ведаю, пан дырэктар, — усміхнулася дзяўчына, — яны павінны быць найпрыгажэйшыя і белыя.

— Так… альбо, хм… няхай будуць чырвоныя.

Аліцыя прыйшла каля дванаццаці з адвакатам і з гэтым добрым доктарам. Можа, яны бывалі б часцей, але кошты «Аргенціны» для іх кішэняў, відаць, былі надта высокія. Друцкі затрымаў афіцыянта:

— У дзявятцы, пан Вжосэк, лічыце, калі ласка, на трыццаць працэнтаў ніжэй.

— Добра, пан дырэктар.

— Але! Толькі далікатна, вы ж разумееце! Не зніжка з усяго рахунку, а кожную пазіцыю знізіць. Я дам распараджэнне касіру.

Друцкі наўмысна да першай гадзіны не пайшоў наверх. Ён бачыў з кута, як кветачніца аднесла ружы, бачыў, як з ложы выглядвалі. Толькі калі пачалася праграма, ён з’явіўся ў ложы Лэньчыцкага.

Аліцыя была тут трэці раз, і з кожным разам яна падавалася яму ўсё больш прывабнай. Даўно ўжо яго так не цікавіла ні адна жанчына. Інстынктыўна ён трымаўся ў яе прысутнасці крыху скавана, але не стараўся цалкам маскіраваць сваё захапленне яе прыгажосцю.

Чухноўскага прысутнасць Друцкага прыводзіла ў роспач. Пры ім ён адчуваў сябе слабым і безабаронным, і тым мацней, чым больш Друцкі аказваў яму паблажлівую прыхільнасць. Доктар усімі сіламі адганяў ад сябе думку, што Аліцыі спадабалася «Аргенціна» менавіта дзякуючы дырэктару Вінклеру. Што ж тут надзвычайнага, калі, раз ён ужо тут, яна абмяняецца з ім некалькімі фразамі? Гэты Вінклер, хоць і амерыканец, цалкам comme il faut[1]...

---

[1] Comme il faut *(франц.)* — як трэба, як належыць, прыстойны, што адпавядае правілам добрага тону.

Аркестр гучаў ашаламляльным рытмам, паветра, прасякнутае пахам віна і парфумы, хвалявала. Лэньчыцкі шчодра даліваў каньяку.

Калі Аліцыя з усмешкай дзякавала за ружы, Друцкі сказаў:

— Я прагнуў бы, каб яны не страцілі свежасці да часу, калі я буду мець магчымасць замяніць іх на іншыя.

— Надта шмат вы патрабуеце ад кветак, — яна смела паглядзела яму ў вочы, — хаця я люблю ружы і запэўніваю вас, што прыкладу ўсе намаганні, каб яны пратрымаліся як мага даўжэй.

— Вы мяне дрэнна зразумелі, — запярэчыў ён. — Я пажадаў бы, каб яны завялі да заўтрашняга вечара.

— Няма ў вас спачування да кветак, — Аліцыя зрабіла выгляд, што не зразумела яго намераў.

— Што ж рабіць, — уздыхнуў Друцкі з камічным жалем, — я эгаіст.

Чухноўскі пачырванеў і спытаўся:

— Як нам гэта разумець?

Толькі Друцкі паспрабаваў адкрыць рот, Аліцыя растлумачыла:

— Дырэктар Вінклер больш клапоціцца аб наведвальнасці клуба, чым аб жыцці руж.

— Хе… хе… — з дасціпнай мінай дадаў Лэньчыцкі, абіраючы банан, — не варта шкадаваць ружы, калі палаюць лясы.

Ён сказаў гэта ні ў пяць ні ў дзесяць, мяркуючы, што ўдала пажартаваў, аднак Аліцыя невядома чаму збянтэжылася і запыталася:

— Ці зладзіце вы нам сёння каціную музыку?..

— Не, — адказаў Друцкі, таямніча падняўшы бровы. — Сёння у нас нешта новае.

— О! Зноў нешта новае? Дык гэта і не музычныя рэбусы?

— Не.

— Раскрыйце нам гэту таямніцу. Вы павінны ўлічваць, што як жанчына я зацікаўлена.

— Што ж, добра, але я раскажу толькі пані. Паны будуць больш цярплівыя.

Друцкі нахіліўся да вуха Аліцыі, але Чухноўскі закрычаў:

— Не, не! Няхай дырэктар не гаворыць. Лепей хай будзе сюрпрыз.

Аліцыя салодка яму ўсміхнулася:

— І ты думаеш, што пан Вінклер мне не скажа?

— Ну, — разгубіўся ад яе тону доктар, — я так думаю…

— Ну дык для цябе будзе яшчэ адзін сюрпрыз. Я слухаю, дырэктар.

Наўмысна яна так наблізіла вуха да вуснаў Друцкага, што ледзь іх не кранула. Пах яе валасоў і скуры напоўніў яго ноздры.

— Пані, злітуйцеся крыху над доктарам, — шапнуў ён перарывістым голасам.

— Ён не варты літасці, — гучна сказала Аліцыя, не адрываючы вуха. — Ну і?

— Будзе гульня ў неапалітанскіх коз, — шапнуў дырэктар.

— Дзякуй, — кіўнула яна галавой, — гэта можа быць цікава.

Друцкі прабачыўся і збег на залу.

Пасля некалькіх выступленняў і агульных танцаў ён з’явіўся ў сярэдзіне сцэны пад апладысменты і пачаў тлумачыць:

— Пад Неапалем multum[1] коз і авечак. Цэлыя статкі. На захадзе сонца статкі вяртаюцца ў загарадзі, і палявыя дарогі выглядаюць тады, як успененыя патокі белай воўны, над якімі ўзносіцца няспынная шматтонавая сімфонія. Ведаеце, я назваў бы гэтую сімфонію бе-е-емоль, калі б у ёй не было ме-е-емоль! Таму я звяртаю вашу ўвагу на неабходнасць справядлівага падзелу на коз і авечак! Я не ўгаворваю вас, панства, каб вы бляялі паводле сваіх перакананняў. Я і так ведаю,

[1] Multum (*лац.*) — вельмі, шмат.

што вы гэта зробіце. Дастаткова, калі вы будзеце памятаць пра стрыжку, якой вы не міняце ў выглядзе рахунку!

Шум смяшкоў і воплескаў напоўніў залу. Нейкі прысадзісты пан з густымі вусамі ўскочыў з-за століка і крыкнуў:

— Класны вы мужык! Далібог! Хай мяне халера, але такому я дам нават сябе пастрыгчы!

Дама з сівізной у валасах з сілай цягнула таўстуна за крысо, заклікаючы да разважлівасці.

— Сядзь жа! Усе глядзяць!

— Не чапай мяне, — раздражніўся вусач, — і што з таго, што глядзяць! Дык няхай глядзяць!

— Брава! Брава! — крычалі адусюль.

— Дырэктар, — з усё большым запалам клікаў таўстун, — на брудэршафт! Я вып'ю з вамі на брудэршафт! Хай мяне пярун трэсне!

— З задавальненнем! — са смехам выкрыкнуў Друцкі.

Таўстун напоўніў два келіхі, яны выпілі на радасць усёй залы, пасля чаго вусач абняў Друцкага за талію і пачаў сціскаць.

Аркестр прагрымеў фанфарай.

Друцкі павольна выпрастаўся і вось ногі таўстуна завіслі ў паветры. Прылеплены да высокага сілуэта Друцкага, ён выглядаў, як велізарны, пузаты мяшок.

Друцкі пачаў павольна скручвацца ў кольца. Раз, другі, трэці, кожны раз хутчэй. Ногі таўстуна апісвалі цяпер шырокія колы, аркестр узяў шалёны рытм, барабан затрашчаў.

— Брава! Брава! — крычалі ўсе.

Мужчыны наблізіся да сцэны. З лож сыпаліся воплескі.

Урэшце Друцкі стаў як укапаны, нечаканым захопам пад пахі падняў таўстуна на ўсю даўжыню рук і паставіў на падлогу.

Неверагодны шум напоўніў залу. Таўстун, крыху збянтэжаны, сціскаў руку Друцкага і, хістаючыся на нагах, наліваў яму віна. Усе ўсталі з месцаў, некаторыя, стоячы на крэслах, размахвалі рукамі, нейкі пан ускараскаўся на край басейна фантана, захістаўся, адчайным рухам паспрабаваў утрымаць раўнавагу, хапаючыся за струмень вады, і плюхнуўся ў басейн, шчодра абдаючы вадой суседнія століκі, за якімі, на шчасце, на гэты момант нікога не было.

— Тапелец! Ратаваць патанаючага! — пачуліся вясёлыя вокрыкі.

— Кінуць яму ратавальны пояс!

— SOS!

— Ратуйце! Ратуйце! — роў «тапелец», утульна седзячы ў вадзе і не думаючы выходзіць.

— Спадарства! Тут нельга купацца! Вылазьце на пляж!

— Мужчыны! Вось поле дзейнасці для герояў! Медаль за ратаванне тых, хто тоне!

Пад небывалы гул «тапельца» дасталі з вады, служба ахінула небараку вялікім абрусам, з-пад концоў якога даносіўся гучны голас:

— Злітуйцеся, дайце каньяку! Паў майго каралеўства за кілішак каньяку!

Пад незмаўкальны гоман ахвяру вынеслі ў кабінет кіраўніцтва. Праз пяць хвілін памочнік швейцара гнаў на машыне дадому да пацярпелага, а праз чвэрць гадзіны вярнуўся з камплектам адзення, бо госць упёрся, што не выйдзе. Яго вяртанне зала павітала гучным брава.

А між тым, пачалася гульня ў «бляянне».

Аліцыя сядзела нерухома. Яе чорныя, напалову прыкрытыя павекамі вочы палалі бунтам і гневам. Колькі ж радасці, бурнага жыцця на свеце! Чаму, чаму гэта праплывае міма яе, чаму яна не можа нырнуць у гэтую хвалю? Чаму гэты чалавек займаецца гэтым натоўпам? Ён жа павінен адчуваць, што гэтая хваля яе абмінае… Ці, можа, ён хоча так расхістаць гэтую хвалю, каб яна сягнула аж сюды…

Друцкі стаяў пасярэдзіне і дырыжыраваў.

Зала грымела бессэнсоўным, дурным, недарэчным бэканнем, раскошным, дзіцячым, жывёльным… Гэта цудоўная арліная лінія чэрапа… гэты ўладны выгін брыва, бляск вачэй і гэты ўбор, якому толькі здаецца, што ён укрывае тонкі стан.

Апрытоміў яе звон і лёгкі боль: так, яна раструшчыла ў руцэ кілішак.

Кроў і віно расплыліся па абрусе каляровай картай.

— Божа! — прастагнаў Чухноўскі і сарваўся з месца. — Аля! Што з табой?

— Я разбіла кілішак, — паціснула яна плячыма.

Доктар змачыў сурвэтку ў вядры з лёдам і клапатліва выціраў пакалечаную далонь.

— Ну, шчасце, — буркнуў ён, — што гэта толькі павярхоўна.

Доктар абвязаў ёй руку хустачкай.

Яны збіраліся выходзіць, і доктар узяў ружы, аднак Аліцыя яго затрымала:

— Не, так нельга. Яны замерзнуць. Загадай афіцыянту запакаваць іх у тонкую, а потым яшчэ ў грубую паперу.

У вестыбюлі яны сустрэлі Друцкага. Ён стаяў з нейкімі мужчынамі, але адразу перапрасіў у іх і наблізіўся да Аліцыі.

— Дзякуй вам вялікі, — сказаў ён з глыбокім паклонам, — і памятайце пра «Аргенціну».

Служкі падавалі Чухноўскаму і Лэньчыцкаму футры.

— Не ведаю, — загаварыла, гледзячы ў столь, Аліцыя, — ці будзе час…

— Вы павінны знайсці, — усміхнуўся дырэктар з нейкай нечаканай для абаіх бесцырымоннасцю.

— Чаму гэта нават павінна? — змерала яго халодным позіркам Аліцыя.

Яна думала, што Друцкі разгубіцца, але ён не апусціў вачэй і сказаў коратка, без усмешкі:

— Бо я прашу. Вельмі прашу.

Аліцыя прыкусіла вусны і адвярнулася да гардэроба:

— Ну? Вы яшчэ не гатовы?

— Ужо, ужо, — абвясціў Лэньчыцкі, змагаючыся з рукавом.

Аліцыя кіўнула галавой Друцкаму і, не падаючы яму рукі, выйшла.

Парцье са здагадлівай усмешкай запытаўся:

— Што, пан дырэктар, жанчына клас?

— Што? — ачуняў Друцкі. — Клас? Вы маеце рацыю, браце! — дадаў ён з усмешкай і так ляпнуў яго па плячы, што той аж прысеў.

Лэньчыцкі прапанаваў Аліцыі яе праводзіць, але яна падзякавала:

— Нам з доктарам трэба перамовіцца. Сядайма, Уладэк, толькі глядзі! Памнеш кветкі!

— Слухаю, Аля, — пачаў размову Чухноўскі, калі машына кранулася з месца.

— Пачакай, пагаворым на месцы.

— А ці прыстойна, — пачаў турбавацца доктар, — цяпер, ноччу, уваходзіць у тваю кватэру?..

У адказ яна толькі паціснула плячыма.

Доктар прадчуваў непрыемную размову і бездапаможна пазіраў на гадзіннік. Аліцыя, аднак, не звяртала на яго ніякай увагі.

Загаварыла яна толькі тады, калі яны апынуліся ў яе пакоі:

— Растлумач мне, калі ласка, што абазначаюць твае неразумныя рэплікі і дзікія міны?

— Якія міны?

— Не рабі выгляду, што не разумееш. Ты добра ведаеш, што я гавару пра твае выступленні супраць пана Вінклера.

— А што... што тут дзіўнага… Я ж цябе кахаю.

— І што з гэтага?

Чухноўскі пабляднеў:

— Таму я не магу цярпець, калі нехта так нахабна захапляецца табой, як гэты... гэты...

— Чаму? Табе гэта перашкаджае? — амаль правакацыйна спыталася Аліцыя.

— Перашкаджае! Перашкаджае, бо ў мяне ёсць вочы, — не стрымаўся доктар, — бо я бачу, што табе ад гэтага прыемна, бо я бачу, што ён табе таксама падабаецца! Але хопіць! Маё цярпенне таксама не бясконцае! Больш мы не пойдзем у гэтую карчму.

Аліцыя не стрымала смех:

— Што-што? Што ты кажаш?.. Ха... Ха... Гэта смешна!.. Дзе ты набраўся такіх манер?

Чухноўскі не валодаў сабой:

— Хопіць! Мне ўжо гэтага па вушы! І гэтай забягалаўкі, і гэтага мужыка, і гэтых яго агідных кветак.

Ён схапіў нераспакаваныя кветкі і кінуў іх на падлогу.

— Падымі! — грозна сказала Аліцыя.

— Не падыму!

— Зараз жа паднімеш, — паўтарыла яна спакойна.

Чухноўскі прастагнаў, падняў букет, пасля чаго бяссільна ўпаў у крэсла.

Запанавала цішыня. У суседняй сталовай гадзіннік прабіў шэсць.

— Чаму, чаму я так цябе кахаю, — выпаліў з горыччу Чухноўскі. — Ох, я не здзіўляюся цяпер, чаму твой муж цябе кінуў, чаму звар'яцеў...

— Памыляешся, — раўнадушным голасам запярэчыла Аліцыя. — Мой муж кінуў мяне па іншай прычыне. Цябе заўсёды цікавіла, чаму? Ты ніколі не рашаўся спытацца ў мяне пра гэта. Зараз я раскажу табе сама. Павел падчас першай шлюбнай ночы пераканаўся, што я не цнатлівая... І ён не мог гэтага прыняць, не мог, не ўмеў з гэтым змірыцца... Ён кінуў мяне, хоць не перастаў кахаць, але нават абвінавачваць мяне не меў права...

— Як гэта, не меў права?

— Ён так казаў, і ты таксама гэта прызнаеш. Я страціла цнатлівасць у чатырнаццаць гадоў. Ён быў моцны, ішоў за мной па вуліцы, узышоў па лесвіцы, гвалтоўна ўварваўся ў кватэру, у якой, на жаль, нікога не было. Узяў мяне гвалтам...

— Жах!.. — прастагнаў Чухноўскі.

Аліцыя сціснула пальцы:

— І бачыш, Павел, нягледзячы на гэта, не мог мне прабачыць!..

— Але ж, Божа мілы! Нікога не было паблізу? Ці ты не магла крычаць?!.

— Так, — паціснула яна плячыма, — я абаранялася, крычала, урэшце хтосьці пачаў стукаць у дзверы. Тады ён выскачыў праз акно на першым паверсе... Ён быў вельмі моцны і спрытны...

— Ну і што, Павел табе не паверыў?

— Паверыў. Павінен быў паверыць. Бо тады атрымалася вялікая авантура, з паліцыяй, з медыцынскімі даследаваннямі, з кампраметацыяй усёй маёй сям'і. Павел нават мог знайсці інфармацыю ў газетах.

— Страшна! А гэты нягоднік? Яго затрымалі?

— Не. Зрэшты, чым бы мне гэта дапамагло? Павел і так не вярнуўся б да мяне.

— Навошта ты мне гэта расказала? — закрычаў раптам доктар з дакорам.

Аліцыя паклала нагу на нагу і пахітала галавой.

— Расказала я гэта для таго, каб ты ведаў, з-за якіх вар'яцкіх, наколькі злачынна безразважных прэтэнзій Павел зламаў жыццё і мне, і сабе. Недарэчная, пачварная рэўнасць да майго мінулага, у якім я не была вінаватая, рэўнасць да маёй крыўды… О не, мой дарагі!.. Я таму расказала табе ўсё гэта, каб ты зразумеў, што ні за якія скарбы свету я не буду жонкай чалавека, які шалее ад рэўнасці,

перастае валодаць сабой і можа ўчыняць сцэны. Я хачу быць незалежнай у сваіх пачуццях, намерах і капрызах. Сёння я дастаткова пра цябе даведалася. І ты слушна прамовіў слова «досыць».

— Аля!..

— Прашу, не перарывай. І яшчэ адно: будзь ласкавы, не рабі з гэтага трагедыі. Я вырашыла скасаваць заручыны. Яны з самага пачатку былі ўмоўныя і з самага пачатку не мелі сэнсу. Ты ведаў, што я цябе не кахаю, што для мацярынскіх пачуццяў ты надта стары, а для пачуцця жанчыны — надта слабы. Досыць гэтага. Ты прыдумаў, што маеш нейкія правы на мяне.

— Аднак, я лічу, што як жаніх я маю права…

— Ты наіўны. Калі мужчына спасылаецца на свае правы ў адносінах да жанчыны, гэта сведчыць пра тое, што ў яго няма ніякіх. Права для жанчыны — гэта бяспраўе, навязаная воля, маральнае насілле. Такое права жанчына шануе і сама ў сабе носіць яго санкцыі.

Аліцыя ўстала і разгарнула кветкі. Пакой напоўніўся водарам руж.

— Я рада, што ты мяне зразумеў, — працягвала яна, ставячы букет у вазу. — Наш шлюб быў бы недарэчнасцю. Ты, відаць, прызнаеш, што ніколі б не здолеў навязаць мне сваю волю, а я не адчуваю радасці ад капання ў тысячах дробязей і лёгкіх перамог.

— Аля, — шапнуў, не гледзячы на яе Чухноўскі. — Малю цябе, каб ты памяняла сваё рашэнне, і даю табе слова, што больш ніколі не ствару нагод для незадаволенасці.

— Ты цудоўны, — засмяялася яна, — і не разумееш, што гэтым самым ты даеш мне нагоду для больш чым незадаволенасці, пагаджаючыся на ролю сабачкі на павадку.

— Аля!..

— Не крыўдуй. Так, Уладэк, я даўно пазбавілася ўжо надзеі, што мы маглі б быць парай роўных і ў той жа час аднолькава залежных адно ад аднаго людзей. Гэта была ўтопія.

Чухноўскі пачаў гаварыць, прасіць, кленчыць хаця б аб прадаўжэнні зносін, ён расплакаўся, малюючы безнадзейнасць сваёй адзіноты, дрыжаў усім целам, стараючыся растлумачыць, наколькі моцна ён яе кахае — дарэмна. Аліцыя не мела звычкі мяняць свае рашэнні, і ён пра гэта ведаў.

— Цяжка, — сказаў ён панура, — ты мяне кідаеш… Кідаеш дзеля яго, дзеля гэтага… Вінклера.

— Ты памыляешся. Звычайна і сапраўды жанчыны кідаюць мужчын дзеля іншага, але я не з такіх. Бывай здаровы!

Аліцыя начапіла ланцуг, патушыла святло ў вітальні і прайшла ў ванную.

Ванна была гатовая. Аліцыя распранулася і стала перад люстэркам.

— Я прыгожая, — падумала яна. — Варта быць прыгожай.

Яна выпрастала рукі. Болю не адчувала. Пра скалечаную далонь яна ўспомніла толькі тады, калі ўбачыла ў люстэрку, як па яе паднятай руцэ сплываюць кроплі крыві, затрымліваюцца крыху над пукатасцю грудзей і, буйныя, пругкія, круглыя, коцяцца ўніз па крутой лініі бядра, робячы звілістую рубінавую сцежку на залацістай скуры.

## Раздзел 8

— Я вазьму гэта, — сказаў Друцкі, паказваючы ювеліру на дыядэму з пяці цудоўных архідэй.

Уладальнік крамы паглядзеў на яго недаверліва:

— Гэта вельмі дарагое ўпрыгожанне, — перасцярог ён.

— Дарагое? Ну зразумела, па ім нават бачна. Што ж рабіць, калі ў вас нічога цікавага, акрамя гэтага, няма. Колькі?

— Чатыры тысячы, — абыякава прамовіў прадавец.

— Чатыры? Хм… Гэта шмат.

— Шмат. Але яно таго каштуе. Сто дваццаць чатыры сапфіры, сорак дзве жамчужыны… а аправа — гэта апагей…

— Я дам тры пяцьсот, — перарваў Друцкі.

— Наяўнымі? — здзівіўся ювелір.

— Калі ласка.

Друцкі дастаў пачак банкнот і адлічыў.

— Шаноўны пан загадае спецыяльна зрабіць дэкаратыўную шкатулку?

— Не. Звычайную паперку альбо скрыначку без лагатыпа.

— Шаноўны пан саромеецца нашай фірмы? — усміхнуўся ювелір. — Мы найстарэйшая і найвялікшая ювелірная фірма ў Польшчы.

— Я рады і жадаю, каб вы сталі яшчэ старэйшай фірмай, але я хачу звычайную скрыначку.

— Як скажаце.

Кватэра Залкінда зноў патанала ў кветках. Люба скончыла прыбірацца. У зале быў толькі Залкінд і яго сваячка, стрыечная сястра Тоня, студэнтка-медык, прыгожая, худзенькая дзяўчына.

Друцкі адразу заўважыў, што яго ўваход перарваў нейкую эмацыянальную размову, бо Тоня была чырвоная і відавочна ўсхваляваная, а ў Залкінда — з’едлівая міна.

— Уявіце сабе, капітане, мая кузіна агітуе мяне стаць бальшавіком…

— Супакойся, перабіла Тоня, — гэта пана не цікавіць.

Друцкі запярэчыў і з жартаўлівай павагай запэўніў яе, што яго вельмі займае гэтае пытанне і што ён сам ужо не раз думаў пра ўступленне ў камуністычную партыю.

З’явілася Люба. У белай атласнай сукенцы яна выглядала ашаламляльна.

— Любімы капітане! — закрычала яна, убачыўшы яго. — Вы памяталі!

— Як я мог забыць! — абурыўся Друцкі.

— Дарагі! Любімы! Я павінна вас за гэта пацалаваць! Барыс! Адвярніся, бо я хачу табе здрадзіць.

Без сарамлівасці яна закінула рукі Друцкаму на шыю і моцна пацалавала ў самыя вусны.

— Ах, Тоня! — уздыхнула яна. — Каб ты ведала, як ён цалуе!

Залкінд таксама смяяўся, але не зусім шчыра, і Друцкі падміргнуў яму, нібыта кажучы: «Ну і варта было мяне запрашаць?»

— Ой! — пляснуў ён сябе па лбе. — Ледзь не забыўся! У мяне ёсць нешта для пані Любы.

Друцкі дастаў скрыначку і падаў ёй.

— Божа, які цуд! — усклікнула яна. — Глядзі, Тоня! Архідэі! Цудоўныя! Якія прыгожыя цяпер умеюць рабіць імітацыі! Вы, відаць, з-за мяжы гэта прывезлі, бо тут я ў ніводнай краме такога не бачыла. Неверагодна!

Дыядэма трапіла, у сваю чаргу, у рукі Залкінда.

— Ой! Люба!..

— Што?

— Пачакай! — ён падышоў да лямпы і крыкнуў: — Люба! Што за глупства ты нясеш?

— Якое глупства?

Залкінд паклаў дыядэму на стол і з грозным выразам твару звярнуўся да Друцкага:

— Што ж вы робіце, капітане! Як так можна? Гэта ж каштуе шалёных грошай! Люба! Ой, ты дурніца, дурніца! Гэта сапраўдныя камяні!

Люба схапіла ўпрыгожванне і ўтароплена разглядала яго з усіх бакоў.

— Такая раскоша! — прашаптала яна ў захапленні. — Такая раскоша! Божа мой! Гэта як мінімум дзве тысячы каштуе.

— Дзве, — перадражніў яе муж, — ausgerechnet[1] дзве? Ну гэта ўжо я дам тры і яшчэ зараблю на гэтым.

— Што ты кажаш! О, Божа!.. капітане! Як я вас люблю!

Друцкі смяяўся.

— Калі б я ведаў, што атрымаю толькі адзін пацалунак, то, можа, не стараўся б адшукаць…

Ён не скончыў.

Люба схапіла яго за шыю і пачала цалаваць яшчэ і яшчэ.

У Друцкага сціснуліся сківіцы, ён крыху паблядне ў і адсунуў яе ад сябе.

— Эй, Джэк! — сказаў ён ціха. — Каб цябе ўзяло ды не адпусціла!

Залкінд засмяяўся:

— Што-о-о-о!..

У яго голасе загучала гордасць, што ў яго такая жанчына, другой такой на свеце не знойдзеш.

У Любы быў казачны настрой. Прысутнасць гэтых двух мужчын, і такіх мужчын, якія абодва яе жадалі і якіх абодвух жадала яна, напаўняла яе сэрца такім дзіўным і такім моцным пачуццём. Яна адчувала сваю жаноцкасць кожным нервам, выпраменьвала яе і ведала, што яна прыгожая як ніколі.

Падчас абеду ўсе пілі шмат віна. Цудоўна адпачывалі. Толькі Тоня сядзела ціхая і паніклая.

Яе прыгнятала хараство Любы, якую яна зараз ненавідзела.

Пасля абеду Залкінд уключыў грамафон.

— Сёння вечарам, — сказаў ён, — будзе аркестр.

— Нам хопіць грамафона, — закрычала Люба і пацягнула Друцкага ў цэнтр пакоя.

Ён танцаваў з ёй, потым з Тоняй і зноў з Любай.

— Капітане, — шаптала яму Люба на вуха, — можа, гэта прагучыць вельмі бессаромна, але я павінна сказаць. Ведаеце, калі б я адчувала сябе абсалютна шчаслівай?

— Ну?

— Калі б магла мець вас абодвух. Барыса і вас. Абодвух.

Яна церлася аб яго ўсім целам, і ў Друцкага круцілася галава.

— Люба, хопіць… Гэта ўжо вышэй за мае сілы…

Тоня выйшла разам з Друцкім.

— Вы можаце адвезці мяне дадому? — спыталася яна.

— З задавальненнем!

Калі яны селі ў таксі, Тоня забілася ў кут і маўчала.

— Што з вамі? — спытаўся Друцкі.

Яна не адказвала.

Ён узяў яе за руку, ссунуў пальчатку і пагладзіў.

— Вам сумна?

Яна вырвала руку, закрыла вочы і пачала плакаць.

Друцкі пасунуўся да яе, абняў і прытуліў.

— Мяне ніхто… не… кахае… — гаварыла яна, усхліпваючы, — мяне ніхто не жадае.

Друцкаму стала шкада яе:

— Ну, ціха… ціха…

Яна падняла мокры ад слёз тварык і ўпілася ў яго вусны.

Далейшая размова была б у гэтых умовах бессэнсоўная, і таму яны абыходзіліся без яе аж да хвіліны, калі машына спынілася.

---

[1] Ausgerechnet (*ням.*) — проста.

— Хадзем, — узяла яна яго за руку.

Ён засмяяўся:

— Я павінен развітацца з вамі, панна Тоня, — спрабаваў ён абараняцца, але, зірнуўшы ёй у вочы, паддаўся.

Яна жыла на трэцім паверсе. Друцкі крыху збянтэжыўся, калі ў вітальні шыкоўнай кватэры паказалася старэйшая дама.

— Гэта мая маці, — зняважліва сказала Тоня, папраўляючы валасы перад люстэркам.

Друцкі пакланіўся, на што дама адказала неахвотным кіўком галавы.

— Не здзіўляйцеся, — патлумачыла Тоня, праводзячы яго ў вялікі прыгожы пакой, — мая маці не бывае ласкавая з маімі знаёмымі. Вып’еце кавы?

— Дзякуй.

— Не?.. Ну дык сядайце. Мая маці пастаянна сілкуецца маральнасцю пратухлай буржуазіі. Старая песня: бацькі і дзеці.

— Ну, але ж яна дазваляе вам…

— Весці такі лад жыцця, які я прызнаю адзіна магчымым? Ох, на шчасце, я паўналетняя. На вас яшчэ, — засмяялася яна, — маман так не скрывілася. Вы прыстойна апрануты і не падобны да камуніста. Ведалі б вы, якія ў мяне бываюць тыпы… Вы толькі не падумайце… Бывае па тры, па чатыры, мы збіраемся на дыскусіі. Яны плююць на дыван, а недакуркі…

— Тоня, і вас гэта ўсё забаўляе?

— Не забаўляе, — пахітала яна галавой, — а прыцягвае. Новыя людзі, новае, бурнае жыццё… Я ведаю ад Любы, што вы таксама любіце бурнае жыццё…

Тоня стала перад ім і спыталася:

— Вы кахаеце Любу?

Друцкі няшчыра засмяяўся.

Тоня паклала рукі яму на плечы.

— Але яна ўплывае на вас. Яе блізкасць не пакідае вас раўнадушным. О, я цудоўна гэта бачыла!

— Панна Тоня, я яшчэ дастаткова малады, каб адчуваць блізкасць любой маладой і прыгожай жанчыны.

Ён узяў яе за талію і пасадзіў ля сябе.

— Не, я тут не хачу, — яна абаперлася і села яму на калені, — я ведаю, што я так сабе. Але ў мяне да вас прапанова: заплюшчыце вочы і ўявіце сабе, што гэта Люба.

Тоня сказала гэта з такой горыччу ў голасе, што Друцкі рашыўся на ўсё, што магло гэтай малышцы давесці, што яна можа быць жаданай.

І паколькі Тоня ніяк не хацела адчапіцца, была ўжо дванаццатая гадзіна, калі ён апынуўся на вуліцы.

Нягледзячы на тое, што было позна, Друцкі ішоў пешшу.

— Халера! — думаў ён. — На свеце столькі жанчын! Страшна шмат!

Ён, аднак, не мог сказаць, што хваляваўся з гэтай нагоды. Калі ён прыйшоў у «Аргенціну», некалькі столікаў ужо было занята. Як звычайна, прагледзеў ліст замоў на століке і з радасцю знайшоў у ім прозвішча Лэньчыцкага.

Зазваніў тэлефон.

— Вазьмі, малышка, — усміхнуўся ён Тэці.

— Гэта нейкі прафесар, — сказала яна, адкладаючы трубку. — Ён ужо другі раз тэлефануе.

— Прафесар?

— Так. Але прозвішча ён вымаўляе невыразна.

Тэлефанаваў Караль. Ён сёння вольны і хоча прыйсці ў «Аргенціну».

— Ур-ра! Чакаю! — закрычаў Друцкі. — Я табе, Караль, гарантую, што ты не пашкадуеш.

З асаблівым запалам дырэктар заняўся аглядам клуба. Ён неймаверна радаваўся. У праходзе ён затрымаў сіньярыту Фіямету:

— Казя! Паслухай, сёння тут будзе мой добры сябар. Вельмі салідны чалавек. Прафесар. Я пасаджу цябе за яго столік, і ты павінна будзеш яго расшавяліць. Разумееш?

— Дык мы не паедзем разам?.. — спыталася яна з расчараваннем у голасе.

— Ах ты, дурнічка! Абяцаў, значыць, паедзем… Яго трэба толькі расслабіць, каб яму было весела. Гэта стары зануда, а я хачу, каб ён пабавіўся, і не абдзірай яго, бо гэта мой сябар. Запомні!

— Я спраўлюся, — упэўнена кіўнула галоўкай Казя.

— І старайся быць… хм… інтэлігентнай, разумееш?

— Будзьце ўпэўнены.

Друцкі пацёр рукі. Гэта малая шэльма сапраўды была настолькі спрытная, што некаторыя госці ахвотна верылі ёй, што яна дачка аргенцінскага арыстакрата і што скончыла Сарбону. Казя ведала з паўтара дзясятка фраз па-французску, якія ёй пакінуў у спадчыну нейкі экзатычны дыпламат, і дасканала аперыравала гэтым капіталам. Яна павінна забавіць Бруніцкага.

Друцкі сам чакаў яго ў холе. Кожны раз, калі адчыняліся дзверы, ён абарочваўся.

— Сёння, напэўна, нейкія важныя госці будуць? — спытаўся швейцар.

— Чаму?

— Ну, бо пан дырэктар асабіста.

У гэты момант увайшла Аліцыя з адвакатам Лэньчыцкім.

Друцкі ззяў, вітаючы яе.

— Як жа я рады! — ён пачціва пацалаваў ёй руку і сардэчна павітаўся з адвакатам.

— «Аргенціна», — прамовіла Аліцыя, — супакойвае нервы… А між тым… ружы ўжо завялі.

Служкі здымалі з яе бабровае футра, таму Друцкі адказаў толькі красамоўным позіркам, і ў той жа момант у люстэрку ён убачыў, што ўваходзіць Бруніцкі.

Ён папрасіў прабачэння ў Аліцыі і сардэчна павітаўся з прафесарам:

— Ну, брава! Я ўжо трымаю для цябе столік ля самай сцэны. Служба!

Бруніцкі здымаў футра і аглядаўся з паблажлівым здзіўленнем, з якім бацькі назіраюць за гульнямі дзяцей, як раптам заўважыў утаропленыя ў сябе вочы Аліцыі і ўсмешку на яе твары.

«Ого!» — падумаў ён і адразу спытаўся ў Друцкага, ці не мог бы ён размясціць яго лепей дзе-небудзь у куточку? Можа, ёсць ложы?

Друцкі задумаўся. У яго не было ніводнай вольнай ложы. Да таго ж, Аліцыя невядома чаму, свідравала прафесара позіркам. Урэшце Друцкі ўзяў яго пад руку, праводзіў у залу і да той пары ўгаворваў, пакуль Бруніцкі не згадзіўся заняць зарэзерваваны для яго столік.

— Добра тут у цябе, нічога не скажаш, — падзяліўся ён уражаннем, — толькі аркестр грае надта гучна.

— Асвоішся, дарагі Караль, толькі табе, канечне, трэба трохі падняць настрой. У мяне ёсць усяго некалькі бутэлек сапраўднага перадваеннага «Бенедыкціна»… Ці, можа, шампанскага?

— Не, даражэнькі, — з усмешкай запярэчыў прафесар, — калі ўжо я тут, то павінен паспытаць, што такое кактэйль.

— Вось і выдатна!

Друцкі сеў побач з ім, выбраў з карты кактэйль «Стары Тоні» і пачаў знаёміць прафесара з арганізацыяй клуба. Праз хвіліну на століку з'явіліся фрукты, чорная кава і два плазаватыя кілішкі мутнай вадкасці з моцным водарам.

Бруніцкі паспытаў — і яму спадабалася:

— Ведаеш, гэта ўвогуле нядрэнна.

Сцэна запоўнілася танцорамі. Голыя плечы жанчын зіхацелі цёплай белізной, жорсткія карсеты мужчын адсвечвалі блакітна-фіялетавым. Мужчыны прыязна ківалі Друцкаму галовамі, жанчыны пасылалі яму тонкія ўсмешкі і страсныя погляды.

— А зараз, Караль, вып’ем кактэйль маёй уласнай вытворчасці: «Буль-буль».

Тут і там з агульнага гоману выстрэльвалі вясёлыя смяшкі, аркестр перайшоў да рэфрэну, каляровае асвятленне напоўнілася густым, здавалася, датыкальным паветрам.

— Моцны, але добры, — пахваліў прафесар, — я не разбіраюся ў спіртным, але ў гэтым напоі, відаць, шмат каньяку.

Друцкі ўводзіў Бруніцкага ў курс, указваючы на розных мужчын і жанчын, тлумачыў, хто гэта, радаваўся здзіўленню Бруніцкага, што такія сур’ёзныя і высокапастаўленыя людзі бываюць у падобнага роду клубах. Нарэшце ён заўважыў, што набліжаецца Казя і сказаў:

— Караль, ты не будзеш супраць, калі тут сядзе гэтая малышка?

— Для чаго? — скрывіўся Бруніцкі.

— Гэта адна з зорак, майстар аргенцінскага танга, донна Фіямета, калі проста — панна Казя. Мілая дзяўчына. Дазволіш?

Не чакаючы адказу, Друцкі ўстаў.

— Сеньярыта Фіямета.

Казя грацыёзна кіўнула галавой і працягнула ззяючую бранзалетамі руку.

Бруніцкі, не маючы дарогі назад, павітаўся з ёй і ўказаў на крэсла:

— Калі ласка!

— Ах, — павярнулася да яго Казя, — мне вельмі прыемна. Што гэта? Вы п’яце кактэйль «Муза»?

— Не, мілая, гэта «Буль-буль», — з павагай адказваў прафесар.

Панна Казя таксама хацела «Буль-буль», а Друцкі, які нецярпліва зіркаў у ложу № 9, нарэшце мог устаць.

— Я на хвіліну, — прабачыўся ён.

Друцкі пайшоў у кабінет і загадаў паклікаць кветачніцу. Папляскаў па шчочцы Тэцю, якая перапісвала рахункі, і, калі кветачніца ўвайшла, запытаўся:

— У вас ёсць што-небудзь для «дзявяткі»?

Дзяўчына з хітра-мудрым выглядам адказала:

— Я ўжо занесла, пан дырэктар.

— Што? Ужо?..

— Я падумала, што пан дырэктар і так…

— Вялікі табе, малышка, дзякуй. Ты амаль такая ж здагадлівая, як і прыгожая.

Дзяўчына бессаромна глядзела яму ў вочы.

— Ты хоць выбрала штосьці лепшае? — запытаўся ён.

— Найлепшае, — сказала яна, не спускаючы вачэй з дырэктара.

— Ах ты шэльма! — не вытрымаў Друцкі, прыцягнуў яе да сябе, пацалаваў у вусны і імкліва выбег на калідор.

Тэця акінула кветачніцу зневажальным позіркам:

— Навошта вам спатрэбілася выбіраць найлепшыя кветкі ў «дзявятку»?

Кветачніца надзьмула вусны:

— Не ваша бабская справа! Будзе тут яшчэ кожная ўмешвацца.

— А далікатней можна? — зачырванелася панна Тэця.

— О! Куды ўжо далікатней? Такая важная дама? Што да Вінклера ліпне…

— Выйдзіце, калі ласка! — крыкнула Тэця.

Кветачніца паціснула плячыма і адчыніла дзверы, але затрымалася на момант на парозе, каб выпусціць ядавітую стралу:

— А калі вы такая разумная, то скажу вам, што ў «дзявятцы» сядзіць такая, што дырэктар ляціць да яе як пчала на мёд. І варта!.. Прыгожая неверагодна, і важная дама. Не такая сабе, прабачце, што клац-клац-клац на машынцы.

Ляпнула дзвярыма і знікла.

— Гадзіна! Подлая гадзіна! — праенчыла панна Тэця.

— Ох, калі б я магла ў гэтай шэрай сукенцы выйсці ў залу і зазірнуць, хто там сядзіць у гэтай «дзявятцы». Няўжо яна настолькі прыгожая?.. Відаць, ён цяпер там з ёй і «ляціць да яе як пчала на мёд»…

Зразумела, Друцкі сядзеў каля Аліцыі і пытаўся, што зрабілася з доктарам.

— Ён мне надакучыў, — сказала Аліцыя.

— Бедалага! — са шчырым жалем уздыхнуў Лэньчыцкі, ужо на падпітку.

— Я б патанцавала, — неспадзявана пажадала Аліцыя.

Друцкі сарваўся з месца. Яго вочы іскрыліся радасцю.

— Не, не зараз. Цяпер граюць танга, а мне б хацелася вальс. Звычайны стары вальс.

— Ну дык загад! Зараз дам загад!

— Не, не, — затрымала яна яго. — Спачатку мы павінны выпіць па келіху віна.

— З задавальненнем.

— Адсутнасць умення танцаваць, — па-філасофску заўважыў Лэньчыцкі, — гэта безнадзейна. Што зробіш, калі я абсалютна пазбаўлены пачуцця рытму!

— Вас, відаць, здзівіла, — звярнулася Аліцыя да Друцкага, — што я адважылася? Я сама сабе дзіўлюся, але я так даўно не танцавала… Давайце вып’ем!..

Сёння вочы Аліцыі блішчалі па-асабліваму, і рухі яе былі больш жвавымі, чым звычайна.

— Вы маеце шалёны поспех у жанчын, — лёгка выпаліла яна.

— Відаць, так, — сказаў Друцкі, падумаўшы хвіліну.

— Думаю, — працягвала яна, — што вы няшмат сустрэлі ў жыцці такіх, хто б вас не хацеў?

Друцкі падняў бровы:

— Не, я такіх зусім не сустракаў, — упэўнена сказаў ён.

— Ад сціпласці вы не памраце.

— Памыляецеся. Проста я сустракаюся толькі з такімі жанчынамі, якія хочуць, каб я іх заваяваў. А іншыя… мяне абмінаюць. Праходзяць міма. Я не існую для іх, а яны не існуюць для мяне. Калі нехта шукае ў лесе маліны, ён не заўважае кветак, і наадварот. Проста не заўважае. Калі ён вернецца з лесу, а мы ў яго спытаемся, ці шмат там было кветак, ён адкажа: вельмі шмат малін.

— Я не пра тое, — схіліла галаву Аліцыя, — я пыталася, ці, збіраючы маліны, вы не захацелі кветак, якіх вам не ўдалося здабыць?

— Я бачыў іх здалёк, але не затрымліваўся ля іх, бо яны гэтага не хацелі. Іх пах вабіць матылькоў або працавітых пчол. А я труцень.

Аліцыя на гэта нічога не адказала, але калі зайгралі вальс і яны сходзілі ў залу, яна запыталася:

— Чаму ж тады вы мяне не абмінулі?

— Таму што… таму што і вы міма мяне не прайшлі.

Ён моцна схапіў яе за талію і яны закруціліся сярод паўтара дзясятка іншых пар.

Ён адчуваў яе кожным нервам і кожнай мышцай. Пах яе валасоў і скуры напаўняў яго ноздры. Яго плячо пружыніла пад цяжарам такога прыгожага, гнуткага цела, у якім — ён ведаў — кроў павінна была таксама пульсаваць часцей.

— Мы не маглі не спаткацца, — працадзіў ён праз сціснутыя зубы, — гэта было б вар’яцтвам…

Аліцыя падняла на яго палаючыя вочы і павольна раскрыла вусны. Яна спакушала яго, правакавала, і абодва добра ўсведамлялі гэта.

Ён так прыціснуў яе да сябе, што выразна адчуў пругкія грудзі, паднятыя хуткім, паспешлівым удыхам. Яна не пратэставала, не адхілілася ад яго.

Друцкі пабляднеў, пульс стукаў яму ў скроні, ноздры раздзьмуліся. Калі б ён мог зараз думаць не пра яе, сам бы сабе здзівіўся, што танцуе і не губляе рытм.

— Праўда? — шаптаў ён. — Праўда? Нашы дарогі павінны былі перакрыжавацца…

Аркестр перастаў граць, і яны сталі пасярод сцэны. Друцкі пляскаў разам з іншымі, і яны зноў пачалі танцаваць.

— Так… — перарывістым голасам сказала Аліцыя. — Натуральна… Для таго перакрыжаваліся… каб… я магла вам падарыць адчуванні, якіх у вас яшчэ не было.

— Мая… мая… — утаропіўся ў яе вочы.

— Не, — патрэсла яна галавой, — не ваша.

— Павінна быць!

— Не! Я, уласна, і хачу быць той адзінай жанчынай, ля якой вы павінны прайсці супраць сваёй волі.

— Не дражніце мяне, — нахмурыў бровы Друцкі.

— Таму што?..

— Я не з тых, з кім гэта можна рабіць беспакарана.

— Вы народжаны перамагаць? — запыталася Аліцыя амаль іранічна. — Утаймавальнік?

— Так! Сто разоў так! І нікуды вы ад мяне не дзенецеся… Самі ведаеце… Павінна… павінна…

Ён бачыў яе цудоўныя вочы, і іх захапленне, і прагу.

— Павінна…

Яна засмяялася:

— Вельмі шкада, але не думаю, што я павінна.

— Аднак жа вы сёння прыйшлі, аднак танцуеце са мной, аднак я вас прыцягваю мацней за іншых, за тысячы іншых. Не падманвайце, вы ведаеце, што не атрымаецца…

Аркестр змоўк.

Перад выхадам са сцэны сабраўся натоўп. Друцкі з Аліцыяй рухаліся павольна і так аказаліся ля століка Бруніцкага. Прафесар сядзеў адзін. Відаць, Казя пайшла, каб прыбрацца, а дакладней распранууцца для свайго танца.

Неспадзявана для Друцкага Аліцыя спынілася і з усмешкай нахілілася да прафесара. Той жа, не ведаючы, што павінен рабіць, ускочыў і таксама пакланіўся.

— Пан прафесар мяне не пазнае, — не цырымонячыся, сказала Аліцыя. — Я даўней у вас вучылася…

У куце залы пачаўся нейкі крык і гвалт. Да Друцкага праціснуўся швейцар і настойліва жадаў яго ўмяшальніцтва. Што ж яму было рабіць? Скандал у куце разгараўся…

— Прашу прабачэння, я на секунду, — ускрыкнуў ён. — Караль, дарагі, можа, ты будзеш такі добры і праводзіш пані ў ложу.

— Ну канечне, — пагадзілася Аліцыя. — Ідзіце.

— Пан прафесар не прыгадвае мяне, а я вам удзячная, нават удвайне…

— Далібог, не прыгадваю, — апраўдваўся Бруніцкі.

— Маё прозвішча Горн. Пан прафесар нядаўна быў такі ласкавы даць інфармацыю пра майго няшчаснага мужа Паўла.

— Ага!.. Так, так… прыпамінаю. Так… бедалага.

— А другое, за што я хачу падзякаваць, — працягвала Аліцыя, — гэта за вашы цудоўныя лекцыі, якія вельмі мне прыдаліся. О, гэта было даўно. Пан прафесар, можа, прыпомніць, калі я назаву сваё тагачаснае, дзявочае прозвішча: Жэраньская…

— Ага, — ветліва пакланіўся прафесар, — ну канечне, панна Жэраньская. Памятаю, а як жа.

Насамрэч ён зусім не памятаў. Доктар праводзіў Аліцыю і, вяртаючыся на сваё месца, раптам спыніўся: «Жэраньская… Ну… так… Жэраньская…»

Ён звычайна не запамінаў прозвішчы, але гэта па нейкай прычыне павінна было яму ўрэзацца ў памяць… Жэраньская.

Калі Бруніцкі заняў месца за сваім столікам, сеньярыта Фіямета ўжо танцавала, а ў верхняй ложы ён заўважыў Друцкага.

Бруніцкі загадаў падаць яму яшчэ адзін кактэйль і, апускаючы ў яго трубачку, зноў задумаўся: «Жэраньская?..»

Друцкі моўчкі сядзеў ля Аліцыі.

— Дык што, — спыталася яна, — вы сёння не арганізуеце забавы?

— А як жа?

— Нешта новае?

— Не. Каты.

Аліцыя прыжмурыла вочы:

— Вы нешматслоўны.

— Вам патрэбна балбатлівасць?

— Дырэктар, — нахіліўся да іх адвакат Лэньчыцкі, — мне здаецца, што вы пасварыліся? Супакойцеся!

— Наадварот, адвакат, — бліснуў вачыма Друцкі, — мы пагадзіліся.

Аліцыя падняла келіх.

— Давайце вып’ем. Пан Вінклер пагадзіўся з… лёсам.

— Вып’ем, — засцерагальным тонам прамовіў Друцкі. — Пані Аліцыя, багіня лёсу, сама з ім не пагодзіцца!

— Я нічога не разумею, — заявіў Лэньчыцкі.

— Я таксама, — адрэзаў Друцкі і ўстаў.

— Вы адыходзіце? — запыталася Аліцыя.

— Не. Барані божа. Толькі выходжу, — зрабіў ён акцэнт на апошняе слова.

— Не ведаю, ці ўдадуцца вам сёння каты.

— Чаму?

— У мяне такое ўражанне, што ў вас прапаў настрой.

Друцкі затрымаўся:

— Вы ў дзяцінстве павінны былі любіць забаўкі, а дакладней, іх псаваць.

Аліцыя пахітала галавой:

— Я ніколі не любіла забавак, таму, уласна, іх і псавала. Я пагарджала забаўкамі.

— Дзякуй вам, — пакланіўся Друцкі з іранічнай усмешкай.

— Не вы павінны дзякаваць, — сказала Аліцыя крыху раздражнёным тонам.

— Дык вы не лічыце мяне…

— Ідзіце ўжо, — перарвала яна, — публіка засумуе.

Друцкі паглядзеў на яе і з выклікам запытаўся:

— Яшчэ адно. Вы дазволіце праводзіць вас дадому?

— Калі ласка, — адказала яна, не вагаючыся.

Друцкі збег па лесвіцы. Яго з’яўленне ў цэнтры сцэны публіка прыняла гучным брава. Ён гаварыў.

Аліцыя прыхілілася галавой да борта ложы і слухала.

Без сумнення, ён заўсёды заставаўся сабой. З кожнай ноты яго нізкага голасу, з кожнага руху біла стыхія. Неўтаймоўная стыхія. Прырода ўзнагародзіла гэтага чалавека адной са сваіх самых таямнічых сіл: жыццёвай сілай!

Жыццё б’е з яго, як гейзер. Ахоплівае, затоплівае…

Аліцыя прабегла вачыма па зале. Жанчыны… Іх погляды не патрабавалі ключа для прачытання зместу жаданняў… Ён валодаў імі… Што б гэта было, калі б раптам якой-небудзь сілай знішчыць у людзей усё, што іх стрымлівае, паняцце аб прыстойнасці, дабрадзейнасці, маралі, будучыні… Што б яны ўсе зрабілі?..

Аліцыя прыжмурыла вочы. Так, вось бягуць да яго, акружаюць шчыльнай, уздрыгваючай масай цел, напоўненых жаданнем… сотні плячэй сплятаюцца ў сетку, сотні грудзей хрыпяць прагай, паглынаюць яго сваёй жаноцкасцю… Прырода складвае іх у ахвярны штабель перад гэтым мужчынам, падсвядомая сіла захавання віду, права натуральнага адбору… Яны выбіраюць менавіта гэтага самца, таму што ён найбольш мужны… Селекцыя… Усёведны інстынкт прымушае іх слепа шукаць у ім бацьку іх патомства…

А яна сама?.. Аліцыя здрыганулася.

Пранізлівае «Міау-у-у-у-у!» прарэзала цішыню.

Другое, трэцяе, дзясятае… Яны нанізваліся на невыразную мелодыю аркестра палкім заклікам.

— Міау-у-у… міау-у-у-у-у…

Аліцыя выцерла лоб і наліла сабе віна.

Адвакат Лэньчыцкі апантана мяўкаў, яго ахрыплы ад алкаголю голас невыносна раздражняў.

Друцкі ўнізе важна дырыжыраваў. Прафесар Бруніцкі, склаўшы рукі на грудзях, смяяўся: яго пенснэ крыху скрывіліся і гэта надавала яму трагікамічны выгляд.

— Адвакат, — Аліцыя пацягнула Лэньчыцкага за рукаў, — супакойцеся!

— А то што? — адарваўся ён ад парапета.

— Досыць! Вы здабываеце з сябе гукі льва, але досыць.

— Цудоўная забава, выдатная!

— Падсуньце мне лепей каву.

А між тым, аркестр пасля бурных апладысментаў зайграў якісьці факстрот, і Друцкі з'явіўся наверсе.

— Не сядайце, — стрымала яго Аліцыя. — Хадземце.

Ён адказаў усмешкай.

Лэньчыцкі заплаціў па рахунку, і яны спусціліся ў вестыбюль.

— І маё футра, — кіўнуў Друцкі.

— Вы выходзіце, пан дырэктар? — падбег здзіўлены касір.

— Так, але я хутка вярнуся. Чакайце мяне з касай. Графу Пашніцкаму з чацвёртай ложы можна рахунак запісаць. Да пабачэння.

— Маё шанаванне пану дырэктару.

На дварэ іх атуліў цёплы павеў ветру. Вуліца была сухая, высока ў небе блішчаў месяц.

— Пойдзем пешшу, — вырашыла Аліцыя.

— Што? — здзівіўся адвакат.

— Я пайду пешшу, а пан Вінклер мяне праводзіць. Вы, адвакат, зразумела, едзеце дадому. Добрай ночы!

Аліцыя падала яму руку.

Адвакат, відаць, прывык ужо да безапеляцыйных рашэнняў Аліцыі, дык і не пярэчыў. Ён сеў у найбліжэйшую машыну і, мінаючы іх, памахаў сваім кацялком.

— Вы заўважылі, што вясна адчуваецца не толькі дзякуючы росту тэмпературы?

— Так. У паветры ёсць нейкая мяккасць, — разняволена сказала Аліцыя.

— Я меў на ўвазе не знешнія змены ў прыродзе, не тыя, што адбываюцца вакол нас, — усміхнуўся Друцкі.

Аліцыя мімалётна зірнула на яго.

— Вы што, нібыта… барометр?

— Проста я ведаю… У дадзеным выпадку гэта можа быць недакладна.

— Што?

— Што вясна ідзе.

— Чаму? Досыць вам зірнуць на каляндар.

— Вы казалі пра барометр. Дык вось, як марак, падарожнік і ўвогуле чалавек, добра знаёмы з компасам, я ведаю, што гэты прыбор не заўсёды паказвае на поўнач. Часам стрэлка паварочваецца да найбліжэйшага металічнага прадмета.

Аліцыя засмяялася:

— Барометр таксама памыляецца?

— Усё магчыма.

— Ну, тады гэта вельмі дрэнны барометр, калі ўва мне прадчувае вясну. Мне, дазвольце, дваццаць дзевяць гадоў. Бліжэй да восені.

— Не, — запярэчыў Друцкі, — восень — гэта перыяд замірання вясны, якая задаволілася летам. А вамі вясна завалодала. Нічога, што яна вас апаноўвае…

— Я ведала дзяўчат, якія да сямідзесяці гадоў сцераглі сваю вясну. Вы мяне не пераканалі.

— У іх ёсць вясна, толькі згусла, як кіслае малако. Але ж ёсць.

— У вас арыгінальныя погляды.

— Дазвольце, гэта не мае погляды. Так мне здаецца зараз. Магчыма, што ўсё зусім інакш.

Яны звярнулі на Макатоўскую і ішлі моўчкі.

— Навошта вы мяне хацелі праводзіць?

— Бо мне з вамі таксама добра, як і вам са мной.

Яна не адказвала. Калі б зараз яна дазволіла сабе прамовіць слова, то не здолела б сказаць іншага, чым тое, што аддало б яе ў няволю.

Аліцыя ўмела валодаць хвіліннымі эмоцыямі. Яна цудоўна ўсведамляла, што разам з гэтым чалавекам не магла б заставацца незалежнай. Яна яшчэ добра не ведала, чаму адчувае ў ім элемент нібыта прыроджанай улады, улады падсвядомай, але не менш захопніцкай, аднак яна ведала, што ёй ён не авалодае.

Друцкі ішоў побач, задуменны і спакойны.

— Вы непадобны да многіх сваіх землякоў. Амерыка не здолела паставіць на вас сваё жахлівае стандартнае кляймо.

— Я з усяго свету, — сказаў ён прама.

— Вы шмат вандравалі?

— Шмат.

— Ну дык раскажыце што-небудзь, — нецярпліва ўскрыкнула Аліцыя.

— Не. І вас, і мяне зараз цікавяць іншыя справы. Вам хіба не хочацца, каб вас… забаўлялі?

— Не.

— Вы пракурор.

— Падпракурор.

— Навошта вы абралі такую прыкрую прафесію?

— Вам абавязкова адказваць?

— Так.

— Ну дык… з-за помсты.

— З-за помсты? Каму вы помсціце?

— Сабе… Зрэшты, ці не ўсё адно? Доўга расказваць.

— Добра. Раскажаце мне гэта заўтра.

— Ані заўтра, ані паслязаўтра… Ніколі. Мы больш не ўбачымся.

Друцкі сурова паглядзеў на яе:

— Няпраўда, — сказаў ён цвёрда.

Сэрца Аліцыі стала біцца мацней. Канечне, няпраўда! Пабачацца заўтра, паслязаўтра, і на наступны дзень, і кожны дзень…

— Праўда, — загаварыла яна спакойна, я больш не прыйду ў «Аргенціну».

— Але гэта нонсэнс! — абурыўся Друцкі. — Бо вы самі пра гэта пашкадуеце!

Аліцыя адвярнулася.

— Што, не так? Не так? — настойваў ён.

— Мне ўсё роўна, — сказала яна холадна.

Рэзкім рухам Друцкі схапіў яе пад руку:

— Вы гэтага не зробіце, нельга ні дзеля мяне, ні дзеля сябе.

Ён так моцна сціскаў яе руку, што ёй стала балюча, і яна катэгарычна прамовіла:

— Пусціце мяне, калі ласка!

Друцкі апамятаўся.

На ўзыходзе неба шарэла. Яны даходзілі ўжо да Палітэхнікі.

— Не буду я з вамі сустракацца, — пачала Аліцыя, кіруючыся выключна эгаістычнымі матывамі. — Скажу вам шчыра… Асцярожна! — крыкнула яна раптам і адскочыла на сярэдзіну вуліцы.

Было ўжо, аднак, надта позна. Цяжкая, жалезная палка ўпала Друцкаму на галаву. Згорбленая чорная постаць кінулася яму ззаду пад ногі, спераду ён атрымаў моцны ўдар паміж вачэй. Не прайшло і секунды, як ён ляжаў на ходніку.

Трэці амбал прыставіў да грудзей Аліцыі доўгі нож:

— Толькі ціхенька, сінічка, ціхенька, бо я так памацаю, што нічога больш не захочацца!

Аліцыя не крыкнула.

Яна бачыла, што Друцкі нерухома ляжыць. Два тыпы выпрасталіся над ім і пільна прыслухоўваліся.

— Ну, паехалі! — рэзкім шэптам паклікаў амбал, які стаяў з Аліцыяй, — забірайце бабкі ў фраера, вашу маць! Чаго чакаеце! Паехалі!

Тыя два схіліліся над ляжачым, і раптам адбылося дзіўнае.

Адзін з іх апісаў велізарную дугу ў паветры і грымнуўся на дарогу, як мех з пяском.

У той жа момант другі перакуліўся ў паветры і апынуўся на зямлі разам з Друцкім.

Секунда — і ён ускочыў, але за пояс яго трымаў Друцкі. Бандыт з нажом, які да гэтага часу пільнаваў Аліцыю, адным скачком дасягнуў іх.

— Асцярожна! — крыкнула Аліцыя і выдыхнула, убачыўшы, што Друцкі зарыентаваўся і абараніўся ад удару амбалам, якога трымаў у руках.

Мімалётам яна зірнула на трэцяга бандыта.

Гэты ледзь рухаўся і поўз на карачках у бок плота стадыёна. На дарозе засталася палка.

Доўга не думаючы, Аліцыя схапіла яе і, замахнуўшыся дзвюма рукамі, хацела выцяць таго, які якраз намагаўся дастаць нажом да плячэй Друцкага.

Яна ведала, куды біць, але адбылося нешта неспадзяванае: Друцкі кінуў амбала, якога трымаў у руках, на яго таварыша, і ўдар жалезнай палкі трапіў на руку, што трымала нож.

Налётчыкі паўскоквалі з зямлі і кінуліся наўцёкі.

Аліцыя паглядзела на Друцкага.

Ён смяяўся.

— Даўно са мной нічога такога не здаралася, — у голасе яго нібыта загучала палёгка.

Па твары Друцкага сцякала кроў. Каўнер футра бездапаможна звісаў, амаль цалкам адарваны.

Аліцыя ўважліва агледзела палку і кінула яе на ходнік.

— Каб яшчэ хто не натрапіў, — спакойна сказала яна, абтрасаючы пальчаткі.

Друцкі выціраў хусцінкай кроў.

— Канечне, — запярэчыў ён. — Я бачыў двух прахожых у канцы вуліцы Снядэцкіх, але, відавочна, яны не хацелі ўмешвацца не ў свае справы. Бандыты ў вас сумку не скралі?

— Не.

— Ну дык хадземце.

Ішлі яны моўчкі. Аліцыя была не з баязлівых. Таму калі ёй гэты Вінклер так моцна і спадабаўся, то не за адвагу, а за сваю незвычайную прысутнасць духу, ну

і за спрыт. Яго мозг, пачуцці і мышцы павінны былі гадамі дзейнічаць у згодзе, бо яны працавалі вельмі зладжана і вокамгненна.

— Ці не здаецца вам, — перарваў Друцкі роздумы Аліцыі, — што трэба было б, аднак, паведаміць у паліцыю.

— Зразумела. Патэлефаную з дому. У гэтым раёне раней не здаралася падобных нападаў.

— Спадзяюся, што такое не паўторыцца.

— Вы думаеце, што напад учынілі менавіта на вас?

— З чаго б гэта, — засмяяўся ён. — Я ні з кім не збіраюся зводзіць рахункі, а значных сум з сабой не нашу. Акрамя таго, калі б гэтыя бедалагі ведалі, з кім ім давядзецца мець справу, — бліснуў ён на Аліцыю вачыма, — то, думаю, што ўзялі б з сабой яшчэ двух-трох таварышаў.

— Так, — сказала Аліцыя, — вы гэта спрытна зрабілі. Я жыву тут… Зайдзіце да мяне наверх, я прамыю вам рану.

— Добра.

Друцкі паправіў каўнер.

— Вось бачыце, — усміхнуўся ён, калі яны прайшлі міма заспанага вартаўніка, — нягледзячы ні на што, я ўсё ж буду ў вас.

— Прашу цішэй, — адказала Аліцыя, упускаючы яго ў вітальню. — Здыміце футра.

Яна ўключыла святло і заўважыла, які бледны яго твар.

— Што з вамі? — спужалася яна.

— Не, нічога. Толькі… можа, вы б дапамаглі мне зняць… што-небудзь з шыі. Мне цяжка левай рукой…

— Зараз.

Аліцыя асцярожна сцягнула з яго футра. Усё ўнутры было заліта крывёй. Над левым плячом нож прабіў фрак, і адтуль яна сачылася.

Трэба было зняць фрак, каўнерык, камізэльку і кашулю. Гаспадыня правяла госця ў ванную, дапамагла распрануцца, прынесла бінт і ёд.

На шчасце, рана не была надта глыбокая, але шырокая і балючая.

Намнога больш Аліцыя непакоілася пра гэтую, над скронню. Тут скура была здзёртая ад удару на некалькі сантыметаў, але мог быць пашкоджаны і чэрап.

— Тут баліць? — пыталася яна, націскаючы каля раны кончыкамі пальцаў. — А тут?.. А тут?..

— Не, не баліць. Крыху шуміць у вобласці лба, але з галавой усё ў парадку.

— Я вам перавяжу галаву.

— Не. Дзякуй. Кроў не ідзе — і добра.

— Можа, кілішак каньяку?

— Барані божа!

Аліцыя хвіліну ўвіхалася, прыбіраючы акрываўленыя кавалкі ваты і мыючы рукі. Потым яна села насупраць Друцкага на край ванны. Толькі цяпер да яе дайшло, што вось ён тут, з перабінтаваным торсам, з мускулістымі плячыма, што хвіліну таму яна кранала яго голую скуру, бронзавую, гладкую і бліскучую. Якія ж зграбныя ў яго грудзі!.. І шыя прыгожая, а моцная, як дуб…

Вочы ў Друцкага былі прыкрытыя, а на вуснах паўусмешка.

І чаму, чаму… ён зараз не скажа ёй: «Я лягу, а ты мяне даглядай, кленч ля ложка… застануся тут з табой і толькі для цябе… толькі…»

У незаслоненае акно ўдарыў першы ружававата-жаўтаваты прамень.

Друцкі расплюшчыў вочы і ўстаў:

— Прашу прабачэння. Я апрануся.

— Я вам дапамагу.

— Дзякуй! Я спраўлюся. Вялікі дзякуй!

— Што ж, зноў вы, відаць, саромеецеся?

— Саромеюся, — адказаў ён з усмешкай.

— Не хвалюйцеся. Я ўсяго толькі самарыцянка.

Аліцыя дапамагла Друцкаму апрануць кашулю, якая якраз прасохла, аднак урэшце павінна была пакінуць яго аднаго, калі і ніжнюю частку кашулі трэба было заправіць у адпаведнае месца.

У гэты час яна некалькімі шпількамі прымацавала каўнер да футра.

— Вы абавязкова павінны выклікаць доктара, — сказала яна, калі Друцкі выйшаў у вітальню.

— Добра. Але я вас таксама аб нечым папрашу. Пакіньце званок у паліцыю на маю адказнасць. Я не хацеў бы, каб ваша прозвішча было замяшана ў гэтым.

— Але чаму?

— Улічваючы ваша становішча і пару, у якую на нас напалі.

— Як хочаце.

— Дык згода? Дзякуй вам і да пабачэння, да заўтра.

— Не.

— Калі б я гэтаму «не» павінен быў паверыць, то не выйшаў бы адсюль увогуле.

— Паверыце тады, калі ўжо выйдзеце.

Друцкі пахітаў галавой, сыкнуў ад болю, рассмяяўся, пацалаваў Аліцыю ў руку і выйшаў.

Аліцыя абаперлася плячом аб дзверы і сціснула кулакі. Яна чула яго крокі на лесвіцы. Чаму ён не вяртаецца?! Божа, чаму не вяртаецца?!

Яе рука сама ледзь не пацягнулася да дзвярной ручкі, каб выбегчы за ім, каб крыкнуць…

Стрымалася. Аліцыя раптам успомніла адну недарэчную сцэну з фільма, дзе наіўная дзяўчына стаіць ля дзвярэй, прыслухоўваючыся да крокаў сыходзячага.

Гэтага было дастаткова, каб апрытомнець.

Аліцыя накінула ланцужок і патушыла святло. Класціся спаць ужо было позна.

Яна прыняла ванну, апранулася ў рабочую сукенку і ўзялася праглядаць акт справы Шэрмана аб кантрабандзе тытуню.

Так яе і заспела Юзэфова, якая прыйшла са снеданнем.

— Панну Юльку ўжо разбудзілі? — спыталася Аліцыя.

— Яна ўжо мыецца, пані.

— Добра.

Паснедалі разам.

— Ты сёння дрэнна выглядаеш, Аля, — казала Юлька, — ты бледная, і ў цябе сумныя вочы.

— Нічога страшнага, дарагая. Ну, затое цяпер я маю час на цябе. Я адвязу цябе ў школу.

Юлька вельмі хацела спытаць, што з доктарам, але інтуіцыя ёй падказвала, што лепей гэтую тэму не кранаць.

Аліцыя адвезла яе на таксі ў гімназію і ў восем пятнаццаць ужо была ў судзе. У гэты дзень у яе было шмат работы і ў дадатак нарада ў пракурора Мартыновіча. Акрамя таго, яна не магла пазбавіцца ад думак пра Вінклера.

«Прыйдзецца, аднак, пацікавіцца яго здароўем».

Урэшце бліжэй да чацвёртай гадзіны яна пазваніла ў «Аргенціну». Нейкі мужчынскі голас праінфармаваў яе, што пана дырэктара ў такі час ніколі не бывае, затое, магчыма, ён у сябе, у «Брысталі».

Там ёй сказалі, што так, пан Вінклер у сваім пакоі, і злучылі іх.

Адказаў вясёлы жаночы голас. Можа, гэта памылка?

— Гэта нумар пана дырэктара Вінклера?

— Так, — адказваў голас, — папрасіць яго?

І, не чакаючы адказу, голас закрычаў:

— Цябе нейкая жанчына…

Аліцыя хутка адклала трубку, адсунула апарат, паправіла каўнер сукенкі і адкрыла наступную папку з актамі.

— Ага… Справа Фабіяна і Марыяны, мужа і жонкі Ячкаў, пра крадзеж векселяў…

Стала цёмна, і трэба было ўключыць лямпу.

## Раздзел 9

Прафесар Бруніцкі з меншай, чым звычайна, увагай слухаў справаздачы доктара Кунокі. Ён падзякаваў калегу і зачыніўся ў сваім кабінеце.

Доўга шукаў нешта ў даўно не чапаных шуфлядах стала, доўга гартаў старыя календары і нататкі, супастаўляў даты розных здарэнняў і ўрэшце запісаў на лістку: «З 25 жніўня па 3 верасня».

Потым загадаў падаць машыну і паехаў ва ўніверсітэцкую бібліятэку.

Памочнік бібліятэкара вельмі здзівіўся, калі прафесар папрасіў адшукаць для яго падшыўкі жоўтай прэсы за пятнаццаць гадоў.

— Пан прафесар, вам «Голас вуліцы»?

— Так. «Голас вуліцы», жнівеньскі і вераснёўскі.

Праз некалькі хвілін кур’ер паклаў перад ім на стол дзве толькі што працертыя ад пылу падшыўкі пажоўклай паперы.

Прафесар шукаў даволі доўга, урэшце знайшоў. Загаловак гучаў так: «Злачынства вырадка». А ніжэй — «Згвалтаваў чатырнаццацігадовую пансіянерку і збег».

Пачаў чытаць:

«Учора ў восем гадзін вечара вучаніца 6-га класа гімназіі пані Вжэцяноўскай, Марыя Аліцыя Жэр…ая заўважыла, што за ёй сочыць нейкі нецвярозы тып у паліто жаўтаватага колеру і ў капелюшы «Панама».

Гэты тып ішоў за ёй па вуліцы Кракаўскае Прадмесце аж да дома па вуліцы Смольнай, 17, дзе жыве панна Ж. са сваім бацькам, гарадскім служачым па прафесіі. Не падазраючы нічога дрэннага, дзяўчына ўвайшла на лесвічную клетку і адчыніла сваім ключом дзверы кватэры. У гэты момант згаданы праследнік штурхнуў яе ўнутр і, замкнуўшы за сабой дзверы на ключ, згвалтаваў безабаронную.

Крыкі няшчаснай і гучны шум, што стварала мэбля, паваленая беднай дзяўчынкай, якая абараняла свой гонар, звярнулі на сябе ўвагу суседзяў, і яны пачалі ламацца ў дзверы. Калі нарэшце дзверы выламалі, то заспелі ахвяру, якая плакала ад роспачы ў падраным адзенні. Адчыненае акно ўказвала на дарогу, якой уцякаў вырадак-злачынец: ён выскачыў, рызыкуючы жыццём, са значнай вышыні другога паверха на брук і, пэўна, нічога сабе не пашкодзіў, бо, карыстаючыся цёмнай парой, збег.

Адразу ж выкліканая паліцыя знайшла згубленыя злачынцам, відаць, у мітусні барацьбы з ахвярай рэчавыя доказы, лісты і да таго падобнае, якія бясспрэчна сведчаць, што вінаватым у жудасным гвалце з’яўляецца (неверагодна) малады інжынер гандлёвага флоту і слухач марской акадэміі Багдан Друцкі…»

Бруніцкі працёр лоб і стаў чытаць далей:

«…сын вядомай і шанаванай сям’і землеўладальнікаў з Падолля. Паліцыя адразу ж накіравалася ў яго кватэру, але аказалася, што злачынец ужо здолеў знікнуць. Верагодней за ўсё, Друцкі збег за мяжу. Ён аб’яўлены ў вышук.

Бедны бацька ахвяры, пан З. Жэраньскі, даведаўшыся пра няшчасце, якое адбылося з дачушкай, страціў прытомнасць. У шырокіх колах вышэйшага грамадства, дзе Багдан Друцкі быў частым госцем, запанавала зразумелае абурэнне».

Прафесар закрыў падшыўку і выйшаў.

Цяпер у яго не было ніякіх сумненняў. Яго мучыла пытанне, ці ўсведамляюць яны, або хтосьці адзін, што іх некалі звязвала?

Таму ён паехаў прама ў «Брысталь». Тут ён Друцкага не заспеў, аднак даведаўся, што пэўна «на досвітку дырэктара Вінклера дома не будзе».

Тады прафесар вярнуўся дадому, апрануў смокінг і паехаў у «Аргенціну».

Друцкага ён заспеў у выдатным, як заўсёды, настроі. На лбе над скронню ў яго быў шырокі шрам, заклеены англійскім пластырам.

— Што гэта, — запытаўся прафесар, указваючы на рану, — у цябе зноў на адну дзірку ў скуры прыбыло?

— А, так, — засмяяўся Друцкі, — я зноў уліп у маленькую авантурку. Відаць, у гэтым і ёсць таямніца майго прызначэння. Мне не трэба шукаць дзве рэчы: авантуры і жанчын.

Да яго дайшло, што гэтага не трэба было гаварыць, і ён прадбачыў прыкрасць на твары Бруніцкага, але той сказаў, паціскаючы плячыма:

— А што ты хочаш. Ты любіш і адно, і другое.

— Можа, і люблю. Я кіруюся тым, што мне прызначана лёсам.

Бруніцкі на гэты раз заняў ложу і папрасіў Друцкага:

— Слухай, ты мог бы прысвяціць мне адзін вечар і пасядзець тут са мной.

— Табе надакучыла донна Фіямета? — не стрымаў смех Друцкі.

— А чаму ты здзіўляешся? Зрэшты, гаворыць яна ўсё пра цябе. Гэтая тэма ёй, відаць, вельмі блізкая. Я, аднак, лічу за лепшае размаўляць з табой, а не пра цябе.

— З двух ліх?

— З двух ліх, — пацвердзіў прафесар.

— Ну дык добра. Я ўладжу яшчэ некалькі спраў і вярнуся да цябе. Можа… можа, сёння ты мне нарэшце растлумачыш, чаго ад мяне хочаш?

— Можа… Я чакаю.

Друцкі збег уніз, аддаў некалькі распараджэнняў, яшчэ раз прагледзеў спіс гасцей, якія замаўлялі столікі, і стаў лаяцца:

— Што за чорт! Гэты Лэньчыцкі што, ашалеў?!

Пяць дзён ужо Аліцыя не заглядвала ў «Аргенціну». Спачатку Друцкі тлумачыў гэта какецтвам, потым задумаўся, ці не варта ўсё ж сур'ёзней аднесціся да слоў гэтай дзіўнай жанчыны пра тое, што больш яна тут не пакажацца, урэшце Друцкі пазваніў Лэньчыцкаму, спытаўся пра яго здароўе і дазнаўся, што адвакат сам намагаўся ўгаварыць пані Горн правесці вечар у «Аргенціне», але безвынікова.

«Яна толькі прыкідвалася, што цікавіцца мной, — падумаў Друцкі, — але калі яна мяркуе, што я пamру ад роспачы, то вельмі памыляецца. У любым выпадку дзіўна».

Хоць ён і абяцаў сабе махнуць на Аліцыю рукой, аднак пільнаваў яе кожны дзень і злаваўся, калі лавіў сябе на гэтым чарговы раз. Ён дакладна ведаў, што не закахаўся ў яе, але таксама добра ўсведамляў, што яго цягне да яе мацней, чым да іншых жанчын. Друцкі думаў, што і з ёй робіцца тое самае, але — як аказалася — ён памыліўся.

— Я да тваіх паслуг, — прамовіў ён, уваходзячы ў ложу Бруніцкага, — і, праўду кажучы, рады, што хоць адзін вечар адпачну і пагутару з табой. Скажы мне, — пачаў ён пытанне, наліваючы Бруніцкаму віна, — паўторны аналіз маёй і крыві твайго сына даў такія ж вынікі, як папярэдні?

— Так. У цябе кроў тыпу «С», а ў яго тыпу «А».

— Вось бачыш, — выдыхнуў Друцкі, — я быў упэўнены ў гэтым. Нейкае пракляцце навісла над нашым сяброўствам, але я перакананы, што ў рэшце рэшт твае даследаванні перакрэсляць усялякія сумненні і ўсе падазрэнні, якія — не кажучы пра мяне — так азмрочваюць светлую памяць пра тваю жонку…

Твар прафесара асунуўся, і ён глуха сказаў:

— Аднак жа яна цябе кахала…

— Давай вып'ем, — перарваў яго Друцкі.

Бруніцкі выпіў кілішак да дна і пахітаў галавой:

— Так, табе неверагодна шанцуе на жанчын… Але a propos[1], — панізіў ён голас, — ты не спрабаваў даведацца, што адбылося з той… ну, з той дзяўчынкай…

— З якой дзяўчынкай?

— З той пансіянеркай, пасля гісторыі, з-за якой ты мусіў уцякаць за мяжу.

Прафесар скосу назіраў за Друцкім, але яго твар быў спакойны.

— Канечне, — кіўнуў той галавой, — я стараўся сабраць інфармацыю. Дык вось, гэтую малую, я да сёння не магу прабачыць сабе маё шаленства, гэтую малую бацька адвёз у вёску. Яе бацька кінуў свой пост у Варшаве і ўзяў у арэнду маленькі фальварак на Палессі. Дзяўчыну паслалі ў Лодзь у гімназію, але датуль хутка даляцелі звесткі пра скандал і трэба было яе перавесці куды-небудзь у іншае месца. Куды — невядома. З таго моманту яе след знік. Я толькі ведаю, што бацька дзяўчыны памёр, калі яна была яшчэ ў Лодзі.

— І больш нічога?

— Нічога.

— Ты звяртаўся калі ў якое-небудзь дэтэктыўнае агенцтва?

— Барані божа, — рассмяяўся Друцкі, — не думай, што я такі наіўны.

— Дык што?

— Я выпадкова натрапіў тут на нейкага Цяржаўскага. Ён крыху сарвігалава, крыху альфонс, а галоўнае, дармаед. Дык вось, гэты блакітны птах некалі быў аканомам ці кіраўніком у маёнтку, суседнім з фальваркам бацькі гэтай малой. Я мог у яго без боязі быць выкрытым усё выпытаць, бо, хоць ён і спрытнюга, але даволі абмежаваны: калі заплаціць за яго вячэру і дазволіць яму расказваць старыя нафталінавыя анекдоты, ён балбоча бесперапынку. Я прыкінуўся вельмі зацікаўленым і выцягнуў з яго яшчэ і тое, што ў адным са сваіх падарожжаў па краіне ён, заўваж, наймаўся на час выбараў агітатарам на мітынгах і сустрэў недзе ў Кутнаўскім ці Плоцкім павеце яе больш далёкую радню, таксама Жэраньскіх ці Жэраўскіх, я ўжо не памятаю. Дык яны ўвогуле адракаліся ад сваяцтва.

Друцкі некалькі разоў стукнуў сябе пальцам па лбе і закончыў:

— Я страшна іх усіх пакрыўдзіў. Вар'ят, асёл!

Прафесар барабаніў пальцамі па стале. Не было сумнення, што Багдан і не ўяўляў, хто такая падпракурор Аліцыя Горн.

— І ведаеш, — працягваў Друцкі, — я ўчыняў у жыцці вар'яцтва за вар'яцтвам, зрабіў безліч глупстваў і ні аб чым не шкадую, нічога не прагнуў бы перайначыць, вярнуць… Адно гэта даймае мяне, як кашмар… Ах, калі б я не быў тады п'яны! Усё з-за гэтага алкаголю! Вып'ем!

Яны пілі. Бруніцкі ўжо трохі захмялеў і таму вырашыў адкласці сюрпрыз да іншага разу або ўвогуле ўтаіць сваё адкрыццё.

Танцпляцоўка тым часам гудзела ад забавы. Гоман размоў, смех і бразгат шкла на фоне бесперапыннай ігры аркестра стваралі настрой, які, здавалася, ужо ўвабралі ў сябе гэтыя сцены.

Друцкі аглядаўся і некалькі разоў пытаўся ў афіцыянта, ці прыйшоў адвакат Лэньчыцкі.

Нарэшце афіцыянт прыйшоў сам з навіной:

— Няма Лэньчыцкага, пан дырэктар, і гэтай пані, што з ім бывае, але прыйшоў пан доктар, такі лысаваты ў акулярах, што з імі хадзіў.

— Адзін? — сарваўся з месца Друцкі.

— Так, пан дырэктар, адзінюткі.

— Дзе ён? — выглянуў ён у залу.

— Тут, пан дырэктар, якраз пад гэтай ложай.

[1] A propos (*лац.*) — дарэчы.

У гэты час Друцкаму падумалася, што, можа, доктара Чухноўскага адправіла Аліцыя.

Нават напэўна, бо дзеля чаго яму прыходзіць?

Друцкі прабачыўся перад прафесарам і, нават не заўважыўшы яго іранічнай усмешкі, сышоў у залу.

Чухноўскі сядзеў адзін за маленькім круглым столікам і піў каньяк. Твар яго зрабіўся яшчэ бляднейшым, чым быў, пад вачыма з'явіліся сінякі, а шчокі запалі.

— Добры вечар, доктар, — павітаў яго Друцкі.

Кроў ударыла ў твар Чухноўскага, а вочы яго заблішчалі з-за пенснэ. Аднак ён устаў і падаў Друцкаму руку.

— Магу я запытацца, — не цырымонячыся, пачаў Друцкі, — чаму доктар апошнім часам такі рэдкі госць у мяне? Можа, што са здароўем, не дай божа?

Чухноўскі падазрона паглядзеў на яго і пацiснуў плячыма:

— Не, я здаровы, дзякуй!

— Вы, як і ваша кампанія, забыліся на «Аргенціну»…

— Што вы кажаце? — здзівіўся Чухноўскі. — Дык і пані Горн не бывае?

— Ды не. Ні пані Горн, ні адвакат Лэньчыцкі. Я рады, што хоць вас бачу, доктар.

— Іх зусім не бывае? — дапытваўся Чухноўскі, нібыта не верачы сваім вушам.

— Зусім. Я нават здзівіўся.

— І я дзіўлюся, — сумна падхапіў доктар…

— Чаму? — з няшчырай абыякавасцю кінуў Друцкі.

Чухноўскі зноў пачырванеў.

— Таму… таму, што я думаў… што мне здавалася… Ну, я меркаваў, што пані Горн была зацікаўлена ў знаходжанні тут.

— Ах, — дадаў Друцкі, — і ў мяне было ўражанне, што пані Горн не сумна ў «Аргенціне».

Ён пашкадаваў ужо, што Чухноўскі прыйшоў, бо сам хацеў сустрэць Аліцыю.

«Небарака!» — падумаў Друцкі.

Проста ў яго галаве не ўкладвалася, каб чалавек інтэлігентны, які, калі не на ўласным вопыце, дык ва ўсякім выпадку дзякуючы літаратуры павінен быў больш-менш разбірацца ў жаночай псіхіцы, а ён настолькі бездапаможны. Друцкі ведаў, што Чухноўскі яго сапернік, але не адчуваў у ім саперніка да такой ступені, што гатовы быў хоць бы зараз ляпнуць яго па калене і ўскрыкнуць:

«Гэй, прыяцель! Ліха цябе бяры, не так дабіваюцца жанчын! Рабі штонебудзь! Дзейнічай, не енч і не румзай, тысяча чарцей!»

Друцкі ўстаў:

— Ну, тады жадаю вам прыемна правесці час… А пры магчымасці перадавайце маё шанаванне пані Горн і пану Лэньчыцкаму.

— Хвілінку, — затрымаў яго руку Чухноўскі, — секунду…

— Слухаю вас!

Доктар грыз ніжнюю губу:

— Не, уласна, нічога… Прабачце велікадушна… Можа, іншым разам…

Друцкі раззлаваўся. З яго было дастаткова! Ён так сціснуў далонь доктара, што той аж сыкнуў ад болю і плюхнуўся ў крэсла:

— Слухай пан, — злосна кінуў Друцкі, — альбо ты мужчына, альбо мяккі бесхрыбетны разявака. Што ты з сабой вырабляеш, гарохавы вянок табе на шыю[1]. Альбо плюнь на сябе і пастаў крыжык, альбо вазьмі сябе ў рукі! Не палезем мы

[1] Гарохавы вянок табе на шыю — паводле польскай традыцыі, гарохавы — вянок, звіты разам з поўнымі стручкамі, — гэта адмова паклонніку, знак нежадання нявесты выходзіць замуж.

ў труну, бо няма чаго! Што ты хнычаш, ліха цябе бяры! У цябе што, два жыцці, чаго ты адзінае жыццё сабе так атручваеш?!

Чухноўскі бяссільна апусціў галаву на грудзі.

— Давай па шчырасці, — працягваў Друцкі, распалены безнадзейнай мінай слухача, — ты глядзіш на мяне, як на ворага, бо думаеш, што я яе ў цябе забраў. Так?

Чухноўскі маўчаў.

— Так ці не? — настойваў Друцкі.

— Так.

— Ну дык я не забраў, бо не атрымаў.

Твар доктара праяснеў, ён быў гатовы абняць Друцкага, што давяло таго ледзь не да шаленства:

— І чаму вы радуецеся, чорт вас бяры! Чаму? Што я не забраў?.. Скажу вам: калі не я, то яе забярэ кожны, разумееце, кожны, толькі не вы. Не я, дык другі, але не вы са сваімі плаксівымі адносінамі да жыцця. Пане, Божа мілы, ці ж вы гэтага не бачыце?

— Бачу… бачу, — падтакваў доктар.

— І што вы зробіце?

— А што я магу зрабіць?.. — з роспаччу развёў рукамі Чухноўскі.

Друцкі ўстаў:

— Павесіцца, даражэнькі, павесіцца. Я б на вашым месцы павесіўся.

Ён быў такі абураны, што выцяў бы гэтага ёлупня тут жа, на месцы.

Друцкі схаваў рукі ў кішэні і, не развітаўшыся, пайшоў наверх.

Ля Бруніцкага сядзела Казя і актыўна заляцалася да прафесара. Бедны Караль выглядаў вельмі няшчасным. Гэта так развесяліла Друцкага, што ён адразу забыўся пра Чухноўскага.

— А… прабачце, — падаўся ён назад, робячы выгляд, што хоча знікнуць, — мне здаецца, што я вам перашкаджаю.

— Не, не, — закрычаў прафесар, — ніколькі, хадзі ж сюды!

— Можа, аднак?.. — цырымоніўся Друцкі.

— Ну хадзі ж! — на гэты раз Бруніцкі прасіў, нібыта крычаў: «Ратуйце!»

— Просім, пан дырэктар, — кінула на яго гарачы погляд Казя.

Як толькі ён сеў, яна пакрысе пачала падсоўвацца да яго.

— Ведаеш, — праз некалькі хвілін рашыўся прафесар, — пра нашы справы пагаворым іншым разам. Сёння і надта позна, і зашмат было віна. Я табе патэлефаную.

Друцкі яго не затрымліваў.

Ён не збіраўся адмаўляцца ад сваіх абяцанняў прафесару, але таксама не спяшаўся іх рэалізоўваць, тым больш што ён не меў паняцця, якіх ахвяр Караль ад яго запатрабуе.

Калі пасля провадаў прафесара ён вярнуўся ў залу, Чухноўскага ўжо не было.

Друцкі сеў на хвіліну за адзін столік, за другі, за трэці, потым паразмаўляў з бармэнам, зазірнуў у склеп і на кухню.

Тут яго знайшоў афіцыянт:

— Пан дырэктар, скандал!

— У зале?

— Не, толькі ў кабінеце пана дырэктара. Гэта бессаромніца Казя…

Друцкі ўжо ведаў, у чым справа. Канечне, скандал з Тэцяй.

— Ну, я ім пакажу! — мармытаў ён сам сабе, ідучы шырокім крокам.

Ён не памыліўся.

Кабінецік выглядаў, як поле бою. Тэлефонны апарат, пішучая машынка і куча папер ляжалі на падлозе. Крэслы былі перавернутыя.

Панна Тэця з растрапанымі валасамі сядзела ў куце на падлозе і залівалася слязьмі.

Донна Фіямета стаяла над ёй у падранай сукенцы і крычала, пагражаючы кулачкамі.

— Ціха! — гыркнуў Друцкі.

Казя апамяталася і, цяжка дыхаючы, звярнулася да яго:

— Пан дырэктар…

— Маўчаць!.. Панна Тэця, устаньце, калі ласка!

Усхліпваючы, сакратарка паднялася і закрыла вочы рукамі, зноў заходзячыся ад плачу.

За Друцкім і афіцыянтам у кабінет праціснулася яшчэ некалькі чалавек з рэстараннага персаналу і з трупы артыстаў.

— Што вам? — цыкнуў на іх Друцкі.

Штурхаючыся ў спешцы, яны выправадзіліся ў калідор.

Друцкі пачаў следства.

Аказалася, што Казя зайшла ў кабінет, каб адпрасіцца ў дырэктара на заўтра, і хацела тут яго пачакаць. Тэця не вельмі ветліва выправоджвала яе за дзверы. Словы перайшлі ў рукапрыкладства, прычым, немагчыма было вызначыць, хто з праціўніц першы распусціў рукі. Друцкі, аднак, ведаючы характар і адной, і другой, не меў ніякіх сумненняў, што напала тэмпераментная сеньярыта Фіямета, а не салодкая і нясмелая панна Тэця.

У канцы гэтага расследавання яму ўжо хацелася смяяцца, аднак, ён стрымліваўся і не мяняў грозную міну. Найперш неабходна было забяспечыць парадак і дысцыпліну. Друцкі добра ўсведамляў, што скандал узнік з-за яго на падставе рэўнасці. Таму таксама не спраўдзіліся прадказанні, якімі дзяліліся цяпер на кухні, у гардэробе, бары, што гучалі адзінагалосна:

— Дырэктар выганіць абедзвюх на ўсе чатыры бакі.

Не выгнаў. Ён загадаў Тэці апрануцца і ісці дадому, а заўтра з’явіцца на працу. Ён таксама папярэдзіў: пасля таго, што адбылося, ён не выплаціць ёй прэмію.

Казю Друцкі затрымаў.

Як толькі яны засталіся сам-насам, дзяўчына расплакалася, пачала прасіць прабачэння, спрабавала яго расчуліць, потым пасылала праклёны ў адрас саперніцы, не шкадуючы самых смачных выразаў.

— Хопіць! — закрычаў Друцкі. — Ведаеш, што цябе чакае, я ж цябе папярэджваў. Касір выплаціць табе належнае — і да пабачэння.

— Даруй! Даруй! Даруйце, пан дырэктар! Клянуся, што больш ніколі, ніколі!..

Яна кінулася перад сталом, за якім ён сядзеў, на калені.

— Устань, бо ты мяне не расчуліш, а калені твае забаляць. Я сказаў — і кропка.

— Гэта адзін раз, — усхліпвала Казя, — апошні раз… Божа, Божа! І гэта з-за такой сцервы, з-за такой малпы!.. Я клянуся!

— Клянешся, а прыдумляеш далей, не веру я табе зусім…

— Я больш не буду, клянуся, што не буду, даруй, прабач, я так страшна цябе кахаю… Я больш гэтую безгаловую малпу пальцам не крану…

Друцкі сарваўся з месца і падышоў да акна. Ён павінен быў схаваць твар, бо смех яго проста душыў.

Нарэшце ён здолеў авалодаць сабой і сказаў:

— Ну, добра, можа, я табе і дарую, але з умовай… Пачакай!

Дзяўчына кінулася на яго і пачала цалаваць:

— О, які ты добры, які каханы, які адзіны…

— Супакойся, — ён адсунуў яе лёгка, але рашуча. — Спачатку выслухай, што я табе скажу. Можа, тады захочаш сысці.

— Не, я ўпэўнена, — пахітала яна галавой.

— Тады слухай. Я пакіну цябе тут працаваць з такой умовай: па-першае, заўтра адразу ж паедзеш да панны Тэці і папросіш у яе прабачэння, а то…

— Няхай, добра…

— Чакай. Прабачышся, пацалаваўшы ёй руку.

— Я? Гэтай халеры?

— Ты — ёй.

Дзяўчына панура глядзела ў падлогу і адказвала:

— Ну, няхай.

— Але гэта не ўсё. Зробіш гэта так, каб я быў задаволены. Разумееш? Не абыяк, а як належыць.

— Ну, няхай.

— Акрамя таго, ты кожны дзень будзеш ёй кланяцца першая, і ветліва!

— Ну, няхай.

— Ніякіх «ну, няхай», — крыкнуў Друцкі, — глядзі мне! Бо цяпер, хай што здарыцца, мы не толькі развітаемся, але яшчэ на развітанне задзяру спадніцу і ўляплю табе па-бацькоўску такое «Ойча наш», што табе тыдзень не будзе на чым сядзець.

Казя кіўнула галавой, памаўчала хвіліну і запыталася:

— Гэта ўсё?

— Калі ты стрымаеш абяцанне, то ўсё.

— Стрымаю… О, ты вельмі жорсткі, але я і такога цябе кахаю.

Казя прытулілася да яго.

— Ты можаш мяне нават пабіць, але я і тады цябе кахаць не перастану… А сёння… сёння ты прыйдзеш да мяне?.. Праўда, прыйдзеш, мой каханы, мой адзіны?

Друцкі рассмяяўся. І што ты зробіш з гэтымі бабамі?! Горшае для яе мінула, і яна цяпер лічыць, што ён не знойдзе нічога лепшага пасля ўсяго, што адбылося, як толькі ісці да яе.

Казя выглядала так апетытна, што Друцкі ледзь не спакусіўся, аднак з педагагічных меркаванняў рэзка адмовіў, не верачы, зрэшты, што яна зразумела сэнс гэтай адмовы. У душы яна будзе здзіўляцца, што яму яшчэ трэба, раз усё ўжо ў парадку.

«Усё мае свае станоўчыя бакі, — падумаў сам сабе Друцкі, едучы ў атэль, — па меншай меры, раз добра высплюся».

— Маё шанаванне, пан дырэктар! — павітаўся з ім начны парцье. — У вас чакае адна пані.

У Друцкага сэрца забілася мацней.

— Аліцыя! — пранеслася ў яго галаве.

Шырокім крокам мчаў ён па лесвіцы і адчыніў дзверы.

На ложку ў капелюшы, футры і ботах сядзела скурчаная — Тэця.

— Катастрафічна цяжка выспацца, — уздыхнуў Друцкі і пачаў распранацца.

## Раздзел 10

Старшыня акруговага суда Турчыньскі хадзіў па пакоі, час ад часу зіркаючы скосу на пракурора Мартыновіча, які, здавалася, задумаўся.

— Аднак цяжка аспрэчыць факт, — пачаў тады старшыня, — што жанчына гэта мае якісьці інстынкт паліцэйскага сабакі, ці — скажам больш мякка — прыроджанага крымінолага. Я ведаю ад адвакатаў, што ў іх проста рукі апускаюцца, калі абвінавачвае яна.

— Таму што пані Горн, — змяніў становішча ў крэсле Мартыновіч, — за палову спраў не бярэцца.

— Менавіта, — затрымаўся перад ім старшыня, — у яе інстынкт. Там, дзе следства не выяўляе вінаватага, у якім яна бачыць сапраўднага злачынцу, яна не

хоча абвінавачваць. Але ж у сотні працэсаў, пачатых ёю, віна была больш чым сумніўная, аднак прысуды выносіліся абвінаваўчыя.

— Не заўсёды, — запярэчыў пракурор, — а справа Кушэльскага? Вы самі ўзначальвалі пасяджэнне, і Кушэльскі быў апраўданы.

— Ну зразумела, — засмяяўся Турчыньскі, — але пані Горн сама мне пазней казала, што вы супраць яе волі навязалі ёй гэта абвінавачванне.

— Навязаў-навязаў, — запярэчыў пракурор, — нічога я не хацеў навязваць. Я атрымаў непасрэдны загад з міністэрства. Урад гэтага жадаў — і ўсё.

— Тым не менш, — настойваў старшыня, — застаецца фактам, што Кушэльскі быў сумленным чалавекам, і яна гэта адчула.

Ён прайшоўся яшчэ раз і павярнуў.

— Незвычайная жанчына, і да таго ж прыгожая, як усе д'яблы.

Мартыновіч з'едліва ўсміхнуўся і прамовіў такім тонам, нібыта змяняў тэму размовы:

— А што, старшыня, вы не збіраецеся жаніцца?

— Я? — стаў як укапаны Турчыньскі.

— Ну, таму што вы халасцяк… хм… так сказаць, на выданні, — неахвотна патлумачыў пракурор.

— Вы таксама халасцяк, — здзекліва заўважыў старшыня.

— Я… а што я… — прамармытаў Мартыновіч, — вы іншая справа.

— Мы аднаго ўзросту.

— Так, але на вас яшчэ жанчыны, пане дабрадзею, звяртаюць увагу. Вы можаце гадзінамі захапляцца…

— Хто, я?

— Вы, вы. Што ж гэта, а хвіліну назад хаця б пані Горн.

— Пані Горн — пракурор, і я выказваў сваё меркаванне пра яе прафесійную кваліфікацыю.

Мартыновіч паківаў галавой.

— Ну, так, канечне. З сённяшняга дня я буду звяртаць пільную ўвагу, ці маюць мае падначаленыя прафесійную кваліфікацыю, гэта значыць, ці яны прыгожыя як усе д'яблы, якія ў іх ручкі, якія вочкі, якія ножкі…

— Я пра гэта ўвогуле не гаварыў, — раздражніўся старшыня, — а калі нават і гаварыў, то лепей казаць, чым пра гэта думаць і заглыбляцца ў падобнага роду разважанні.

— Я таксама не гавару, не думаю.

— Няўжо? З-за гэтага вас тут усе абгаворваюць.

— Мяне абгаворваюць?

— Вас, вас, дарагі пан пракурор. Кажуць, што вы нават худзееце ад кахання да пані Горн.

— Я? Худзею? — зачырванеўся Мартыновіч, — худзею, бо п'ю «Карлсбад». А гэта ўсё плёткі…

Кароткі, моцны стук у дзверы і ўваход Аліцыі Горн як нажом перарэзаў спрэчку.

— Добры дзень усім! — прывіталася яна з усмешкай і адразу расклала перад Мартыновічам нейкія паперы.

Уваходзячы, яна ўмомант адчула, што паміж двума старэйшымі мужчынамі павінна была разгарэцца нейкая спрэчка. Пракурор быў чырвоны, а старшыня нервова скуб вусы. А па позірках, якія яе сустрэлі, яна зрабіла выснову, што размаўлялі пра яе, аднак Аліцыя была ўпэўнена, што нічога дрэннага.

Гэта, зрэшты, не было для яе навіной. Яна добра ўсведамляла, што ёй захапляецца не адзін мужчына ў судзе. Гэта яе не надта радавала, але і не было непрыемна. Урэшце, яна не пазбягала магчымасцей спадабацца, але і не шукала іх.

Яе пазіцыя станавілася ўсё больш трывалай. Не толькі ў Палацы Пацаў, не толькі ў юрыдычным асяроддзі, але і ў міністэрстве яе лічылі адным з самых здольных работнікаў пракуратуры.

Калі ў нейкай ступені падставай для такога меркавання і мела адносіны яе прыгажосць, яна ўвогуле пра гэта не турбавалася.

Таму што найперш яна была жанчынай, іншай, чым большасць, разумнейшай, больш інтэлігентнай, незалежнай у поўным сэнсе гэтага слова і толькі потым пракурорам, што — як яна гэта даказала сваёй паўгадавой дзейнасцю — не толькі не супярэчыла адно аднаму, але стварала адзінае цэлае, чым яна магла ганарыцца.

Вось яна стала жывым доказам паўнавартаснасці жанчыны.

Пракурор Мартыновіч прагледзеў паперы і бурклівей, чым звычайна, выказаў некалькі заўваг, пасля чаго кіўнуў галавой у знак, што ён не затрымлівае Аліцыю.

Старшыня Турчыньскі дэманстратыўна выйшаў разам з ёй. На злосць Мартыновічу!

Па дарозе ён распытваў Аліцыю пра здароўе, пра планы на лета, урэшце перайшоў на стасункі ў судзе, выказаў некалькі заўваг у сувязі з апошнімі справамі і, развітваючыся з Аліцыяй перад дзвярыма яе кабінета, сказаў:

— Я навучыўся верыць у ваш інстынкт крымінолага. Я называю гэта інстынктам, таму што, улічваючы ваш узрост, не магу казаць пра вопыт. Я не магу сабе растлумачыць толькі адну рэч: якім цудам у вас, істоце настолькі жаноцкай, аказаўся талент, які стагоддзямі вылучаў мужчыну.

— Прысвоены мужчынам.

— Скажам, — рассмяяўся Турчыньскі, — створаны і манапалізаваны, таксама, як і шмат іншых сфер: кіраванне, вядзенне войнаў, судоў.

— Я, аднак, настойваю на слове «прысвойванне», — звярнула ўвагу Аліцыя.

Яны стаялі на калідоры і павінны былі бясконца адказваць на паклоны мноства праходзячых па ім людзей.

Акрамя таго, старшыня, відаць, не жадаў перарываць размову, бо спытаўся:

— Тады, на вашу думку, некалі мужчыны дзялілі з жанчынамі прывілею кіравання, ажыццяўлення судоў і да таго падобнае?

— Не дзялілі, таму што ўвогуле ёй не валодалі. Бо вы ж ведаеце, што першасная арганізацыя людскіх грамадстваў была заснаваная на матрыярхальным ладзе. Патрыярхат налічваў, калі гаворка пра Еўропу, тры, да чатырох тысяч гадоў…

— Дробязь, — жартаўліва заўважыў старшыня.

— Сапраўды, — сур'ёзна сказала Аліцыя, — дробязь. Малюсенькі фрагмент гісторыі чалавецтва. А перад гэтым доўгія тысячагоддзі панаваў матрыярхат, кіравалі толькі жанчыны. І, відаць, рабілі гэта дастойна, паколькі сёння свет у захапленні адкрывае рот ад этрускіх адкрыццяў і эгейскіх, цывілізацыя якіх больш развітая, чым эпоха Версаля, і культура больш цудоўная і высокая, чым наша сучасная.

— На жаль, я нічога пра гэта не ведаю. Ніколі я гэтым не займаўся, — развёў рукамі старшыня, — але, прымаючы гэта пад увагу, я не думаю, што вы хацелі гэтым сказаць, нібыта свет вяртаецца да матрыярхату?

— Хто гэта можа ведаць, — усміхнулася Аліцыя. — Мы сапраўды з'яўляемся сведкамі павароту жанчыны да актыўнага грамадскага і дзяржаўнага жыцця, але ў нас надта малы адрэзак часу для назірання. Аднак жа ўсё, здаецца, пацвярджае… апаскі пана старшыні.

— Калі гэты лад закліканы нас, мужчын, прымусіць адрачыся на карысць такіх жанчын, як вы, паверце мне, што мае апаскі зменяцца шчырай радасцю.

Старшыня сказаў гэта з такой абаяльнай ветлівасцю джэнтльмена старой добрай вывучкі, што Аліцыя падзякавала яму самай мілай і какетлівай сваёй усмешкай.

Старшыня галантна пацалаваў яе руку, і яна выразна чула, як — адыходзячы — ён моцна кашлянуў ад задавальнення.

Працавала яна ў гэты дзень толькі да дзвюх гадзін. Юлька ліхаманкава рыхтавалася да выпускных экзаменаў, і Аліцыя прысвячала шмат часу штудзіраванню з ёй цяжэйшых прадметаў.

Цяпер, калі яна цалкам асвоілася на рабоце ў судзе, калі перастала бываць у рэстаранах і не было Чухноўскага, Аліцыя амаль цалкам занялася Юлькай. Яна яе вельмі любіла і галоўным пунктам у сваіх амбіцыях лічыла выхаванне з Юлькі самабытнай жанчыны, істоты разумнай, духоўна незалежнай, а па жыцці самастойнай.

Такую яна выпусціць яе ў жыццё. Узброеную і абароненую перад усялякімі недарэчнымі ўдарамі, знешнімі і ўнутранымі, якія Аліцыя сама мусіла пераджыць і якія ледзь не знішчылі яе цалкам.

Юлька праз гэта ўжо не павінна будзе праходзіць.

Цяпер яна яшчэ дзіця з занадта мяккай натурай, надта гібкай і схільнай да зручнай, але згубнай для жанчыны ролі плюшчу.

Планам Аліцыі супярэчыла і чуллівасць Юлькі, якая выяўлялася ў яе надзвычайнай уразлівасці ўсялякімі эратычнымі тэмамі, якія сустракаюцца ў міфалогіі, анатоміі, псіхалогіі, гісторыі ці нават у старанна падабраных Аліцыяй белетрыстычных творах. У малой потым былі сны, поўныя ўзбуджальных карцін і рамантычных сітуацый.

Прывучаная гадамі, яна заўсёды расказвала іх Аліцыі, зачырванелая і з бліскучымі вачыма.

Снам Аліцыя надавала вялікае значэнне, старанна іх занатоўвала і шукала да іх ключы ў псіхааналізе. Яна не была заўзятай прыхільніцай фрэйдызму, аднак карысталася многімі псіхааналітычнымі метадамі пры выхаванні Юлькі.

Аліцыя бачыла ў яе надта моцную схільнасць да ласк. Юлька з дзяцінства надта любіла прытулянні, абцалоўвала сваіх сяброўак, абажала мужчын, якія насілі яе на плячах, і любіла прысаджвацца ім на калені. Цяпер жа яна калекцыянавала фатаграфіі кінаартыстаў і ўсе свае дробныя зберажэнні траціла на пакупку гэтых паштовак.

Усё гэта непакоіла Аліцыю.

Яна і сама дзяўчынкай — гэта яскрава адклалася ў памяці — была вельмі пачуццёвая. Можа, меней гэта паказвала, чым Юлька, аднак колькі ж начэй праводзіла яна без сну, згараючы ў найбессаромнейшых летуценнях і да крыві грызучы пальцы, заплямленыя школьным чарнілам.

Таму яна не баялася пачуццёвасці Юлькі, пачуццёвасці, можа, такой жа моцнай, але раўнейшай і не такой бурлівай. Тым больш, Аліцыя была перакананa, што яна з лёгкасцю здолее развіць у дзяўчыне дастаткова моцную стрыманасць, паколькі пры сваім уласным, значна больш небяспечным характары, яна яшчэ падлеткам настолькі валодала сабой, што ў імгненне, калі на яе кінуўся мужчына, у імгненне, калі нарэшце ажыццяўляўся выпеставаны ў марах доўгімі начамі момант аддання, яна знайшла ў сабе дастаткова сіл і волі, каб уцякаць па цёмнай кватэры, змагацца і абараняцца да канца. Калі яна ўжо тады спазнала шалёную, дзікую, неверагодную асалоду, то ўжо хвілінай пазней знайшла, аднак, у сабе дастаткова душэўнай сілы, каб аддзяліць ашаламляльнае перажыванне свайго цела ад сябе, каб абудзіць у сабе нянавісць, жаль і пагарду да гэтага чалавека. Тым больш, што з цягам часу, па меры сталення свядомасці, яна зрабіла рэвізію і карэкцыю гэтых пачуццяў. Засталося фактам, што яна мела цудоўна развітую вытрымку.

Тым лягчэй Аліцыі ўдасца выхаваць яе ў Юлькі.

Яны цяпер зблізіліся яшчэ больш, наколькі гэта магчыма.

Яны былі адны.

Ніхто ў іх не бываў, і яны ні ў кога. Аліцыя не прызнавала свецкага жыцця, лічыла яго пустым, марным і, адпаведна, прызначаным выключна для натур неглыбокіх, пазбаўленых унутранай сутнасці і якіх бы тое ні было разумовых амбіцый.

Юлька, якая абагаўляла сваю апякунку, цалкам з ёю згаджалася і не сумавала па іншых забавах, чым тэатр, кніга, выставы карцін або лекцыі. Гэтага ёй хапала.

Зрэшты, звычайна яе цалкам паглынала навука. Хвіліны адпачынку яна запаўняла марамі пра выезд на мора і праз кожныя некалькі дзён, для пацвярджэння сваіх планаў, пыталася:

— Скажы, Аля, як ты думаеш, я хутка навучуся плаваць?

Альбо таксама:

— А хвалі ў Балтыйскім моры якой вышыні?

Кароткія, змястоўныя адказы Аліцыі гучалі для Юлькі як пацвярджэнне: «Так, мы паедзем на мора».

Аліцыя сама шмат пра гэта думала, канстатуючы дрэнны стан сваіх нерваў. Неабходна было на нейкі час змяніць асяроддзе. Яна не прызнавалася сама сабе, што кожны дзень увечары пасля засынання Юлькі, адчувала абыякавасць да ўсяго і пустату свайго жыцця. Яна тлумачыла гэта хвіліннай дэпрэсіяй, і калі б не надаедлівыя ўспаміны, якія — ледзь яна прыплюшчвала вочы — навявалі ёй вобраз высокага плячыстага мужчыны з дзіўна залацістымі зрэнкамі, калі б не рэха яго нізкага, хвалюючага голасу, якое ў цішы гучала трывожна, яна магла б паверыць, што сцерла з памяці ўсё, што мела хоць якую-небудзь сувязь з Вінклерам.

Яна ні разу яго не спаткала, што лічыла нават дзіўным, бо столькі знаёмых сустракаецца на вуліцы.

Ну і добра: яна што, у гэтым, у ім, зацікаўлена? Ён казаў, яны не маглі прайсці міма адно аднаго, а што ён зрабіў, каб яе затрымаць? Нічога! Абсалютна нічога! Пакінуў ёй магчымасць удастоіцца гонару быць залічанай у яго гарэм! Ён груба памыліўся! Вельмі груба!

Нават не зрабіў ласкі патэлефанаваць! Напісаць! Ён паспрабаў сустрэць яе выпадкова? І пальцам не варухнуў!

Ганарлівец! Яму здавалася, што яна, як іншыя, не зможа адвярнуцца ад яго, пакорліва прыме ролю адной з многіх, не здолее пра яго забыцца…

Не змог правільна яе ацаніць, дык не варты ён ні яе, ні яе памяці.

Настолькі не варты, што яна б пра яго не памятала, калі б памяць залежала ад волі чалавека.

**Працяг будзе.**

***Пераклад з польскай Веранікі БАНДАРОВІЧ.***



**Вераніка ЖУКАВЕЦ**

# ПАЭЗІЯ МЭН ХААЖАНЯ: БЕЛАРУСКА-КІТАЙСКІ ДЫЯЛОГ

Эпоха Тан (618—907 гг.) займае асаблівае месца ў шматвяковай гісторыі Кітая, уяўляе сабой складаную і разнастайную карціну грамадска-палітычнага і культурным жыцця Сярэдзіннай дзяржавы. Уражваюць дасягненні танскай культуры і літаратуры. Мастацкая спадчына гэтага перыяду, асабліва паэзія, невычарпальная: «…для трохсот гадоў Тан поўны збор усіх выяўленых вершаў склаў ужо дванаццаць тамоў, куды ўвайшлі 48900 вершаў 2200 паэтаў» [1, с. 31].

На розных этапах гісторыі Тан узнікаюць і захоўваюцца агульныя матывы і формы вершаскладання, але ў той жа час яны з'яўляюцца ўнікальнымі для свайго перыяду, кожнае пакаленне паэтаў удасканальвае дасягненні папярэдніх. Аднак не варта забываць, што на станаўленне і росквіт кітайскай культуры на працягу трохсот гадоў уплывалі значныя сацыяльна-палітычныя падзеі: праўленне Сюань-Цзуна (玄宗, 712—756 гг.) і яго апякунства мастацтвам, паўстанне Ань Лушаня (安禄山, 755—757 гг.) і маштабныя разбурэнні, гады неўраджаю і разбою, паслабленне цэнтральнай улады і пачатак міжусобных войнаў генералаў за ўладу, паўстанне Хуан Чао (黄巢, 874—884 гг.). Адной з характэрных рыс эпохі можна лічыць функцыянаванне розных вучэнняў, з-за чаго ўзнікаюць цяжкасці з вызначэннем таго ці іншага паэта як канфуцыяніна, будыста або даоса. У сувязі з гэтым нельга не згадзіцца з акадэмікам М. Федарэнкам, які адзначаў, што «ўсе гэтыя складаныя і супярэчлівыя з'явы ў духоўным жыцці кітайскага народа не маглі не знаходзіць свайго адлюстравання ў слоўнай творчасці і мастацтве, спараджаючы своеасаблівасць і спецыфіку ў кітайскай паэтыцы, мастацкіх метадах, жанрах і стылях, у эстэтычных вучэннях і поглядах» [2, с. 173].

Класічная паэзія эпохі Тан, несумненна, з'яўляецца тым самым «найвышэйшым і недасягальным узорам» [1, с. 30], які дэманстраваў бясспрэчны талент цэлай плеяды вялікіх паэтаў, а таксама быў крыніцай натхнення і пераемнасці наступных пакаленняў. Імя кітайскага паэта Мэн Хаажаня (孟浩然, 691—740 гг.) займае адно з цэнтральных месцаў у гісторыі літаратуры эпохі Тан.

Акадэмік В. Аляксееў ставіў спадчыну гэтага паэта Паднябеснай у адзін шэраг з творамі Лі Бо, Ду Фу, Ван Вэя і Бо Цзюі. Ролі Мэн Хаажаня ў культуры сярэднявечнага Кітая прысвечана даследаванне Г. Дагданава, які меў на мэце дэталёвае вывучэнне гісторыі жыцця танскага паэта, асаблівасцей яго творчасці, а таксама складання найбольш поўнай карціны паэтычнай спадчыны аўтара [3].

Вядома, што Мэн Хаажань нарадзіўся ў сям'і землеўладальніка ў павеце Сан'ян, дзе пражыў большую частку свайго жыцця каля гор Лумэнь як пустэльнік. Выхаваны ў традыцыях канфуцыянства, з ранняга дзяцінства вывучаў класічную паэзію. У сталым узросце (каля сарака гадоў) ён выправіўся ў сталіцу, дзе праходзіў дзяржаўны экзамен на атрыманне ступені цзіньшы, аднак пацярпеў няўдачу. У будучым, паводле шматлікіх легенд, нягледзячы на рэкамендацыі з боку аўтарытэтнага Ван Вэя, які стаў яго сябрам, так і не знайшоў у сабе сілы сустрэцца з імператарам.

Пасля некаторых няўдач у прасоўванні па кар’ернай лесвіцы паэт вяртаецца на радзіму, дзе прысвячае сябе творчасці і жыццю пустэльніка. Паводле біяграфіі, паэт быў вельмі хваравіты, але ніколі не адмаўляўся ад сустрэч з сябрамі, а праца над вершамі прыносіла яму эстэтычнае задавальненне.

Праўдзівыя словы В. Аляксеева пра тое, што вершы танскіх паэтаў «прадстаўляюць нам старадаўнюю, строгую, класічную паэзію, чыста канфуцыянскую па тыпе і ідэалогіі, хоць не без пастаянных эклектычных прарываў у фантастыку даосаў і містыку будыстаў» [4]. Мэн Хаажань атрымаў класічную канфуцыянскую адукацыю, але цягам гадоў прасякнуўся паэзіяй «пустэльнікаў» і філасофіяй Тао Юаньміна, а таксама вучэннем чань-будызму. Большая частка вершаў выбітнага кітайскага паэта была напісана пяцісłоўнымі чатырохрадкоўямі (五言絕句). У шырокае кола тэматыкі яго твораў уваходзілі: пейзажная («горы і рэкі», «палі і сады») і філасофская лірыка, а таксама вершы пра віно і сяброўства. Г. Дагданаў адзначаў, што «вершы Мэн Хаажаня каштоўныя заключаным у іх лёсам паэта. Яны на дзіва чыстыя і свабодныя ад лішніх слоў, яны як бы скульптуры, так ясна вымалёўваюцца ў іх чалавек і прырода. Усё гэта разам стварае карціну далёкага жыцця, якое акружала паэта, і тых яго сяброў, да якіх ён звяртаецца ў сваіх вершах» [3, с. 4]. Дзякуючы гэтым фактарам, вершы кітайскага паэта перадаваліся вусным шляхам, а самыя знакамітыя з іх — «Вясновая раніца» (春晓) і «Спыніўся на начлег на рацэ Цзяньдэ» (宿建德江) — мог працытаваць кожны жыхар Паднябеснай.

Цікавасць уяўляе пераўвасабленне гэтых твораў на беларускую мову. Чатырохрадкоўе «Вясновая раніца» было перакладзена двойчы: у 1987 годзе на старонках газеты «ЛіМ» беларускую мастацкую адаптацыю прадставіў І. Бабкоў [5, с. 15] (падрадковы варыянт — У Сюэншан); у 2012 годзе ў зборніку перакладной кітайскай паэзіі М. Мятліцкага «Пад крыламі дракона. Сто паэтаў Кітая» з’явілася другая публікацыя [6, с. 80]. Для параўнання прыводзім арыгінал верша і пераклады беларускіх паэтаў:

春晓
春眠不觉晓
处处闻啼鸟
夜来风雨声
花落知多少 [7].

**Вясновая раніца**

Мяне вясной
Не сонца разбудзіла:
Адно паўсюд
  Птушыны чую хор.
Быў у начы
Залевы шум і ветру,
Апалі кветкі…
  Знаць бы, колькі іх? [6, с.80].

*(Пераклад М. Мятліцкага)*

**Вясенні ранак**

Не адчуваю ранак у вясенні сон
Птушкі запелі,
Усюды звіняць галасы
А ноччу — вецер і дождж.
Што ж рабіць мне, калі
Кветкі апалі, незведаўшы
чыстай расы [5, с.15].

(*Пераклад І. Бабкова*)

Першы радок «春眠不觉晓» даслоўна перакладаецца як «вясновы сон не заўважае світання», дзе «春 眠» («вясновы сон») — сінонім словазлучэння «春 睡», якое мае на ўвазе дзённы сон ад стомленасці ў вясновы дзень (у сучаснай мове дадзеную фразу выкарыстоўваюць як характарыстыку доўгага і бесклапотнага сну). Другі радок «处处 闻 啼鸟» — «адусюль чутныя песні птушак», «处处» — «паўсюль», «ўсюды», «闻» — «пачуць», «啼鸟» — «пявучая птушка», дзе іерогліф «啼» можна перавесці гэтак жа, як «гучныя» або нават «крыклівыя» спевы.

У трэцім радку «夜来 风雨声» («у ночы вецер і дождж шумелі») дадатковага тлумачэння патрабуе толькі спалучэнне іерогліфаў «风雨» — «вецер і дождж», бо яно з’яўляецца скарачэннем ад «疾风 骤雨» — з «сілай ветру і апантанасцю залевы». Гэта не просты шум уночы, а сапраўднае буянства стыхіі, якое вядзе да лагічнага завяршэння. Апошні радок «花落 知多少» — «колькі ж апала кветак?». Такім чынам, агульны настрой верша, які складаецца ўсяго з чатырох радкоў, перадае мімалётнасць чалавечага быцця ад нараджэння — абуджэння, росквіту, спеваў птушак, да небяспечнага завяршэння, якому няма тлумачэння. У дадзеным творы выяўляецца лірычная чысціня таленту Мэн Хаажаня, яго ўменне выказваць імгненні настрою і чалавечых пачуццяў, накіраванае на тое, каб выклікаць пэўныя эмоцыі ў чытача [3, с.16].

М. Мятліцкаму ўдалося перадаць атмасферу і перадаць паэтычнасць твора. Варта адзначыць, што ў І. Бабкова таксама атрымалася захаваць настрой верша, аднак у перакладзе прысутнічаюць некаторыя аўтарскія дапаўненні, напрыклад, у заключнай радку «花落 知 多» адсутнічаюць іерогліфы са значэннем «чысты» і «раса», у той час як у перакладчыка мы чытаем «кветкі апалі, ня зведаўшы чыстай расы» [5, с.15].

У анталогіі кітайскай паэзіі «Пад крыламі дракона. Сто паэтаў Кітая» М. Мятліцкім перакладзены тры вершы Мэн Хаажаня: «Раннія халады», «Пішу на сцяне келлі настаўніка І», а таксама другое па пазнавальнасці чатырохрадкоўе кітайскага паэта «Начую на рацэ Цзяньдэ»:

| | |
|---|---|
| 宿建德江 | **Начую на рацэ Цзяньдэ** |
| 移舟泊烟渚 | Кіруецца лодка<br>На востраў, схаваны туманам. |
| 日暮客愁新 | Ужо вечарэе —<br>Вандроўнік агорнуты сумам. |
| 野旷天低树 | Бясконцасць прастору —<br>І неба да дрэў прыпадае. |
| 江清月近人 [8] | Празрыстыя хвалі,<br>І месяц людзей выглядае [6, с. 80]. |

Першы радок «移 舟 泊 烟 渚» даслоўна перакладаецца як «кірую лодку да выспы, хованкі туманаў», дзе іерогліф «泊» можа выяўляць некалькі варыянтаў: «стаяць \ станавіцца на якар» або «спыняцца \ атрымаць прыстанак». У наступным радку «日暮 客 愁 新» — «сонца садзіцца — падарожнік у тузе па доме зноў» — найбольшую цікавасць уяўляе значэнне спалучэння «客 愁», якое ў больш разгорнутым выглядзе азначае: «сумныя думы вандроўніка, які сумуе па доме».

Трэці радок «野 旷 天 低 树» літаральна можна пераўвасобіць як «бязмежны абшар — неба схіляецца да дрэў», а заключнае пяціслоўе «江 清 月 近人» як «празрыстая рака — месяц блізка да людзей». Пры параўнанні перакладу з арыгіналам важна адзначыць, што ў дадзеным выпадку фактычна не дапушчана страт у семантычнай частцы перакладнога верша, пры гэтым была захавана паэтычнасць, якая, адаптуе арыгінал для беларускага чытача, не пазбаўляючы яго першапачатковага сэнсу.

Творчасць Мэн Хаажаня шмат у чым апярэдзіла з'яўленне выбітных танскіх паэтаў — яны не раз звярталіся з павагай да спадчыны гэтага аўтара. На сённяшні дзень перакладзеныя на беларускую мову вершы Мэн Хаажаня прадстаўляюць толькі невялікую частку творчай скарбніцы паэта.

У гэтай сітуацыі вялікім дасягненнем стала з'яўленне новых мастацкіх перакладаў вершаў кітайскага класіка. У Выдавецкім доме «Звязда» пабачыла свет кніга серыі «Светлыя знакі. Паэты Кітая», прысвечаная творчасці Мэн Хаажаня. Лірыка танскага аўтара здабыла форму паўнавартаснага зборніка пад назвай «Мудрасць гор маўклівых». Падрадкоўныя пераклады ажыццёўлены Д. Нечыпарук.

На беларускую мову творы Мэн Хаажаня, якія спалучаюць у сабе прастату і высокі стыль, разнастайнасць паўсядзённых тым і глыбокую філасофію жыцця, адаптавалі В. Радунь, А. Бадак, Д. Нечыпарук, Ю. Алейчанка. Тэндэнцыя адраджэння цікавасці да класічнай кітайскай паэзіі ў культурнай прасторы Беларусі, несумненна, з'яўляецца адной з адметных рысаў працэсу асэнсавання дасягненняў літаратуры Паднябеснай. Падобныя літаратурныя сувязі дазваляюць пашырыць ракурс духоўна-эстэтычнага ўспрымання і здабыць разуменне аб падабенстве першаасноў літаратуры ў яе агульначалавечым пачатку. Паэтычная спадчына Мэн Хаажаня — яскравае таму пацвярджэнне.

## Спіс літаратуры:

1. Меньшиков, Л. Н. Чистый поток. Сборник танской поэзии / Л. Н. Меньшиков. — СПБ.: Петерб. востоковедение, 2001. — 315 с.

2. Федоренко, Н. Т. Искусство слова и время (китайская литература в мировом литературном процессе) / Н. Т. Федоренко // Проблемы Дальнего Востока. — 1972. — № 2. — С. 153—173.

3. Дагданов, Г. В. Мэн Хаожань в культуре средневекового Китая: автореф. дис. ...док. фил. наук: 10.01.06. / Г. В. Дагданов. — Москва: РАН,1995. — 27 с.

4. Танская поэзия // Фундаментальная Электронная Библиотека [электронный ресурс]. — 2015. — Режим доступа: http://feb-web.ru/feb/kle/kle-abc/ke7/ke7-3791.htm — Дата доступа: 03.03.2017.

5. Мэн Хаажань. Вясенні ранак / пер. І. Бабкоў // ЛіМ. — 1987. — № 32. — С. 15.

6. Пад крыламі дракона. Сто паэтаў Кітая: зборнік паэзіі / уклад і пер.: М. Мятліцкі. — Мінск: Звязда, 2012. — 280 с.

7. 孟浩然.春晓 [электронны рэсурс] / Shicimingju. — 2016. — Рэжым доступу: http://m.shicimingju.com/chaxun/list/3020.html — Дата доступу: 03.11.16.

8. 孟浩然.宿建德江 [электронный ресурс] / Shicimingju. — 2016. — Рэжым доступу: http://m.shicimingju.com/chaxun/list/3361.html — Дата доступу: 03.11.16.

9. Мэн Хаожань [электронный ресурс] / Синология.Ру. — 2015. — Режим доступу: http://www.synologia.ru/a/%D0%9C%D1%8D%D0%BD_%D0%A5%D0%B0%D0%BE-%D0%B6%D0%B0%D0%BD%D1%8C — Дата доступу: 10.06.15.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 25 жніўня 2017 года.

## Рэзюмэ

Вераніка ЖУКАВЕЦ

### Паэзія Мэн Хаажаня: беларуска-кітайскі дыялог

УДК 821.581

У артыкуле разглядаецца творчасць Мэн Хаажаня, творцы, які займае адно з цэнтральных месцаў сярод выбітных паэтаў эпохі Тан. Майстар пейзажнай паэзіі, ён глыбока пераасэнсаваў ідэі Тао Юаньміна, а таксама палажэнні філасофіі чань-будызму, фарміруючы пры гэтым унікальны стыль пісьма. Таксама праводзіцца супастаўленне перакладаў двух самых вядомых вершаў Мэн Хаажаня — «Вясновая раніца» і «Спыніўся на начлег на рацэ Цзяньдэ», здзейсненых І. Бабковым і М. Мятліцкім, з арыгінальным тэкстам.

**Ключавыя словы:** класічная кітайская літаратура, паэзія, культурны дыялог, літаратурныя сувязі, рэцэпцыя, пераклад.

## Summary

Veranika ZHUKAVETS

### Poetry of Meng Haoran: the Belarusian-Chinese dialogue

In this article we consider the work of Meng Haoran, a writer who was one of the major Tang dynasty poets. Master of landscape poetry, he deeply rethought Tao Yuanming ‘s ideas, as well as the philosophy of Chan Buddhism and create his own unique style of writing. In this article we also compare the translations of two most famous poems of Meng Haoran — «A Morning in Spring» and «Stopped for a night on the Jiande River» by I. Babkou and M. Myatlitski with the original text.

**Keywords**: chinese literature, classical chinese literature, poetry, cultural dialogue, literary contacts, reception, translations.

## ДА ЎВАГІ АЎТАРАЎ!

Часопіс «Полымя» ўключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства).

### Патрабаванні да афармлення рукапісаў навуковых даследаванняў

Рэдакцыя прымае на разгляд матэрыялы на беларускай мове аб'ёмам да 25 старонак у электронным выглядзе. Тэкставая інфармацыя мусіць быць запісаная ў фармаце doc або rtf, дапускаецца мінімальнае фарматаванне (шрыфт TimesNewRoman, вылучэнне або курсівам, або паўтлустым прамым, або паўтлустым курсівам).

Спіс выкарыстанай літаратуры павінен быць аформлены згодна з патрабаваннямі ВАК РБ. Абавязкова дадаюцца рэзюмэ і ключавыя словы на беларускай ды англійскай мовах, код УДК.

Уся нятэкставая інфармацыя на электронных носьбітах можа быць запісана ў любым графічным фармаце (jpg, tiff; ≥ 300 ppi), але не павінна знаходзіцца ў тэксце ў фармаце Word.

Матэрыялы прэтэндэнтаў на навуковую ступень павінны суправаджацца заверанымі арыгіналамі наступных дакументаў: рэкамендацыяй навуковага кіраўніка або кафедры, знешняй рэцэнзіяй спецыяліста.

**Алена КАРП**

# АДАМ БАБАРЭКА ЯК МАЛАДНЯКОЎСКІ КРЫТЫК: ЗМЕНА ПАРАДЫГМЫ І СТАТУСУ

Месца А. Бабарэкі ў літаратурным аб'яднанні «Маладняк» вызначалася дзвюма акалічнасцямі: па-першае, ён быў адным з ініцыятараў стварэння гэтай суполкі, па-другое, лічыцца «першым беларускім пісьменнікам, для якога крытыка была асноўнай формай творчасці» [15, с. 108]. Такім чынам, «Маладняк» ад моманту свайго заснавання меў у адной асобе і тэарэтыка, ідэйнага натхняльніка, здольнага вызначыць і прадставіць грамадскасці платформу літаб'яднання, і ўласнага крытыка. Пра высокі статус яго ў «Маладняку» сведчыць У. Конан: «Сярод пісьменнікаў "Маладняка" Адам Бабарэка быў усімі прызнаным крытыкам» [15, с. 111]; «...можна дапусціць (на аснове параўнаўчага аналізу зместу і стылю праграмных дакументаў аб'яднання і артыкулаў і дакладаў Бабарэкі), што ён пісаў праекты асноўных праграмных заяў "Маладняка" да 1926 года» [14, с. 34].

За кароткі прамежак часу (1923—1926 гг.), у які пісьменнік уваходзіў у склад суполкі, яго погляды на літаратуру і крытычная стратэгія зазналі пэўную эвалюцыю, што кардынальна змяніла статус аўтара ўнутры «Маладняка». Публікацыі ў аднайменным часопісе дазваляюць прасачыць гэты працэс.

Храналагічна першым апублікаваным выступленнем А. Бабарэкі ў «Маладняку» былі рэцэнзіі на кнігу Анатоля Вольнага і Андрэя Александровіча «Камсамольская нота», а таксама зборнікі «Камсамольскі спеўнік», «Камсамольскі вечар» [2, 3, 4]. У творчай спадчыне А. Бабарэкі ў цэлым гэтыя артыкулы непаказальныя, яны не займаюць нейкага адметнага месца і не выяўляюць яскрава талент крытыка. Наадварот, яны выкананыя ў межах агульнапрынятай практыкі. Характэрны найперш выбар выданняў для рэцэнзіі (кожнае з іх утрымлівае ў назве ўказанне на дачыненне да камсамола). Цалкам канвенцыянальнай была заяўленая крытыкам арыентацыя на масавага чытача (гэтае паняцце канкрэтызавалася наступным чынам: «малады рабочы і малады селянін», «чырвоная змена» [2, с. 115]): адпаведнасць яго чаканням улічвалася пры выяўленні вартасці твора. Адным з крытэрыяў ацэнкі з'яўлялася таксама пісьменніцкая тэхніка, майстэрства выканання. Тым не менш, аналіз закранаў пераважна план зместу, у гэтых рэцэнзіях А. Бабарэка працаваў у рэчышчы сацыялагічнай крытыкі, вартасць твораў вымяралася найперш іх актуальнасцю, адпаведнасцю пануючай ідэалогіі, скіраванасцю да пэўнага чытача.

Сапраўды знакавым стаў артыкул «Вясну радзіла восень» [7]. Значэнне гэтага выступлення для выдання, яго праграмны характар пацвярджаецца тым, што менавіта допісам А. Бабарэкі адкрываецца нумар — насуперак традыцыі літаратуразнаўчыя матэрыялы падаваць у канцы. Сваю працу крытык прысвяціў абгрунтаванню светапогляднай і эстэтычнай парадыгмы «Маладняка» і маніфестацыі яе як прыярытэтнай для беларускай літаратуры. Акрамя таго, гэты артыкул у адрозненне ад папярэдніх быў разгорнутым выказваннем і даваў дастаткова матэрыял для назіранняў за тым, як развіваўся крытычны талент аўтара.

Артыкул уяўляў сабой перапрацаваны тэкст даклада «"Маладняк" і яго месца ў літаратуры» (21 сакавіка 1925 г.) [8, с. 847—849]. Параўнанне гэтых двух тэкстаў

паказвае, што ў выніковай версіі крытык у меншай ступені выяўляў ідэалагічную заангажаванасць; размежаванне так званых *маладнякізму* і *адраджанізму* (літаратурных напрамкаў, суадносных са зменай літаратурных пакаленняў) у артыкуле стала менш рэзкім, а стаўленне крытыка да апошняга — больш лаяльным. Тым не менш, погляд А. Бабарэкі на адраджанізм і ў артыкуле выглядаў дастаткова супярэчлівым. З аднаго боку, прызнаваўся ўнёсак адраджанізму ў беларускую літаратуру, наяўнасць у ім «здаровых элементаў і дасягненняў» і пераемнасць з боку маладнякоўцаў [7, с. 8]. З другога, выказвалася супрацьлеглае меркаванне, нібы адраджанізм цалкам застаўся ў мінулым. А. Бабарэка падкрэсліваў, што аналізуе творы выключна з сацыялагічнага боку, такім чынам, пытанне пра іх мастацкую вартасць або заставалася адкрытым — у выпадку маладнякоўцаў, або не парушалася канвенцыя, ужо замацаваныя погляды на творы адраджэнцаў, наколькі гэта магчымыма пры дастаткова бескампрамісных ацэнках іх ідэалагічных хібаў. Яны станавіліся яшчэ больш выразнымі на кантрасце з дэклараванай беззаганнасцю «Маладняка».

У адрозненне ад адраджанізму статус новага напрамку і адпаведна аб’яднання быў заяўлены адназначна: у іерархіі літаратурнага жыцця ён займаў найвышэйшае месца, характарызаваўся як «самая галоўная» сіла, правільны кірунак, дэкларавалася яго «поўная адпаведнасць кірунку сучаснага грамадскага руху з яго імкнёнасцю да сацыялізму і камунізму» [7, с. 8, 16]. Гэтая думка ў тэксце перыядычна паўтаралася, прытым у безапеляцыйным тоне. Свой тэзіс А. Бабарэка падмацоўваў адсылкамі на бясспрэчныя ў палітычнай сістэме аўтарытэты. Як аргумент на карысць аб’яднання прыводзіліся нават колькасныя паказчыкі — пазней крытык пазбягаў такіх няпэўных спекулятыўных доказаў.

Пазіцыя «Маладняка» ўмацоўвалася найперш праз яго грамадскае значэнне. Узоры маладнякоўскай творчасці ў артыкуле «Вясну радзіла восень» цытаваліся і суправаджаліся кароткім каментарыем. Аднак іх філалагічны аналіз, ацэнка эстэтычных вартасцей не ўваходзілі ў задачы аўтара. Ён даваў агульнае ўяўленне пра напрамак, выразна выказваў уласную пазіцыю, фармуляваў сваё бачанне літаратурнай іерархіі, якое, відавочна, супадала з бачаннем рэдакцыі.

Гэтая праца засведчыла прыхільнасць А. Бабарэкі да сацыялагічнай крытыкі, яго залежнасць у метадалогіі ад прызнаных аўтарытэтаў, найперш, Г. Пляханава (разам з тым аўтар аперыруе і ўласнымі тэрмінамі, пабудаванымі на аснове метафарычнага пераносу, — літаратурнае поле, сілы. Пазней такой тэрміналогіяй будзе карыстацца французскі даследчык П. Бурдзьё. І гэта сведчыць пра прадбачлівасць А. Бабарэкі, здольнасць знайсці трапныя азначэнні, сістэматызаваць літаратурныя веды).

Істотна, што, прытрымліваючыся сацыялагічнага метаду, А. Бабарэка, тым не менш, заяўляе ўпісанасць літаратуры як аб’екта даследавання ў самыя розныя сферы, магчымасць падыходаў, скіраваных на іншыя аспекты — псіхалагічны, філасофскі, эстэтычны, этычны, гістарычны. Таксама ім сцвярджаецца неабходнасць улічваць і захоўваць цэласнасць разглядаемай літаратурнай з’явы — такім чынам, А. Бабарэка валодаў метадалогіяй навукі і рупіўся пра ўзровень беларускага літаратуразнаўства. Уласнае ўменне працаваць у межах розных літаратуразнаўчых канцэпцый ён прадэманстраваў у артыкуле «Лірыка Міхася Чарота» (год напісання — 1923, публікацыі — 1925). Як справядліва заўважыў В. Жыбуль, гэты тэкст «створаны пад уплывам метадалагічных распрацовак прафесара І. Замоціна» [11, с. 28]. А. Бабарэка разглядаў творчасць М. Чарота ў культурным, гістарычным, біяграфічным кантэкстах, даваў выверанае глыбокі філалагічны аналіз.

Месца так званай марксісцкай крытыкі, якая атаясамлівалася з сацыялагічнай, а ў сваіх крайнасцях — вульгарна-сацыялагічнай, было на той час вызначана як вядучае. Таму не дзіўна, што многія аўтары, у тым ліку і А. Бабарэка на пачатку сваёй кар’еры, дзейнічалі ў межах метаду, навязанага ім у якасці нарматыў-

нага. Аднак пра індывідуальнасць, уласнае бачанне ў большай ступені сведчаць спробы выйсці за межы магістральнага шляху. Для А. Бабарэкі такім парушэннем канвенцыі была схільнасць, хоць і наўзбоч ад заяўленай тэмы, закранаць пытанні эстэтычнага парадку. Так, у артыкуле «Вясну радзіла восень» ён спрабуе вызначыць паняцце мастацкасці, падае ўласныя тэарэтычныя развагі на гэты конт. І хоць дэфініцыя і крытэрыі ацэнкі (наколькі глыбока выяўлены змест духоўнай дзейнасці чалавека) заставаліся дастаткова размытымі і абстрактнымі, аднак цікавасць да гэтай катэгорыі, трактоўка яе як (у тым ліку) духоўнай дзейнасці, спроба асэнсаваць даволі складаныя і непапулярныя[1] паняцці «душа», «дух», «мастацкасць», «эстэтыка» былі заяўленыя і ў пазнейшых працах знайшлі больш поўнае выяўленне.

Уласны, па-за межамі маладнякоўскай парадыгмы, погляд на мастацтва быў выяўлены ў метафарычных імпрэсіях «Вобразы без рамак і асадкі» [6], дзе творчасць трактуецца як натхнёны акт, рух душы. І ва ўласна мастацкай творчасці, і ў рэцэпцыі яе А. Бабарэка сцвярджае свабодную волю чалавека, непрадуктыўнасць жорстка зададзенай схемы, абмежаванняў. Гэтая публікацыя абазначыла некалькі новых, невідавочных раней рысаў: уплыў на аўтара філасофіі Ніцшэ, а таксама цікавасць да псіхалогіі творчасці. «Вобразы без рамак і асадкі» ўспрымаліся як даволі «цьмяны», герметычны тэкст, таму сучасная А. Бабарэку крытыка ігнаравала ў ім выяўленне аўтарскай канцэпцыі, як і наогул змест. У большай ступені ўвагу прыцягнула ўласна выкананне, і ў якасці празаіка А. Бабарэка зазнаў крытыку як апалагет авангарднай эстэтыкі [16].

Важнай адметнасцю крытычнай думкі аўтара з’яўляецца тое, што беларуская літаратура разглядалася ім у кантэксце сусветнай як з’ява самастойная і самабытная, яна станавілася цэнтрам яго даследчыцкай увагі. А. Бабарэка імкнуўся асэнсоўваць спецыфічныя для яе з’явы, і з гэтага жадання, са здольнасці да аналітычнага, маштабнага роздуму, тэарэтычных абагульненняў вынікалі арыгінальныя канцэпцыі, якія мелі нацыянальны характар, былі адаптаваныя менавіта да беларускай літаратуры. У сваіх развагах крытык кіраваўся не фармальнымі, а сутнаснымі, істотнымі прыкметамі, што спрыяла дакладнасці, аб’ектыўнасці. Так, выводзячы тэорыю двух напрамкаў — маладнякізму і адраджанізму, прыналежнасць да іх А. Бабарэка вызначаў не толькі паводле храналагічных межаў, але і паводле светапогляду.

Маладнякоўская парадыгма не прадугледжвала цэнтральнай пазіцыі для катэгорыі нацыянальнага (і ў гэтым яна супадала з агульнымі для беларускай савецкай літаратуры ўстаноўкамі), таму нацыянальная заангажаванасць пазней будзе расцэньвацца як памылка, адхіленне ад зацверджанай, кадыфікаванай стратэгіі. Праблема заключалася ў тым, што паплечнікамі-маладнякоўцамі аднойчы сфармуляваная парадыгма была ўспрынятая як аксіёма, у той час як А. Бабарэка, будучы актыўным яе стваральнікам, быў здольны бачыць хібы і пераадольваць іх. Яго мысленне сапраўды не знала «рамак і асадак», ён кшталтаваў і ўдасканальваў свае канцэпцыі. І абноўленыя, яны ўжо не ўпісваліся ідэальна ва ўстаноўкі «Маладняка».

Гэтае разыходжанне поглядаў выразна акрэсліла артыкул А. Бабарэкі «З далін на ўзвышшы» і рэакцыя на яго з боку «Маладняка». Паказальна, што ў працы быў заяўлены вобраз узвышша, які пазней дасць назву новаму аб’яднанню, стане складовай часткай яго канцэпцыі. У артыкуле ясна абазначаная арыентацыя аўтара на псіхалагічны метад, які забяспечваў тонкі і глыбокі аналіз; як першасны крытэрый ацэнкі твора была заяўленая шчырасць аўтара. Творчая індывідуальнасць

---

[1] Наколькі ў нязначнай ступені рэдакцыяй «Маладняка» ў цэлым былі засвоеныя эстэтычны дыскурс і яго паняцці, ускосна сведчыць паказальная памылка друку: замест «імпрэсіянізм» (у дачыненні да М. Багдановіча) было надрукавана больш звыклае слова «імперыялізм».

мусіла выявіцца максімальна адкрыта. За аснову вымярэння мастацкай вартасці браліся рэчы, якія немажліва было дакладна верыфікаваць, якія спазнаваліся выключна інтуітыўна і, цалкам верагодна, па-рознаму рознымі даследчыкамі. Тым не менш, выказванні крытыка маюць сваю рацыю: «…калі ты творыш кару, а душы свае не ўкладаеш — мёртва твая паэзія» [9, с. 81]. З увагі на тое, што А. Бабарэка кіраваўся найперш псіхалагічным метадам, спрабаваў пранікнуць у падсвядомасць аўтара, пэўныя яго тэзісы выглядаюць хутчэй як дапушчэнні, не маюць пад сабой цвёрдага грунту. Гэта непазбежныя выдаткі пры абраным падыходзе. Але каштоўнай была сама ўвага да творчай індывідуальнасці, спробы спазнаць светапогляд аўтара (прытым анталагічна-экзістэнцыйны, а не ідэалагічны) і праз яго зразумець і прачуць творчасць. Яго чаканні ад літаратуры цяпер вызначаліся запытаннем: «Ці з’яўляецца яна [беларуская літаратура] формаю аб’ектывізацыі эмацыянальнага пазнання свету, здабытага вопытам беларускай душы? <…> ці ёсць перад ёю вяршыны, ці ўзнімаецца яна да іх?» [9, с. 82] Па сутнасці, А. Бабарэка нанова пераасэнсаваў той запыт беларускай крытычнай думкі, які сфармуляваўся яшчэ ў нашаніўскім асяроддзі: крытык зноў загаварыў пра пытанне якасці мастацкай літаратуры як вызначальнае, а таксама пра нацыянальны аспект — менавіта «беларуская душа» мелася даць свой унікальны досвед. І гэта амаль класічная стратэгія — цікавая менавіта ўнікальнасць, адметнасць.

Пераарыентацыя ў расстаноўцы літаратурных сіл не была адмыслова заяўленая ў гэтым тэксце, але пра яе сведчаць некалькі момантаў. Творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі разглядаецца выключна як мастацкая з’ява, яе прыналежнасць да народніцкай, адраджэнцкай літаратуры не артыкулюецца. Такім чынам, знаходзіць свой працяг тэзіс з артыкула «Вясну радзіла восень» пра пераемнасць літаратурных пакаленняў і цалкам здымаецца апазіцыя, супрацьстаянне паміж імі. Тэзіс, нібыта адраджанізм ужо нежыццяздольны, не пацвярджаецца. Знікае іерархія: адносіны паміж адраджанізмам і маладнякізмам паказаны як гарызантальныя, а не вертыкальныя. Ключавой фігурай у гэтым даследаванні быў У. Дубоўка — будучы ўдзельнік «Узвышша». Відавочна, цікавасць да гэтага аўтара вызначалася не патрабаваннямі актуальнасці і ідэалагічнай вытрыманасці, а эстэтычным густам даследчыка. Адыходзячы ад абсалютызацыі сацыялагічнай крытыкі, А. Бабарэка займаўся найбольш пытаннямі эстэтыкі, псіхалогіі, і абноўленая крытычная стратэгія патрабавала выбару адпаведных аўтараў. У сваіх інтэрпрэтацыях імкнуўся сягнуць глыбіняў твора, раскрыць падтэкст, матывы, невідавочныя нават для самога аўтара, і для гэтых мэтаў патрэбны быў багаты матэрыял — сапраўды высокамастацкая і глыбокая паэзія. Пакуль крытыка звыкла гаварыла пра сацыяльнае, агульнаграмадскае значэнне мастацкай літаратуры, А. Бабарэка ставіў знак роўнасці паміж мастацкай і сацыяльнай каштоўнасцю [5, с. 178]. Ён браў на сябе адну з найбольш адказных і складаных функцый крытыкі — прагназаваць, вызначаць перспектыву. А. Бабарэка настойваў на тым, што літаратура мусіць прагрэсіраваць. Застылая ў рэвалюцыйным пафасе, напісаная па зададзеным шаблоне, яна рызыкуе застацца ў сваім часе як агітка. Актуальнасць і рэвалюцыйны пафас, хоць і не адмаўляліся А. Бабарэкам, аднак ужо не лічыліся дастатковымі крытэрыямі вартасці твора. Змена гістарычных перыядаў — пераход ад рэвалюцыі да мірнага будаўніцтва — патрабавала абнаўлення культурнай парадыгмы, змен у літаратуры, павышэння яе мастацкай якасці за кошт літаратурнай вучобы. З пазіцый сённяшняга часу гэтая ідэя падаецца відавочнай, аднак усякая змена курсу ўпершыню агучваецца як адкрыццё і не адразу прымаецца на веру.

Такім чынам, А. Бабарэка больш не прымаў да ўвагі яшчэ нядаўна заяўленыя тэзісы пра літаратуру як сродак класавай барацьбы (даклад «“Маладняк” і яго месца ў літаратуры» [8, с. 848]), адпаведна не разглядаў творы як выяўленне класавай свядомасці. Сацыялагічны метад у крытыцы перастаў быць для яго

вядучым і вызначальным. Разам з тым А. Бабарэка не адхіляў цалкам тую сістэму ацэнак, што існавала ў «Маладняку», а толькі карэкціраваў яе, праяўляючы прытым сваю лаяльнасць (апошняе магло быць следствам тагачаснай пазалітаратурнай сітуацыі, «ідэалагічнай перастрахоўкай» [11, с. 30]). Трансфармацыя яго поглядаў не была рэвалюцыйнай, сваё разуменне літаратуры крытык прадстаўляў з дастатковай асцярожнасцю. Тым больш істотнымі падаюцца тыя рэплікі, у якіх выказваюцца падставовыя, прынцыповыя рэчы, не замацаваныя, між тым, як агульнапрынятыя ў тагачаснай крытыцы: «Нам здаецца, што паэзія — гэта не індустрыя, а чалавек не машына, а жывая істота» [5, с. 179]. Падобныя ўстаноўкі, увага да пытанняў творчай індывідуальнасці станавіліся нагодай для палемікі, абвінавачванняў у ідэалізме, проціпастаўлення крытыкі А. Бабарэкі так званай марксісцкай як неаспрэчнаму аўтарытэту.

Эвалюцыя крытычнай творчасці мела сваім следствам змену яго месца, статусу ў літаб’яднанні «Маладняк». Артыкул «З далін на ўзвышшы» выклікаў даволі хуткую рэакцыю: у наступным жа нумары з’явілася рэцэнзія Алеся Дудара (пад псеўданімам *Я. Ч.*) «Форма і ідэалогія», дзе творчасць У. Дубоўкі разглядалася з дзвюх заяўленых у назве пазіцый і атрымлівала паводле іх дыяметральна адрозныя ацэнкі. Цалкам прызнаючы паэтычны талент У. Дубоўкі, ацэньваючы яго ў найвышэйшай ступені, А. Дудар лічыў неабходным выкрыць няўстойлівасць ідэалогіі аўтара. Паралельна выкрываліся, абясцэньваліся погляды А. Бабарэкі: «“Душа і сэрца людское” прымаюць удзел у працэсе творчасці паэты толькі пастолькі, паколькі яны з’яўляюцца нязначным перадатачным пунктам паміж сацыяльнымі працэсамі і індывідуумам — паэтаю» [16, с. 171]. А. Дудар нівеляваў творчую індывідуальнасць, працу душы, якія А. Бабарэка выводзіў як асноватворныя для мастацтва. Прытым А. Дудар пазначыў адпаведнасць сваіх поглядаў марксісцкай крытыцы, тым самым умацаваўшы сваю пазіцыю.

Акрамя таго, артыкул А. Дудара, як і рэдакцыйны «Ад Усебеларускага аб’яднання паэтаў і пісьменнікаў “Маладняк”» [1], быў рэакцыяй на ўтварэнне «Узвышша» і яго праграмныя заявы. У абодвух гэтых тэкстах абазначалася кардынальная апазіцыя «Маладняка» «Узвышшу», падвяргалася крытыцы эстэтычная платформа новага аб’яднання, выкрывалася ідэалагічная нясталасць. Маргіналізаваўся статус удзельнікаў аб’яднання, найперш А. Бабарэкі, прытым у дастаткова рэзкім тоне: яго канцэпцыі, у свой час прадстаўленыя на старонках «Маладняка» як цалкам канвенцыйныя, ці нават праграмныя, характарызаваліся цяпер як «несуразныя», «эклектычна-вучнёўскія» [1, с. 7], а іх аўтар, былы ідэйны натхняльнік аб’яднання, «беларускі Бялінскі», — як «дамарошчаны “крытык”» [10, с. 65]. Парушаліся не толькі этычныя межы, а ў цэлым правілы вядзення дыскусіі: аспрэчваемыя тэзісы альбо прыводзіліся не ў поўным аб’ёме, знарок апускаліся істотныя моманты, альбо скажаліся, трактаваліся, як таго вымагалі інтарэсы апанентаў А. Бабарэкі. Абвінавачванні ў адрас крытыка выходзілі за межы прафесійнай сферы і закраналі палітычную і ідэалагічную, меркавалася, што яны натуральным чынам узаемазвязаныя. У якасці здаровай альтэрнатывы поглядам А. Бабарэкі А. Дудар цытаваў марксісцкіх тэарэтыкаў, і вынікала, што нават найменш аўтарытэтныя аўтары («Нават нямецкі фашысты Бартэльe, і той трымаецца такога погляду» [10, с. 65]) пераўзыходзілі А. Бабарэку.

Нават прытым, што высокі градус палемічнасці не быў для тагачаснай крытыкі чымсьці нязвыклым, эмацыйнасць і суб’ектыўнасць А. Дудара падавалася празмернай, што і выклікала адпаведную рэакцыю. З. Жылуновіч у артыкуле «Літаратурныя падзеі ў 1926 г.» [12] даваў бесстаронні, незаангажаваны погляд. Займаючы пазіцыю па-за абедзвюма суполкамі, ён бачыў канфлікт надуманым, а метады вядзення дыскусіі — недапушчальнымі. «Па-нашаму, у гэтых сваіх вывадах крытык [Алесь Дудар] паддаўся суб’ектыўнаму пачуццю і пад яго націс-

кам нямерна згусціў фарбы ў шкоду сапраўднасці» [12, с. 196]; «…у творчасці абодвух памянёных аб’яднанняў [«Маладняк» і «Узвышша»] амаль што роўна адбіваюцца ідэі пралетарскасці ў тым змесце, на згуст якога даюць мажлівасць беларускія ўмовы» [12, с. 197].

Нягледзячы на тое, што пазіцыя А. Бабарэкі ў іерархіі «Маладняка» змянілася з цэнтральнай на маргінальную, пэўныя сфармуляваныя ім тэзісы паўтараліся без адпаведных спасылак як даўно засвоеныя, апрыёры справядлівыя. Найперш сцвярджэнне маладнякоўскай «правільнае лініі ў справе будавання беларускае пралетарскае літаратуры» [1, с. 7], а таксама думка пра неабходнасць змен у літаратуры, адпаведных зменам часу, пераходу ад рэвалюцыі да мірнага жыцця. Аднак яна была прынятая толькі часткова, звязаны з ёю шлях на эстэтызацыю адпрэчваўся як пазакласавы.

Такім чынам, найбольш раннія працы А. Бабарэкі, створаныя ў асяроддзі «Маладняка» і апублікаваныя ў аднайменным выданні, сведчаць аб прыхільнасці даследчыка да сацыялагічнай крытыкі. Адной з істотных рыс яго крытычных разбораў было патрабаванне актуальнасці, уліку надзённых патрэб грамадства, якое, аднак, пазбаўляла мастацтва права на пазачасавасць. І калі такая стратэгія задавальняла тую супольнасць, да якой належаў А. Бабарэка, адпавядала яе чаканням, то тактыка выклікала пытанні з боку староннніх літаратурных сіл. Здзейснены А. Бабарэкам крытычны разбор паэмы «Безназоўнае» Янкі Купалы быў ахарактарызаваны як «допыт у тоне і напрамку допытаў крымінальнага вышуку» [13, с. 197], а яго манера ўспрымалася як свядома скіраваная на разбурэнне, апісвалася праз лексемы «абвергнуць», «зруйнаваць», «крушыць» [13, с. 196].

Разам з тым гэтыя працы засведчылі, што пытанні эстэтыкі знаходзіліся ў кампетэнцыі аўтара, аднак да часу былі не запатрабаваныя ні супольнасцю, якую А. Бабарэка прадстаўляў, ні яго ўласнай крытычнай стратэгіяй. Трывалае ўваходжанне эстэтычнага дыскурсу ў крытычную практыку А. Бабарэкі ўспрымалася з боку актыўнай супольнасці маладнякоўцаў як парушэнне ўсталяванай канвенцыі, дзе мастацтва ставілася на службу ідэалогіі: адпаведна, форма не мусіла быць першаснай, асоба не мусіла вылучацца з калектыву, мастацтва не мусіла быць пазакласавым. Прытым што з усталяваным канонам А. Бабарэка абыходзіўся даволі асцярожна, свае канцэпцыі імкнуўся ўпісаць у яго, а не вымкнуць за межы як рэвалюцыйныя, яго статус у «Маладняку» рэзка маргіналізаваўся.

Разам з тым у гаворцы пра маладнякоўскі перыяд творчасці А. Бабарэкі нельга абмінуць увагай сфарміраваныя ў той час адметнасці яго крытычных прац. Сярод характэрных рыс варта назваць найперш аналітычныя здольнасці аўтара, дзякуючы якім ён спрабуе выйсці на шырокія абагульненні, не абмяжоўваецца толькі бягучым момантам у развіцці літаратуры, яго цікавіць шырокі зрэз, панарама сучаснага літаратурнага жыцця, перспектывы, заканамернасці гістарычнага развіцця. Уласныя аўтарскія канцэпцыі А. Бабарэка развіваў ад працы да працы: напрыклад, вобраз вясны і восені пасля таго, як быў заяўлены ў артыкуле «Вясну радзіла восень», паўтараўся ў іншых яго тэкстах як ужо распрацаваны, кадыфікаваны. Істотна таксама, што яго выступленні пазбаўлены бесстароннасці, у іх абазначаецца ўласная пазіцыя, і нават эмацыянальная ацэнка — і датычна аб’екта даследавання, і адносна прац, якія па ім існуюць. Прытым важна адзначыць высокі градус эмацыйнасці Бабарэкавых выступленняў, часам ён быў скіраваны непасрэдна на аўтараў, недарэчнасці ў іх творах выкрываліся дасціпна і дастаткова здзекліва.

Працу калег А. Бабарэка ўважліва адсочваў, ва ўласных даследаваннях спасылаўся на чужыя, такім чынам вакол аб’екта даследавання ўтвараўся дастаткова шырокі і поўны кантэкст. Наогул ён быў прафесійна падрыхтаваны да дзейнасці крытыка, філалагічная адукацыя дала яму неабходны тэрміналагічны апарат, абазнанасць у сусветнай літаратуры.

Што да ўласнай манеры пісьма, то, з аднаго боку, А. Бабарэка імкнецца будаваць сваё выказванне максімальна празрыста: абазначае свае задачы, пытанні, што будзе асвятляць. Такім чынам, чытач бачыць пэўны план, якім стане кіравацца крытык. З іншага, мова А. Бабарэкі вобразная, багатая, часам блізкая да паэтычнай, часам гэта эсэістычнае мысленне. Тут задзейнічаны ўсе магчымыя сродкі мастацкай выразнасці, розныя камунікатыўныя стратэгіі, напрыклад, больш характэрная для мастацкай літаратуры імітацыя ўнутранага маналогу. Часам рэцэнзіі А. Бабарэкі ў большай ступені сведчылі пра крытыка, чым пра аўтара, выяўлялі найперш яго ўласны талент, творчыя здольнасці. Такімі былі, напрыклад, рэцэнзіі «Хто дайлідзіць духу трыкліні?..», «Вецер, вецер, буйны вецер!..» — філасофскія эсэ, для якіх рэцэнзуемыя зборнікі паслужылі крыніцай натхнення, у пэўнай ступені задалі напрамак думкі, стыль выкладу.

Гісторыя творчага сталення А. Бабарэкі істотная і паказальная як гісторыя літаратурнай і ідэалагічнай барацьбы, у якую крытык у розны час быў уключаны ў рознай якасці.

## Спіс літаратуры:

1. Ад Усебеларускага аб’яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк» // Маладняк. —1926. — № 9. — С. 5—10.
2. Анінскі, Ад. (Бабарэка, А.). Анатолі Вольны, Андрэй Александровіч. Камсамольская нота / А. Бабарэка // Маладняк. — 1924. — № 5. — С. 115—118.
3. Анінскі, Ад. (Бабарэка, А.). Камсамольскі вечар / А. Бабарэка // Маладняк. —1924. — № 5. — С. 119—120.
4. Анінскі, Ад. (Бабарэка, А.). Камсамольскі спеўнік / А. Бабарэка // Маладняк. —1924. — № 5. — С. 121—122.
5. Бабарэка, А. А. Якімовіч. Вершы / А. Бабарэка // Маладняк. —1926. — № 2. — С. 177—181.
6. Бабарэка, А. Вобразы без рамак і асадкі / А. Бабарэка // Маладняк. — 1925. — № 9. — С. 21—27.
7. Бабарэка, А. Вясну радзіла восень / А. Бабарэка // Маладняк. —1925. — № 7. — С. 3—21.
8. Бабарэка, А. Збор твораў : у 2 т. / А. Бабарэка. — Вільня : Інстытут беларусістыкі, 2011. — Т. 1: Літаратурна-крытычныя працы. — 939 с.
9. Бабарэка, А. З далін на ўзвышшы / А. Бабарэка // Маладняк. —1926. — № 1. — С. 79—98.
10. Глыбоцкі, Т. (Дудар, А.). Аб «фальшы камертонаў» / А. Дудар // Маладняк. —1926. — № 9. — С. 65—70.
11. Жыбуль, В. Людзьмі быць / А. Бабарэка // Збор твораў : у 2 т. — Вільня, 2011. — Т. 1: Літаратурна-крытычныя працы. — С. 24—34.
12. Жылуновіч, З. Літаратурныя падзеі ў 1926 г. / З. Жылуновіч // Полымя. — 1927. — № 1. — С. 191—199.
13. Жылуновіч, З. Шкоднае ў беларускай літаратуры / З. Жылуновіч // Полымя. —1927. — № 6. — С. 191—204.
14. Конан, У. М. Адам Бабарэка / У. М. Конан. — Мінск: Маст. літ., 1976. —128 с.
15. Конан, У. М. Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917—1934 гг.) / У. М. Конан. — Мінск : Навука і тэхніка, 1968. —189 с.
16. Я. Ч. (Дудар, А.). Форма і ідэалогія / А. Дудар // Маладняк. —1926. — № 2. — С. 170—173.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 2 лютага 2017 года.

**Рэзюмэ**

**Алена КАРП**

**Адам Бабарэка як маладнякоўскі крытык: змена парадыгмы і статусу**

УДК 821.161.3
У беларускім літаратуразнаўстве літаратурная крытыка 1920-х гг. разглядаецца пераважна панарамна. Аднак мае сэнс асобна гаварыць пра канкрэтныя персаналіі, якія фарміравалі аблічча тагачаснай крытыкі. Значную ролю тут адыграў Адам Бабарэка, і трэба сказаць, сярод крытыкаў-пачынальнікаў ён займеў найбольшую ўвагу з боку даследчыкаў літаратуры. Наяўнасць асобнага крытычна-біяграфічнага нарыса У. Конана, прысвечанага А. Бабарэку («Адам Бабарэка», 1976), дазваляе разглядаць падрабязней пэўныя прыватныя пытанні. Так, уяўляе цікавасць гісторыя ўзаемадачыненняў А. Бабарэкі з літаб’яднаннем «Маладняк». Прапануецца разгледзець друкаваныя ў аднайменным часопісе крытычныя артыкулы, якія, з аднаго боку, дазваляюць меркаваць пра стратэгію А. Бабарэкі-крытыка, з іншага, дэманструюць змену яго статусу ў названым аб’яднанні.

**Ключавыя словы:** 1920-я гады, літаратурная крытыка, Адам Бабарэка, «Маладняк».

**Summary**

**Alena KARP**

**Adam Babareka as Maladniak’s critic: the change of the status and the paradigm**

Literary critique of the 1920th is viewing Belarusian literary criticism in the majority panoramically. But must analyze specific personalities, which formed the shape of that time critique. Adam Babareka had a significant role in this process. Among the first critics, he had the most attention from researchers of literature. The existence of separate critical-biographical work of Uladzimir Konan about Adam Babareka allows to explore independent particular questions in greater detail. We are interested in the history of the interaction Adam Babareka and The Maladniak. The article deal with the critical works printed in The Maladniak’s magazine that on the one hand allow to represent Adam Babareka’s critical strategy, on the other hand demonstrate the change of his status in The Maladniak.

**Keywords:** 1920s years, literary critique, Adam Babareka, Maladniak.



Святлана ГАНЧАРОВА-ГРАБОЎСКАЯ

# ВОБРАЗ СКАРЫНЫ Ў ЖАНРАВЫМ РАКУРСЕ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДРАМАТУРГІІ

Своеасаблівым феноменам беларускай драматургіі мяжы XX—XXI стст. сталі п'есы, прысвечаныя Францыску (Георгію) Скарыне — выбітнаму дзеячу культуры XVI стагоддзя, усходнеславянскаму першадрукару, вучонаму, гуманісту і асветніку. Гэта з'ява не знайшла свайго ўвасаблення ні ў Расіі, ні ў Польшчы, ні ў Чэхіі і іншых краінах. Мастацкая рэцэпцыя асобы Скарыны прадэманстравала нетрадыцыйныя шляхі драматургічнай рэфлексіі, якая адбілася ў неардынарнасці тэкстаў розных пісьменніцкіх напрамкаў — *традыцыйнага* (А. Петрашкевіч, Г. Марчук, Ц. Ільеўскі, М. Туруноўскі, І. Штэйнер, З. Дудзюк, А. Унучак і інш.) і *эксперыментальнага* (А. Курэйчык, М. Рудкоўскі, В. Марціновіч і інш.). Асаблівае месца займаюць п'есы, напісаныя да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання («Доктор свободных наук» М. Рудкоўскага, «Франциск. Приповесть» Ц. Ільеўскага, «Я принес вам слово!» М. Туруноўскага, «Віры своя» С. Шыдлоўскага, І. Андрэевай, «Кар'ера доктара Раўса» В. Марціновіча, «Скорина. Бета-версия» А. Іванюшэнкі, «Юдзіф» С. Кавалёва), — пераможцы конкурсу. Тры з іх пастаўлены на беларускай сцэне: «Кар'ера доктара Раўса» В. Марціновіча — у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі (рэж. А. Гарцуеў), «Доктор свободных наук» М. Рудкоўскага — у Магілёўскім абласным драматычным тэатры (рэж. С. Варнас), «Юдзіф» С. Кавалёва — у Гродзенскім абласным тэатры лялек (рэж. А. Жугжда). У Брэсцкай бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адбылася сцэнічная прэзентацыя п'есы М. Туруноўскага «Я принес вам слово!».

Напісаныя як на беларускай, так і на рускай мовах, п'есы пра Ф. Скарыну складаюць пласт сучаснай беларускай драматургіі і ўяўляюць цікавасць для чытачоў і гледачоў, пашыраюць жанравы дыяпазон гістарычнай драмы, дэманструючы яе новыя пошукі. Адны драматургі імкнуліся як мага дакладней перадаць біяграфічныя факты з жыцця Ф. Скарыны, у меншай ступені скарыстоўваючы мастацкі вымысел, ствараючы кананічную мадэль, другія — паказвалі асобу не столькі канкрэтна-гістарычную, колькі чалавечую, не пазбаўленую недахопаў, псіхалагічна вывераную, у пэўнай ступені трагічную. Імкненне драматургаў «дадумаць» вобраз асветніка і кнігавыдаўца ў рэчышчы гістарычнага кантэксту таго часу, яго акружэння, тлумачыцца наяўнасцю «прабелаў» у «біяграфіі» Скарыны. Дагэтуль невядома, калі нарадзіўся, дзе ён пахаваны, застаюцца спрэчнымі пытанні яго веравызнання (праваслаўны або католік), яго сустрэч з вядомымі навукоўцамі-сучаснікамі і інш. Шырыня мастацкага вымыслу прывяла не толькі да парушэння жанру гісторыка-біяграфічнай драмы (як разнавіднасці гістарычнай), але і трактоўкі асобы. Варта ўлічваць, што тэрмін «біяграфія» мае паратэрмін «Βίος» (ад грэчаскага «нейкая гісторыя з жыцця») [1, с. 7—9]. Дадзены падыход у большай ступені адпавядае біяграфічнаму дыскурсу драм беларускіх аўтараў.

На мяжы XX—XXI стст. гісторыка-біяграфічная драма зазнае сур'ёзныя змены пад уздзеяннем мадэрнізму і постмадэрнізму. Асабліва важна адзначыць уплыў постмадэрнізму, эстэтыка якога не выключае прыёмаў гульні, пародыі, пастыша, дэканструкцыі, інтэртэкстуальнасці, фрагментарнасці і інш., што ставіць аўтара ў асаблівыя адносіны з героем-пратаганістам, дазваляе даваць бія-

графіі ўласную інтэрпрэтацыю. Атрымліваецца «квазібіяграфія», якая мадэлюе гістарычныя падзеі.

Цікаўнасць да гісторыка-біяграфічнай драмы ўзрасла, і гэта невыпадкова. Прычынай з'яўляецца асаблівае светаадчуванне драматургаў памежнага перыяду, якія імкнуцца нанова вырашыць многія пытанні, звязаныя з гістарычнай асобай, даць яе новую трактоўку з пункту гледжання сучаснасці. Сёння гісторыка-біяграфічная драма атрымлівае новы імпульс развіцця, набываючы нават нейкую філасофскую афарбоўку, што абумоўлена яе задачай — пераасэнсаваць гістарычны факт, уступіць з гістарычнай асобай у дыялог, даць адказ на тыя пытанні, якія нас хвалююць.

Паспрабуем сістэматызаваць канцэптуальна розныя падыходы да вобраза Скарыны як да аб'екта мастацкай рэфлексіі, прычым у рэчышчы такіх рэцэптыўных стратэгій, як гісторыка-біяграфічны вобраз.

Жанравы вопыт гісторыка-біяграфічнай драмы сведчыць пра тое, што драматургі прапануюць мастацкую версію псеўдадакумента, міфалагізуюць асобу. Легітымізуецца новая тэндэнцыя апрацоўкі гістарычных фактаў (містыфікуецца пад дакумент дыялог Скарыны з іншымі гістарычнымі асобамі, мадэлюецца мастацкая прастора, моўная кампетэнцыя і інш.). Але нязменнай застаецца мадэль пратаганіста (Скарыны) як патрыёта Айчыны. Рэактуалізуецца сувязь Скарыны з Беларуссю, з вядомымі асобамі Еўропы. Надаецца ўвага псіхалагічнай, яскравай замалёўцы не толькі яго характару, але і іншых гістарычных персанажаў (Гусоўскага, Лютэра і інш.). Назіраецца імкненне паказаць яго не толькі ў канкрэтна-гістарычным ракурсе, але і ў іранічна-фарсавым ключы. Пры гэтым цвёрдая адназначнасць этычнай ацэнкі застаецца — яна яўна пазітыўная.

І разам з тым сучасная рэцэпцыя вобраза Скарыны ідзе па лініі новага гераічнага міфа, які прэтэндуе на арыгінальную і знакавую для культурнай памяці гісторыю, вызначаючы дзве тэндэнцыі «біяграфічнай драмы»:

1) пошук новых вобразных рэсурсаў у рэанімацыі біяграфічнага канона, універсальнага для драматургіі: новыя сюжэтныя хады, змена ракурсаў, дыскусійны акцэнт, псіхалагічнае паглыбленне, драматызацыя вобраза Скарыны, якая мяжуе з трагізмам. Пры гэтым драматургі абапіраюцца на факты, стараючыся адпавядаць лініі афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі;

2) радыкальны перагляд, рэвізія «біяграфічнай драмы» як устойлівай формы, што вядзе да парушэння жанравых межаў, іх трансфармацыі (драма набывае дыскурсіўна-палемічнае поле, а біяграфічны герой «перакадзіруецца» на варыятыўны сімвал, што дало падставу казаць пра новую жанравую структуру, якая не выключае трагічнага і камічнага модусаў.

У сучаснай беларускай Скарыніяне можна вылучыць наступныя сюжэтныя схемы — *канцэптуальна-біяграфічную*, што адлюстроўвае этапы біяграфіі Скарыны ў атмасферы эпохі (А. Петрашкевіч, Ц. Ільеўскі, І. Штэйнер і інш.), *дыскрэтна-біяграфічную*, якая спалучае асобныя біяграфічныя факты (А. Курэйчык, Г. Марчук, М. Туруноўскі і інш.).

У рэчышчы *гісторыка-біяграфічнай драмы* створана ***дылогія Алеся Петрашкевіча («Напісанае застаецца», «Прарок для Айчыны»)***. У п'есе «Напісанае застаецца» (1978) драматург, выкарыстоўваючы біяграфічныя звесткі, прапускае іх праз сваю свядомасць, адбірае тое, што яму неабходна для сюжэта, г. зн. выкарыстоўвае «гістарычны факт» выбарачна. І адначасова апрацоўвае яго «па-мастацку», устаўляе ў гісторыка-літаратурны кантэкст, дадаючы сваю версію інтэрпрэтацыі. Такім чынам А. Петрашкевіч выступае як бінарны суб'ект («аўтар біяграфічны» і «аўтар мастацкага тэксту») і трымаецца трох пазіцый — біяграфіі прататыпа, эстэтычнага ўвасаблення, аўтарскай пазіцыі, выяўленай экспліцытна. Ён выкарыстоўвае спрошчаную схему, у якой не ўлічваецца «дыскусійнасць» біяграфіі, бо імкнецца ў рэалістычнай праекцыі адлюстраваць біяграфічны факт з жыцця Скарыны. Прынцып гістарызму для яго з'яўляецца ключавым. У сістэму

персанажаў драматург уводзіць і іншых гістарычных асобаў (Лютэр, Гусоўскі, Грэк, Капернік, Мюнцэр, Мсціславец), вядомых свету ці звязаных з лёсам Скарыны. Пры гэтым дыялогі з імі інтэрпрэтуюцца аўтарам, падпадаюць пад рэдукцыю. Драматург паказвае пратаганіста ў культурна-гістарычным кантэксце, які служыць яму сродкам раскрыцця вучонага і асветніка.

А. Петрашкевіч трымаецца беларускай этналітаратурнай традыцыі — кананізуе Скарыну як героя і барацьбіта за беларускую мову, патрыёта Айчыны, кнігавыдаўца, вучонага, асветніка. Такой асобай ён паўстаў ужо ў завязцы п'есы.

Драма выбудоўваецца па схеме *канцэптуальна-біяграфічнага сюжэта*, складзенага з *дыялогаў-дыскусій* паміж Скарынам і Гусоўскім, Скарынам і Лютэрам, Скарынам і Нунцыем, Скарынам і Інквізітарам. Такая структура дазваляе глыбей акрэсліць пазіцыю Скарыны, раскрыць яго светапогляд. Мастацкая прастора замкнёная на топасе г. Гётэнберга, дзе праездам Скарына намагаецца прыдбаць паперу для будучай друкарні ў Вільні. Яму спадарожнічаюць сябры: Адвернік (крэдытор), Мсціславец і Маргарыта (жонка Адверніка). Аднак замкнёная прастора паступова пашыраецца за кошт успамінаў пратаганіста. Рэальныя падзеі сюжэта перабіваюцца ірэальнымі, анірычнымі: з'яўленне зданяў Максіма Грэка, Мікалая Каперніка, Томаса Мюнцэра. Скарына ўступае з імі ў дыялог і прыходзіць да думкі: віна іх у тым, што яны апярэдзілі час.

А. Петрашкевіч выкарыстоўвае псіхалагічныя прыёмы, звяртаючыся да спавядальнасці, насычае дзеянне ўнутранымі дыялогамі, іранічнай самарэфлексіяй. Асабліва гэта выяўляецца ў дыялогах з Нунцыем, Інквізітарам і Гусоўскім. Драматург закранае важны факт у біяграфіі Скарыны — дылему хрысціянскай веры: католік ці праваслаўны? Гэтая вострая праблема знойдзе працяг і ў дыялогу Скарыны з Лютэрам, дэвіз якога — «Веру, каб разумець!». Дэвіз Скарыны — «Разумею, каб верыць!» [2, с. 300]. Тэзіс Скарыны («Бог адзін, а веры розныя») адназначна характарызуе яго пазіцыю.

Канцэптуальна-важнай з'яўляецца і сустрэча Скарыны з Гусоўскім. Іх яднае сяброўства: абодва вучыліся ў Кракаве, абодва былі закаханыя ў адну дзяўчыну, абодва бедныя, але багатыя душой, і ўжо шмат чаго дасягнулі. Гусоўскі напісаў «Песню пра зубра», Скарына пераклаў і выдаў Біблію. Не выпадкова драматург бярэ эпіграф з паэмы Гусоўскага «Песня пра зубра» («Словы злятаюць, напісанае застаецца»). І Гусоўскі, і Скарына застануцца ў памяці народнай як выдатныя асобы, якія любяць радзіму, яе мову. Словы Скарыны («Без роднай мовы чалавек нямы і сляпы») з'яўляюцца прароцкімі і афарыстычнымі, яны дасюль не страцілі сваёй злабадзённасці.

Востра драматычнай з'яўляецца сітуацыя арышту Скарыны і Адверніка прадстаўнікамі інквізіцыі. Сцэны катаванняў дэманструюць іх мужнасць і стойкасць, цвёрдасць перакананняў. Скарыну абвінавачваюць у тым, што ён выдаў кнігі Бібліі не ў кананічным парадку, што святое пісанне на «мове нейкага дзікага племені», што ў «малюнках вялікі не Бог, а чалавек» [2, с. 326], але на ўсё Скарына знаходзіць пераканаўчыя адказы, поўныя іроніі.

«С к а р ы н а. А чаму гэта вас так устрывожыла? Я ж сябе намаляваў, а не вас.

І н к в і з і т а р. Калі б вы, акрамя гэтага, не зрабілі супраць царквы і веры нічога іншага, то і тады вас трэба спаліць тройчы» [2, с. 327].

Апошняя сцэна пабудаваная па прынцыпе кантамінацыі двух прыёмаў: «qui pro quo» (вызваляюць Скарыну апранутыя ў адзенне інквізіцыі Гусоўскі з двума юнакамі) і «deus ex machinae», што яўна сведчыць пра мастацкі вымысел драматурга.

Фінал пранікнуты сумам (памірае Адвернік) і надзеяй. Гусоўскі чытае ўрывак са сваёй паэмы: «Боская Маці! Прычыстая Дзева Марыя… О заступіся за нас!» [2, с. 340].

Гісторыка-біяграфічны фон твора дапаўняюць цытаты (народныя песні, прыказкі, прымаўкі, калыханка «Пайшоў каток у лясок»), цытаты Марка Аўрэлія,

Арыстоцеля, паэмы Гусоўскага, цытаты Бібліі), якія надаюць п'есе самабытнасць і высокі ўзровень інтэлектуальнасці.

Безумоўна, у дадзенай п'есе мастацкі вымысел драматург пераводзіць у рэчышча міфалагізацыі, скарыстоўваючы свой багаж ведаў пра жыццё Скарыны з крыніц літаратуразнаўчых і гістарыяграфічных. Ён стварае дынамічнае поле драматургічнага напружання, прыдумваючы патэнцыйна значныя сітуацыі, ініцыюе гістарычную карціну свету, у якой асоба асветніка выглядае ўнікальнай.

Па мастацкай структуры п'еса «Прарок для Айчыны» А. Петрашкевіча (1990) працягвае гісторыка-біяграфічны шлях Скарыны. Яе сюжэт збудаваны на перыядзе яго турэмнага заключэння ў Познані за пазыкі (206 коп). Факт біяграфіі набывае рэтраспектыўны ракурс, актуалізуе межы біяграфічнай праўды і мастацкага вымыслу. Як і ў папярэдняй п'есе, драматург паглыбляе партрэт пратаганіста, падкрэсліваючы еўрапейскі маштаб вучонага-асветніка.

У гэтай п'есе А. Петрашкевіч шмат у чым паўтарае мастацкую структуру першай часткі дылогіі і выбудоўвае сюжэт на *ўспамінах* (сустрэчы з Гусоўскім, Максімам Грэкам, Бонай, Гаштольдам) і *анірычных відзежах* (прывіды Маргарыты, Максіма Грэка, брата Івана, Міколы Гусоўскага, Бабіча) і інш. Аўтар следуе аксіёме (кожная эпоха стварае свой партрэт генія, і гэты партрэт таксама ёсць аўтабіяграфіяй самой эпохі), паказваючы асобу Скарыны непарыўна з эпохай. Новым фактам дзейнасці Скарыны з'яўляецца яго ўдзел у лёсе Статута.

«Г а ш т о л ь д. Доктар Скарына другі ў Еўропе, пасля чэхаў, пераклаў Біблію на мову свайго народа і надрукаваў яе. Гэта падзея незвычайная, гістарычная падзея! Ад яе нельга адлучыць Скарыну, між іншым, як і ад Статута Вялікага Княства, у які ён уклаў і сваю душу, і свой розум. Друкарня Скарыны ў Вільні, працу ў якой ён прыпыніў, бо быў заняты Статутам, магла б пакласці пачатак…» [3, с. 368].

Асаблівасцю структуры гэтай п'есы, як і папярэдняй, з'яўляецца перабіўка часавых пластоў і падзей, завязаных на агульнай сітуацыі — ілжывага абвінавачвання. Пры гэтым розныя сцэнічныя сітуацыі не зазнаюць рэвізію з гледзішча біяграфіі, не патрабуюць матывацыі, бо пададзены ва ўжо сфармаваным каноне біяграфіі. У гэтай п'есе з'яўляецца новы герой — «Чалавек у чорным» — антыпод, які правакуе негатыўнае стаўленне да Скарыны. Па-свойму ён будзе інтэрпрэтаваны М. Туруноўскім («Я принес вам слово!»).

Узаемадзеянне аўтара і героя абумоўлена суб'ектыўнасцю і самавыяўленнем аўтара, рэканструкцыяй біяграфічнага факта. Пры гэтым даецца ўстаноўка на сапраўднасць матэрыялу (даты, асобныя факты біяграфіі). Але галоўнае ў іншым — паказаць каштоўнасць Скарыны, пераасэнсаваць яе з пункту гледжання сучаснасці, сваёй пазіцыі і светапогляду. А. Петрашкевіч выканаў гэтую задачу, абмаляваўшы стаўленне да дадзенага героя, якое супала з грамадскім меркаваннем. Драматург праклаў жанравы вектар *гісторыка-біяграфічнай драмы* ў сучаснай беларускай драматургіі досыць удала.

П'еса Цімафея Ільеўскага ***«Франциск. Приповесть»*** (2017) адрозніваецца падрабязнай дэталізацыяй біяграфіі Скарыны, пабудаванай на аб'ектыўных фактах, што замацаваліся ў грамадскай думцы. У кантэксце сучаснага ўспрымання вобраза Скарыны драматург фарміруе чарговы гераічны міф, збудаваны на культурнай памяці гісторыі. Аўтар стварае «монаміф», толькі злёгку перафразуючы аб'ектыўныя абставіны. Ц. Ільеўскі не шукае новых вобразных рэсурсаў у рэалізацыі біяграфічнага канону. Ён следуе белетрыстыцы і пашырае гістарычную праекцыю новымі сюжэтнымі нюансамі (каханне з Францішкай, фінальная сцэна сустрэчы з сынам і інш.). Аўтар не імкнецца да татальнай рэвізіі біяграфічнай драмы, вытрымлівае жанравыя прыкметы гісторыка-біяграфічнай драмы.

Ільеўскі сюжэтную аснову выбудоўвае на асобных сцэнах з біяграфіі Скарыны. Ключавая з іх — сцэна ў турме 1532 года ў Познані. Яна з'яўляецца сюжэтным эпіцэнтрам, які арганізуе хранатоп. Аднак сцэны пададзены не ад першай

асобы (як успаміны), а ад «скрыптара» (Р. Барт), аўтара драматургічнага тэксту, які кіруецца «біяграфізмам». Рэтраспекцыя часу ад сучаснасці да мінулага ўзмацняе драму пратаганіста, прасочваючы яго шлях ад дзяцінства да фіналу жыцця. Аўтар засяроджвае ўвагу на канфлікце бацькі з сынам. Лука спадзяваўся, што Скарына працягне яго справу, але памыліўся. Удакладняе драматург і імя Скарыны:

«Л у к а. …Преступно отрекаться от своего имени, подло забывать, кто ты есть и какого роду-племени твоя семья! Беря чужое имя, ты отрезаешь пуповину, связывающую тебя с длинной чередой предков… Беря чужое имя, ты взваливаешь на себя чужую судьбу и ступаешь на неизвестную дорогу» [5, с. 18].

З новым іменем (Францыск) Скарыну было прасцей быць у каталіцкім асяродку Кракава, але словы бацькі ён не забыў і пранёс праз усё жыццё любоў да роднай зямлі. Другую версію гэтага факта мы сустракаем у «Кракаўскім студэнце» Г. Марчука (уплыў апавядання пра святога Францыска).

Цікава і жыва прадстаўлены перыяд вучобы ва ўніверсітэце. Сцэна ў карчме, дзе Скарына са сваімі землякамі святкаваў ступень бакалаўра, дэманструе «ліцвінскае братэрства». На фоне весялосці адбываецца дыялог Скарыны з каханай дзяўчынай Малгажатай, якая зразумела, што ён не пабудуе для яе дом, не падорыць дзяцей, не дачакаецца ўнукаў, не сустрэне з ёю старасць. Імкненне да вучобы перамагло «асабістае».

У вобразе Скарыны драматург выдзяляе важныя якасці асобы: настойлівасць, вялізную цягу да ведаў, імкненне выдаць кнігі на роднай мове. Яшчэ ў Кракаўскім універсітэце ён прыйшоў да высновы, што ўсяму віной — невуцтва. «Люди живут не по-христиански, не соблюдая заповеди… Люди нуждаются в знаниях, в помощи Божьей, в слове его ободряющем», — думка Скарыны пра маральнае і рэлігійнае аздараўленне актуальная і сёння.

Па-свойму інтэрпрэтуе Ц. Ільеўскі і праблему хрысціянскай веры, актуалізуючы яе:

«Я н  С е в е р и н. Свобода? Какой свободы вы ищете?

С к о р и н а. Свободы на пути к Христу. Я ищу своего Христа, слово его незамутненное, чистое, праведное. Бог един для всех. Поэтому рано или поздно найдется тот, кто разрушит двоевластие церквей и объединит всех христиан перед ликом Всевышнего» [5, с. 62].

Гэтую пазіцыю Скарыны драматург выдзяляе, расстаўляючы акцэнты дакладна, не паглыбляючыся ў палеміку, як гэта выявілася ў п’есах іншых драматургаў. Не пазбягае ён і вострай дыскусіі з Янам Віленскім — каталіцкім біскупам, у якога быў калісьці сакратаром і доктарам.

«Я н. Я сравниваю тебя со змеем искусителем, забравшимся в лоно церкви и совершающим благочестивого прихожанина дьявольским шепотом. (*Кидает на стол раскрытую книгу.*) Что это за предисловия к каждой книге? Какие еще послесловия? Возомнил себя новым Франциском Ассизским? Но тот ходил в отрепьях и все отдавал нищим. Ты же удавишься за двести шесть коп грошей! Ты — Франциск Фальшивый! Как тебя звать на самом деле? — Молчишь? Ты забыл имя, данное при крещении? Гордыня заела? Тискаешь в Библии свою рожу?! С таким высокомерием христианский мир еще не знаком! Ты хочешь стать вровень с Богом?» [5, с. 81—82]. Ян папракае Скарыну ў славалюбстве, у страху быць забытым, у перакладзе Бібліі на беларускую мову. Драматург «разблытвае» зацягнутую ў гісторыі дыскусію, ярка і востра яе раскрываючы. У савецкую эпоху, калі ствараўся мастацкі фільм «Я, Франциск Скорина» (1969) па кнізе М. Садковіча «Великий скиталец. Жизнь и творчество Франциска Скорины», нельга было раскрыць погляды Скарыны на рэлігію, ролю Бібліі ў маральным выхаванні людзей, таму акцэнт быў зроблены на Скарыну-асветніка. Сёння ўжо можна больш дакладна вызначыць ролю Скарыны — вучонага і кнігавыдаўца, раскрыць складанасць і супярэчлівасць перыяду сярэднявечча, барацьбы з ерассю, у якой ён быў абвінавачаны.

Ц. Ільеўскі практычна не раскрывае асабістых адносін Скарыны з Маргарытай, бо мае іншую мэту — паказаць барацьбу асобы з уладай, складанасць часу, зразумець яе праз прызму стагоддзяў.

Цікавасць уяўляе фінальная сцэна, яўна выдуманая аўтарам. Яна не мае гістарычнай асновы, але адыгрывае важную ролю ў трактоўцы вобразу Скарыны. Ужо ў старасці, будучы садоўнікам, ён сустракаецца з сынам, якога адразу не пазнае, бо думаў, што той загінуў разам з маці. Сімяону 23 гады, ён закончыў універсітэт, пайшоў па бацькавых слядах, стаў лекарам. Ад яго ён даведваецца, што памерлі кароль Сігізмунд, біскуп Ян. На сынава пытанне «Чаго ён дасягнуў?» — Скарына адказвае:

«Когда-то я пытался лечить и возделывать души человеческие. Мне не удалось изменить мир. Теперь я возделываю землю, и это приносит видимые результаты. … Жаль, что я понял это все слишком поздно, силы уже не те…» [5, с. 89].

Фінал яшчэ раз гаворыць пра веліч і значнасць гэтага вучонага, асветніка, кнігавыдаўца, які і сёння з’яўляецца для нас ключавой постаццю гісторыі, паказвае, што і праз 500 гадоў ён не толькі не забыты, але і запатрабаваны ў XXI стагоддзі. Тое, пра што марыў Скарына, — спраўдзілася: Беларусь стала незалежнай дзяржавай, пачынаюць вяртацца ў свядомасць народа хрысціянскія запаведзі. Славянскі і хрысціянскі свет памятае і шануе Скарыну. І адначасова драматург падкрэсліў агульначалавечую, міждзяржаўную і міжканфесійную значнасць Скарыны. Не істотна, на якой мове Біблія, не істотна, на якой мове малітва, істотна трымацца маральных пастулатаў хрысціянства. У гэтым плане гісторыка-біяграфічная драма Ц. Ільеўскага гучыць па-новаму. Драматург не выйшаў з нарматыўнага поля гісторыка-біяграфічнай драмы, паказаў характар Скарыны ў шырокім дыскурсіўным полі, яго трагічны лёс, яго геніяльнасць.

Нароўні са сфармаванымі традыцыйнымі прынцыпамі сучасныя драматургі імкнуцца стварыць гістарычны нарматыў у полі новых перфарматыўных жанравых адзінак (фарс, трагікамедыя, псеўдагістарычная драма і г. д.). Літаратуразнаўцы па-рознаму вызначаюць жанравую прыроду гэтых п’ес. Безумоўна, кожны з драматургаў спрабаваў прадставіць асобу Скарыны з пункту гледжання XXI стагоддзя, але ракурс мастацкага модуса ва ўсіх свой, асаблівы. Так, напрыклад, выклікала спрэчкі п’еса Міраслава Адамчыка і Максіма Клімковіча **«Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія»** (1993). Т. В. Аўдоніна аднесла яе да «бурлескных п’ес», «Скарыну» А. Курэйчыка — да «камедыйных трылераў» [6, с. 58—59]. П. В. Васючэнка зазначае, што аўтар «“Мудрости зачало и конець…”, або Спакушэнне Скарыны» адступае «ад канонаў традыцыйнага гістарычнага жанру» [7, с. 6]. І. В. Жук успрымае «тэкст» згаданай п’есы як «эстэтычную сумесь», у якой праявіліся прыкметы аж да постмадэрнісцкага выказвання [6, с. 66]. Паспрабуем разабрацца ў гэтай праблеме.

П’еса «Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія» выклікала зацікаўленасць у чытачоў і негатыўнае ўспрыманне ў крытыкаў. Было відавочна, што драматургі парушылі канон, што замацаваўся ў стварэнні вобраза Скарыны: асветнік паказаны ў фарсавай манеры. Такая жанравая палітра, што мае на ўвазе гратэск, камічнае і блазнаўскае, грубы і адкрыты смех, прымітыўную форму падачы матэрыялу, здавалася непрымальнай. Англійскі даследчык Л. Дж. Потс называў фарс «камедыяй са зніжаным значэннем», падкрэсліваючы адну мэту — выклікаць весялосць [8, с. 137]. Менавіта гэтага прытрымліваліся драматургі ў п’есе «Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія».

М. Адамчык і М. Клімковіч першымі ў беларускай драматургіі сталі на шлях дэкананізацыі вобраза Скарыны, наблізіўшы яго да ўспрымання сучасніка, зняўшы глянцавы налёт «недакранальнасці», зрабіўшы вобраз асветніка па-чалавечы простым і даступным, не пазбаўленым гумару. Новая мадэль пратаганіста сведчыла пра імкненне драматургаў ігнараваць сацрэалістычны канон, змяніць

драматургічную стылістыку, выводзячы на сцэну абноўленага гістарычнага героя. Драматургі зруйнавалі жанравы канон гісторыка-біяграфічнай драмы, замяніўшы яго фарсам.

Паказваючы штукарства Скарыны, аўтары выкарыстоўваюць прыём «п’есы ў п’есе», які дапамагае нам злучыць сучаснасць і XVI стагоддзе. Сюжэтная аснова саткана з камічных сцэн, якія агаляюць хітрыкі круцяля. Напаіўшы Меланхтана, Скарына ўкладвае яго ў ложак з жонкай Лютэра, а Лютэру, які знайшоў у ложку сваёй жонкі чужыя нагавіцы, тлумачыць, што гэтыя нагавіцы належаць самому святому Георгію і што яны ўратавалі ёй жыццё. Насамрэч яны належалі Скарыну. Менавіта такім хітрым гарэзам аўтары спектакля паказалі Скарыну, не шкадуючы фарбаў і сродкаў фарсу.

У гэтай п’есе пануе вясёлы смех з іранічнымі ноткамі. Аўтар не столькі крытыкуе сваіх герояў, колькі цешыцца з іх, унутрана ім сімпатызуючы. М. Адамчык і М. Клімковіч не парушаюць патрабаванняў жанру, мэта якога — весяліць. Брутальна-дэканструктыўная мадэль стратэгіі згаданых драматургаў у паказе Скарыны не мела далейшага працягу. Крытыка не вітала падобны мастацкі досвед, што адбілася на лёсе п’есы.

Гісторыка-біяграфічная п’еса на пачатку XXI стагоддзя абнаўляе паэтыку: актыўна выкарыстоўвае інтэртэкстуальнасць, новыя амплуа гістарычнага героя, — вызваляючы яго ад стэрэатыпаў выключна біяграфічнай шаблоннасці або адналінейнай афіцыёзна-міфалагічнай праекцыі. *Гісторыка-біяграфічная драма* стала імкнуцца, з аднаго боку, да варыянту жыццёвага летапісу, з другога — да жанравай трансфармацыі. Сведчанне гэтаму — п’есы А. Курэйчыка, І. Штэйнера, М. Рудкоўскага, В. Марціновіча і інш.

Сваю канцэпцыю героя біяграфічнага жанру прапануе Андрэй Курэйчык, пашыраючы межы аўтарскай свабоды, пра што сведчыць п’еса ***«Скарына»*** (2006). Ён таксама становіцца на шлях дэкананізацыі гістарычнай асобы і выбудоўвае сюжэт на рэцэпцыі яго жыццёвага і творчага шляху. Перад намі сучасны варыянт гісторыка-біяграфічнай драмы, у якой драматург фарміруе новы міф пра Ф. Скарыну, пераводзячы яго ў палемічна-дыскурсіўнае поле квазібіяграфіі. А. Курэйчык шукае новыя эстэтычныя рэсурсы ў модусе традыцыйнага біяграфічнага жанру, абнаўляе яго структуру. Ён часткова дэміфалагізуе вобраз Скарыны, злучаючы канкрэтна-гістарычныя факты з мастацкім вымыслам. Як слушна зазначае сам аўтар, — «гэта не біяграфія і нават не гістарычная стылізацыя. Гэта погляд сучасніка на сучасніка, хоць і праз прызму нейкіх гістарычных рэалій» [8, с. 362]. Драматург прыбягае да суб’ектывізацыі ў апісанні канкрэтных фактаў, раскрываючы іх праз псіхалогію герояў, іх характары і паводзіны. Пры гэтым адначасова абапіраецца на агіяграфічную традыцыю «жыція» і кананізаваны вобраз Скарыны.

У аснову сюжэта п’есы пакладзены «знакавыя» і «нязнакавыя» моманты рэальнага лёсу навукоўца-падзвіжніка, якія адлюстроўваюць тры перыяды яго жыцця — маладосць, сталы ўзрост, старасць. Фабула раздрабняецца на раздзельчыкі, зманціраваныя ў дыскрэтнай часавай паслядоўнасці, што змяшчаюць у сабе «новы імпульс» інтрыгі. Любоў Скарыны да Радзімы працінае мастацкую структуру п’есы і выказваецца ва ўспамінах пра сям’ю, дзяцінства, родныя мясціны. Ён едзе ў Вільню рэалізаваць сваю мару — выдаваць кнігі на роднай мове: «Я вам покажу красивейшие города на земле: Вильно, Полоцк, Менск, а какие озера, леса. Они же сами приглашают! Там настоящие деньги, слава, почет… Там — не здесь!» [9, с. 45]. Але краіна яго дзяцінства аказалася іншай. Умовы працы былі невыноснымі, што прымусіла яго зноў вярнуцца ў Прагу. Прыём «рубрыкацыі» (С. Аверынцаў), уласцівы нарматыўнаму жанру біяграфічнай драмы, аўтарам парушаецца. Ён не прытрымліваецца дакладных дат. Так, напрыклад, вучоную ступень доктара Скарына атрымлівае ў 1512 г., а не ў 1513 г. Вядома, што прыблізна ў 1525—29 гг. ён ажаніўся з Маргарытай (удавой Юрыя Адверніка).

У п'есе факта жаніцьбы няма. Скарына ад'язджае ў Венецыю, там запальваецца каханнем да Джульеты, а праз некалькі гадоў, вярнуўшыся ў Прагу, даведваецца пра смерць Маргарыты. Магда хавае праўду пра лёс яго дачкі і робіцца спадарожніцай Скарыны на доўгія гады. Як бачым, сямейная інтрыга, прыдуманая аўтарам, з'яўляецца ў п'есе не менш важнай і лёсавызначальнай, чым навуковая і асветніцкая кар'ера. Гэтаму падпарадкаваны мантаж біяграфічнай хронікі, які арыентуе на цэласнае ўспрыманне асобы вучонага і чалавека. Такая суб'ектывізацыя дакументальнага рэчышча прыводзіць да мастацкай дэкларацыі і адначасова з'яўляецца спосабам новай трактоўкі «грэшнага жыцця».

Першая і апошняя сцэны п'есы люстэркава адбіваюць адна адну. Падзеі адбываюцца ў Празе, у 1551 годзе, у палацы Каралевы, дзе Скарына працуе садоўнікам і лекарам. Ён смяротна хворы, але з гэтым зміры́ўся, па-філасофску разумеючы непазбежнасць і заканамернасць такога фіналу. Драматызм лёсу ўзмацняецца дзвюма акалічнасцямі: весткаю пра атручанне дачкі (у Скарыны сыны!) і прыездам Падвіцкага. Апошні шляхам падману спрабуе атрымаць згоду Скарыны пераехаць у Вільню, але, пачуўшы адмову, у злосці заяўляе: «…Загибайтесь здесь. И знайте, что для страны вы останетесь очередным мелким жуликом, хапугой, предателем, которого запомнят только за взятки, воровство, льстивые статейки. А все ваши книги мы найдем и уничтожим» [9, с. 50]. Аднак гісторыя давяла адваротнае: Скарынавы заслугі былі прызнаныя і ацэненыя. Чаму Скарына адмаўляецца вяртацца? Называючы сябе «ліцвінам», ён супраць тых, хто распальвае нацыянальную варажнечу, кшталту Яна Падвіцкага — прадстаўніка кіроўных вярхоў. У дадзеным выпадку аўтар акрэслівае пазіцыю Скарыны, адданасць яго народу.

А. Курэйчык імкнецца выявіць дамінанту ў самой прыродзе крэатыўнай асобы Скарыны: служэнне ісціне, сваёй справе, прыжыццёвая слава, драма асабістага жыцця. Аднак малюе выбітнага дзеяча беларускай культуры пры жыцці непрызнаным, вымушаным пакінуць радзіму. Драматург гэтым падкрэслівае агульнасць лёсу Скарыны з іншымі асобамі гісторыі і сучаснасці, хто эміграваў. Такі ракурс адлюстроўвае тыповы лёс «непрызнаных» у гісторыі чалавецтва. Як мяркуе І. С. Скарапанава, «А. Курэйчык мэтанакіравана імкнецца выклікаць адпаведныя паралелі, і гісторыка-біяграфічны прынцып паказу асобы Ф. Скарыны падпарадкаваны ў яго выкарыстанню вобраза Скарыны-персанажа ў якасці літаратурнай маскі самога драматурга» [10, с. 138].

У новай рэцэпцыі знакавага біяграфічнага міфа адпаведна расстаўляюцца новыя акцэнты: з аднаго боку, любоў да роднага краю і боль за яго, з іншага — нежаданне туды вяртацца. Антыномія выступае рашучаю сілаю ў развіцці ўнутранага канфлікту Скарыны. Пра гэта сведчыць горкая яго «прадмова»: «У каждого человека есть родители: мать, отец. Закон Божий и Природный предписывает всякому любить и почитать родителей своих, яко и родителям беречь и лелеять детей своих…» [9, с. 53]. Ён — адзін з гэтых «блудных сыноў», якія любяць Радзіму, але паміраюць на чужыне. Яму горка ўсведамляць, што яго кнігі, яго асветніцкае падзвіжніцтва не патрэбныя радзіме, але ён працягвае перакладаць, пісаць, ахоплены патрэбаю несці слова людзям. І хоць Магда пераконвае Скарыну ў марнасці ягонай справы, яна не разумее галоўнага, што «свет истины начинается с самого родного…» [9, с. 20]. У Скарыны Божае слова неаддзельнае ад роднай мовы, таму ён імкнецца надаць роднай мове боскі статус. На гэтай мове людзі будуць разумець хрысціянскія запаветы, навучаючыся праўдзе.

У цэлым драматургу ўдалося стварыць пераканаўчы мастацкі вобраз Скарыны, не злоўжываючы аўтарскай свабодай мастацкай выдумкі, захоўваючы жанравы код гісторыка-біяграфічнай драмы.

Новыя мастацкія рэсурсы ў модусе біяграфічнай драмы дэманструе Іван Штэйнер (**«“Мудрости зачало и конець…”, або Спакушэнне Скарыны»**), рэалізуючы сваю творчую метадалогію. Напісаная да 495-годдзя беларуска-сла-

вянскага кнігадрукавання, яна з часам (2012 — 2016 гг.) перараблялася аўтарам. У прыватнасці, зведала змены яе жанравая трактоўка: ад драмы да трагікамедыі.

Другому выданню папярэднічае наступны аўтарскі каментар: «Трагікамедыя захоўвае славутае трыадзінства: месца, часу, дзеяння, аднак вобразна-выяўленчая сістэма падвергнута выразным зменам. Дзея адбываецца на працягу дня першай трэці XVI стагоддзя ў Вялікім Княстве Літоўскім. Рэжысёру не патрэбна імкнуцца да поўнай адпаведнасці эпосе ў знешнім выглядзе, адзенні, фрызурах, учынках і поглядах герояў, як і ў афармленні сцэны і дэкарацый. Наадварот, анахранізмы (у афармленні, мове, артэфактах) больш спрыяюць рэалізацыі задумы» [11, с. 2].

У прадмове да тэксту першага выдання п’есы П. В. Васючэнка адзначае наступнае: «П’еса ўяўляе сабою цікавую спробу разгадаць інтэлектуальны код самога Скарыны і скіраваць яго ў сучаснасць» [11, с. 6], мэта аўтара — падкрэсліць значэнне дзейнасці Скарыны і рэтрансляваць яго сутнасць праз сістэму сучасных інтэлектуальных кодаў. І хоць п’еса не засталася ў баку ад крытычнага погляду літаратуразнаўцаў (І. В. Жук, П. В. Васючэнка, Т. В. Аўдоніна і інш.), тым не менш яе жанравая сутнасць засталася не раскрытай. На думку Васючэнкі, драматург адступае ад канонаў традыцыйнага гістарычнага жанру. Але даследчык не кажа аб тым, што новага ўносіць І. Штэйнер у гістарычны жанр, дзе трымаецца традыцыі, а дзе яе парушае, пакідаючы пытанне адкрытым.

Імкненне І. Штэйнера паглядзець на Скарыну з пункту гледжання XXI ст. выяўляецца як на ўзроўні зместу, так і формы. Драматург уводзіць шмат гістарычных асоб, з якімі Скарына сустракаўся ў жыцці. Адсюль — цяга да дакумента, увядзенне яго ў тэкст, але гэты дакумент праходзіць праз аўтарскую інтэрпрэтацыю. І. Штэйнер дэманструе новую стылістыку гісторыка-біяграфічнай п’есы, у якой дакумент зведвае крытычную акцэнтацыю. Мастацкі тэкст насычаны інтэртэкстуальнасцю, цытатамі з розных крыніц, што надае яму высокі інтэлектуальны ўзровень. Мова п’есы каларытная, перасыпаная прыказкамі, рэпрызамі, трапнымі выразамі («Усе мы ў той ці іншай ступені залежым ад свіней, аслоў, малпаў» — Філіп Македонскі; «На нашай зямлі заўседы дрэнна жывуць вучоныя, асабліва калі яны беларусы» — Уладзімір Караткевіч, «Nihil homine est miserius aut superbius» і інш.).

Мастацкая прастора п’есы сублімуе два часавыя пласты — мінулага і сучаснасці, якія перакрыжоўваюцца і ўваходзяць у інтэрактыўную сувязь адзін з адным. У гэтым плане п’еса І. Штэйнера ўяўляе інтарэс: яна арыгінальная і ўтрымлівае шырокі ахоп гістарычнага перыяду — не толькі эпохі Скарыны, але і нашага часу. Драматург разглядае асветніка ў кантэксце значных гістарычных фігур (Марцін Лютэр, Эразм Ратэрдамскі, Парацэльс і інш.) і ў той жа час імкнецца ўзвесці яго на п’едэстал XXI ст. Гэта *п’еса-дыскусія*, якая дэманструе пошук ісціны, ставіць пытанне і дае адказ адносна асобы Скарыны. Яна дэманструе глыбіню і шырыню ведаў пра гэтага чалавека, яго ўнёсак у навуку і культуру. Безмоўна, тут выявіўся прафесіяналізм драматурга — прафесара, які выдатна валодае матэрыялам, якому хочацца сказаць усё важнае, як у тэксце лекцыі. Дыскусія, якая пакладзена ў аснову мастацкай структуры п’есы, вызначыла адзінства часу і месца дзеяння, што было ўласціва класіцысцкай п’есе. У адрозненне ад яе, час і месца сублімаваныя (XVI і XXI стст.), вытрымана пазіцыя «тут і цяпер», што надае хранатопу спецыфіку і дазваляе актуалізаваць дыялог. Гэта ўжо адчуваецца ў экспазіцыі (дыялог Скарыны з Бландынкай у офісе «Скарына і К»). І хоць гаворка ідзе пра падзеі скарынаўскага перыяду, лексіка перасыпана сучаснымі тэрмінамі (сход акцыянераў, рэестр, dress-code, Еўрапейскі Саюз, Nestle, Forbes і інш.). «Змешваючы» лаціну з англійскай, рускай, беларускай мовамі (Velcom, life, Really? Nec vivit male, не веру! Вау, Мерчэндайзер, Rex bibendi), гуляючы мовай, драматург дасягае камічнага эфекту. Аўтар канкрэтызуе факт выдання Біблії ў Беларусі (1517), у Нямеччыне (1522; 1534), Францыі (1530), Англіі (1538) з мэтай падкрэсліць першынство Скарыны, яго асветніцкую дзейнасць.

У гэтай п'есе спалучаецца мадэль «аўтар біяграфічны» + «аўтар драматургічнага тэксту». Параметры задаюцца трыма пазіцыямі — «біяграфізм», + аўтарская пазіцыя, праекцыя мастацкага бачання, аўтар-інтэрпрэтатар. Героі ў большай ступені характарызуюцца праз дыялог, акцэнтаваны, тэатралізаваны, рэдка — праз мізансцэны. Адзінства розных часавых планаў, дыялогі, сцэны, эпізоды ствараюць агульную карціну свету, сканцэнтраваную вакол Скарыны, раскрываюць яго рысы і крэатыўныя магчымасці, унутраныя дыялогі, самарэфлексію. І. Штэйнер пазбягае маралітэ і фармалізму, хоць абстрактная рытарычнасць прысутнічае. Сацыяльная прастора, памножаная на сцэнічную ідэю, дамінуе над сцэнамі «асабістымі».

І. Штэйнер актыўна звяртаецца да інтэртэкстуальнасці. Цытаванне іншых аўтараў, уключанае ў цытатна-мантажны канцэптуальны прынцып, робіцца часткай тэксту, а рэінтэрпрэтацыя факта з'яўляецца заканамернасцю. Нярэдка драматург выкарыстоўвае афарыстычную мову, дыялекты, адлюстроўваючы народны каларыт. Цытаты з Бібліі («Мертвые ничего не знают. Эклезиаст 9:15») арганічна ўпісваюцца ў сюжэтную аснову, надаючы ёй мастацкую вобразнасць. Пры гэтым высокія маральныя арыенціры культывуюцца як адзіны магчымы шлях у выяўленні асобы Скарыны.

Драматург падкрэслівае, што пра Скарыну склалася многа міфаў, што спасцігнуць яго вобраз, як і кожную слынную гістарычную асобу, можна толькі пры дапамозе фантазіі, вымыслу і сафістыкі. Адзначым, што І. Штэйнер намагаецца адказаць на спрэчныя пытанні, якія існуюць у біяграфіі Скарыны. Напрыклад, сцвярджае Блазан, «вучоныя людзі ніколі не будуць ведаць, якой вераю верыў ён — праваслаўнай ці каталіцкай». Адказ на гэтае пытанне драматург укладвае ў вусны Скарыны:

«Нам трэба аб'яднаць хрысціян усіх канфесій. Церков Христова — гэта мати всех хрестиан. Кніга павіна заклікаць да церковной единоты, да таго, каб всем с любовию молитися вкупе, служыць глыбінным інтарэсам усіх людей пасполитых русского языка, усяго беларускага народа, падзеленага на праваслаўных і каталікоў» [11, с. 38].

Удакладняюцца гады выдання яго кніг, цытуюцца «прадмовы».

Постмадэрнісцкі код, які адсылае нас да гістарычных іміджаў Парацэльса, Марціна Лютэра, Эразма Ратэрдамскага, іранічна падаецца аўтарам, складаючы модус камічнага:

«С к о р и н а (*крыху не залюбіў, бурчыць*). *Какая глыба! Какой матерый человечище?* (*гучыць «Радзіма мая дарагая», якую перабівае «Есть традиция добрая в комсомольской семье»)*

Б л а з а н. Люблю карпаратывы. *Ничто так не сближает коллектив, как поездка за город і* сумесная п'янка» [11, с. 11].

Драматург уводзіць «маналогі-характарыстыкі» гістарычных асобаў (Марцін Лютэр, Парацэльс, Эразм Ратэрдамскі), «прадмовы», вялікую цытату з артыкула Энгельса з асветніцкай мэтай.

Камічны складнік дадзенай камедыі больш пададзены ў мове. Сінтэз іскрамётнага гумару з іроніяй, які пранізвае тэкст, дасягае эфекту вастрыні. Аўтар уводзіць многа «мудрых фраз», выслоўяў вялікіх філосафаў, што надае п'есе не толькі інтэлектуальны ўзровень, але і правакуе смех у залі. Напрыклад: *Глупость — радость для малоумного*» (Саламон).

Камічнае праяўляецца не толькі ў маўленні, але і ва ўчынках герояў. Прыём qui pro quo спрацоўвае і тут (у ролі Настрадамуса выступае мясцовы Звяздар, так танней). Часам іронія мяжуе з пародыяй, якая правакуе вострую крытыку.

«Бл а з а н. Гэта нічога не значыць. Я ведаю людзей, якім веданне вялікай мовы не перашкаджае заставацца асламі» [11, с. 12].

П'еса прасякнута пачуццём гонару за беларускую мову, беларускую культуру («Як хораша гучыць старабеларускае слова» [10, с. 25]). З дакорам у адрас беларусаў успрымаюцца рэплікі драматурга, калі гаворка ідзе пра сучаснасць,

дзе страчаны нацыянальныя каштоўнасці. Так, напрыклад, беларусы ўзгадалі родную песню «Раскажыце мне, добрыя людзейкі» толькі тады, калі яе заспявала Кадышава з «Золотого кольца». Кпіны гучаць і ў адрас гісторыі, якая не была і не будзе навукай, бо яе факты фальсіфікуюцца ў залежнасці ад таго, хто пры ўладзе [11, с. 20]. У мастацкую структуру ўключаны песні В. Шалкевіча («Сярэднявечча»), музыка гурта «Стары Ольса», «Ах, мілы Аўгустын» і інш., якія звязваюць мінулае з сучаснасцю.

Жанравая спецыфіка гэтае п'есы ў тым, што драматург камічнае праекцыянуе на сучаснасць, крытычна яго асэнсоўвае і спадзяецца на рэакцыю і ўспрыманне гледача. І гэта ў яго атрымліваецца. Трагічнае праглядаецца ў мінулым і ў большай ступені сыходзіць у падтэкст.

Невыпадкова Вольны мастак параўноўвае Скарыну з Іовам. Як і ён, Скарына заўсёды будзе рызыкаваць сваёй маёмасцю і жыццём, бадзяцца па чужых землях, гарадах і цэрквах.

«Б л а з а н. Эміграцыя — сутнасць беларускага нацыянальнага духу.

З в я з д а р. Або прамая, або ўнутраная.

Б л а з а н. І цяпер ці не палова беларусаў гатовы пакінуць Радзіму (*гучыць песня гурта «Мроя» пра кенгуру і качкадзюбаў)*».

Сюжэт, пабудаваны на дыялогу-спрэчцы аб тым, хто такі Скарына, завяршаецца адкрытым фіналам. Фактычна пытаннем, што адсылае нас да назвы п'есы.

«Г о л а с: Дык хто ён такі? Дурань? Святы?! Мудрості зачало іль конец?»

Безумоўна, дадзеная п'еса знаходзіцца ў дыскусійным полі, не толькі паглыбляе і сістэматызуе нашыя веды пра Скарыну, але прымушае задумацца аб мінулым і сучасным. У межах «біяграфічнага канона» І. Штэйнер здолеў стварыць вобраз беларускага асветніка ў рэчышчы трагікамедыі.

Аўтарскую рэцэпцыю вобраза Скарыны прапануе Мікалай Рудкоўскі ў п'есе **«Доктор свободных наук»** (2017), дэманструючы новыя эстэтычныя рэсурсы. Ён выбудоўвае дыялагізаваны маналог са Скарынам, што раскрывае складаныя пытанні яго біяграфіі і ў той жа час дае на іх адказ. Як заўсёды, М. Рудкоўскі імкнецца да мастацкага сінтэзу часу і прасторы, ускладняючы сюжэтную аснову. Пра гэта сведчыць хранатоп, які трансфармуе два часавыя пласты (сучаснасць і мінулае). Вобраз Скарыны таксама сублімаваны: у сучаснасці — ён пасажыр самалёта, у мінулым — Доктар. Як і Чалавек, які пакінуў кнігу ў мяккай вокладцы, з экспрэса «Мінск — Вільнюс» — «свой чалавек», Майстар у мінулым. Прынцып сістэмы персанажаў часткова пабудаваны на «дваістасці» роляў, звязаных з мінулым і сучаснасцю.

Арыгінальны падыход драматурга і ў тым, што ён дае магчымасць Скарыне даведацца аб меркаванні пра сябе, сваю значнасць ад іншых, пераасэнсаваць зробленае, што надае п'есе філасафічнасць. Цытатна-мантажны прынцып, укаранёны ў тэкст п'есы, дазваляе рэінтэрпрэтаваць біяграфічны матэрыял. У сваю чаргу, інтэртэкстуальныя фрагменты, выкарыстаныя драматургам, абгульваюць канатацыйную матрыцу на розных узроўнях тэксту ў прытчавым ключы, адпаведна біяграфічная драма жанрава змяняецца на сімваліка-алегарычную. Узнікаюць жанрава-мадулятыўныя супярэчнасці паміж уласна аўтарскімі інтэнцыямі і кананічнай хранікальна-дакументальнай формай для рэалізацыі задумы гісторыка-біяграфічнай п'есы. Аўтарскі прыём дэстабілізацыі традыцыйнага мастацкага тэксту адбываецца ў сістэме мадэрнізму, дадаючы постмадэрнісцкія інтэнцыі. Стэрэаскапічны погляд драматурга на вобраз Скарыны максімальна пашыраецца да магчымых рэцэптыўных амплуа: кумір, асветнік, кнігавыдавец, патрыёт, вучоны, паэт, абаронца простых людзей, зацяты прадстаўнік хрысціянства, у выніку — рамантычны чалавек, які кахае сваю жонку. М. Рудкоўскі рэалізуе творчы патэнцыял, датрымліваючыся гісторыка-біяграфічнай драмы, не забываючыся пра псіхалогію пратаганіста, яго паводзіны, знешнасць. Кантэкстуальная сітуацыя ў гэтым плане складае мастацкі домысел.

Экспазіцыя п'есы прадстаўляе спрэчку-дыялог, што ўзнікла паміж пасажырамі экспрэса «Мінск — Вільнюс» пра культуру чытання, значэнне кнігі ў нашым жыцці, замену яе папяровай формы на электронныя носьбіты (планшэты, смартфоны і г. д.), якія прапануе час глабалізацыі. Сярод іх — «мужчина с книжкой в мягкой обложке, женщина с электронной книгой, юноша со смартфоном и доктор свободных наук» [12, с. 155]. Гэтая філасофская гутарка з'яўляецца прэамбулай да развіцця далейшых падзей, якія яднаюць сучаснасць з XVI стагоддзем. Мастацкая структура п'есы прасякнута інтэртэкстуальнай сувяззю мінулага і сучаснасці, актыўна выяўленай у мове (моўныя клішэ кшталту «Жить так здорово здоровым!», «высокие цены» на ўсё і інш.). Пераход з аднаго часавага пласта ў другі сімвалічна адлюстроўвае шолах старонак кнігі ў мяккай вокладцы, якую, выходзячы з экспрэса, узяў Доктар вольных навук. Гучны шолах пераносіць нас на кірмашовую плошчу Вільна, накрытую сонечным зацьменнем — прыроднай стыхіяй, звязанай з жыццём Скарыны (нарадзіўся ў дзень сонечнага зацьмення). У той жа час — гэта метафара, якая адлюстроўвае час. Невыпадкова першы акт п'есы мае назву «Затмение».

Дыялог Доктара з Братам аб трэснутым свеце раскрывае праблему асветы грамадства, яго сацыяльныя беды. Мы даведваемся, што Доктар пераклаў Біблію на даступную для народа мову, а Брата хвалююць падзеі на мяжы з Масковіяй. Доктар прычыну бачыць у тым, што людзям не хапае ведання слова Божага. Калі Пісанне стане для іх зразумелым, перад імі адкрыецца новы свет.

Сакраментальная фраза-рэфрэн («Люди уходят, а книги остаются») адсылае нас да М. Булгакава («Рукописи не горят»), А. Петрашкевіча («Напісанае застаецца»), сцвярджаючы думку, што кнігі будуць вечна запатрабаваныя. І ў той жа час набывае іншую канатацыю, звязаную з тым, што ўсе блізкія сябры, якія дапамагаюць Доктару ў выданні кніг, паміраюць, ён застаецца ў адзіноце і ўсведамляе гэтую трагедыю.

Патрабуе асобнай расшыфроўкі і метафара — чучала кракадзіла, якое суправаджае Доктара цягам жыцця. Узнікае асацыяцыя з «Драконам» Я. Шварца, што сімвалізуе зло. М. Рудкоўскі паказвае яго «жывучасць» у мінулым і сучаснасці (пераезды ў пошуках лепшага месца, бежанцы з краін Усходу, якія рынуліся ў Еўропу). І толькі ў раі яно робіцца цацкай у руках дзяцей, чучалам, выкінутым на бераг мора.

П'еса пабудавана на перабіўцы сцэн драматычных і лірычных. Пастаяннае цытаванне «Песні песняў» Саламона («От благоговения мастей имя твое…», «О, ты прекрасна, возлюбленная моя, ты прекрасна!», «Вся ты прекрасна, возлюбленная моя, и пятнышка нет на тебе…», «Как половинки граната щеки твои» і інш.) падкрэслівае высокія пачуцці любові да Маргарыты. Высокая паэзія стала зразумелая і блізкая ёй дзякуючы перакладам Скарыны. Лірызмам і сімволікай напоўнена першая сустрэча Доктара з Маргарытай, іх танец вакол кнігі. Асобае семантычнае напаўненне атрымліваюць цытаты з Біблії, цытаты вершаў, укладзеныя ў вусны Доктара. М. Рудкоўскі не адступае ад гістарычных фактаў біяграфіі пратаганіста (дапамога Якуба Бабіча і Юрыя Адверніка ў выданні кніг) і адначасова ўводзіць сцэну «брацтва», у якое Таямнічы мужчына (Майстар) прапануе ўступіць Доктару. Постмадэрнісцкі пасыл скіроўвае нас да «Фаўста» Гётэ і рамана М. Булгакава «Майстар і Маргарыта», — Майстра, які ведаў цану кнізе. У М. Рудкоўскага Майстар адыгрывае ролю спакусніка:

«М а с т е р. Вы сомневаетесь… Зачем же вы так? Ваш недруг, между прочим, для исполнения своей цели продал душу… (*Показывает пальцем вниз.*) Ему! А вам же этого делать не надо. Душа останется с вами. Она нам не нужна. Тело, в принципе, тоже. Нам только нужна ваша преданность. Всего лишь преданность» [13, с. 169].

Доктар праходзіць абрад пасвячэння ў «брацтва». Яму завязваюць вочы, а напрыканцы здымаюць павязку. Гэтая сцэна сімвалічная. Выкарыстоўваючы

прыём пастыша, драматург малюе фантасмагорыю «брацтва» савецкага грамадства, якое рэгламентуе канстытуцыю і прысягу быць верным сваёй Айчыне і справе, якой служыш. Безумоўна, гэта чарговая метафара драматурга. Доктар быў захоплены жаданнем выдаваць кнігі, і гэта асляпіла яго, засланіла ўсё астатняе. Ён гатовы быў на ўсё дзеля галоўнай справы свайго жыцця. І толькі ў фінале ён зразумеў, што Усявышні даваў яму знакі, але ён іх не заўважаў, таму цяпер расплачваецца. Аднак Майстар пераконвае яго ў адваротным — галоўнае, вынік, місія Доктара ўдала выканана. Ён зноў яго спакушае, прапануючы грошы для друку, але той адмаўляецца.

Лірычнасцю вызначаецца разгорнуты маналог Доктара, дзе апісваецца карпатлівая праца над кожнай буквіцай («Букву А лучше переплести цветами льна. Ж — изящная буква. Ей хорошо подойдет мальва. Василек я вплету в букву Г»). Знаходзяць месца тут і штодзённыя клопаты і думкі пра Маргарыту. Наратыўны пласт маналога завяршаецца светлай марай пра першыя друкаваныя аркушы, якія праходзяць праз рукі Брата, Якуба Бабіча, Юрыя Адверніка, Маргарыты.

М. Рудкоўскі ўводзіць у драматургічную структуру міні-маналогі (Якуба, Брата, Юрыя, Маргарыты), якія ўтвараюць гіперманалог, дзе кожны з персанажаў кажа пра тое, што яго хвалюе. Гэта дазваляе пашырыць інфармацыйнае поле п’есы (памёр бацька, чума ў Празе) і паглыбіць характарыстыку персанажаў (іх пачуцці, адносіны да Доктара). Поліфанія тэксту спалучае драматызм, трагічнае і лірычнае, перадаючы стан людзей, якія апынуліся ў сітуацыі бяды.

Другі акт («Сад») — своеасаблівае пасляслоўе, у якім выкладзены погляд з мінулага ў будучыню, дадзена ацэнка зробленаму. Рэальны план змяняецца ірэальным. Падзеі адбываюцца ў садзе раю, у якім апынуліся Доктар, яго сябры, Маргарыта, сын, Майстар. Усе навокал рыхтуюцца да свята Усіх Святых. Перададзена атмасфера карнавалу: твары падлеткаў расфарбаваныя чырвонай фарбай, чучала кракадзіла — цацка ў іхніх руках. Доктар, які пражыў жыццё, зайздросціць моладзі: яны вольныя здзяйсняць памылкі і жыць у карнавале. Няхай нават адну ноч. Майстар нагадвае яму, што ўсё пачалося з кніг, з кніг Скарыны. «Теперь любой юноша считает себя мудрецом» [13, с. 181]. Прыём рэтраспекцыі дазваляе аўтару пералічваць гістарычныя факты з жыцця Скарыны (сядзеў у турме, вызвалены дзякуючы загаду Сігізмунда, быў у Кёнігсбергу, нарадзіўся сын, выданне кніг і інш.). Яго мучыць адно пытанне: чаму, як чума, выдадзеныя кнігі пазабіралі яго самых блізкіх сяброў? Цяпер ён зразумеў словы: «Люди уходят, книги остаются» [134, с. 186]. Ён больш не хацеў ахвярапрынашэнняў за кнігі. Размова з Маргарытай лірычная: «Влеки меня, мы побежим за тобою; царь ввел меня в чертоги свои, будем восхищаться и радоваться тобою, превозносить ласки твои больше, нежели вино», «подкрепите меня вином, освежите меня яблоками, ибо я изнемогаю от любви… Ты чистая, как первая страница…» [134, с. 187]. Яна цытуе «Песню песняў» Саламона, якую так упадабала пры жыцці.

Сцэнічная метафара зноў нагадвае *агонь*, які ўвесь час праследуе Скарыну (згарэла друкарня, гараць кнігі) і чучала кракадзіла, як знак *бяды*. Адзінае суцяшэнне — сын, выдатны хлопчык. «Он красив, как буква «Л», переплетенная цветами. Он умен, как молодой Соломон» [134, с. 187].

Трагічныя староні адлюстраваны ў сцэне суда, які пастанавіў кнігі ўраджэнца Полацка, Францыска Скарыны, надрукаваныя ў Празе і Вільні, знішчыць, паколькі святое пісанне не на царкоўнай мове. Суддзю абураюць малюнкі і тое, што на прастоле Госпад, а побач з ім Доктар, што ў партрэце Скарыны многа таемных знакаў (леў, пчала).

Фінальная сцэна — зноў сучаснасць. Драматург нагадвае прыпавесць пра Давіда і Вірсавію, экстрапалюючы яе на Скарыну, ягоны выбар: кнігі або сын? Ён выбірае сына. Ідылічная карцінка: Доктар з сынам збіраюць на лузе лекавыя зёлкі, бацька вучыць Сімяона разбірацца ў іх. Побач Маргарыта. Ён не шкадуе ні пра што, бо ў кожнага свая місія. Роля садоўніка яго не прыніжае.

«Д о к т о р. Мы слышим то, что должны услышать. И свою миссию тоже. Какой бы она ни была. Нас ведет по ней Бог, а мы вечные странники, которые хотят в итоге попасть в райский сад. И я оказался в саду. Пусть пока не в райском. Но дверь в райский сад я уже приоткрыл…» [13, с. 199].

Эпілог вяртае нас у сучаснасць. На экране — жыхары Беларусі, якія адказваюць на пытанні пра жыццё Скарыны.

П’еса М. Рудкоўскага вызначаецца метафарычнасцю, сюжэтнай інтэлектуальнасцю, наватарскім падыходам да рашэння жанравай структуры гісторыка-біяграфічнага матэрыялу. Міфалагізуючы вобраз Скарыны, драматург парушае традыцыйную схему і надае п’есе арыгінальную стылістыку. Важна тое, што ў цэнтры ўвагі М. Рудкоўскага тыя праблемы, якія хвалююць грамадства і даследчыкаў. Філасофскае пытанне пра сэнс жыцця, пра тое, што пасля цябе застанецца, пра тэасофскія праблемы быцця ён смела рэалізаваў у складанай мастацкай форме. Аўтар прыходзіць да думкі, што кожны чалавек пражывае сваё жыццё так, як можа, але кожны марыць быць у раі, што і заслужыў Скарына. Хрысціянскія праблемы, узнятыя ў п’есе, акрэслены драматургам дакладна і прынцыпова, чаго не было ў драматургіі пра Скарыну раней.

Новым крокам у асваенні драматургічнай Скарыніяны з’яўляецца п’еса Міхаіла Туруноўскага «***Я принес вам слово!***» (2017). Як і М. Рудкоўскі, ён ідзе па шляху міфалагізацыі і ў той жа час не адступае ад гістарызму. Драматург збудаваў сюжэт на супрацьборстве дзвюх сіл — светлай, акумуляванай у вобразе Францыска Скарыны, якая нясе чалавецтву асвету, і цёмнай, прадстаўленай Чалавекам у чорным (Человек в черном, ЧВЧ). Няпрошаны госць просіць Луку адпусціць Францыска, абяцаючы зрабіць яго знакамітым, а Луку — багатым. Здзелка адбылася, але Скарына не прадаўся, стаў доктарам, які лечыць не толькі цела, але і душу. Чалавек у чорным — ніхто іншы як д’ябал (бес), пад маскай дабрадзейнасці. Знаходзячыся ў пастаяннай барацьбе з Богам, ён выступае супраць публікацыі Бібліі, супраць таго, каб людзі зведалі праўду і прытрымліваліся хрысціянскіх запаведзяў. Гэтае супрацьстаянне раскрытае ў маральна-філасофскім канфлікце і трансфармавана ў мастацкай структуры (трансцэндэнтнае, якое прадстаўлена іншасветнай сілай).

Асаблівую функцыю адыгрываюць разгорнутыя рэмаркі, у якіх адведзена месца музычным паўзам (сярэднявечная польская, італьянская, старажытная музыка, танцавальныя групы, якія выконваюць харэаграфічныя эцюды «Мастак», «Экзамен», «Пераслед»). Яны з’яўляюцца своеасаблівымі застаўкамі, якія каменціруюць тое, што адбываецца, разражаюць дзеянне. Іх праекцыя звязана з гісторыка-біяграфічнымі момантамі ў жыцці Скарыны.

У мастацкай прасторы — месцы, дзе пабываў Скарына (Полацк, Кракаў, Падуя, Вільна, Масковія). Асаблівай расшыфроўкі патрабуюць чатыры квадраты, размешчаныя на мантажных рыштаваннях (карціны 2, 3, 4). Маладыя людзі, загрыміраваныя пад Скарыну (яго «клоны»), малююць, лепяць, выкладваюць мазаіку, пішуць, чытаюць, складваюць геаметрычныя фігуры, здаюць экзамены. Праекцыя звязвае мінулае з сучаснасцю: і сёння многія, падобна да Скарыны, асвойваюць прафесіі, вучацца, дасягаюць вяршыняў асветы.

Восем карцін адлюстроўваюць самыя важныя этапы жыцця (Полацк, вучоба ў Кракаве, Падуі, пераклад Бібліі, друкарня ў Вільні, падзеі ў Кёнігсбергу, Масковіі, турэмнае заключэнне ў Познані). Драматург не скажае іх трактоўку, гістарычную дакладнасць і імкнецца на гэтым фоне вырашыць асноўную ідэйна-маральную канцэпцыю Скарыны — «врачевание не только тела, но и души». Ключавое слова «душа» звязана з асветай народа, хрысціянскімі пастулатамі, выкладзенымі ў Бібліі. Слова «душа» набывае канатацыю, звязаную з назвай («Я принес вам слово»), то бок слова Бібліі, якое лечыць чалавечую душу. Дадзеная аксіёма — «лячыць трэба не толькі цела, але і душу» — і сёння не страціла сваёй значнасці.

«Ч В Ч (*резко обрывает смех, переходя на гнев)*. В огне! В огне сгинула твоя книга! Пепел! Только пепел ты найдешь там! Тщетны будут твои труды, мой маль-

чик! Я буду находить повсюду твои книги. Тебе не хватит и трех жизней, чтобы написать столько книг, чтобы хотя бы одна из них смогла избежать всепоглощающего огня.

Ф р а н ц и с к. Убирайся! Убирайся прочь! Я не сдамся. Я все равно не сдамся!» [14, с. 113].

Прайшоўшы праз цяжкасці, страты блізкіх і дарагіх яму людзей (жонкі, Адверніка, Бабіча, Онкава), ён не пакідаў надзеі на выратаванне сваіх кніг. Моцнае ўзрушэнне адбылося ў Масковіі, калі князь, баяры і духавенства не прызналі яго кнігі, абвінавацілі ў ерасі, загадалі спаліць іх.

«Ф р а н ц и с к. Остановитесь, люди! Я принес вам слово! Останови их, князь! Ты совершаешь страшную ошибку! Господи, прости их, ибо не ведают они, что творят!» [13, с. 128].

ЧВЧ трыумфуе, што Скарынавы працы марныя: «Больше никто и никогда не вспомнит о жалком сыне купца, посмелившем бросить вызов мне» [13, с. 129].

«Ф р а н ц и с к. Да. Мне больно. Ты прав. Ты снова сделал свое черное дело. Ты хитер и умен. Ты снова прокрался в их неокрепшие души, и окутал их глаза и уши пеленой лжи. Но ты ошибаешься. Как же ты глубоко ошибаешься! Обернись!

Ч В Ч. Что это? Нет!» [13, с. 129].

У верхняй частцы фаліянта плаўна пачынае свяціцца гербавы знак Скарыны. Скрозь яго прарываюцца промні святла, ЧВЧ адступае назад, прыкрываючы вочы ад промняў, якія падаюць на яго.

Фінал сімвалічны. У цэнтры сцэны ўздымаецца вялізны фаліянт Бібліі. Як наказ гучаць дзесяць запаведзяў, якіх мусіць трымацца чалавецтва. Аўтар заклікае не забываць «слова», што нясе ў сабе ісціну, любоў, веру.

У жанравым ракурсе трагікамедыі прапануюць Сяргей Шыдлоўскі і Ірына Андрэева рэцэпцыю вобраза Скарыны ў п’есе **«Віры своя»** (2017). Яе спецыфіка ў тым, што камічнае пранізвае сюжэт, створаны паводле прынцыпу народнага лубка. П’еса насычана гумарам, перыпетыямі фарсавага характару, народнымі абрадамі, што стварае агульную карцінку народнага жыцця сялян, іх падрыхтоўку да святкавання Каляд. Адштурхоўваючыся ад гістарычнага факта (1510 год, Вільня, Скарына шукае мецэнатаў для выдавецтва), драматургі ўздымаюць праблему роднай мовы, даступнай простаму народу. Спрыяе гэтаму прыём «п’еса ў п’есе», трансфармаваны аўтарамі. Кіраўнік школьнага тэатра Гугон ставіць п’есу пра святога Іосіфа і прымушае акцёраў гаварыць на латыні, якой тыя кепска валодаюць.

«П е р ш ы з а л е б а р д а й. Ты ж бачыш, з нашага прыўкраснага Іосіфа лаціна зыходзіць у момант, як з гуся вада. Ён будзе так запінацца і перад гледачамі.

Д р у г і з а л е б а р д а й. Можа, яму памяняцца з фараонам? Фараон — пастава важная, а слоў амаль няма.

П е р ш ы к а л я д о ў ш ч ы к. Амаль ніхто не разумее лаціны і адпаведна не забівае галавы нашымі складанымі алегорыямі.

Д р у г і к а л я д о ў ш ч ы к. Затое, калі каровы гізуюць — падабаецца ўсім» [15, с. 132].

Вучні звяртаюцца па дапамогу да Скарыны, каб той пераканаў Гугона ставіць п’есу на роднай мове. Францыск прыдумляе для іх інтэрмедыю, у якой глядач пазнае сябе і блізкіх. Камізм узмацняе прыём qui pro quo: Гугон не ведае Скарыну, прымаючы яго за звычайнага жыхара, пры гэтым кажа пра асветніка, называючы ерэтыком.

Апошняя сцэна апісвае калядкі. У дом Дамінікі прыходзяць пераапранутыя калядоўшчыкі, сярод якіх Маргарыта, Гугон, Аляксандра, фараон і некалькі кароў, падобных да коз. Гучаць калядныя песні: «Вясёлых вам калядак і ладных аладак!»

Назва п’есы («Віры своя») адсылае нас да фіналу. Скарына выпраўляецца ў Полацк, і Маргарыта пытаецца ў яго, калі чакаць у наступны раз? Ён адказвае,

«што ўсё вяртаецца на кругі свае». Цытуецца ўрывак: «Зверi, ходящiе в пустынi, знают ямы своя; рыбы, плывущiе по морю i в реках, чуют вiры своя; пчелы i там подобная боронять ульев своiх. Тако ж i люди, iгде зродiлiся i ўскормлены суть по Бозе, к тому месту велiкую ласку iмають» [15, с. 152].

Гэтыя радкі прасякнутыя болем і тугою, бо Скарына памёр у Празе, увесь час думаючы пра радзіму. У гэтым яго трагедыя. Вось чаму аўтары п'есы вызначылі яе як трагікамедыю: камічнае — у тэксце, а трагічнае — у падтэксце. У жанравым ракурсе трагікамедыі гэтая п'еса не зусім вытрымана, але яна паказала новы эстэтычны ракурс рэцэпцыі вобраза Скарыны, яго барацьбу за родную мову.

П'еса вылучаецца каларытнай мовай, народным гумарам, атмасферай вясковага побыту беларусаў, фальклорам (калядныя абрады і песні, прыказкі), што арганічна ўвайшло ў гістарычную аснову, міфалагізаваную аўтарамі і па-мастацку імі пададзеную.

Сучасны погляд на Скарыну, яго жыццё і лёс выклаў Віктар Марціновіч у п'есе **«Кар'ера доктара Раўса»** (2017). Як і М. Рудкоўскі, ён злучыў мінулае (1515, 1517, 1520, 1530, 1532, 1533, 1540, 1571 гады) і сучаснасць, але ў большай ступені правеў асацыяцыі з сучаснасцю, што выяўлена ў канцэпцыі трагікамедыі. *«"Карьера доктора Рауса" — это о нас с вами, о том времени, в котором мы живем, потому что со Скориновой поры почти ничего не изменилось: все те же судьи, меланхтоны и лютеры вокруг… В несчастьях Скорины, его скитаниях по свету просматриваются судьбы многих его последователей. Это конденсированная формула белорусской кармы. В этом смысле пьеса и про Алексиевич, и про Михалка, и про всех тех, кто, скитаясь за рубежом, пытается прославить свое отечество»,* — расказаў «НН» Віктар Марціновіч. У гэтым яго канцэпцыя блізкая да А. Курэйчыка («Скорина»).

Сюжэт пабудаваны на гістарычных фактах біяграфіі, якія праекцыянуюцца на сучасныя рэаліі соцыуму і пададзены ў трагікамічным ракурсе. Як і ў п'есе М. Рудкоўскага, у В. Марціновіча Скарына — Доктар — першадрукар. Насычаючы тэкст сучаснай лексікай (менеджар карпарацыі, прэзентацыя ў Power point, лазерная ўказка, сотавы тэлефон, планшэт), драматург мае на мэце — даць іранічную трактоўку. Падобнае «накладанне» гістарычных пластоў узмацняе камедыйны модус п'есы. Трагічнае і камічнае балансуюць, выступаючы то на ўзроўні тэксту, то на ўзроўні падтэксту. Лёс Скарыны — драма, якая мяжуе з трагедыяй: кнігі знішчаны, страціў усіх блізкіх, апынуўся не на радзіме, а ў Празе, у ролі садоўніка. Гэтую трагедыю драматург трансфармуе праз камедыйныя сітуацыі, звязаныя з абсмяяннем тых, хто здзяйсняў суд над Скарынам. Гэта прадстаўнікі духавенства, правасуддзя, прыбліжаныя караля, — абмежаваныя ў поглядах чыноўнікі, якія баяцца новага і прагрэсіўнага. Ужо ў завязцы п'есы (прыход Доктара ў маркетынгавую карпарацыю Якуба Бабіча па фінансавую падтрымку) камічнае праяўляецца ў супярэчнасці «жаданага і наяўнага». Просьба Доктара выклікала ў Менеджара падазрэнне — ці не шантаж гэта? Ці ёсць праект, інвестыцыйны план? Слова «мецэнацтва» для яго апынулася незнаёмым, дый не зусім зразумелы сэнс выдання на роднай мове. Навуковыя тэрміны Доктара канчаткова завялі яго ў тупік, і ён просіць размаўляць чалавечай мовай, то бок, навошта Якубу Бабічу даваць табе грошы?.. Аднак справа пагаршаецца тым, што Менеджар спяшаецца на абед, таму прапанова Доктара яго пачынае раздражняць. Псіхалагічна тонка драматург перадае нюансы гэтага дыялогу, дасягаючы вяршыні камізму ў апісанні «даступнага тлумачэння» кнігі (гравюры і партрэта Скарыны).

«Д о к т а р (*такім голасам, як быццам казаў гэта ўжо 100 разоў*). У пададзены момант ужо выкуплены рэкламны носьбіт ля правага вуха партрэта. (*Доктар абводзіць укрыжаваную трапецыю на правай бляшцы лазернай указкай*).

Д о к т а р. Але мы можам вам прапанаваць левы ільвіны картуш, ён пакуль не заняты, але прапановы ёсць. (*Указка спыняецца на незанятай левай бляшанцы.*)

Д о к т а р. Левы ільвіны картуш — рэкламная пляцоўка катэгорыі дэ-люкс. Як вы бачыце, яна змешчаная на калоне, капітэль якой наш мастак упрыгожыў трыма мармуровымі шарамі. Голаў партрэта павернутая да гэтага картуша, твар прыязна глядзіць у яго бок, што спрыяе стварэнню пазітыўнага перцэптыўнага прачытання размешчанага на ёй вобраза патэнцыяльнымі спажывальнікамі.

М е н е д ж а р. І колькі вам патрэбна?

Доктар падыходзіць да стала, бярэ паперку, піша на ёй лічбы і працягвае іх *Менеджару*.

М е н е д ж а р. Нічога сабе. І ўсё, што мы атрымаем — гэтая бляшаначка?

Д о к т а р. Бляшаначка будзе ззяць у вечнасці» [16, с. 207].

Менеджар пачынае гандлявацца, але атрымлівае адказ, што іншыя пазіцыі не прадаюцца, напрыклад, Сонца Маладзіковае — эмблема выдаўца. Ён просіць, каб карцінкі рухаліся, каб партрэты змагаліся адін з адным, гучала музыка, каб усім можна было кіраваць. Тэхналогіі прэзентацыі ўзмацняюць гумар, які раскрывае «мастацкую літаратур-істы-ку».

Сцэна сустрэчы Доктара з Прарэктарам па выхаваўчай рабоце Кракаўскага ўніверсітэта гучыць актуальна і набывае сучасную сатырычную трактоўку, што істотна для гледача. Фразы кшталту «абітурыент, сельская квота, аптымізацыя працэсу» і метады навучання (лекцыі пад дыктоўку) нагадваюць праблемы ўніверсітэтаў XXI стагоддзя. Доктар прапануе новыя тэхналогіі ў навучанні — выданне лекцый. Прарэктар спрабуе прынізіць Доктара: нагадвае, што той вучыўся па сельскай квоце ў Кракаўскім універсітэце, падкрэслена называе яго «таваріш рускі!». Канчаткова ашаламляе яго Доктар, паказваючы тытульны аркуш Бібліі з надпісам: «Бивлия Руска. Вылажена Доктором Франциском Скориною из славного града Полоцка Богу ко чти и людям посполитым к доброму научению».

Востра і палемічна драматург апісвае сцэну сустрэчы Доктара з Янам Біскупам у 1520 годзе. Сітуацыя аказалася складанай: кнігі канфіскавалі, паколькі яны былі выдадзены «не на той мове», не тым шрыфтам, з партрэтам Скарыны, «прадмовамі». Біскуп таксама супраць размешчанага партрэта ў Бібліі з шыфрам унізе гравюры, але ўсё ж высока цэніць Доктара: падтрымлівае ў выданні «Малой падарожнай кніжкі», бярэ на працу.

У фарсавым ключы напісаная сцэна ў прыёмным пакоі герцага Прусіі Альбрэхта. Бландзінка з кароткай стрыжкай у тэўтонскіх баявых даспехах прымае Доктара за паляка. Той адказвае, што «хутчэй рускі ці летувіс», хоць часам адчувае сябе тым, каго яшчэ няма. Драматург падкрэслівае статус Скарыны як чалавека па-за нацыямі. Доктар прыехаў дапамагчы змагацца з «англійскай ліхаманкай» і стаў відавочцам яе лячэння. З’едлівая пародыя на «лекаванне» хворага пацыента дасягае трагікамічнага эфекту, аўтар праекцыянуе крытыку на сучаснасць.

1532 год у жыцці Скарыны быў асаблівы. Адбылася ягоная сустрэча з Марцінам Лютэрам, якая знайшла мастацкую інтэрпрэтацыю і ў іншых п’есах (І. Штэйнер, А. Петрашкевіч), аднак В. Марціновіч дае сваю трактоўку. Драматург тонка адчувае трагікамічную прыроду п’есы, не парушаючы сінтэзу трагічнага і камічнага, што яшчэ раз прасочваецца ў гэтай сцэне.

Доктару зноў давялося ўдакладняць, што ён не паляк, а «хутчэй рускі», што ён сапраўды доктар, што гэтая прафесія ледзьве не звяла яго ў магілу, калі ён падхапіў «англійскі пот» у Кёнігсбергу.

«Д о к т а р. Палякі мяне не любяць, у мяне ў Вроцлаве кніжкі вынялі. Яны ж каталікі, а кніжкі былі па-руску. То бок, гэта яны вырашылі, што кніжкі па-руску, насамрэч я іх пераклаў на тую мову, на якой мы размаўляем у Вільні ды Полацку.

Л ю т а р. Гэта добра, што каталікі вас не любяць. Мяне яны таксама не любяць. Папа мяне ад царквы адлучыў за тое, што я яму замінаў на сабор святога Пятра грошы сшыбаць» [16. с. 243].

Лютэр згодны з Доктарам адносна роднай мовы, называючы яго «наш чалавек». Ён таксама пераклаў Святое Пісанне на родную мову. Дзякуючы Бібліі нямецкі народ і нямецкая культура створаць вялікую нямецкую літаратуру. Фактычна гэтую мэту ставіў і Доктар. Яны сталі хаўруснікамі, але не надоўга. Лютэр вырашыў, што Доктара спецыяльна заслалі. Ва ўстаўной «Інтэрмедыі» аўтар раскрывае падман. На раніцу дзверы перад Доктарам аказаліся зачыненымі. Ён доўга стукаў, плакаў, яго засыпала снегам. Як сказана ў рэмарцы, — «гэта прыкладна той момант, калі гэтая дзея канчаткова спыняе быць камедыяй і робіцца трагедыяй» [16, с. 248].

Не праходзіць В. Марціновіч і міма гістарычнага факта 1532 года: Скарына арыштаваны за «пазыкі» Лазару і Майсею. Бадай, ніхто з драматургаў не абмінуў гэтую сцэну ўвагаю, апісваючы яе ў драматычнай танальнасці. У адрозненне ад сваіх папярэднікаў В. Марціновіч надае ёй камічны абарот, падвяргаючы абсмяянню прадстаўнікоў суда. Суддзя ў навушніках, зрэдку ўступае ў дыялог, адказваючы загадзя падрыхтаваную фразу. Камічнай постаццю ў дадзеным выпадку выступае адвакат, не здольны абараняць.

Далейшыя падзеі (1533 год — Масковія, кнігі спалены, аднятыя шрыфты) аўтар таксама раскрывае ў ракурсе трагікамедыі, праводзячы асацыяцыі з сучаснасцю («краснапрэсненскі аддзел унутраных спраў», «пашпарт», маскоўская рэгістрацыя з квадратнай пячаткай, рэкет у Польшчы, прафілактычная гутарка, малы і сярэдні бізнес, дэпартамент культуры горада Масквы). В. Марціновіч падкрэслівае жорсткае стаўленне да Доктара, з'едлівыя здзекі з яго дакументаў і рэгалій.

«П а л і ц э й с к і. Якому Біскупу? Віленскаму?, Каталіцкаму Біскупу ты пазвоніш? А самаго завуць Францыск? Так, голуб мой сізакапыты. Ты цалкам затрыманы. Складай сваю парнуху ў сумку, пойдзем афармляцца» [16, с.256].

Доктара збіваюць, абвінавачваюць у сатанізме. Начальнік тлумачыць, што да Доктара былі ўжо такія ўмельцы — гэта паляк Готан, якога ўтапілі, Максім Грэк, якога пасадзілі ў турму строгага рэжыму, надавалі так, што забыў слова «свабода». Трагічную танальнасць аўтар разбаўляе камічным эпізодам: Доктар паказвае Начальніку, як складваецца слова «князь»:

«П а л і ц э й с к і. Палякі захапілі нашу мову! Нашыя словы! Рускі свет!» [16, с. 258].

Прытрымліваючыся гістарыяграфіі, драматург апошнюю сцэну пераносіць у 1540 год, у сад караля Фердынанда ў Празе. Доктар, стары і хворы, адказвае на пытанні Ахоўніка пра факты біяграфіі для каралеўскай дзяржаўнай службы (вучыўся ў Падуі, сядзеў у турме, быў у Маскве...). На пытанне пра кнігі Доктар сказаў, што не ўпісваў гэтага ў біяграфію, бо лічыць гэтую справу марнай у сваім жыцці. Ахоўнік удакладняе, чаму ў дакументах напісана «Італьянскі садоўнік»?

«Д о к т а р. Так, таму што я вучыўся ў Падуі.

А х о ў н і к. Але ва ўсіх астатніх дакументах з мінулых месц працы пазначана: «Доктор Рускі». Ці — Доктар Рус».

Д о к т а р. Поста мяне ўвесь час называлі палякам. Я з гэтым не пагаджаўся і прасіў пісаць, што рускі. Ну, а пасля эпізоду ў Маскве… «Рус»? Вы ведаеце, што яны са мной зрабілі? Тыя «русы»? Дазвольце напісацца хаця б «Раўсам»!» [16, с. 269].

Доктар хоча памерці ціха. Аднак фінальны маналог гучыць аптымістычна. Ён верыць, што пасеянае зерне ўзыдзе, што ўсё зменіцца, што пра яго ўзгадаюць, і мільёны прамовяць следам за ім на той мове, за якую ён змагаўся.

У Эпілогу зноў гучыць трагічная нота. У 1571 годзе, праз 50 гадоў пасля выдання кніг Скарыны, многае змянілася. Усе сталі пісаць, кніга ацэньваецца па вокладцы. На паперу для форзаца пракурорскіх кніг у майстэрні выкарыстоўваюць сканфіскаваныя кнігі Доктара.

Трагічнае і камічнае ў п’есе В. Марціновіча перапляліся ў агульным пафасе, які передае боль за Скарыну, якога памятае Беларусь, бо ён з’яўляецца гонарам і сумленнем нацыі, яе духоўнай асновай. Такая аўтарская трактоўка «Кар’еры доктара Раўса».

Як бачым, сучасная рэцэпцыя асобы Скарыны ў аспекце гісторыка-біяграфічнага жанру пашырае межы аўтарскай свабоды, дэманструючы пазіцыю драматургаў. І хоць п’есы напісаныя ў розных жанравых дыскурсах, у кожнай з іх свая драматургічная стылістыка, але агульная мэта — вывесці на сцэну «сучаснага» Скарыну, схільнага да рэфлексіі, — сведчыць пра новыя пошукі беларускай драматургіі.

## Спіс літаратуры:

1. Аверинцев, С. С. Жанр как абстракция и жанры как реальность: диалектика замкнутости разомкнутости / С. С. Аверинцев // Взаимосвязь и взаимодействие жанров в развитии античной литературы. — М, 1989.

2. Петрашкевіч, А. Напісанае застаецца / Здрапежаная зямля: Гістарычныя п’есы. 2-е выд. Кн. 1. — Мінск, 2015.

3. Петрашкевіч, А. Прарок для Айчыны / Здрапежаная зямля: Гістарычныя п’есы. 2-е выд. Кн. 1. — Мінск, 2015.

4. Марчук, Г. Кракаўскі студэнт / Чужое багацце: зб. п’ес. — Мінск, 2012.

5. Ильевский, Т. Франциск. Приповесть / Францыск Скарына і сучаснасць: Зб. п’ес. — Мінск, 2017.

6. Аўдоніна, Т. В. «Доля пракокаў…» (пра пьесу Івана Штэйнера ««Мудрости зачало и конець…» або Спакушэнне Скарыны») / Іван Штэйнер. «Мудрості зачало і конець»… або Спакушэнне Скарыны»): П’еса. — Гомель: Барк, 2012.

7. Васючэнка, П. В. Код Францыска Скарыны // Иван Штэйнер «Мудрасци зачало и конець…»: П’еса — Гомель: Барк, 2012.

8. Potts, L. Comedy. London: Hutchinson, 1966.

9. Курейчик, А. Скорина: Избранные пьесы / А. Курейчик. — Минск: ООО «Мэджик Бук», Изд. Вараксин А. Н., 2006.

10. Скоропанова, И. С. Скорина А. Курейчика / Віленскія выданні. Францыск Скарына ў кантэксце эпохі Адраджэння: Матэрыялы IV Скарынаўскіх чытанняў. — Мінск, 2014.

11. Штэйнер, І. «Мудрасци зачало и конець…»: П’еса. — Гомель: Барк, 2012.

12. Рудковский, Н. Доктор свободных наук / Францыск Скарына і сучаснасць: Зб. п’ес. — Мінск, 2017.

13. Туруновский М. Я принес вам слово! / Францыск Скарына і сучаснасць: Зб. п’ес. — Мінск, 2017.

14. Марціновіч В. Кар’ера доктара Раўса / Францыск Скарына і сучаснасць: Зб. п’ес. — Мінск, 2017.

15. Шыдлоўскі І., Андрэева І. Віры своя / Францыск Скарына і сучаснасць: Зб. п’ес. — Мінск, 2017.

16. Марціновіч В. Кар’ера доктара Раўса / Францыск Скарына і сучаснасць: Зб. п’ес. — Мінск, 2017.

**Эмануіл ІОФЕ**

# АДАМ КІРКОР: ВЯДОМЫ І НЕВЯДОМЫ

На жаль, ягонае імя невядома большасці жыхароў нашай краіны сярэдняга і сталага ўзросту, не кажучы пра моладзь. Па сённяшні дзень даследчыкі спрачаюцца, як адказаць на простае пытанне: «Кім быў Адам Кіркор?»

Гісторык і гістарыёграф Дзмітрый Караў у 4-м томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» называе яго «беларускім і польскім гісторыкам, этнографам, археолагам, публіцыстам, выдаўцом, грамадскім дзеячам». Археолаг В. Мядзведзева вызначае А. Кіркора «этнографам, археолагам, гісторыкам, літаратуразнаўцам, выдаўцом (меў сваю друкарню ў Вільні)». Алесь Марціновіч у рабоце «Адам Кіркор: Першы беларускі краязнаўца» (2016) лічыць яго «выдатным беларускім этнографам, археолагам, публіцыстам, выдаўцом, гісторыкам літаратуры, па сутнасці, першым беларускім краязнаўцам».

Найбольш поўную ацэнку творчай спадчыны А. Кіркора і яе шматграннасці даў беларускі гісторык і краязнаўца Генадзь Каханоўскі. На яго думку, Адам Кіркор — археолаг, этнограф, філолаг, лінгвіст, архівіст, статыстык, выдавец, музеязнавец, краязнавец, мастацтвазнавец. І перш за ўсё — гісторык.

Ацэньваючы заслугі А. Кіркора перад беларускім народам і яго культурай, нельга не згадзіцца з А. Марціновічам, што «расказаўшы пра гісторыю нашага краю, матэрыяльную і духоўную культуру беларускага народа, ён стаў першаадкрывальнікам Беларусі для ўсяго адукаванага грамадства».

Малая радзіма вучонага — вёска Слівіна Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні (цяпер Манастыршчынскі раён Смаленскай вобласці Расіі). Тут 21 студзеня 1818 года (па іншых дадзеных, 1819 года) пачаўся яго жыццёвы шлях у небагатай шляхецкай сям'і татарскага паходжання.

Бацькі Адама, паводле архіўных звестак у 1830—1840-гадах валодалі невялікім фальваркам Грынеўшчына (Кіркораўшчына) у Клімавіцкім павеце. У 1832—1834 гадах юнак вучыўся ў Магілёўскай, а потым у 2-й Віленскай гімназіі, ператоранай у Дваранскі інстытут у Вільні. Менавіта яго і скончыў экстэрнам у 1838 годзе.

Пасля гэтага 20-гадовы А. Кіркор стаў загадчыкам канцылярыі Віленскай казённай палаты. У 1846 годзе жаніўся на актрысе Гелене Маеўскай, маладзейшай за яго на восем гадоў. Але потым яна закахалася ў сябра Адама — Уладзіслава Сыракомлю і ў 1857 годзе выйшла за яго замуж.

З 1843 года Адам Кіркор выдаваў у Вільні навукова-літаратурныя альманахі «Radegast» (1843), «Разумовыя дзённікі» (1845—1846), часопіс «Teka Wileńska», 6 тамоў «Віленскага зборніка») 1857—1858). З 1849 года стаў членам Віленскага статыстычнага камітэта, а потым — рэдактарам (1850—1854) «Памятной книжки Виленской губернии».

У 1855 годзе А. Кіркор уваходзіць у склад Віленскай археалагічнай камісіі, кіруе Віленскім музеем старажытнасцей. У 1859—1865 гадах рэдагуе газету «Виленский вестник». З 1859 года вучоны становіцца ўладальнікам друкарні ў Вільні. На працягу 1863 года быў рэдактарам штотыднёвай газеты «Виленский полицейский листок».

У 1868—1871 гадах з’яўляўся адным з выдаўцоў газеты «Новое время» ў Санкт-Пецярбургу, а ў 1872 годзе (па іншых дадзеных, у 1871-м) пераязджае ў Кракаў, дзе чытае лекцыі па гісторыі славянскіх літаратур, у тым ліку і па гісторыі беларускай літаратуры, у Кракаўскім прамыслова-тэхнічным музеі.

Ацэньваючы погляды Адама Кіркора ў канцы 1850-х — пачатку 1860-х гадоў, пераважная большасць даследчыкаў лічаць яго прадстаўніком лібералізму на Беларусі. Так, беларускі даследчык Д. Шчэрбік адзначае:

«На землях былога Вялікага Княства Літоўскага паўсталі тры цэнтры інтэлектуальнага жыцця. У Мінску ўзнік гурток В. Дуніна-Марцінкевіча, у Віцебску — А. Вярыгі-Дарэўскага, у Вільні — А. Кіркора. Усе тры цэнтры займаліся культурна-асветніцкай дзейнасцю….

У 1855 г. графу Я. Тышкевічу пасля доўгіх клопатаў удалося атрымаць ад расійскіх улад дазвол на стварэнне ў Вільні музея старажытнасцей і адкрыцця пры ім Археалагічнай камісіі, у склад якой увайшлі найбольш вядомыя прадстаўнікі мясцовай ліберальнай інтэлігенцыі: Яўстафій і Канстанцін Тышкевічы, Адам Кіркор, Міхал Бялінскі, Тэадор Нарбут, Юзаф Ігнацы Крашэўскі і інш. Гэта была першая значная легальная грамадская арганізацыя, дзейнасць якой дазвалялася пасля падаўлення паўстання 1830—1831 гг. і закрыцця Віленскага ўніверсітэта».

Адам Кіркор быў актыўнейшым дзеячам музея і камісіі. Паступова вакол газеты «Виленский вестник» (1841—1864), якую рэдагаваў спачатку А. Адынец, а потым А. Кіркор, стварыўся першы беларускі літаратурны гурток, удзельнікамі якога былі А. Адынец, У. Сыракомля, В. Каратынскі і іншыя.

Яны яшчэ не ідэнтыфікавалі сябе як беларусаў. Усе былі патрыётамі Вялікага Княства Літоўскага (гістарычнай Літвы). Паводле Д. Шчэрбіка, пры гэтым яны яскрава разумелі адрозненне беларускага народа ад польскага і рускага, вывучалі яго гісторыю і фальклор, шмат намаганняў рабілі для яго асветы. Так, адзін з блізкіх сяброў А. Кіркора Аляксандр Аскерка (1830—1911) выдаў для навучання дзяцей беларусаў пачатковай грамаце «Буквар» — «Элементаж» (Лемантар).

Лібералы актыўна ўключыліся ў абмеркаванне зямельнай рэформы, якая рыхтавалася царскім урадам. Падчас прыезду Аляксандра II у верасні 1858 г. у Вільню, у дваранскім губернскім камітэце якой пачалася актыўная падрыхтоўка да правядзення сялянскай рэформы, паспрабавалі прыцягнуць увагу цара да нацыянальных, культурных і рэлігійных асаблівасцей краю. Яны падарылі манарху альбом, у складанні якога прымалі ўдзел найбольш вядомыя прадстаўнікі мясцовай ліберальнай інтэлігенцыі — А. Кіркор, А. Адынец, І. Ходзька.

Якім чынам А. Кіркор стаў навукоўцам? Адказ на гэтае пытанне даў А. Марціновіч у сваёй кніжцы «Адам Кіркор: Першы беларускі краязнаўца»: «Адсутнасць у яго належнай тэарэтычнай падрыхтоўкі кампенсавалася сістэмнай самаадукацыяй, прыроджаным талентам і настойлівасцю сапраўдна працаваць у той галіне ведаў, якая цікавіць. А яшчэ Кіркору пашанцавала, што ён, будучы яшчэ юнаком, як сам прызнаваўся, напаткаў людзей, якія далучылі яго да навуковай дзейнасці.

Першым сярод іх ён згадваў Міхаіла Гамаліцкага (1791—1861). У 1819 годзе той стаў ад’юнктам, а праз пяць гадоў — надзвычайным прафесарам (Віленскага ўніверсітэта. — *Э. І.*). Менавіта пад уплывам знаўца старажытнасцей М. Гамаліцкага Адам Кіркор зацікавіўся гісторыяй і археалогіяй роднага краю.

Другім чалавекам, хто падштурхнуў Кіркора да навуковай дзейнасці, быў настаўнік-гісторык з Гродзеншчыны Ігнат Кулакоўскі (1800—1870). Пераканаы ў тым, што гісторыя беларускага народа «паглынута гісторыяй палякаў або ледзь упамінаецца ў гісторыі Расіі», Кулакоўскі ў 1834 годзе накіраваў пісьмо міністру асветы Расіі, нагадаў, як важна вывучаць мову беларускага народа, яго

этнаграфію, мастацтва, мясцовыя старажытнасці, прапанаваў стварыць спецыяльны падручнік «Гісторыя краю», які дапаможа вырашыць гэтыя набалелыя пытанні.

Менавіта кантакты з М. Гамаліцкім і І. Кулакоўскім сфарміравалі светапогляд Кіркора, паспрыялі станаўленню яго як даследчыка і навукоўца».

## Гісторык

Аналіз творчай спадчыны Адама Кіркора дазваляе зрабіць выснову, што ў першую чаргу ён быў гісторыкам, як беларускім, так і польскім. Калі ацэньваць аб'ектыўна, з пазіцый сённяшняга дня, ён вывучаў, папулярызаваў гісторыю Беларусі, Літвы, Польшчы і Расіі, антрапалогію, падкрэсліваў гістарычна-этнічную самастойнасць і самабытнасць беларускага народа, яго крэўнасць ці пэўнае падабенства з рускім, украінскім, польскім, літоўскім народамі.

Рэдагуючы губернскія «Памятныя кніжкі» (1850—1854), пашырыў у іх неафіцыйны аддзел, змясціў багатыя матэрыялы па гісторыі і статыстыцы Віленшчыны, у тым ліку яе беларускіх паветаў. Выдатны знаўца гісторыі і этнаграфіі Беларусі і Літвы, падрыхтаваў некалькі папулярных даведнікаў па Вільні і яе ваколіцах.

У 1854 годзе Віленскі губернскі статыстычны камітэт выпусціў у свет кнігу «Черты из истории и жизни литовского народа», у якой А. Кіркор змясціў свае артыкулы «Литовские древности» і «Великий князь Витовт». Вельмі важна, што ў другім артыкуле ён даў яскравую характарыстыку дзейнасці аднаго з самых славутых правіцеляў Вялікага Княства Літоўскага. У цэлым артыкул «Вялікі князь Вітаўт» напісаны ў захапляльных танах. А гэта азначае, што гісторык А. Кіркор яўна ідэалізаваў вобраз вялікага князя, не ўпамінаючы яго недахопы. Менавіта з-за гэтага работа выклікала моцную крытыку з боку расійскіх улад.

У артыкуле беларускага даследчыка В. Тубялевіча «Адам Киркор как исследователь христианства ВКЛ» ёсць такое сведчанне: «Особое внимание А. Киркор уделил распространению протестантизма во время правления Сигизмунда Августа. Адам Киркор соглашался с Иосифом Крашевским в том, что реформаторское учение распространялось среди высшей знати ВКЛ, в доказательство этому исследователь приводил такие знаменитые магнатские фамилии, как Радзивиллы, Сапеги, Ходкевичи, Глебовичи и другие».

У сваіх работах А. Кіркор адзначыў, што ў час праўлення Стэфана Баторыя на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага з'явіўся ордэн іезуітаў, які адыграў неадназначную ролю ў далейшай гісторыі хрысціянскіх канфесій ВКЛ. На падставе вывучэння розных крыніц прыйшоў да высновы, што рэлігійныя сутыкненні ў час Жыгімонта III узмацніліся. Меркаваў, што адной з важнейшых прычын гэтага стала падпісанне ў 1596 годзе Берасцейскай царкоўнай уніі, якая раскалола праваслаўную канфесію на яе прыхільнікаў і праціўнікаў. На думку А. Кіркора, хоць пазней Уладзіслаў IV і іншыя правіцелі ВКЛ спрабавалі ўраўняць у правах праваслаўных з каталікамі і ўніятамі, рэлігійныя супярэчнасці ў дзяржаве не спыніліся.

Такім чынам, вывучаючы гісторыю хрысціянскіх канфесій на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, разглядаў яе скрозь прызму адносін свецкай і духоўнай улады. Меркаваў, што асновай палітыкі вялікіх князёў былі верацярпімасць і талерантнасць. Што тычыцца рэлігійных супярэчнасцей, то яны, на яго думку, пачаліся толькі з прыходам Рэфармацыі і падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі. У адрозненне ад расійскіх гісторыкаў М. Устралава і М. Каяловіча, А. Кіркор не лічыў, што рэлігійныя канфлікты сталі асноўнай прычынай упадку ВКЛ.

Адамам Кіркорам напісана пераважная колькасць артыкулаў для трэцяга тома серыі «Живописная Россия», звязанага з Літвой і Беларуссю.

У першай частцы дзесяць нарысаў з адзіннаццаці належаць яму. У другой частцы змешчана дзесяць нарысаў, аўтарам васьмі з іх з’яўляецца А. Кіркор.

Найперш нас цікавяць нарысы вучонага, што закранаюць пытанні гісторыі Беларусі.

Хоць нарыс IX першай часткі называецца «Городские поселения в Литве», у ім знайшла адлюстраванне гісторыя Ашмян, Гальшан, Маладзечна, Радашковіч, Вілейкі, Дзісны, Гародні, Брэст-Літоўска, Камянец-Літоўска, Высока-Літоўска, Слоніма, Жыровіц, Быценя, Кобрына, Ваўкавыска, Свіслачы, Зэльвы, Беластока, Пружан і Саколкі. Апроч таго, закранаецца гісторыя Смаргоні, Друі.

Вялікую цікавасць уяўляе нарыс VIII другой часткі пад назвай «В Белорусском Полесье», дзе разглядаюцца Ізяслаў, Прылукі, Дукора, Койданаў, Стаўбцы, Новы Свержань, Івянец, Дуброва, Барысаў, Лагойск, Докшыцы, Чарэя, Гайна, Ігумен, Бярэзіна, Сілавічы, Равінічы, Слуцк, Капыль, Несвіж, Клецк, Магільна, Ляхавічы, Старобін, Навагрудак, Гарадзішча, Каралічы, Шчорсы, Мір, Любча, Новая Мыш, Старая Мыш, Бабруйск, Глуск, Парычы, Чыркавічы, Любань, Любанічы, Пінск, Гародня, Кажан-Гарадок, Мазыр, Тураў, Давыд-Гарадок, Скрыгалаў, Петрыкаў, Лахва, Ельск, Капыткавічы, Рэчыца, Лоеў, Брагін, Васільевічы і іншыя.

У ім тры раздзелы: «Минская губерния», «Витебская губерния» і «Могилёвская губерния».

Між іншым, трэба адзначыць, што нарысы А. Кіркора маюць навукова-папулярны характар і чытаюцца вельмі лёгка. Так, разглядаючы гісторыю Мінска, ён канстатуе: «Минск назначен был воеводским городом ещё в 1413 году. Но самое воеводство окончательно образовано едва в 1500. Оно состояло из трёх уездов: Минского, Мозырскаго и Речицкаго. Магдебургское право даровано городу в 1499. Для Минска оно имело большое значение: жители получали личную свободу, независимо от воевод и старост, избирали себе войтов, бургомистров и лавников».

Характарызуючы Койданаў (сучасны горад Дзяржынск. — *Э. І.*), звяртае ўвагу чытача на такія звесткі: «Дальше, памятный в летописях Койданов, при реке Нетечи, в XII столетии известный под именем Крутогорье. Вблизи этого местечка Татары понесли два жестоких поражения, в 1241 г. под начальством князя Скирмунда, а потом в 1249, когда Миндовг разбил на голову Койдана и его союзников Данила и Василька, князей Галицких. По этому случаю и само местечко получило название Койданово».

## Этнограф

Яшчэ ў гады навучання ў гімназіі А. Кіркор зацікавіўся фальклорам і этнаграфіяй і надрукаваў у зборніку лепшых сачыненняў выхаванцаў Беларускай вучэбнай акругі (1839) свой першы артыкул «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі». Можна без усякага перабольшання адзначыць, што Адам Кіркор быў, без сумнення, арыгінальным вучоным-этнографам. У сваіх працах «Аб этнаграфічнай мяжы літоўскай і славянскай народнасцей у Літве» (1857), «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—1859), «Энаграфічныя нарысы Сувалкскай губерні» (1873), у публікацыях у «Живописной России» (1882) даў этнічную і сацыяльна-бытавую характарыстыку тыпаў беларуса, адзначыў яго высокія духоўна-маральныя якасці (працавітасць, кемлівасць, прывязанасць да зямлі, далікатнасць), падкрэсліў самастойнасць беларускай мовы, яе багатыя пісьмовыя традыцыі.

Вялікую цікавасць уяўляе нарыс «Народная жизнь». Прывядзём некаторыя фрагменты з яго:

«Мы проследим жизнь Белорусса от колыбели до могильной доски, конечно, по источникам, прежняго, хотя и недавняго времени и собственным нашим наблюдениям.

Рождение. — Беременная женщина почти до последней минуты родов исполняет все тягостные обязанности не только хозяйки дома, но нередко и работницы. Она вынимает тяжёлые горшки из печи, месит хлеб, работает в поле под знойным небом, укладывает сено и снопы на воз. И нередко, среди этих тяжёлых работ наступают роды. Опытные повитухи очень редки, обыкновенно приглашают знахарку. Без всякой медицинской помощи совершаются роды; природа делает чудеса. Не пройдёт двух, трёх дней, как родильница уже опять принимается за тяжёлую работу…

Свадьба. — Свадебные обряды хотя в общих чертах везде одинаковы, на всём протяжении Белоруссии; но в частностях есть много отличий и разнообразия. Самое подробное и толковое описание свадеб в Борисовском уезде Минской губернии напечатано в статистическом описании этого уезда гр. Е. П. Тышкевича. Оно должно бы служить канвой для подобных описаний в других местностях…

Свадебные обряды почти везде начинаются так называемыми запоинами. В дом родителей, где есть невеста, являются сват и сваха с водкой и хлебом. Ежели глава семейства, заблаговременно предуведомлённый, или, как большею частью случается, поладивший с родителями молодого, согласен выдать дочь, то, когда вино уже выпито, в сосуд, в котором оно было привезено, сыплет рожь; если же сваты приезжают случайно и родители несогласны, то ту же посуду наполняют вином, и тогда сваты удаляются не говоря ни слова…

Невинная девушка, вошедшая в дом мужа, чествуется целым семейством, как особенное благословение Господне. Её все уважают и во время исполнения свадебных обрядов. Она пользуется большим вниманием, составляя радость и гордость родителей и новобрачнаго, а также семейства последнего. Согрешившая же до замужества, хотя бы даже с тем, за кого она вышла замуж, наоборот, играет печальную роль во время свадьбы; по этому случаю даже свадебные обряды в некоторых случаях изменяются».

Ацэньваючы творчую спадчыну А. Кіркора як этнографа, нельга не згадзіцца з наступнай думкай расійскага вучонага-філолага і гісторыка А. Каўкі: «(А. Кіркор. — *Э. І.*) падрабязна разгледзеў беларускую вусна-паэтычную творчасць: песні, прыказкі, прымаўкі, паданні на матэрыяле Ашмянскага, Лідскага, Свянцянскага, Вілейскага, Нясвіжскага, часткова Сакольскага паветаў, апісаў абрады і звычаі (дажынкі, вяселле, пахаванне, гульні і танцы («Жаніцьба Цярэшкі», «Падушачка», «Мяцеліца»), святы (Каляды, Купалле, Вялікдзень) і інш. Праілюстраваў апісанні арыгінальнымі тэкстамі народных песень, у большасці запазычанымі (без спасылак) з ранейшых публікацый Я. Тышкевіча, Я. Чачота, для тлумачэння беларускіх тэкстаў склаў невялікі беларуска-рускі слоўнічак. У духоўнай культуры беларусаў вялікую ролю аддаваў міфалагічным крыніцам, недаацэньваў яе рэальнага, сацыяльна-бытавога кантэксту».

Асабліва каштоўнай для беларускай навукі стала праца «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—1859), складзеная паводле праграмы Рускага геаграфічнага таварыства. У ёй выказана вялікая павага да духоўнага жыцця працоўнага народа, прыведзена больш за 100 беларускіх песень, 200 прыказак, слоўнік беларускай мовы.

Заслуга А. Кіркора ў тым, што у трэцім нарысе другой часткі «Живописной России» ён адлюстраваў жыццё народаў, якія насялялі ў той час Паўночна-Заходні край, або як мы сёння называем іх, нацыянальных меншасцей Беларусі. Указваючы на шматнацыянальны склад Магілёўскай і асабліва Віцебскай губерняў, а таксама і Інфлянтаў, падкрэсліваў: «Евреи в Белоруссии, также как и в Литовском Полесье, составляют значительнейшую часть населения городов и местечек

и держат в своих руках торговлю и промышленность. Влияние их на сельских жителей так же велико тут, как и везде. Характеристические черты евреев везде одни и те же. Никаких особенностей мы здесь не находим. В Могилевской губернии, в Оршанском уезде, в м. Любавичи живёт раввин (цадик) секты хасидов. Имеющий большое влияние на всех последователей этой секты в целой Белоруссии, от всех их получая весьма значительные сборы и приношения…

Латыши кроме Витебской области живут также в Курляндской, Лифляндской, части С.-Петербургской и Псковской губерниях. Но Инфлянтские Латыши уже немного разнятся от Латышей Курляндских и Лифляндских; у первых много вошло слов польских и белорусских, у последних много немецких. Кроме Латышей, в Инфлянтах живут литовцы, вблизи развалин Режицкого замка… Замечательно, что эти Литовцы не роднятся и как будто даже чуждаются своих соплеменников — Латышей; живут только в своей среде. Браки заключают только между собою, говорят чистым языком литовским. Далее Эсты в Люцинском уезде, в числе около 1000 чел… Великороссы в числе около 30 000 живут во всех трёх уездах. Белоруссов незначительное число живёт на рубеже Себежского и Дриссенского уездов... Наконец, польские крестьяне, переселенцы из прежняго времени, тоже в незначительном числе живут в Режицком уезде…»

У цэнтры даследаванняў А. Кіркора па этнаграфіі беларусаў заўсёды была матэрыяльная і духоўная культура беларускага народа. Яму было толькі 22 гады, калі беларусаў па загадзе расійскага імператара Мікалая І з 1840 года пачалі называць «племенем» рускага народа. Менавіта тады з геаграфічнай карты знікла і само паняцце «Беларусь».

Асаблівае месца ў этнаграфічнай спадчыне А. Кіркора займае яго праца «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—1858). Яго калегі адзначалі, што гэта праўдзівае слова пра жыццё беларусаў ва ўсіх аспектах. Сучасны беларускі даследчык І. Цішчанка канстатаваў, што сярод публікацый «Этнаграфічнага зборніка» (1858), якія паступалі з розных рэгіёнаў Расійскай імперыі, матэрыялы А. Кіркора па праўдзівасці апісання і навуковым асэнсаванні фактаў не мелі сабе роўных.

У адрозненне ад многіх навукоўцаў ён бачыў у беларусах не нейкае там племя, а народ. На яго думку, Віленскую губерню насялялі два асноўныя народы — славяне і літоўцы. У той жа час памыляўся, адносячы да літоўцаў і частку яўрэяў, татар і цыган. Як аб’ектыўны даследчык ён правамерна лічыў, што ў кожнага з гэтых народаў маецца сваё паходжанне, мова, звычаі, паданні і абрады.

Падкрэсліваў, што менавіта славянскае насельніцтва Віленшчыны і ёсць беларусы, на якіх ён у артыкуле «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» звярнуў асаблівую ўвагу. Адзначаў, што віленскія беларусы нічым не адрозніваюцца ад сваіх супляменнікаў, якія жывуць у Магілёўскай, Віцебскай і Мінскай губернях.

## Археолаг

Адам Кіркор, безумоўна, быў таленавітым вучоным-археолагам. Ён праводзіў археалагічныя даследаванні ў Ашмянскім, Барысаўскім, Вілейскім, Лідскім, Мінскім, Навагрудскім, Свянцянскім, Трокскім, Гродзенскім і іншых паветах Паўночна-Заходняга краю. Раскапаў каля 1000 курганоў (частку разам з Я. Тышкевічам). Вельмі зацікавілі яго курганы каля мястэчка Гальшаны Ашмянскага павета, каля вёскі Юзэфава і Радуні Лідскага павета і каля Берштаў Гродзенскага павета, якія на той час добра захаваліся.

Толькі ў Вілейскім павеце, за 10 км ад Галянова, каля Рудні, адкрыў больш за 100 археалагічных помнікаў, размешчаных па рацэ Вузла. Мост праз гэту раку, як сведчыў Адам Карлавіч, называлі Вітаўтавым. Раскопкі дазволілі знайсці чалаве-

чыя косткі, жалезныя фабулы, алебарды даўжынёй 7, а шырынёй 5 вяршкоў. Яшчэ 83 курганы А. Кіркор знайшоў каля вёскі Губы, у Губскай пушчы.

Большасць вывучаных курганоў ён аднёс да XI стагоддзя. Вучоны выявіў рэшткі старажытнага замчышча на паўвостраве возера Мястра, гарадзішча каля в. Рэчкі на Вілейшчыне. Алесь Марціновіч справядліва адзначыў: «Дарэчы, ён першым на Беларусі і Літве выкарыстаў новы метад раскопак, які пазней як найбольш перспектыўны ўзялі на сваё ўзбраенне і іншыя археолагі. Да Кіркора курганы, як і іншыя насыпы, скажам, могільнікі, ускрывалі так званым метадам калодзежа, паступова заглыбляючыся ў зямлю. Дзякуючы новаму метаду, археолагі сталі карыстацца метадам «накрыж», капаючы крыжападобныя траншэі. Гэта дазволіла ўскрываць насып амаль цалкам».

У сувязі з гэтым, ацэньваючы дзейнасць А. Кіркора як археолага, вядомы расійскі археолаг і гісторык Л. Аляксееў звярнуў увагу на тое, што ў адрозненне ад сваіх папярэднікаў ён пры археалагічных даследаваннях ставіў шэраг важных для навуковага ўскрыцця курганоў пытанняў аб даціроўцы пройдзенага, аб этнічнай прыналежнасці пахаванага. Такі падыход да раскопак быў у той час новым, ва ўсялякім выпадку, у заходнерускіх землях.

У час адной з размоў аўтара гэтых радкоў з Генадзем Каханоўскім, ён расказаў, што знайшоў у архіве альбом археалагічных раскопак А. Кіркора і вылучыў версію аб тым, што матэрыялы для гэтага альбома адбіраў у час сваіх шматлікіх падарожжаў па Беларусі. Гаворка ідзе аб універсальным даведніку, які мог служыць адпраўным пунктам у складанні археалагічнай карты, а таксама для музеязнаўчай працы. Усяго ў гэтым альбоме зарэгістравана 174 прадметы, большая частка якіх адносіцца да Вілейскага павета.

Не абмяжоўваючыся складаннем слоўніка знаходак, А. Кіркор працаваў і над археалагічным слоўнікам. Матэрыялы яго, па меры гатоўнасці, публікаваліся ў маскоўскім зборніку «Древности». Асаблівасць гэтых кароткіх артыкулаў у тым, што расказваў пра помнікі старажытнасці, якія асабіста даследаваў.

Прыняў актыўны ўдзел у арганізацыі Музея старажытнасцей у Вільні, быў яго захавальнікам і сакратаром Археалагічнай камісіі. Ахвяраваў музею ўласную археалагічна-этнаграфічную калекцыю, сабраную ў час экспедыцый па Мінскай і Віленскай губернях.

Акрамя таго, вёў археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Заходняй Украіны і Польшчы, праводзіў раскопкі ў Галіцыі.

Яго рукапісы зберагаюцца ў Кракаве і Вільнюсе.

Адам Карлавіч быў членам-карэспандэнтам Імператарскага рускага археалагічнага таварыства, членам Пецярбургскага, Маскоўскага, Адэскага і Рыжскага археалагічных таварыстваў.

Расійскі даследчык творчасці А. Кіркора Э. Вальтэр падкрэсліваў: «Как журналист и политик, подвергался сильным нападениям крайних партий польских и русских: как археолог-этнограф, он останется незабвенным в истории возрождения литовско-белорусского края».

## Філолаг, літаратар, гісторык беларускай літаратуры

Адам Кіркор дэбютаваў у друку апавяданнямі «Смерть поэта» (містычнае апавяданне пра смерць Байрана), «Прут. Гістарычнае здарэнне» — панегірык Пятру I» і артыкулам «Остатки языческих обыкновений в Белоруссии» (фальклорна-этнаграфічная замалёўка) у зборніку «Опыты в русской словесности воспитанников гимназий Белорусского учебного округа» (1839). Потым карыстаўся часам псеўданімамі Jan ze Sliwina, Иван Сливин, Ян са Слівіна, Ян Валігурскі, Саборы і інш.

У працы «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» паказаў, якую ролю адыгрывала ў Вялікім Княстве Літоўскім беларуская мова і культура. А. Кіркор адстойваў права беларусаў на самавызначэнне.

Як даследчык духоўнай культуры беларускага народа і літаратуразнавец, збіральнік літаратурна-культурных сіл адыграў прыкметную ролю ў станаўленні новай беларускай літаратуры. Менавіта ў 1850-я гады вакол яго ўтварыўся гурток мясцовых (беларускіх, польскіх, літоўскіх) літаратараў і культурных дзеячаў. Да яго належалі або падтрымлівалі з ім сувязі пісьменнікі У. Сыракомля, В. Каратынскі, В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі, А. Адынец, І. Ходзька і іншыя, гісторыкі М. Маліноўскі і Я. Тышкевіч, журналіст В. Пшыбыльскі, кампазітар С. Манюшка. Многія былі звязаны з беларускай літаратурай, у сувязі з чым, на думку вядомага беларускага літаратуразнаўцы Г. Кісялёва, гурток А. Кіркора часам называюць першым беларускім літаратурным гуртком, падкрэсліваючы тым самым яго значэнне для станаўлення новай беларускай літаратуры. Паводле няпэўных звестак, сам А. Карлавіч Кіркор «пісаў для народа папулярныя беларускія брашуркі».

На вялікі жаль, ні адна з гэтых брашурак не дайшла да нас. Затое добра вядома яго сардэчная прыхільнасць да беларуска-літоўскага краю, які традыцыйна ў тыя часы называўся «Літвой», а яго жыхары — «літвінамі».

«Я літвін, — пісаў А. Кіркор, — ніколі не знішчыць ува мне гэтага пачуцця». У іншых выпадках ён называў сябе “не прыродным палякам”, а “беларусам”».

З прац А. Кіркора кракаўскага перыяду асаблівую цікавасць маюць «Нарысы сучаснай рускай літаратуры» (1873), у якіх падкрэсліваліся яе дэмакратычная традыцыя, роля ў ёй В. Бялінскага і М. Чарнышэўскага, «Літоўскія абразкі» (1874) і іншыя віленскія ўспаміны, «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874) з асобным нарысам гісторыі беларускай літаратуры, «Літва і Русь у гістарычных, геаграфічных, статыстычных і археалагічных адносінах» (1875).

На думку І. Запрудскага, выступленне А. Кіркора ў якасці гісторыка беларускай літаратуры ў першым раздзеле «Русінская літаратура» ў выдадзеным асобнай кнігай лекцыйным курсе «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» было найбольш важнай у XIX стагоддзі спробай сістэмнага разгляду ўсёй гісторыі нацыянальнага пісьменства на фоне развіцця іншых славянских літаратур. Першы раздзел гэтай працы меў назву «Русінская літаратура» і быў прысвечаны разгляду гісторыі беларускай літаратуры. Сэнсавае напаўненне тэрміна «русінскі», ужытага Кіркорам, падкрэслівала «невелікарускасць», бо вучоны суаднасіў здабыткі пісьменства перыяду Кіеўскай Русі і ВКЛ толькі з беларускай і ўкраінскай літаратурамі і лічыў, што развіццё рускай літаратуры пачынаецца з XVI стагоддзя. Для Кіркора русінская літаратура — гэта літаратура, створаная на працягу стагоддзя на беларускай мове, дзяржаўнай у ВКЛ.

Метадычныя падыходы аўтара грунтаваліся на аснове метадаў культурна-гістарычнай школы, уплывовага ў другой палове XIX і першай чвэрці XX стагоддзяў напрамку ў літаратуразнаўстве, які ў 70-я гады XIX ст. толькі пачынаў заваёўваць свае пазіцыі ў навуцы. Такім чынам, А. Кіркора можна разглядаць як пачынальніка культурна-гістарычнай школы ў беларускім літаратуразнаўстве.

На самай справе ў кнізе «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» найбольш выразна праявіўся цэласны, пазбаўлены прымітыўнага этнаграфізму падыход да беларускай культуры як да шматвяковай гістарычнай з’явы ў адзінстве пісьмовых і вусна-паэтычных, фальклорных відаў творчасці.

Нельга не згадзіцца з ацэнкай І. Запрудскім першага раздзела «Віленскіх успамінаў» Адама Карлавіча:

«Апублікаваныя ў сярэдзіне 80-х гадоў (XIX ст. — *Э. І.*) «Віленскія ўспаміны» Кіркора, якія задумваліся як частка буйнога мемуарнага цыкла, пісаліся ў два этапы і складаюцца з чатырох раздзелаў. У першым, прасякнутым сардэчнай танальнасцю і настальгіяй, расказваецца пра літаратурныя суботы ў кватэры

Кіркора, якія праходзілі ў часы рэдагавання ім «Teki Wileńskiej» і «Karjera Wileńskiego». Яго трэба аднесці да мемуарнай белетрыстыкі, бо карціна тагачаснага жыцця і людзі маляваліся аўтарам не столькі згодна з прынцыпамі дакументалізму, колькі паводле вобразнага ўзнаўлення рэчаіснасці. Майстэрства Кіркорамемуарыста праявілася ва ўменні, ашчадна выкарыстоўваючы вобразна-выяўленчыя сродкі, намаляваць запамінальныя партрэты вядомых сучаснікаў (У. Сыракомлі, В. Каратынскага, Э. Адынца, І. Ходзькі, Я. Тышкевіча і інш.) і па-мастацку адлюстраваць сваю эпоху».

Вялікая па аб'ёме і разнастайная па прадметных характарыстыках творчая спадчына Адама Кіркора зрабіла пазітыўны ўплыў на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, на развіццё шэрагу навуковых дысцыплін, звязаных з беларусазнаўствам, на станаўленне і развіццё беларускай літаратуры і айчыннага літаратуразнаўства.

Дзмітрый Караў прызнае вялікія заслугі А. Кіркора ў вывучэнні культуры Беларусі і фарміраванні гістарычнай свядомасці яе інтэлігенцыі.

## Выдавец

Паступіўшы на службу ў Віленскую казённую палату (1838—1864), А. Кіркор выдаваў альманахі «Radegast» («Радэгаст», 1843) і «Pamętnik umysłowy» («Разумовыя дзённікі»), 1845—1846).

У 1857—1858 гадах Адам Карлавіч выдаваў неперыядычны зборнік «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік»), забаронены за змяшчэнне пісьма вядомага гісторыка (у той жа час палітычнага эмігранта) І. Лелявеля. Выйшла шэсць кніг. Каб разлічыцца з падпісчыкамі і апублікаваць сабраныя матэрыялы, выпусціў дзве кнігі «Pismo Zbiorowe Wileńskie» (1859—1862). Гэтыя выданні змяшчалі паэзію, прозу, пераклады, навуковыя і публіцыстычныя артыкулы.

У 1858 годзе разам з аднадумцамі ўдзельнічаў у так званым «Віленскім альбоме», выдадзеным у гонар прыезду ў Вільню Аляксандра II.

У 1859 годзе Адам Кіркор заснаваў у Вільні ўласную друкарню (спачатку ў суполцы, потым перайшла ў яго поўную ўласнасць і выдаў у ёй шэраг навуковых і мастацкіх кніг, у тым ліку творы У. Сыракомлі, Ю. Ляскоўскага).

З 1860 года Адам Карлавіч выдаваў і рэдагаваў галоўную газету літоўска-беларускага рэгіёна «Виленский вестник» (на польскай і рускай мовах), зрабіўшы яе больш змястоўнай і папулярнай.

Цяжкія выпрабаванні выпалі на долю А. Кіркора ў перыяд паўстання 1863—1864 гадоў, калі Мураўёў-вешальнік ператварыў яго газету ў афіцыйны орган генерал-губернатарскага ўпраўлення. Акрамя гэтага, на працягу 1863 года Адам Карлавіч рэдагаваў штотыднёвы «Виленский полицейский листок». Прыхільнікаў паўстання абурыла дачыненне яго да выпрацоўкі вернападданніцкага адраса мясцовага дваранства цару. Разам з тым А. Кіркор быў прыцягнуты да следства ў сувязі з удзелам у паўстанні яго былой жонкі, у варшаўскай кватэры якой хаваўся кіраўнік паўстанцкага ўрада Р. Траўгут.

Хоць следства не знайшло яго віны, тым не менш улады бачылі ў ім праціўніка сваёй русіфікатарскай палітыкі. А. Кіркору не давяралі, і ён, страціўшы магчымасць працаваць у Вільні, перабраўся ў Санкт-Пецярбург, дзе разам з М. Юматавым выдаваў у 1868—1871 гадах газету «Новое время», якая праводзіла курс на збліжэнне рускага і польскага грамадства і таксама была на падазрэнні ўлад.

Апрача таго, апынуўся ў вельмі цяжкім фінансавым становішчы і яму пагражала даўгавая турма. Усё гэта прымусіла пакінуць Расійскую імперыю і ўжо ў немаладым узросце (53 гады) жыць у Кракаве (тады ў горадзе Аўстра-Венгерскай імперыі). Тут ён у розныя часы рабіў няўдалыя спробы выдаваць літаратурна-

навуковыя альманахі «Na dziś» («На сёння», 1872), «Teka Krakowska» («Кракаўскі зборнік»).

Між іншым, менавіта А. Кіркор стаў аўтарам першага даведніка па Вільні «Prechadzki po Wilnie i jego okolicach» («Прагулкі па Вільні і яе ваколіцах»; 1856, 1859). У 1864 годзе па распараджэнні галоўнага начальніка краю М. Мураўёва ён выйшаў на рускай мове, перапрацаваны ва «Указатель города Вильны». Перароблены варыянт даведніка па-польску перавыдаваўся ў 1880-м годзе і пазней.

Апошнія гады А. Кіркор цяжка хварэў і жыў у вялікай беднасці. З настальгічным пачуццём пісаў на радзіму незадоўга да смерці: «Дактары вырашылі, што ў мяне невылечная хвароба сэрца і што кожную хвіліну я магу памерці. Аднак смерць мяне не палохае: я досыць жыў. Што было ў маіх сілах і сродках, я зрабіў і магу з чыстым сумленнем прызнацца, што маё жыццё для Літвы (пад гэтым словам ён заўсёды меў на ўвазе Літву і Беларусь. — *Э. І.*) не прайшло марна».

Не стала А. Кіркора 23 лістапада 1886 года. У апошні шлях на Ракавецкія могілкі ў Кракаве яго праводзіла невялікая група мясцовых літаратараў і супрацоўнікаў Кракаўскай Акадэміі, у якой ён працаваў і ў сценах якой чытаў лекцыі па літаратуры і археалогіі.

Свае зборы і рукапісы завяшчаў Кракаўскаму нацыянальнаму музею. Зараз яго архіў захоўваецца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве, а частка зберагаецца ў Нацыянальным дзяржаўным архіве Літвы ў Вільнюсе.

Нельга не прыслухацца да А. Марціновіча, які лічыць, што лепшым праяўленнем нашай памяці аб А. Кіркоры было б выданне яго твораў у серыі «Беларускі кнігазбор». Хачу толькі дадаткова прапанаваць, што было б вельмі важна, каб Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі разам з Інстытутам гісторыі і Беларускім дзяржаўным універсітэтам раз у два ці тры гады праводзіў літаратурныя, археалагічныя і краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя памяці А. Кіркора, а кінастудыя «Беларусьфільм» ці «Адваротны адлік» на тэлеканале АНТ стварылі фільм аб яго жыцці і творчасці.



16+

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны
для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 16.01.2018 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,40. Ул.-выд. арк. 17,02. Тыраж 1368 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь
для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*